Аляксандр Гужалоўскі

# ЧЫРВОНЫ АЛОВАК
## НАРЫСЫ ПА ГІСТОРЫІ ЦЭНЗУРЫ Ў БССР

У дзвюх кнігах
Кніга другая
1943–1991 гг.

Калі не выказаны супрацьлеглыя думкі,
то няма з чаго выбраць лепшае.
*Герадот*

На працягу 1943–1991 гг. цэнзура ў СССР набыла татальны характар. Партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі, не абмяжоўваючыся наглядам за працай прафесійных цэнзараў, якія служылі ў Галоўным упраўленні па ахове дзяржаўных тайн у друку пры Савеце Міністраў БССР (Галоўліт БССР), самі бралі непасрэдны ўдзел у цэнзураванні СМІ і мастацкай прадукцыі. Галоўліт супрацоўнічаў з упраўленнем вайсковай цэнзуры Генштаба ўзброеных сіл, а таксама 5-м і 6-м упраўленнямі МДБ–КДБ, якія выконвалі ўласныя спецыфічныя цэнзурныя функцыі. Да канца разглядаемага часу межы паміж цэнзурай і рэдагаваннем, цэнзурай і перакладам, цэнзурай і літаратурнай крытыкай зрабіліся амаль нябачнымі. Акрамя Рэперткама БССР, у прэвентыўным цэнзураванні твораў мастацтва актыўна ўдзельнічалі рэпертуарна-рэдакцыйныя калегіі Міністэрства культуры, сцэнарна-рэдакцыйныя камісіі Дзяржкіно, розныя мастацкія саветы. Цэнзураванне ажыццяўляла і лаяльная да ўлады частка грамадства праз даносы, звароты з лістамі ў друк і інш. У краіне сфарміравалася цэнзура як частка сістэмы палітычнай улады і адначасова як феномен сацыяльна-культурнага жыцця.

Савецкая татальная цэнзурная машына кантралявала змест і працэсы распаўсюджвання інфармацыі, у т. л. друкаваную прадукцыю, музычныя і сцэнічныя творы, творы выяўленчага мастацтва, радыё і тэлебачанне, а таксама кіна-, фота-, фонапрадукцыю з мэтай спынення шкоднай

альбо непажаданай інфармацыі. Чырвоны аловак цэнзуры стаў сімвалам ідэалагічнага бар’ера для думак і ідэй. Чым больш новыя і арыгінальныя яны былі, тым менш было ў іх шансаў дайсці да людзей. З чырвоным алоўкам цэнзуры давялося пазнаёміцца ўсім грамадзянам, хто тым ці іншым чынам быў звязаны з працэсам інфармацыйнага забеспячэння грамадства. Тыя, хто пісаў, здымаў, маляваў, ажыццяўляў пастаноўкі, макетаваў палосы і ствараў экспазіцыі, заўсёды знаходзіліся ў полі зроку цэнзараў.

Сістэма татальнай цэнзуры ўключала розныя формы і метады кантролю за грамадствам. Акрамя прамых забаронаў (адхіленне рукапісу ці музычнага твора, адабранне фрагментаў фільма ці радыёперадачы), ужываліся ўскосныя захады, што тычыліся кадравай, выдавецкай, ганарарнай, рэпертуарнай (пракатнай) палітыкі.

У цэнзурных забаронах як у люстэрку адбіліся найбольш складаныя старонкі гісторыі беларускага грамадства — Халакост, калабарацыя, масавыя рэпрэсіі, спроба дэсталінізацыі, іншадумства, вайна ў Афганістане, чарнобыльская катастрофа. Асаблівую вастрыню цэнзурныя абмежаванні набывалі падчас абмеркавання пытанняў беларускага нацыянальнага развіцця.

Матэрыялы справаводства Галоўліта БССР у 1943–1991 гг. захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (НАРБ), згрупаваныя ў фонд № 1195. Яны ўводзяцца ў навуковы зварот упершыню.

Фонд Галоўліта БССР мае шмат лакун і не ў поўнай меры адлюстроўвае дзейнасць цэнзурнага ведамства. Яго дакументы знішчаліся на працягу ўсяго разглядаемага перыяду адпаведна загаду пра трохгадовы тэрмін захавання матэрыялаў справаводства. Большасць адкрытых і сакрэтных дакументаў Галоўліта БССР знікла ў апошнія гады існавання Савецкага Саюза і асабліва ў 1990 г., калі маскоўскае кіраўніцтва загадам «Аб архівах Галоўліта» дазволіла сваім падначаленым у рэспубліках прымаць самастойныя рашэнні пра знішчэнне непатрэбных папер.

Акрамя справаводства Галоўліта, аўтар скарыстаў яго справаздачную дакументацыю, што дасылалася ў ЦК КПБ, а таксама партыйныя рашэнні і пастановы адносна палітычнага кантролю за інфармацыйным забеспячэннем грамадства. Выкарыстаны таксама пратаколы пасяджэнняў Рэперткама Упраўлення па справах мастацтваў пры Савеце Міністраў БССР, органаў прэвентыўнай цэнзуры — рэпертуарна-рэдакцыйных калегій, сцэнарна-рэдакцыйных камісій, мастацкіх саветаў. Каштоўныя сведчанні ўдзельнікаў падзей таго часу знаходзяцца ў перыёдыцы 1940-х — 1980-х гг. і мемуарнай літаратуры. Важнай крыніцаю інфармацыі для напісання дадзенай працы былі ўспаміны былых супрацоўнікаў цэнзурнага ведамства, а таксама пісьменнікаў, журналістаў, тэатральных і кінарэжысёраў, супрацоўнікаў музеяў і бібліятэк, якія сутыкаліся з Галоўлітам па службовых абавязках.

У параўнанні з перыядам 1919–1941 гг. дзейнасць Галоўліта БССР у 1943–1991 гг. у беларускай гістарыяграфіі, нягледзячы на больш поўную базу першакрыніц, асветлена слаба. Напачатку XXI ст. на старонках навуковых і папулярных перыядычных выданняў з'явілася некалькі артыкулаў, а таксама манаграфія, дзе былі зроблены спробы рэканструкцыі структуры і дзейнасці Галоўліта БССР, яго мясцовых структур [1], а таксама асэнсавання савецкіх цэнзурных практык на беларускім матэрыяле [2]. Сюжэты, прысвечаныя дзейнасці цэнзурнага ведамства ў кантэксце даследуемых сацыякультурных і палітычных працэсаў і з'яў, сустракаюцца ў манаграфіях некаторых беларускіх аўтараў [3].

Тэма цэнзуры ў Савецкай Беларусі не пакінула абыякавымі сучасных беларускіх кінематаграфістаў. На працягу апошніх дваццаці гадоў былі зняты тры дакументальныя фільмы, дзе закраналіся розныя аспекты разглядаемай з'явы. Гэтыя фільмы цікавыя не толькі выкарыстанымі матэрыяламі рэтраспектыўнага характару, але таксама інтэрв'ю з жывымі ўдзельнікамі падзей [4].

Такім чынам, прапанаваная чытачу праца — гэта першае ў беларускай гістарыяграфіі комплекснае даследаванне, дзе цэнзурная дзейнасць разглядаецца як механізм уплыву на масавую свядомасць з дапамогаю мэтанакіраванага фармальнага і нефармальнага абмежавання інфармацыйнай прасторы ў БССР. Аўтар спадзяецца, што зроблены ім аналіз структуры, зместу і механізмаў цэнзуры ў

БССР дапаможа выйсці на новы якасны ўзровень ведаў пра гісторыю Беларусі савецкага перыяду, а менавіта пра яе грамадска-палітычны і культурны аспекты.

Гэтая кніга выйшла дзякуючы шчырай падтрымцы маёй сям'і, калег, вучняў і ўсіх зацікаўленых, у т. л. А. Э. Агароні, В. І. Батурчыка, Л. А. Гедзімін, В. Ю. Лясной, Д. В. Марозава, У. Хун, Г. І. Шамхорскай і многіх іншых.

# Літаратура

1. Главлит БССР / Высшие органы государственной власти и центрального управления БССР (1944–1964). В 2 ч. Ч. 1. / Редкол.: Р. П. Платонов, В. К. Ракашевич, М. К. Бобер и др. — Минск: БелНИИДАД, 2003. — С. 71–76; Главлит БССР / Высшие органы государственной власти и центрального управления БССР (1965–1991). В 3-х ч. Ч. 3. / Редкол.: В. В. Федосов (гл. ред.) и др. — Минск: БелНИИДАД, 2000. — С. 155–159; Козлов, А. А. Деятельность Управления по охране государственных тайн в печати при Витебском облисполкоме / А. А. Козлов // Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў: зборнік навуковых артыкулаў III міжнароднай навуковай канферэнцыі (Полацк, 14–15 красавіка 2016 г.): у 2 частках / Міністэрства адукацыі РБ, Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт; пад агул. рэд. Д. У. Дука, У. А. Лобача, А. І. Корсака. — Наваполацк: ПДУ, 2016. — Ч. 2. — С. 267–274; Крывашэй, Зм. Будні «літаратурных работнікаў». Пастаноўка цэнзарскай працы ў пасляваеннай беларускай правінцыі (на прыкладзе Пінскай вобласці. 1951–1953 гг.) / Зм. Крывашэй // Arche. — 2011. — № 10 (109). — С. 86–96; Матох, В. Цензура в БССР / В. Матох // Белгазета. — 2007. — № 28. — С. 20–21; № 29. — С. 22–23; № 30. — С. 22–23; Ракашевич, В. К. Главлит БССР (1923–1991) / В. К. Ракашевич // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 1 / Рэд. кал.: Р. П. Платонаў (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелНДІДАС, 2000. — С. 178–189; Смиловицкий, Л. Цензура в БССР: послевоенные годы (1944–1956 гг.) / Л. Смиловицкий. — Иерусалим: б. в., 2015. — 360 с.; Vasyuchenka, P. Belarus / P. Vasyuchenka, H. Jarvis // Censorship: a world encyclopedia / edited by Derek Jones. — London; Chicago: Fitzroy Dearborn, 2001. — Vol. 1. — P. 204–206.

2. Булацкая, Н. Литературная цензура — благо или ложь? / Н. Булацкая, С. Чубаров // Беларуская думка. — 2002. — № 7. — С. 154–159; Мазец, В. Таталітарызм і сродкі масавай інфармацыі ў Беларусі / В. Мазец // Репрессивная политика советской власти в Беларуси. Сб. науч. работ. Сост. И. Кузнецов, Я. Басин. — 2007. — Вып. 1. [Электронны рэсурс]. URL: http://homoliber.org/ru/rp/rpo701.html (дата звароту: 27.06.2017); Мушынскі, М. Спадчына Якуба Коласа / М. Мушынскі // Полымя. — 1993. — № 7. — С. 228–248.

3. Шадурский, В. Г. Культурные связи Белоруссии со странами Центральной и Западной Европы (1945–1990-е гг.). / В. Г.

Шадурский. — Минск: БГУ, 2000. — 285 с.; Шумскі, Я. Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944–1953 г.). Прапаганда і адукацыя на службе ідэалогіі / Я. Шумскі. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. — 327 с.

4. «Жаўрукі Беларусі». Рэж. М. Жданоўскі. Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм». 1993; «Красный карандаш цензуры». Реж. А. Лескин. ЗАО «Второй национальный канал». 2010; «Железный занавес цензуры». Реж. А. Лескин. ЗАО «Второй национальный телеканал». 2010.

Цэнзура — знак недаверу грамадства самому сабе.
*Маргарэт Мід, амерыканскі антраполаг*

## Падпарадкаванне, статус

На працягу 1943–1991 гг. савецкае цэнзурнае ведамства знаходзілася ў фокусе крызісных тэндэнцый, звязаных з неабходнасцю карэнных пераўтварэнняў у краіне. Улада рэфармавала органы цэнзуры адпаведна сваёй палітычнай і эканамічнай канцэпцыям, вагаючыся паміж аб’ектыўнай патрэбай лібералізацыі грамадска-палітычнага жыцця і інстынктам самазахавання, жаданнем абясшкодзіць сябе ад непажаданых эксцэсаў. Пры гэтым палітычная аспекты рэструктурызацыі органаў цэнзуры набывалі прыярытэтнае значэнне.

Ад дня аднаўлення дзейнасці ў 1943 г. да 1946 г. цэнзура ў БССР існавала пад назвай Упаўнаважаны СНК па ахове ваенных і дзяржаўных тайн у друку. Пасля пераўтварэння ў 1946 г. Савета Народных Камісараў у Савет Міністраў БССР цэнзурнае ведамства павысіла ўласны статус і да сакавіка 1953 г. падпарадкоўвалася непасрэдна Савету Міністраў пад назвай Упраўленне па ахове ваенных і дзяржаўных тайн у друку. Да 1953 г. агульнасаюзнага органа цэнзуры не было. Агульную каардынацыю дзейнасці Галоўлітаў саюзных рэспублік па-ранейшаму ажыццяўляў Упаўнаважаны СНК СССР па ахове ваенных тайн у друку, які, як правіла, узначальваў Галоўліт РСФСР.

Ад пачатку пільнасць цэнзараў быў павінен узмацніць шэраг заканадаўчых актаў. 9 чэрвеня 1947 г. Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прыняў указ

«Аб адказнасці за разглашэнне дзяржаўных тайн і за страту дакументаў, якія змяшчаюць дзяржаўную тайну», які прадугледжваў тэрміны пакарання ад пяці да дваццаці гадоў. Тады ж Савет Міністраў СССР дапоўніў яго пастановай «Аб устанаўленні пераліку звестак, якія ўтвараюць дзяржаўную тайну, разглашэнне якіх караецца па законе» [5, с. 295].

6 сакавіка 1953 г., на другі дзень пасля смерці Сталіна, ЦК КПСС, Савет Міністраў СССР і Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР на сумесным пасяджэнні ўхвалілі мерапрыемствы па рэарганізацыі партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва. Абраная тэндэнцыя да ўзбуйнення паспрыяла аб'яднанню Міністэрства дзяржаўнай бяспекі і Міністэрства ўнутраных спраў СССР у адзіную структуру — МУС СССР, кіраўніком якога быў прызначаны Л. П. Берыя. 15 сакавіка 1953 г. у склад МУС перадалі Упраўленне ўпаўнаважанага Савета Міністраў СССР па ахове ваенных і дзяржаўных тайн у друку разам з рэспубліканскімі галоўлітамі. Яно стала Галоўным упраўленнем № 11.

Неўзабаве пасля арышту Л. П. Берыі і ліпеньскага (1953) Пленума ЦК КПСС, на якім было прынята рашэнне аб узмацненні партыйнага кантролю за работай дзяржапарата, у сілавых структурах пачаліся новыя арганізацыйныя змены. 8 кастрычніка таго ж года цэнзурнае ведамства зноў набыло самастойны статус, падпарадкаванае непасрэдна Савету Міністраў СССР. У гэты час савецкая цэнзура канчаткова арганізацыйна сфарміравалася як цэнтралізаванае

саюзна-рэспубліканскае ведамства. У саюзных і аўтаномных рэспубліках меліся галоўліты пры саветах міністраў гэтых рэспублік. З 4 лістапада 1953 г. структурнай часткай Савета Міністраў БССР стала Упраўленне па ахове ваенных і дзяржаўных тайн у друку пры Савеце Міністраў БССР. Але падпарадкаванне Галоўліта Савету Міністраў мела фармальны характар і абмяжоўвалася пераважна фінансавымі пытаннямі. Фактычна кіраваў ім аддзел прапаганды ЦК КПСС.

Працэс дэсталінізацыі, які пачаўся ў СССР пасля XX з’езда КПСС, паспрыяў лібералізацыі сацыяльна-палітычнага і культурнага жыцця ў краіне. Заўважна палагоднела цэнзура, якая ўпершыню з часоў НЭП стала дазваляць, хай сабе вельмі абмежвана, але крытычнае асвятленне рэчаіснасці.

У той жа час ліберальныя настроі, якія рэзка ўзмацніліся ў савецкім грамадстве пасля знакамітага даклада М. С. Хрушчова на XX з’ездзе, а таксама венгерскае паўстанне 1956 г. кансалідавалі пазіцыі партыйных артадоксаў у ідэалагічнай сферы. Была створана ідэалагічная камісія ЦК КПСС на чале з М. А. Суславым, пастановы якой лічыліся роўнымі пастановам ЦК. На працягу шасці гадоў існавання яна накіроўвала работу савецкай цэнзуры. 3 красавіка 1957 г. была прынята пастанова ЦК КПСС «Аб рабоце Галоўліта», якая абавязвала цэнзараў палепшыць работу, заклікала павысіць ролю Галоўліта ў грамадскім жыцці краіны. Разам з тым з кампетэнцыі Галоўліта на непрацяглы час быў

выведзены палітыка-ідэалагічны кантроль. У тым жа годзе адбылася Усесаюзная нарада работнікаў цэнзуры ў Маскве, дзе гэтыя патрабаванні партыі атрымалі падрабязнае тлумачэнне [5, с. 312].

24 лютага 1958 г. Савет Міністраў СССР зацвердзіў новае «Палажэнне аб Галоўліце», дзе, у прыватнасці, указвалася пра сумеснае вырашэнне — Галоўлітам з аднаго боку і зацікаўленымі міністэрствамі, ведамствамі, а таксама арганізацыямі з другога — лёсу матэрыялаў, што выклікалі падазронасць у цэнзараў. У той жа час у палажэнні замацоўвалася ўстаноўленая сістэма папярэдняга і наступнага кантролю. Акрэсліваліся сферы дзейнасці цэнзуры, куды, акрамя ўжо звыклых для яе друкаванай прадукцыі, ТАСС, радыё, відовішчаў, выяўленчай і фотапрадукцыі, увайшло тэлебачанне. Па-ранейшаму Галоўліт адказваў за змест бібліятэчных і музейных фондаў, а таксама экспазіцый. Асобны пункт палажэння быў прысвечаны кантролю за зместам карэспандэнцыі, якая адпраўлялася за межы СССР і прыходзіла з-за мяжы. 13 верасня 1958 г. ЦК КПСС прыняў пастанову «Аб мерах захавання дзяржаўнай тайны». Тады ж пастановай Савета Міністраў СССР быў зацверджаны новы «Пералік звестак, што складаюць дзяржаўную тайну» [68, арк. 24–30].

Саюзныя партыйныя і ўрадавыя дакументы былі прадубліраваны ў БССР. У маі 1958 г. ЦК КПБ зацвердзіў праект «Палажэння аб Галоўліце БССР», прадстаўлены Саветам Міністраў рэспублікі [19, арк.

55]. 12 снежня 1959 г. ЦК КПБ прыняў пастанову «Аб фактах разглашэння дзяржаўных тайн у друку», дзе канстатавалася, што ў некаторых арганізацыях і ўстановах рэспублікі парушаецца рэжым сакрэтнасці, закрытыя звесткі прасочваюцца ў друк. Да найбольш злосных парушальнікаў рэжыму сакрэтнасці адносіліся рэдакцыі газет «Советская Белоруссия», «Звязда», «Мінская праўда», «Чырвоная змена», «Знамя юности», а таксама Дзяржкамітэт па радыё і тэлебачанні і БелТА [34, арк. 55].

Тое, як у БССР захоўвалася дзяржаўная і ваенная тайна, правярала камісія, якая прыбыла ў 1960 г. з Масквы на чале з начальнікам Галоўліта СССР П. К. Раманавым. Па выніках праверкі 23 ліпеня таго ж года выйшла Пастанова ЦК КПБ «Аб упарадкаванні выдавецкай дзейнасці ў рэспубліцы», якая пазбавіла ўстановы і арганізацыі права выдання дробнатыражнай прадукцыі, акрамя выдаваемай з грыфам «Для службовага карыстання» (у 1966 г. гэта права ім было вернута) [71, арк. 2]. 29 верасня 1962 г. бюро ЦК КПБ прыняло новую пастанову «Аб парушэнні правіл выпуску адкрытых твораў друку», дзе было ўказана на выяўленыя Галоўлітам БССР грубейшыя парушэнні рэжыму сакрэтнасці на паліграфічных прадпрыемствах і ў выдавецтвах [35, арк. 18].

Змены ў палітычным клімаце грамадства і пэўныя абмежванні ў дзейнасці цэнзурнага ведамства пацягнулі за сабой яго статусныя змены[1]. 10 жніўня

1963 г. быў утвораны саюзна-рэспубліканскі Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў СССР па друку, у склад якога ўключылі Галоўнае ўпраўленне па ахове ваенных і дзяржаўных тайн у друку. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 21 верасня 1963 г. быў створаны рэспубліканскі камітэт па друку, у склад якога таксама ўвайшло цэнзурнае ведамства. Падпарадкаванне Галоўліта Дзяржкамдруку і вывядзенне з яго непасрэднага падпарадкавання абллітаў азначала зніжэнне яго статусу, што было выклікана зменай палітычных арыенціраў і суадносін у вертыкалі ўлады падчас хрушчоўскай «адлігі». На непрацяглы час Галоўліт згубіў кіруючыя пазіцыі і моц. Зменшыўся яго аўтарытэт, пагоршылася матэрыяльнае становішча. У адпаведнасці з інструкцыямі таго часу, Галоўліт быў павінен галоўным чынам забяспечваць абарону дзяржаўных і ваенных тайн. Ідэалагічныя патрабаванні да зместу інфармацыі ў іх не былі моцна акрэслены.

Кіраўніцтва Галоўліта СССР не магло пагадзіцца з падобнай сітуацыяй. Неўзабаве ў адрас вышэйшых партыйных органаў былі накіраваны «сігналы з месцаў» — лісты кіраўнікоў рэспубліканскіх і абласных упраўленняў цэнзуры, у якіх адзначаліся факты абыякавага стаўлення Дзяржкамдруку да цэнзурных абавязкаў. Ва ўмовах ідэалагічнай барацьбы з Захадам падобная сітуацыя была, канешне, недазваляльнай. Адміністрацыйныя амбіцыі Галоўліта супалі са зменай кіраўніцтва краіны і адпаведна — палітычнага курсу ў кастрычніку 1964

г. У сувязі з неабходнасцю ўзмацнення ідэалагічнага кантролю грамадскага жыцця 18 жніўня 1966 г. Галоўліт вярнулі ў падпарадкаванне непасрэдна Савету Міністраў СССР пад назвай Галоўнага ўпраўлення па ахове дзяржаўных тайн у друку. У БССР падобнае перападпарадкаванне адбылося адпаведна рашэнню бюро ЦК КПБ 16 лістапада 1966 г. [36, арк. 16]. Гэта быў адзін з першых крокаў да пераходу ў эпоху «застою», які падзяліў савецкую інтэлегенцыю на шматлікую «групу падтрымкі» і купку дысідэнтаў. У статусе саюзна-рэспубліканскага міністэрства савецкае цэнзурнае ведамства, у назве якога ў 1966 г. знікла слова «ваенных» [тайн], праіснавала да 1991 г.

Неўзабаве пасля вяртання Галоўліта БССР у падпарадкаванне непасрэдна Савету Міністраў рэспублікі, 28 снежня 1966 г. апошні зацвердзіў новае «Палажэнне аб Галоўліце БССР». У адпаведнасці з ім, у Галоўліце была адроджана калегія, якая дзейнічала пры Галоўлітбеле на грамадскіх пачатках на працягу ліберальных 1920-х гг. і была павінна ўвасабляць адкрыты, дэмакратычны характар савецкай цэнзуры. Пра калегію Галоўліта ўзгадалі ў сярэдзіне 1960-х гг. падчас кампаніі «вяртання да ленінскага стылю кіраўніцтва». Пра імітацыйны характар гэтага захаду сведчаць задачы, якія ставіліся перад новай Калегіяй (падбор кадраў, праверка выканання важнейшых загадаў, інструкцый, заслухванне справаздач аддзелаў), а таксама яе склад

(начальнік Галоўліта, яго намеснікі і старэйшыя цэнзары) [53, арк. 1].

Пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР «Аб мерах па далейшым ўдасканаленні сістэмы захавання дзяржаўных сакрэтаў» ад 24 студзеня 1977 г. на Галоўліт БССР было ўскладзена метадычнае кіраўніцтва экспертнымі камісіямі міністэрстваў, ведамстваў, установ, арганізацый і прадпрыемстваў па пытаннях публікацыі матэрыялаў у адкрытым друку [54, арк. 1]. Гэтая пастанова была выклікана шматлікімі скаргамі, якімі цэнзурнае ведамства літаральна бамбардзіравала ЦК на працягу 1975–1977 гг. Абурэнне кіраўніцтва Галоўліта БССР справакавалі неаднаразовыя спробы з боку кіраўніцтва міністэрстваў, ведамстваў, установ, арганізацый і прадпрыемстваў у абыход дзяржаўных выдавецтваў выдаваць у сябе навуковую, тэхнічную і іншую сур'ёзную літаратуру пад выглядам метадычных дапаможнікаў і рэфератыўных аглядаў. Такіх выданняў, выяўленых і забароненых цэнзурай у БССР за 1975–1977 гг., было 348, прычым 17 з іх наогул спрабавалі надрукаваць без візы Галоўліта [39, арк. 14–15].

Загадам Галоўліта БССР ад 1 сакавіка 1983 г. у яго складзе быў створаны дарадчы орган — метадычны савет, куды ўвайшлі кіруючыя работнікі цэнтральнага апарата. Яго асноўнымі задачамі быў усебаковы ўлік меркаванняў, аргументаванае абгрунтаванне найбольш складаных з пункту гледжання практычнага ўжытку патрабаванняў «Пераліку

звестак, забароненых да публікавання ў адкрытым друку, перадачы па радыё і тэлебачанні» і іншых дакументаў Галоўліта СССР. З 1988 г. на пасяджэннях метадычнага савета двойчы ў месяц абмяркоўваліся ўсе апошнія цэнзарскія выкрэсліванні.

Па ініцыятыве метадычнага савета 7 ліпеня 1983 г. у Доме палітасветы ў Мінску Галоўліт БССР правёў нараду па пытаннях узмацнення аховы дзяржаўнай тайны ў друку і тлумачэнню патрабаванняў нарматыўных дакументаў Галоўліта СССР. Бралі ўдзел у нарадзе каля 55 чалавек — адказныя работнікі выдавецтваў, часопісаў, намеснікі дырэктараў акадэмічных інстытутаў па навуцы, старшыні і члены экспертных камісій навуковых устаноў, начальнікі першых аддзелаў міністэрстваў і ведамстваў [40, арк. 18].

Абвешчаную М. С. Гарбачовым палітыку перабудовы ідэалагічнае кіраўніцтва рэспублікі і Галоўліт БССР зразумелі па-свойму. У снежні 1985 г. па ўзгадненні з ЦК кіраўнікі рэспубліканскага цэнзурнага ведамства правялі буйнейшую за ўвесь перыяд свайго існавання інструкцыйна-ідэалагічную акцыю. На нараду-семінар, прысвечаную ўзмацненню ідэалагічнай пільнасці, былі запрошаны каля 500 чалавек — рэдактары ўсіх газет, часопісаў, выдавецтваў, БелТА, Дзяржтэлерадыё, Дзяржкіно, а таксама асобы, якія адказвалі за друк у міністэрствах і ведамствах [56, арк. 10]. Тым не менш у другой палове 1980-х гг. рэзка павысіўся ўзровень

крытычных адносін да цэнзуры, дзейнасць якой ва ўмовах камандна-адміністрацыйнага рэжыму заўсёды знаходзілася на вастрыні дзяржаўнай ідэалогіі. Галоўліт апынуўся ў ракурсе крытыкі не толькі з боку СМІ, але і шырокай грамадскасці.

Пасля абвяшчэння на студзеньскім (1987) пленуме ЦК КПСС палітыкі галоснасці, СМІ атрымалі больш свабоды, змяніліся галоўныя рэдактары шэрагу газет і часопісаў, пачалі публікавацца забароненыя раней літаратурныя творы, дэманстравацца фільмы «з паліц». 4 верасня 1986 г. Галоўліт СССР выдаў загад № 29с, у якім цэнзарам было дадзена ўказанне сканцэнтраваць увагу на пытаннях, звязаных з аховай дзяржаўных і ваенных тайн у друку і інфармаваць партыйныя органы толькі пра сур'ёзныя парушэнні ў ідэалагічнай сферы. У 1987 г. пачаўся перагляд зместу спецсховаў бібліятэк. У 1988 г. у СССР было спынена глушэнне замежных радыёстанцый. Пачалі скасоўваць цэнзарскія пункты ў выдавецкіх установах і СМІ. У БССР першым з іх 30 верасня 1988 г. знік цэнзарскі пункт у мінскай друкарні «Чырвоная зорка» [59, арк. 10].

У сувязі з прыняццем у жніўні 1990 г. Закона СССР «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» на Галоўліт былі ўскладзены абавязкі па распрацоўцы нарматыўных і метадычных дакументаў у галіне аховы дзяржаўных тайн, кансультаванне па гэтых пытаннях работнікаў газет, часопісаў, выдавецтваў, радыё і тэлебачання. 14 снежня 1990 г.

Галоўнае ўпраўленне па ахове дзяржаўных тайн у друку было рэарганізавана ў Галоўнае ўпраўленне па ахове дзяржаўных тайн у друку і іншых сродках масавай інфармацыі пры Савеце Міністраў БССР (ГУАТ БССР). Неўзабаве з'явілася часовае палажэнне, згодна з якім ГУАТ БССР як саюзна-рэспубліканскі орган у сваёй дзейнасці падпарадкоўваўся Савету Міністраў БССР і ГУАТ СССР.

Пастановай Вярхоўнага Савета БССР ад 19 верасня 1991 г. ГУАТ БССР быў падпарадкаваны Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

---

[1] Па меркаваннях расійскіх гісторыкаў, М. С. Хрушчоў планаваў скасаваць ідэалагічную цэнзуру ўвогуле, даручыўшы загадчыку аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПСС Л. Ф. Ілычову падрыхтаваць адпаведны дакумент.

## Структура, кадры

Пасля акупацыі тэрыторыі БССР у 1941 г. беларускае цэнзурнае ведамства часова спыніла сваю дейнасць, а яго супрацоўнікі разам з сакрэтнай дакументацыяй з Мінска і ўсходніх абласных цэнтраў былі эвакуіраваны ў Чкалаў (такую назву меў г. Арэнбург з 1938 па 1957 гг.). У чэрвені 1943 г. рашэннем ЦК КП(б)Б работа Галоўліта БССР была адноўлена ў Маскве, а напачатку 1944 г. беларускае цэнзурнае ведамства пераехала ў г. Новабеліца Гомельскай вобласці. У ліпені таго ж года яно вярнулася ў Мінск, заняўшы цэлы паверх у доме па вуліцы Урыцкага (цяпер Гарадскі Вал). Ніякай шыльдай на ўваходзе цэнзурнае ведамства пазначана не было.

Першапачаткова аддзелаў у Галоўліце БССР не было, як не было і размежавання паміж папярэдняй і наступнай цэнзурай. У 1945 г. на адной з рэдактарскіх нарад начальнік Галоўліта Ф. І. Дадзіёмава[2] скардзілася на тое, што яе ведамства знаходзіцца «на паўлегальным становішчы». У СНК БССР ёй заявілі, што «да вайны такой установы не было» [11, арк. 84]. Пасля атрымання саўмінаўскага статусу ў Галоўліце з'явіўся штатны расклад. Цэнзары, якія афіцыйна называліся палітрэдактарамі, пачалі атрымліваць заробкі і лімітнае харчаванне. У 1947 г. быў арганізаваны аддзел папярэдняй цэнзуры, у кампетэнцыю якога адышла ўся друкаваная прадукцыя, што выдавалася ў

рэспубліцы, а таксама беларускае радыё і БелТА. Крыху пазней стварылі аддзел наступнай цэнзуры, а таксама аддзел кантролю за бібліятэкамі і мастацтвам.

У 1944–1945 гг. была адноўлена работа ўпраўленняў па справах літаратуры і выдавецтваў (з 1954 г. — упраўленняў па ахове ваенных і дзяржаўных тайн у друку) пры абласных выканаўчых камітэтах. У дачыненні да іх шырока выкарыстоўвалася абрэвіятура абліт. Перад аблітамі як структурнымі адзінкамі Галоўліта БССР стаяла задача цэнзуравання матэрыялаў, падрыхтаваных да друку, экспазіцый музеяў, выстаў, кніжных фондаў бібліятэк, а таксама кнігарняў у межах уласных абласцей. Аблліты рэгулярна атрымлівалі з Мінска пералікі звестак, якія складалі дзяржаўную тайну. Былі сакрэтныя звесткі мясцовага значэння. Аблліты таксама трымалі пад кантролем усю выдавецкую дзейнасць у абласцях шляхам рэгістрацыі паліграфічнай і памнажальнай тэхнікі (нават друкавальных машынак) у дзяржаўных установах і прыватных асоб.

Адной з галоўных арганізацыйных праблем, з якой у пасляваенны час сутыкнулася цэнзурнае ведамства, было кадравае забеспячэнне. Першапачаткова ў штаце Галоўліта БССР у Маскве працаваў адзін чалавек — Ф. І. Дадзёмава, якая кантралявала прадукцыю Дзяржвыдата БССР, а таксама газету «Советская Белоруссия». Падчас знаходжання ў Навабеліцы колькасць цэнзараў павялічылася да

чатырох. А да канца 1945 г. цэнзары меліся ўжо ва ўсіх абласных і большасці раённых цэнтраў. У цэнтральным апараце ў Мінску і абласцях працавала 22 штатныя цэнзары, з якіх толькі 7 мелі вышэйшую адукацыю і 4 — вопыт цэнзарскай работы. У раёнах 175 цэнзараў выконвалі свае абавязкі па сумяшчальніцтве. Пераважна гэта былі загадчыкі ідэалагічных аддзелаў райкамаў партыі, загадчыкі метадкабінетаў, бібліятэкаў альбо лектары райкамаў партыі.

У справаздачах кіраўніцтва Галоўліта БССР таго часу мы знаходзім шматлікія скаргі на маленькія заробкі персаналу (600–700 рублёў у месяц), вялікую нагрузку і дрэнныя ўмовы працы, у выніку чаго цэнзарамі працавалі пераважна слабаадукаваныя жанчыны, студэнты-вячэрнікі, інваліды. Напрыклад, Мінскі абкам КП(б)Б накіраваў на пасаду цэнзара аблліта чалавека, які ў аддзеле кадраў пры запаўненні асабістага аркуша і напісанні аўтабіяграфіі зрабіў каля 150 памылак. Ф. І. Дадзіёмава не хавала ад маскоўскага начальства сапраўднай сітуацыі, адзначаючы, што найбольш працаздольныя, таленавітыя беларускія журналісты і філолагі адмаўляюцца ад яе прапаноў на карысць творчай працы. У яе дакладах мы таксама знаходзім апісанне цяжкіх матэрыяльных умоў працы сваіх падначаленых: «Гродзенскі аблліт змяшчаецца ў невялікім пакоі, які да зімы не падрыхтаваны. Няма падвойных шыбаў. З-за абмежаванай колькасці дроваў памяшканне слаба ацяпляецца. Работнікі

сядзяць у паліто і галошах... Апарат аблліта не ўкамплектаваны» [62, арк. 4].

Усё гэта прыводзіла да цякучасці кадраў. Напрыклад, на працягу першага пасляваеннага года былі звольнены два намеснікі начальніка Галоўліта БССР. Але найбольшая цякучасць назіралася на раённым узроўні. Так, на працягу 1947 г. са 175 раённых цэнзараў змянілася 77. Прычым у некаторых раёнах гэта адбывалася па некалькі разоў (у Нараўлянскім раёне — 4 разы!). Райліты выконвалі цэнзарскія абавязкі па сумяшчальніцтве, у вольны ад асноўнай працы час, што зніжала якасць іх працы. Кіраваць імі з Мінска было цяжка. А калі асноўным месцам працы райліта быў райкам партыі, то загадам Галоўліта ён не падпарадкоўваўся ўвогуле. Як вынік, найвялікшая колькасць разглашэнняў дзяржаўнай і ваеннай тайны назіралася менавіта ў раённым друку [16, арк. 234–237].

Умацаванню кадравага складу цэнзуры было павінна паспрыяць павелічэнне колькасці пасад Галоўліта, якія ўваходзілі ў наменклатуру ЦК КП(б)Б. З 1947 г., акрамя пасады начальніка, наменклатурнымі лічыліся пасады яго намесніка, а таксама начальнікаў дванаццаці аблліт аў. Пазней да іх далучылі пасады начальнікаў аддзелаў. З мэтай павышэння кваліфікацыі цэнзараў для іх рэгулярна праводзіліся заняткі, на якіх вывучаліся дырэктыўныя дакументы маскоўскага кіраўніцтва, спісы звестак, забароненых для публікацыі, рашаліся задачы, спецыяльна распрацаваныя для цэнзараў.

Акрамя таго, быў наладжаны палітычны лекторый, слухачы якога маглі атрымаць інфармацыю пра сітуацыю ў краіне і за мяжой «з першых рук» — ад партыйных і савецкіх работнікаў, дыпламатаў, дзеячоў культуры. Рэгулярныя заняткі былі таксама наладжаны ў абллітах. Асаблівая ўвага надавалася заходнім абласцям БССР і тым раёнам, дзе дыслакаваліся вайсковыя часткі і меліся буйныя прамысловыя аб'екты. У 1944, 1945 і 1948 гг. былі праведзены рэспубліканскія нарады цэнзараў. Але поўнага даверу да абллітаў з-за невысокага адукацыйнага ўзроўню правінцыйных цэнзараў з боку мінскага кіраўніцтва не было. Доказам гэтага можа быць практыка паралельнага кантролю, калі абллiты адсылалі ў Мінск на паралельнае цэнзураванне найбольш важныя матэрыялы.

Пачатак кампаніі барацьбы з касмапалітызмам у СССР, якая набыла антысеміцкія формы, супаў з праверкай работы Галоўліта БССР камісіяй ЦК КП(б)Б, куды, акрамя супрацоўнікаў аддзела прапаганды і агітацыі ЦК, уваходзіў ваенны цэнзар Беларускай вайсковай акругі. Па выніках работы камісіі 5 кастрычніка 1948 г. была прынята пастанова бюро ЦК КП(б)Б, дзе канстатавалася, што належны кантроль за захаваннем дзяржаўнай і ваеннай тайны ў БССР не ўсталяваны. За 1947 і няпоўны 1948 гг. беларускія цэнзары прапусцілі звыш 250 забароненых для публікацыі звестак, у т. л. лічбу звышпланавага выпуску цэменту ў Ваўкавыску, наяўнасць авіярамонтных майстэрняў у Мінску і т. п.

Высветлілася, што ў беларускай цэнзуры за гэты час былі таксама палітычныя памылкі. Напрыклад, у «Блакноце агітатара» (№ 22) за 1947 г. Барысаўскі шклозавод імя Ф. Э. Дзяржынскага атрымаў сваю даваенную назву — імя віцэ-прэзідэнта Беларускай акадэміі навук Т. Ф. Домбаля, расстралянага ў 1936 г. як «вораг народа».

На думку правяраючых, цэнзары не ведалі ні беларускай мовы, ні літаратуры. Напрыклад, цэнзар мінскага аблліта Блюмкіна дазволіла да друку лозунг «Умацуем магутнасць Савецкага Саюза — надзейнага аплоту міра і ***не***бяспекі!». У спісе беларускіх аўтараў, усе творы якіх былі забаронены, значыўся Тарас Гушча (адзін з псеўданімаў Я. Коласа). У якасці галоўнай прычыны гэтага была вызначана кадравая палітыка Ф. І. Дадзіёмавай, якая «не праяўляла належнага клопату пра падрыхтоўку і вылучэнне цэнзарскага складу з карэннага беларускага насельніцтва» [33, арк. 19–21]. Ф. І. Дадзіёмаву таксама вінавацілі ў кумаўстве — яна ўладкавала на працу ў цэнзуру сваю пляменніцу, сяброўку і іншых блізкіх людзей. Камісія правяла падлікі: з 95 чалавек, якія працавалі ў той час у сістэме Галоўліта БССР, беларусаў было 42, яўрэяў — 29, рускіх — 19, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў — 5. Па выніках пастановы бюро ЦК КП(б)Б у Галоўліце была наладжана кадравая чыстка. 21 кастрычніка Ф. І. Дадзіёмава паведамляла партыйнаму кіраўніцтву рэспублікі, што былі звольнены з працы яе намеснік

па кадрах, начальнік аддзела папярэдняй цэнзуры, начальнікі Мінскага, Гомельскага і Палескага абллітаў, два цэнзары цэнтральнага апарату з фармулёўкамі «дрэнная агульнаадукацыйная і палітычная падрыхтоўка», «мае спагнанні», «нерашучая», «марудлівы». Адначасова яна прасіла прыслаць да яе на працу 4—5 камуністаў [13, арк. 407].

Тым не менш крытыка Галоўліта БССР з боку вышэйшага рэспубліканскага кіраўніцтва працягвалася таксама ў наступным годзе. 13 чэрвеня 1949 г. сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі У. А. Тамашэвіч паведамляў першаму сакратару ЦК М. І. Гусараву, што цэнзура (і асабіста Ф. І. Дадзіёмава) не зрабіла аніякіх захадаў па адабранні з продажу брашуры Я. Грынвальда «Міхоэлс»[3], зборніка артыкулаў пра яго на рускай і яўрэйскай мовах, а таксама брашуры М. Модэля «Народныя артысты БССР», дзе аўтар «працягвае касмапалітычныя ідэйкі і схіляецца перад захадам» [15, арк. 175].

Неўзабаве, паводле загада начальніка Галоўліта СССР К. К. Амельчанкі, «з мэтай паляпшэння кадравага складу цэнзараў» на ўсіх паверхах галоўлітаўскай піраміды пачалі працаваць атэстацыйныя камісіі (Ф. І. Дадзіёмава атэставалася ў Маскве). Пратаколы іх пасяджэнняў, што захаваліся, паказваюць ідэалагічныя і інтэлектуальныя патрабаванні, якія ўлада выстаўляла да атэстуемых, а таксама іх рэальны адукацыйны ўзровень. Акрамя

таго, гэтыя пратаколы сведчаць пра асаблівую ўвагу членаў камісій да цэнзараў з неславянскімі прозвішчамі. Ніжэй падаецца пратакол пасяджэння атэстацыйнай камісіі Баранавіцкага аблліта ад 31 жніўня 1949 г.:

«Прысутнічаюць члены камісіі: тт. Блях (начальнік аблліта), Гершман (загадчык сектара друку абкама КП(б)Б), Азімаў (лектар абкама КП(б)Б).

Атэставанне праходзіць т. Іцковіч Самуіл Лейбавіч, цэнзар, 1912 г. нарадж., яўрэй, член Усе КП(б) з 1939 г., служачы, скончыў са слоў (дакументаў няма) ў 1931 г. Мінскі вячэрні рабочы ўніверсітэт і Мінскі ўніверсітэт марксізму-ленінізму выхаднога дня ў 1940 г. Зараз нідзе не вучыцца. У арміі знаходзіўся з чэрвеня 1941 г. па май 1942 г. і з мая 1944 г. па верасень 1946 г. Цэнзарам аблліта працуе з красавіка 1948 г. Праводзіць палітінфармацыі сярод рабочых друкарні. "Пералік..." і іншыя цэнзарскія дакументы вывучыў. Палітычна развіты. Тав. Іцковічу былі зададзены наступныя пытанні:

1. Якую мастацкую літаратуру чытаў за апошні час?

– За апошні час чытаў "Барацьбу за мір" Панферава, "Шчасце" Паўленкі, "Порт-Артур" Сцяпанава, "Маладая гвардыя" Фадзеева, "Аповесць пра сапраўднага чалавека" Палявога і інш.

2. Хто старшыня Савета Міністраў Балгарскай Народнай Рэспублікі?

– Адказаў.

3. Па якім шляху ідуць краіны народнай дэмакратыі?

– Адказаў.

4. З якімі класамі мы ішлі на Кастрычніцкі пераварот?

– Не адказаў.

5. Якія буйнейшыя творы Леніна і Сталіна прысвечаны пытанням стратэгіі і тактыкі нашай партыі?

– Адказаў непоўна.

6. Якія задачы ставіць "Камінформ"?

– Адказаў.

7. Якія краіны ўваходзяць у Паўночна–Атлантычны пакт і сутнасць пакта?

– Адказаў.

8. Хто ўзначальвае прагрэсіўную партыю ў ЗША і яе сутнасць?

– Адказаў.

9. Сутнасць суда Лінча і супраць каго ў апошні час ён быў накіраваны?

– Адказаў.

10. Чаму цяпер ідэалагічная работа партыі набывае асаблівае значэнне?

– Адказаў непоўна.

Па пытаннях цэнзуры было дадзена вырашыць 15 задач.

Пастанавілі: т. Іцковічу больш увагі надаваць палітычнай падрыхтоўцы. Вывучыць "Кароткі курс УсеКП(б)Б" з прыцягненнем першакрыніц. Уважліва

вывучыць цэнзарскія дакументы і адпаведна ўжываць іх ва ўласнай практыцы» [63, арк. 40].

Начальніку Гомельскага аблліта 50-гадоваму І. М. Бельцэру[4], а таксама некалькім шараговым цэнзарам пашанцавала меней — іх не атэставалі і неўзабаве звольнілі «па палітычных матывах» [64, арк. 2]. Новыя кадры ў цэнзуру рэкрутаваліся з выпускнікоў журфака, філфака і гістфака БДУ.

У маі 1950 г. дзейнасць Галоўліта БССР правярала яшчэ адна камісія, накіраваная партыйным кіраўніцтвам рэспублікі. Вынікі яе працы былі несуцяшальныя. За час, што прайшоў пасля праверкі 1948 г., колькасць прапушчаных цэнзарамі ў друк звестак сакрэтнага характару павялічылася. Анатаванне адабранай з касцёльных бібліятэк літаратуры Галоўліт давяраў ксяндзам. У бібліятэцы АН БССР чытачам выдавалі кнігі рэпрэсаваных аўтараў — А. Р. Чарвякова, М. М. Галадзеда, Д. Ф. Прышчэпава. Парушаючы рэжым сакрэтнасці, кіраўнікі Галоўліта давалі цэнзарам указанні па тэлефоне. У яго апараце не былі зжытыя сямейнасць, звады, адсутнічала крытыка і самакрытыка, а таксама зладжанасць у рабоце кіраўніцтва. Агульная ацэнка камісіі гучала як прысуд Ф. І. Дадзіёмавай: «Галоўліт БССР працуе вельмі нездавальняльна» [17, арк. 37–48]. 1 сакавіка 1951 г. цэнзурнае ведамства ўзначаліў журналіст-франтавік з вопытам апаратнай работы Л. В. Садоўскі[5], які пачаў умацоўваць кіраўніцтва і кадравае папаўненне органаў цэнзуры пераважна за

кошт членаў партыі і па рэкамендацыях партыйных і камсамольскіх органаў.

Напачатку 1953 г. у штаце Галоўліта і абллітаў БССР працавала 66 чалавек. З іх членаў і кандыдатаў у члены КПСС — 51, членаў ВЛКСМ — 11, беспартыйных — 4. Спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй сярод іх было 15, з няскончанай вышэйшай адукацыяй — 19, з сярэдняй — 26, з няпоўнай сярэдняй — 6. Па нацыянальным складзе штат Галоўліта выглядаў наступным чынам: беларусаў — 31, рускіх — 21, яўрэяў — 13, малдаван — 1. З 179 райцэнзараў-сумяшчальнікаў усе былі членамі КПСС, 111 з іх мелі вышэйшую і няскончаную вышэйшую адукацыю, 46 — сярэднюю і толькі 24 — няскончаную сярэднюю. 131 чалавек з іх быў па нацыянальнасці беларусам, 33 чалавекі былі рускія, 8 — яўрэямі і 7 — украінцамі. У сістэме Галоўліта (разам з сумяшчальнікамі) працавала 34,8 % жанчын, а сярод штатных цэнзараў яны складалі 58,3 % [26, арк. 73].

У 1954 г. Савет Міністраў БССР зацвердзіў новы штатны расклад Галоўліта, у якім прадугледжвалася толькі 163 цэнзары-сумяшчальнікі (скасавалі пасады ўпаўнаважаных Галоўліта ў раёнах, якія прымыкалі да абласных цэнтраў). У наступным годзе рашэннем ЦК КПСС пасады раённых упаўнаважаных Галоўліта і цэнзараў-сумяшчальнікаў былі скасаваны ўвогуле. Кантроль за захаваннем ваеннай і дзяржаўнай тайны ў раённых і шматтыражных газетах ўскладаўся на іх рэдактараў. Тады ж была спрошчана структура

цэнтральнага апарата Галоўліта БССР. Замест трох аддзелаў у ім засталося два — аддзел папярэдняга кантролю і аддзел наступнага кантролю, да якога далучылі скасаваны аддзел кантролю за бібліятэкамі і мастацтвам. Зняцце з кантролю шэрагу друкаваных выданняў у другой палове 1950-х гг. абумовіла далейшае скарачэнне штатаў у цэнзурным ведамстве. У БССР цэнзары Галоўліта зніклі з рэдакцый рэспубліканскіх газет. У 1959 г. начальнік Галоўліта на непрацяглы час пазбавіўся аднаго намесніка і службовага аўтамабіля.

Акрамя ідэалагічных змен у грамадстве, скарачэнне штатаў цэнзуры БССР вызначылі змены ў адміністрацыйна-тэрытарыяльным уладкаванні рэспублікі. На працягу 1954–1960 гг. колькасць абласцей, а адпаведна і абллітаў у ёй скарацілася з 12 да 6. У штатах абллітаў, якія засталіся, таксама ішлі скарачэнні. У выніку ў штаце мінскага ўпраўлення засталіся (акрамя тэхнічнага персаналу) начальнік, старэйшы цэнзар і два цэнзары папярэдняга кантролю і па кантролю за бібліятэкамі. Але ў цэлым структура органаў цэнзуры ў перыяд «адлігі», нягледзячы на скарачэнні і змены ў штатах, захоўвала арганізацыйную структуру папярэдняга часу.

Адсутнасць дакладна вызначаных правіл ідэалагічнай гульні ў гады «адлігі» стварала ў цэнзурным ведамстве шматлікія канфліктныя сітуацыі, калі жаданне грамадскіх пераўтварэнняў адных сутыкалася з імкненнем іншых спыніць

любыя праявы лібералізму. Напрыклад, за дазвол надрукаваць матэрыялы незарэгістраванага Таварыства вынаходнікаў Гомельшчыны ў снежні 1957 г. начальнік гомельскага аблліта І. П. Царык пазбавіўся не толькі пасады, але і членства ў партыі [47, арк. 5]. Спецыфіку тагачаснай цэнзарскай працы ў Галоўліце БССР і яе нервовую атмасферу перадае наступны ўрывак з пратакола вытворчай нарады 31 жніўня 1958 г.:

«Начальнік аддзела папярэдняй цэнзуры Захарава:

– *Перад цэнзурай цяпер стаяць вялікія задачы, але ў нас несур'ёзна ставяцца да даручанай справы і таму склалася вельмі трывожнае становішча. За апошні час было дапушчана некалькі парушэнняў...*

Цэнзар Крукоўская:

– *Я вінаватая, але я засталася адна на чатыры газеты. Сабралася шмат народу, лямант, і мне не далі добра падумаць. Я вінаватая. Так, мабыць я не ўмею, але хачу працаваць, а не сядзець у хаце. Праца гэта для мяне — духоўная патрэба.*

Цэнзар Хоміч:

– *Што тычыцца парушэння, якое я здзейсніла. Мне вельмі цяжка, я працавала на палову стаўкі дадаткова, бо муж хварэў даўгі час. Самае страшнае — гэта тое, што я паверыла дзяжурнаму, але я павінна была быць прынцыповай і не павінна была яму верыць. За пяць гадоў дапусціла першае парушэнне.*

Цэнзар Кузьмінава:

– *Я не буду апраўдвацца — вінаватая. Гэта тлумачыцца тым, што я не разабралася ў матэрыяле і*

*ў выніку дапусціла парушэнне. Наша справа такая, што патрабуе ўвесь час увагі. Увесь час трэба быць напружаным.*

Начальнік Галоўліта Садоўскі:

*– За сем гадоў працы ў цэнзуры мяне ўпершыню выклікаюць у ЦК разам з цэнзарам. Я лічу гэта надзвычайным здарэннем. Добра, што гэта абышлося простым тлумачэннем. А калі б пытанне было пастаўлена на абмеркаванне бюро ЦК?*» [9, арк. 28–29].

Да 1965 г. штатны расклад цэнзурнага ведамства набыў аптымальны з пункту гледжання партыйнага кіраўніцтва выгляд. У цэнтральным апараце Галоўліта ў Мінску працавалі 28 чалавек: начальнік[6], яго намеснік, начальнік аддзела, пяць старэйшых цэнзараў, шаснаццаць цэнзараў, начальнік спецчасткі, сакратар, галоўбух, прыбіральшчыца-кур’ер. Яшчэ трыццаць чалавек працавалі ў пяці абллітах (у Мінскай вобласці абллíта не было) — па шэсць штатных адзінак у кожнай вобласці (начальнік, старэйшы цэнзар, два цэнзары, упаўнаважаны ўпраўлення, прыбіральшчыца-кур’ер). Усяго — 58 чалавек [51, арк. 2].

Службовыя абавязкі ўсіх цэнзараў Галоўліта БССР строга рэгламентаваліся. У 1965 г. яны размяркоўваліся наступным чынам.

Першы аддзел:

1. Цэлуеўскі — старшы кніжна-часопіснай групы: ажыццяўляе папярэдні кантроль выданняў

выдавецтва «Наука и техника», часопісаў «Доклады АН БССР», «Дифференциальные уравнения», «Инженерно-физический журнал», «Журнал прикладной спектроскопии», «Энергетика», «Известия АН БССР»; наступны кантроль часопіса «Промышленность Белоруссии».

2. Зарэцкі — папярэдні кантроль мастацкіх майстэрняў і кінасцэнароў «Беларусьфільма», наступны кантроль кніг і часопісаў «Доклады АН БССР», «Дифференциальные уравнения», «Журнал прикладной спектроскопии», «Инженерно-физический журнал», «Известия АН БССР», «Энергетика», «Статистический бюллетэнь ЦСУ», «Сборник законов БССР», «Вожык», «Блокнот агитатора», «Коммунист Белоруссии», «Сборник обмена опытом и технической информацией», «Информация по обмену опытам в сельском строительстве».

3. Кузьмінава — папярэдні кантроль выданняў інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі і прапаганды, часопісы «Блокнот агитатора», «Коммунист Белоруссии», «Известия АН БССР», «Промышленность Белоруссии», матэрыялы вылічальнага цэнтра Дзяржплана БССР, Дома тэхнікі, Беларускай чыгункі, метадычныя дапаможнікі інстытутаў і тэхнікумаў, Дома народнай творчасці, Палаца культуры Белсаўпрафа, метадычнага кабінета Міністэрства культуры, тэзісы дакладаў і матэрыялы нарад і канферэнцый, творчай

студыі «Фота і жыццё», матэрыялы цырка і эстрады, п’есы тэатраў, кантроль музеяў і выставак, наступны кантроль часопіса «Беларусь».

4. Атрошчанка — папярэдні кантроль матэрыялаў Камітэта па радыёвяшчанні і тэлебачанні СМ БССР, таварыства «Веды», шматтыражнай газеты «Аўтазаводзец».

5. Крукоўская — папярэдні кантроль выданняў выдавецтва «Ураджай», часопіса «Беларусь», «Статистического бюллетеня ЦСУ», «Сборника обмена опытом и технической информацией», «Информации по обмену опытом в сельском строительстве», матэрыялаў тэлестудыі і аўтарэфератаў. Наступны кантроль часопісаў «Здравоохранение Белоруссии», «Народная асвета», «Неман», выданняў выдавецтва «Ураджай», вызваленых ад папярэдняга кантролю, шматтыражныя газеты, што выходзілі ў Мінску.

6. Краўчанка — папярэдні кантроль дробнадрукаванай прадукцыі, матэрыялаў выдавецтва «Полымя», часопісаў «На экранах Белоруссии», «Театральный Минск».

7. Мацкевіч — папярэдні кантроль выдавецтва «Беларусь», часопісаў «Вожык», «Вясёлка», «Бярозка», «Неман». Наступны кантроль матэрыялаў радыё, часопісаў «Полымя», «На экранах Белоруссии», «Театральный Минск», «Работніца і сялянка».

8. Пракапеня — папярэдні кантроль выданняў выдавецтва «Вышэйшая школа», кантроль бандэроляў Галоўпаштамта і матэрыялаў для

замежжа. Наступны кантроль часопісаў «Маладосць», «Бярозка», «Сельская гаспадарка Беларусі», выданняў выдавецтва «Вышэйшая школа», вызваленых ад папярэдняга кантролю, матэрыялаў тэлебачання.

9. Фралова — папярэдні кантроль матэрыялаў БелТА, выданняў выдавецтва «Народная асвета», часопісаў «Народная адукацыя», «Сельская гаспадарка», «Работніца і сялянка», «Сборник постановлений Министерства просвещения», шматтыражных газет «На страже Октября», «Трактор», «Журналист», «Рабочая юность», «Западная трасса», «За технический прогресс». Наступны кантроль выданняў выдавецтва «Народная асвета», вызваленых ад папярэдняга кантролю.

10. Ярашэўская — папярэдні кантроль выданняў выдавецтва «Беларусь», часопісаў «Полымя», «Здравоохранение Белоруссии», «Сборник законов БССР», «Маладосць». Наступны кантроль дробнадрукаванай прадукцыі і выданняў выдавецтва «Беларусь», вызваленых ад папярэдняга кантролю.

11. Дзмітрыева — вядзенне даведачнай службы.

Другі аддзел:

1. Начальнік аддзела Калмыкова кіруе працай цэнзараў, кантралюе дзейнасць Віцебскага аблліта, правярае друкарню завода п/я 32 і паліграфкамбінат Я. Коласа.

2. Старэйшы цэнзар Біндзюкоў кантралюе працу Брэсцкага і Магілёўскага абллітаў, спецфонды бібліятэк г. Мінска (навуковая бібліятэка АН БССР, Урадавая бібліятэка імя Горкага, Дзяржаўная

бібліятэка імя Леніна, бібліятэка Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, бібліятэка Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ). Правярае друкарні выдавецтвў «Звязда», «Наука и техника», кіраўніцтва справамі СМ БССР, Белсаўпрафа, а таксама паліграфічную фабрыку «Чырвоная зорка».

3. Цэнзар Сяроў кантралюе працу Гомельскага аблліта і райупаўнаважанага па г. Барысаў І. Ф. Мітчанкі, правярае райгазеты Барысаўскага, Крупскага, Смалявіцкага, Нясвіжскага, Капыльскага, Лагойскага, Мінскага, Слуцкага раёнаў, шматтыражную газету Беларускага аўтазавода. Кантралюе друкарні: ГПТУ-32, фабрыкі № 2, завода імя Вавілава, ВІРТУ, завода імя Арджанікідзэ, МООП, а таксама «Во славу Родины» і Мінскую сельскую. Правярае Белдзяржмузей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Дзяржаўны мастацкі музей БССР, Дом-музей І з’езда РСДРП, Літаратурны музей Я. Купалы, Літаратурны музей Я. Коласа, а таксама Дом тэхнікі.

4. Цэнзар Казанлі кантралюе працу Гродзенскага аблліта і райцэнзара па г. Маладзечна І. П. Петрачкова, правярае райгазеты Любанскага, Стаўбцоўскага, Пухавіцкага, Чэрвеньскага, Бярэзінскага, Дзяржынскага, Салігорскага, Маладзечанскага, Вілейскага, Мядзельскага і Валожынскага раёнаў, шматтыражную газету Салігорскага камбіната. Кантралюе друкарні: Мінскага аўтамабільнага завода, Мінскага трактарнага завода, завода імя Леніна, біскавітнай

фабрыкі, літаграфіі фабрык «Камунарка» і «Дзіцячая цацка», Інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі, таварыства глуханямых, а таксама картанажны цэх камбіната хатняй працы [50, арк. 18, 23–25].

Сваю спецыфіку працы мела новая структурная адзінка Галоўліта БССР, створаная ў 1954 г., — кантрольны цэнзарскі пункт на Брэсцкай чыгуначнай мытні. Падобныя цэнзарскія пункты існавалі таксама на памежных пераходах у Ленінградзе і горадзе Чоп (УССР). Працуючы разам з памежнікамі і мытнікамі ў кругласутачным рэжыме, яны ажыццяўлялі нагляд пераважна за ўвозам у СССР друкаванай і выяўленчай прадукцыі, а таксама грамафонных пласцінак. На працягу 1955 г. брэсцкія мытныя цэнзары ў колькасці чатырох чалавек адабралі 9791 газету, 28 кніг, 769 выяў «парнаграфічнага характару»[7], 150 грамафонных пласцінак і 4 магнітныя стужкі. У 1956 г. у Брэсце быў адкрыты дадатковы кантрольны цэнзарскі пункт пры Брэсцкай аўтамабільнай мытні [66, арк. 33]. Буйнейшай аперацыяй мытных цэнзараў 1957 г. была канфіскацыя ў пастара адной з амерыканскіх неапратэстанцкіх абшчын М. Нордфорша 200 асобнікаў Бібліі і вялікай колькасці рэлігійных улётак. Гэта карная аперацыя, відаць, не напалохала прапаведніка. У наступным годзе ён зноў спрабаваў увезці ў СССР праз брэсцкую мытню каля 300 асобнікаў Бібліі, а таксама вялікую колькасць улётак і грампласцінак рэлігійнага зместу [69, арк. 13].

Аб'ём працы цэнзараў на Брэсцкай мытні ўвесь час павялічваўся адпаведна павелічэнню руху пасажыраў. Вось як выглядала іх праца ў лічбах у 1959 г.

| **Прадмет кантроля** | **Прад'яўлена** | **Дагледжана** | **Затрымана** | **Канфіскавана** |
|---|---|---|---|---|
| Мастацкая літаратура | 224 322 | 2 360 | | |
| Тэхнічная літаратура | 62 443 | 2 047 | 58 | |
| Палітычная літаратура | 35 718 | 11 | | |
| Рэлігійная літаратура | 2 148 | 837 | 258 | 182 |
| Рэлігійныя паштоўкі | 1 119 | 929 | 744 | 304 |
| Рэлігійна-прапагандысцкая літаратура | 3 535 | 3 535 | 24 | 11 |
| Грампласцінкі | 43 014 | 2 077 | 15 | 11 |
| Часопісы | 86 579 | 1 772 | | |
| Газеты | 49 395 | 5 208 | 31 | 31 |
| Карціны | 2 278 | 2 278 | 9 | 9 |
| Магнітафонныя стужкі | 1 243 | 1 243 | | |
| Фотаздымкі | 5 414 | 5 414 | 395 | 395 |
| Ноты | 11 884 | 11 884 | 10 | 10 |

Як сведчыць гэтая статыстыка, найбольшую ўвагу цэнзараў выклікала літаратура, якая перапраўлялася савецкім адзінаверцам заходнімі неапратэстантамі (т.

зв. «рэлігійна-прапагандысцкія матэрыялы»), а таксама фота, выяўленчыя матэрыялы, ноты і новыя носьбіты інфармацыі (магнітафонныя стужкі). Яны праглядаліся ўсе без выключэння. Прагледжаныя матэрыялы альбо прапускаліся праз мяжу, альбо затрымліваліся на цэнзарскім пункце да перасячэння мяжы іх уладальнікам у адваротным накірунку, альбо канфіскоўваліся. Значную долю адабраных цэнзурай у 1959 г. матэрыялаў склалі літаратура, газеты, карціны, паштоўкі і ноты, якія імкнуліся правезці ў СССР неапратэстанты, а таксама выявы эратычнага зместу, што везлі дамоў савецкія ваеннаслужачыя з краін Цэнтральнай Еўропы [66, арк. 32]. Затрымліваліся таксама матэрыялы, якія замежнікі вывозілі з СССР. Напрыклад, у 1960 г. у грамадзяніна ЗША І. Шпундзера падчас выезду ў Брэсце канфіскавалі 16 нумароў абласной газеты «Вольнае жыццё» і 11 нумароў раённай газеты «Чырвоны сцяг» на ўкраінскай мове [28, арк. 255].

У чэрвені 1960 г. кантрольныя цэнзарскія пункты на мытнях «у сувязі са скарачэннем аб'ёму працы» былі скасаваны, а іх абавязкі ўскладзены на памежныя войскі КДБ СССР і мытню. Між тым, колькасць людзей, якія перасякалі савецка-польскую мяжу, і адпаведна «ідэалагічна шкодных» матэрыялаў з кожным годам павялічвалася. У 1986 г. на КПП у Брэсце і Гродне мытнікі затрымалі 47 164 «ідэалагічна шкодныя» матэрыялы, 626 з якіх былі кваліфікаваны як антысавецкія, 20 408 — як рэлігійныя, 8630 — як буржуазныя і 17 500 — як

парнаграфічныя. На мяжы таксама было праверана 2253 магнітныя касеты, 296 з якіх змяшчалі запісы «антымастацкіх ансамбляў і рок-гуртоў» [44, арк. 18]. Тым не менш прадукты заходняй культуры пранікалі на тэрыторыю БССР праз савецка-польскую мяжу. Заходняя прэса і музыка, фільмы і мода фарміравалі грамадскую свядомасць, светапогляд насельніцтва, зусім адрозны ад таго, што канструявалі ў сваіх кабінетах партыйныя ідэолагі.

Прамым вынікам лібералізацыі грамадскага жыцця ў СССР падчас хрушчоўскай «адлігі» было рэзкае пашырэнне зносін грамадзян СССР з замежнікамі. Імкнучыся паставіць гэтыя зносіны пад татальны кантроль, ідэалагічнае кіраўніцтва КПСС прыняло рашэнне аб адкрыцці дадатковых цэнзарскіх пунктаў на паштамтах сталіц саюзных рэспублік (на маскоўскім паштамце такі пункт існаваў ужо ў даваенны час). Такім чынам, згодна з пастановай ЦК КПСС «Аб рабоце Галоўліта», прынятай у 1957 г., у жніўні таго ж года на мінскім паштамце адкрыўся цэнзарскі пункт па кантролі друкаванай прадукцыі і рукапісаў, якія накіроўваліся дзяржаўнымі арганізацыямі і прыватнымі асобамі за мяжу. Цэнзары на мінскім паштамце былі абавязаны затрымліваць друкаваныя выданні з грыфам «сакрэтна», перыёдыку, уключаную ў закрыты каталог «Саюздруку», кнігі са спісаў на адабранне з бібліятэк, а таксама рукапісы, якія не прайшлі цэнзуру ў Галоўліце.

У сапраўднасці спектр затрыманых матэрыялаў быў значна шырэйшы. Напрыклад, у верасні 1957 г. цэнзары праверылі 52 бандэролі, з якіх дзве змяшчалі рэлігійную літаратуру на рускай, украінскай і польскай мовах. У лістападзе 1957 г. былі правераны 410 бандэроляў, з якіх затрымалі і вярнулі адпраўніку адну бандэроль, што змяшчала карты і чарцяжы. У снежні 1957 г. праверылі 904 бандэролі, з якіх затрымалі дзве. Адна з іх змяшчала рукапіс артыкула «Вынікі археалагічных даследаванняў двух старажытнарускіх помнікаў у БССР — Мінска і Ваўкавыска» (вернута вучонаму сакратару Акадэміі навук БССР). Другая змяшчала карціны, прызначаныя для публікацыі ў часопісе «Польшча» (перададзены ў КДБ БССР як «узор фармалістычнага мастацтва») [67, арк. 36].

За 1959 г. цэнзар мінскага паштамта, узброены новай інструкцыяй Галоўліта СССР «Аб парадку вывазу за мяжу несакрэтных твораў друку і ажыццяўлення міжнароднага кнігаабмену», праверыў 2352 бандэролі і пасылкі, з якіх 46 затрымаў. Гэта былі пераважна рукапісы і выданні, на якія іх адпраўнікі — акадэмічныя інстытуты і Дзяржаўная бібліятэка імя Леніна — не атрымалі належнага дазволу. За 1960 г. было праверана 3120 бандэроляў, з якіх затрымана 38. Большасць з затрыманага складалі ненадрукаваныя працы супрацоўнікаў Акадэміі навук БССР. У наступныя гады колькасць матэрыялаў, затрыманых на цэнзарскім пункце, які праіснаваў на мінскім паштамце да 1990 г., вагалася.

Напрыклад, у 1969 г. было затрымана 65 бандэроляў, у 1971 г. — 44 бандэролі, у 1973 г. — 20, у 1974 г. — 39, у 1975 г. — 15 [70, арк. 51].

У «застойнае», найбольш спакойнае для беларускай савецкай цэнзуры дваццацігоддзе яна не саспытала сур'ёзных структурных і кадравых пераўтварэнняў. Стабілізаваліся таксама ідэалагічныя і арганізацыйна-тэхнічныя патрабаванні да цэнзарскай працы. Вернасць старым ідэалагічным традыцыям засведчыла святкаванне 50-годдзя ўтварэння ў СССР органаў цэнзуры, якое адбылося 6 чэрвеня 1972 г. На ўрачыстым сходзе ў Мінску цэнзараў, афіцыйна перайменаваных да таго часу ў рэдактараў, узнагароджвалі ганаровымі граматамі, передавікам сацыялістычнага спаборніцтва давалі грашовыя прэміі, а намеснік начальніка Галоўліта БССР Н. К. Захарава стаў заслужаным работнікам культуры БССР [37, арк. 13].

У красавіку 1973 г. у сувязі з павелічэннем аб'ёму друкаванай прадукцыі, якая прадстаўлялася на папярэдні кантроль, і складанасцю кантралюемых матэрыялаў быў рэарганізаваны аддзел папярэдняга кантролю. На яго падмурку былі створаны першы аддзел па ахове дзяржаўных тайн у сацыяльна-эканамічнай, грамадска-палітычнай і мастацкай літаратуры і другі аддзел па ахове дзяржаўных тайн у выданнях навукова-тэхнічных выдавецтваў, арганізацыях, што мелі права выдавецтва, і матэрыялах, якія вывозіліся за мяжу. У лік першых забарон папярэдняй цэнзуры ва ўзмоцненым складзе трапіла брашура Белсаўпрафа

«Вытворчая гімнастыка на прадпрыемствах» (1973) [31, арк. 14].

Палітыка галоснасці, абвешчаная М. С. Гарбачовым, рэзкія сацыяльна-эканамічныя і палітычныя змены, якія пачаліся ў савецкім грамадстве, значна ўскладнілі работу цэнзараў. Ва ўмовах, калі штогадова сотні тысяч савецкіх грамадзян пачалі выязджаць за мяжу, калі людзі атрымалі магчымасць вольна слухаць «варожыя галасы», з'явіўся кааператыўны рух, кожны дзень нараджаў пытанні, на якія не было адказаў. Ці дазваляць друкаванне інфармацыі пра кантракты мясцовых прадпрыемстваў з замежнымі фірмамі? Ці з'яўляюцца адкрытымі звесткі пра экспартныя і імпартныя кошты ў параўнанні з унутранымі коштамі ў СССР? Ці можна адносіць да побытавай тэхнікі персанальныя ЭВМ?

Дапамагчы даць адказы на падобныя пытанні была павінна пастанова ЦК КПСС ад 27 ліпеня 1987 г. «Пытанні Галоўнага ўпраўлення па ахове дзяржаўных тайн у друку пры Савеце Міністраў СССР», вытрыманая ў духу палітыкі галоснасці. Ад гэтага часу ішоў неперарыўны працэс перагляду нарматыўных дакументаў Галоўліта ў бок спрашчэння і абмежавання цэнзарскага кантролю. 7 жніўня 1987 г. начальнік Галоўліта БССР А. А. Маркевіч дакладаў свайму маскоўскаму кіраўніцтву пра тое, як ён скараціў дакументазварот, а таксама час праходжання матэрыялаў праз цэнзурны кантроль, як ён абсталяваў цэнзарскі пункт у Дзяржтэлерадыё

БССР маніторам і радыёпрыстасаваннем для прагляду і праслухоўвання перадач на стадыі іх мантажу. Разам з тым А. А. Маркевіч скардзіўся на тое, што некаторыя аўтары і рэдактары зразумелі галоснасць як адмену цэнзуры, патрабаваў пашырэння паўнамоцтваў цэнзараў. І адпаведна гэтаму — паляпшэння матэрыяльна-тэхнічных умоў іх працы (дадатковых працоўных і хатніх плошчаў, пуцёвак, другога службовага аўтамабіля, прымацавання ўсіх цэнзараў да стала замоваў ЦК і 4-га ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя) [57, арк. 13–16].

Але вецер дзьмуў ужо зусім у іншы бок. 10 чэрвеня 1988 г. Савет Міністраў БССР прыняў пастанову, якая патрабавала ў межах новай Генеральнай схемы ўпраўлення народнай гаспадаркай БССР скараціць колькасць супрацоўнікаў апарата Галоўліта на 41%. Новы начальнік Галоўліта БССР Г. С. Лазоўская[8] адразу ж пачала безвынікован змаганне за захаванне старога штатнага раскладу. Яна спрабавала тлумачыць вышэйшаму рэспубліканскаму кіраўніцтву, што падначаленае ёй ведамства — гэта не ўпраўленчая структура. Яго нешмалікімі сіламі кантралявалася ўся друкаваная прадукцыя, што выдавалася ў той час у БССР і прыходзіла з-за мяжы, у т. л. 10 выдавецтваў, 25 газет, 35 часопісаў, 36 арганізацый, якія мелі права выдавецкай дзейнасці, 65 паліграфпрадпрыемстваў, 710 участкаў памнажальнай тэхнікі, 107 бібліятэк, 19 кнігарняў, 28 музеяў і выстаў. Толькі цэнзары аддзела

папярэдняга кантролю штогод праглядалі больш за 650 тыс. кніжных старонак, каля 100 тыс. метраў кінаплёнкі, 10 тыс. адзінак друкаваных матэрыялаў, якія адпраўляліся па пошце за мяжу. Акрамя таго, цэнзарамі праводзілася «тлумачальная і экспертная праца». Згодна са схемай, што падаецца ніжэй, у Галоўліце БССР у 1988 г. напярэдадні скарачэння штатаў працавала 53 чалавекі [60, арк. 4–5].

**Структура Галоўнага ўпраўлення па ахове дзяржаўных тайн у друку пры Савеце Міністаў БССР на канец 1988 г.**




У снежні 1990 г., пасля таго як Галоўнае ўпраўленне па ахове дзяржаўных тайн у друку было рэарганізавана ў Галоўнае ўпраўленне па ахове дзяржаўных тайн у друку і іншых сродках масавай інфармацыі пры Савеце Міністраў БССР (ГУАТ БССР), новае ведамства набыло наступную структуру. У склад першага аддзела ўваходзлі пададдзел папярэдніх кансультацый, кансультацыйныя пункты ў Доме друку і БелТА, групы праверкі твораў друку пасля іх выхаду ў свет. У

склад другога — кансультацыйныя пункты на радыё і тэлебачанні, пункты праверкі матэрыялаў, што вывозяцца за мяжу. Меліся таксама спецчастка, агульная канцылярыя, даведачная служба, бухгалтэрыя, вытворча-рэдактарскі аддзел [4, с. 155–159].

---

2 Дадзіёмава Феня Ісакаўна (1906–1991), нарадзілася ў мястэчку Ветка Гомельскага павета, адукацыя — вышэйшая, член КПСС з 1930 г. З сям'і шаўца-адзіночкі. Вучылася ў Камуністычным універсітэце імя Я. М. Свярдлова ў Маскве. У 1937 г. скончыла Камуністычны інстытут журналістыкі ў Мінску. У другой палове 1930-х гг. працавала першым сакратаром Варашылаўскага райкама партыі г. Мінска, намеснікам начальніка Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР. У 1941–1943 гг. — інструктар райкама партыі ў г. Чкалаўск. З 1943 па 1951 гг. узначальвала Галоўліт БССР. Пасля сыходу з Галоўліта да 1954 г. нідзе не працавала. З 1954 г. займала розныя пасады ў выдавецтве «Народная асвета» ў Мінску. З 1956 г. — на пенсіі.

3 Савецкі яўрэйскі тэатральны і грамадскі дзеяч С. Міхоэлс быў забіты супрацоўнікамі органаў МДБ у Мінску ў студзені 1948 г.

4 Ізраіль Маркавіч Бельцэр адносіўся да пакалення сталінскіх вылучэнцаў у беларускім цэнзурным ведамстве. У 1930 г. маладога наборшчыка гомельскай фабрыкі "Палесдрук" запрасілі на працу ў Рабоча-сялянскую інспекцыю, пасля чаго яму давялося прайсці усе прыступкі службовай лесвіцы ў абласной цэнзуры — ад упаўнаважанага да начальніка. Пра тое, якім чынам ішоў кар'ерны рост гомельскага цэнзара, сведчыць наступны характэрны эпізод прафесійнай біяграфіі Бельцэра, які ўзгадваецца ў яго лісце да першага сакратара ЦК КПБ П.М. Машэрава, напісаным у 1968 г.: «У 1938 г. я зняў абвестку ў газеце «Палеская праўда» аб тым, што адна настаўніца дае ўрокі па класе фартэпіяна ў сябе на кватэры ў в. Якубаўка Гомельскага раёна... Як высветлілася пазней, там знаходзілася явачная кватэра шпіёнаў». НАРБ. Ф. 4п. Воп. 65. Спр. 164. Арк. 205.

5 Садоўскі Леанід Васільевіч (1912–1980), нарадзіўся ў в. Арлея Полацкага павета, адукацыя — сярэдняя, член КПСС з 1932 г. З сям'і шаўца-адзіночкі. У 1931 г. скончыў школу калгаснай моладзі на станцыі Лоўша Сіроцінскага раёна, у тым жа годзе — курсы работнікаў друку пры ЦК КП(б)Б, у 1936 г. — два курсы (завочна) Мінскага інстытута журналістыкі. У 1930-я гг. працаваў у лепельскай раённай газеце

«Калгасная праўда», у 1938–1940 гг. — карэспандэнт газеты «Праўда» па БССР, у 1940–1941 гг. — сакратар Лапскага (Беластоцкая вобласць) райкама КП(б)Б. У гады Вялікай Айчыннай вайны — палітработнік і рэдактар ваеннай газеты. З 1946 па 1948 гг. — у апараце ЦК КП(б)Б. У 1948–1951 гг. — намеснік старшыні Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў. З 1951 па 1962 гг. узначальваў Галоўліт БССР.

6 Маркевіч Аляксандр Антонавіч (1923–1992), нарадзіўся ў Полацку, адукацыя — вышэйшая, член КПСС з 1944 г. З сям'і рабочых. Скончыў сярэднюю школу ў Полацку, у 1948 г. — Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП(б)Б, у 1953 г. — журфак БДУ (завочна). У 1940–1941 гг. працаваў культработнікам на цагельні. У 1942–1945 гг. служыў у арміі на камандных пасадах. У выніку цяжкага ранення ампуціравана нага. У 1948–1950 гг. працаваў інструктарам аддзела прапаганды ЦК ЛКСМБ, у 1950–1955 гг. — намеснікам рэдактара газеты «Сталинская молодежь», у 1955–1962 гг. — рэдактарам газеты «Чырвоная змена». З 1962 па 1988 гг. узначальваў Галоўліт БССР.

7 Пад парнаграфіяй савецкай цэнзурай разумеліся любыя выявы, акрамя класічных, аголенага жаночага цела.

8 Лазоўская Ганна Сцяпанаўна нарадзілася ў 1934 г. у в. Гарошкі Мінскага раёна, адукацыя — вышэйшая, член КПСС з 1963 г. З сям'і сялян. У 1959 г. скончыла журфак БДУ, у 1967 — Мінскую вышэйшую партыйную школу. Пасля заканчэння БДУ працавала рэдактарам лунінецкай раённай газеты «Авангард», з 1961 па 1970 гг. — рэдактарам Віцебскай студыі тэлебачання, у 1970–1972 гг. — загадчыкам сектара друку Віцебскага абкама КПБ, з 1972 па 1988 гг. — у аддзеле прапаганды і агітацыі ЦК КПБ (інструктар, загадчык сектара, намеснік загадчыка аддзела). У 1988–1991 гг. узначальвала Галоўліт БССР.

## Механізмы цэнзуры

Работа Галоўліта БССР будавалася на аснове загадаў, інструкцый і тлумачэнняў, якія пад грыфам «сакрэтна» дасылаліся з Масквы, — «Інструкцыі цэнзару», «Правілаў вытворчасці і друкавання твораў», «Абавязковых правілаў для раённага друку і радыёвяшчання», «Інструкцыі па забеспячэнні захавання дзяржаўнай тайны ва ўстановах і на прадпрыемствах СССР», «Інструкцыі для выканаўца-работніка Галоўліта» і інш. Найбольш запатрабаваным цэнзарскім кіруючым дакументам з’яўляўся «Пералік звестак, якія складаюць дзяржаўную і ваенную тайну». Ён уяўляў сабой том аб’ёмам каля 500 старонак. Згодна з ім, тайнай былі ахутаны літаральна ўсе бакі жыцця дзяржавы: абарона, прамысловасць, навука, фінансы, транспарт, сельская гаспадарка, культура. Найбольш важны і адначасова складаны для ўжытку быў раздзел «Пераліку...» пад назвай «Розныя звесткі». Туды ўвайшлі небяспечныя з ідэйна-палітычнага пункту гледжання матэрыялы, у т. л. тыя, што ганьбілі савецкі грамадскі лад, прапагандавалі нацыяналізм, культывавалі гвалт і парнаграфію. Своеасаблівым дадаткам да гэтага раздзелу быў «чорны спіс» аўтараў, творы якіх ні ў якім разе не маглі быць надрукаваны альбо выдадзены чытачам бібліятэк.

Усе забароны, змешчаныя ў «Пераліку...», падзяляліся на безумоўныя і ўмоўныя. Першыя, напрыклад склад вайсковых фарміраванняў, спосабы

падробкі грашовых знакаў і інш., было забаронена даваць у адкрытым друку ўвогуле. Другія, напрыклад міжнародную інфармацыю, побыт ваеннаслужачых, масавыя захворванні і інш., друкаваць было дазволена толькі пры наяўнасці пісьмовага дазволу адпаведнага міністэрства альбо ведамства. Некаторыя з іх цэнзуравалі аўтарскія матэрыялы больш жорстка за галоўлітаўскіх цэнзараў, асабліва калі трэба было ратаваць ідэалагічную чысціню альбо карпаратыўную годнасць.

Так было са стэнаграфічнымі справаздачамі сесіі Вярхоўнага Савета БССР за 1959 г., якія вырашылі не дасылаць у Бібліятэку Кангрэса ЗША з-за таго, што ў прамовах дэпутатаў меліся звесткі, якія маглі быць выкарыстаны «ў непажаданых для нас мэтах» (беспрацоўе, дрэнныя дарогі, медыцынскае абслугоўванне, адукацыя на вёсцы) [21, арк. 96]. Мемуары пра Вялікую Айчынную вайну абавязкова рэцэнзаваліся ў Інстытуце гісторыі партыі ЦК КПБ. Пасля ўводу савецкіх войскаў у 1979 г. у Афганістан для публікацыі матэрыялаў на гэту тэму быў патрэбны дазвол Міністэрства абароны. Для асвятлення наступстваў аварыі ў 1986 г. на Чарнобыльскай АЭС — дазвол Дзяржкамітэта па выкарыстанні атамнай энергіі. У любым выпадку атрыманне дазволу было няпростай справай, патрабавала ад журналістаў шмат энергіі і часу, што часта вымушала аўтара адмовіцца ад публікацыі ўвогуле. Усе дазволы міністэрстваў і ведамстваў

перадаваліся ў Галоўліт, дзе захоўваліся ў спецыяльнай даведачнай службе.

Гэта служба складалася з закрытай картатэкі, куды заносіліся ўсе тлумачэнні і ўдакладненні па «Пераліку...», з дырэктыўных дакументаў па цэнзуры, заўваг па зводках выкрэсліванняў, бюлетэня Галоўліта СССР. Акрамя таго, там існавала картатэка аб'ектаў і арганізацый, матэрыялы якіх кантраляваў Галоўліт (часопісы, газеты, бюлетэні, выдавецтвы, друкарні, музеі, бібліятэкі), а таксама бібліятэка даведачнай літаратуры.

На першым месцы па важнасці знаходзіўся дакумент пад назвай «Адзіныя правілы выдання адкрытых твораў друку», які вызначаў агульны механізм работы цэнзуры ў СССР. «Адзіныя правілы...» вызначалі парадак праходжання рукапісаў праз рэдакцыйна-выдавецкія ўстановы, паліграфпрадпрыемствы і Галоўліт. У іх агаворваліся асаблівасці выканання цэнтральнымі, абласнымі і раённымі (там, дзе не было цэнзараў Галоўліта) друкарнямі замоваў устаноў і арганізацый, якія не мелі права займацца выдавецкай дзейнасцю, а таксама прыватных асоб.

Патрабаванні сакрэтнасці змяняліся пастаянна. Пэўны час сакрэтнымі былі амаль усе звесткі аб прамысловай вытворчасці. Праз дзесяцігоддзе іх адкрылі, сакрэтным стаў «космас» — адпаведна гэтаму з'явілася новае кола дзяржаўных тайн.

Працэдура папярэдняга кантролю, якой цэнзурнае ведамства надавала галоўнае значэнне, выглядала

наступным чынам. Цэнзару прадстаўляліся падпісаныя рэдактарам выдавецтва альбо дырэктарам друкарні карэктурныя адбіткі (гранкі). Падчас іх вывучэння цэнзар не меў права што-небудзь выкрэсліваць альбо ўносіць праўкі. Свае заўвагі да звярстанага тэксту ён пісьмова афармляў на спецыяльным бланку «Умяшальніцтва», дзе пазначалася выдавецкая ўстанова, дакладны цэнзуруемы тэкст, пункт «Пераліку...», пад які гэты тэкст падпадаў. Пасля выпраўлення цэнзарскіх заўваг рэдактар альбо дырэктар друкарні прадстаўляў новыя гранкі. Потым цэнзар ставіў штамп (дату, літару і дазваляльны нумар) на часопіс, газету, кнігу, якія ішлі ў друкарню. Там выраблялiся спачатку кантрольныя экзэмпляры, якія рассылаліся па спісе (у тым ліку ў Галоўліт), пасля чаго друкаваўся ўвесь тыраж. Умяшальніцтвы папярэдняй цэнзуры ўвесь час абмяркоўваліся на занятках у Галоўліце БССР. У абагульненым выглядзе яны накіроўваліся ў Галоўліт СССР у Маскву, рэспубліканскаму партыйнаму кіраўніцтву і ў Дзяржкамдрук БССР. Калі маскоўскае кіраўніцтва выкарыстоўвала зводкі ўмяшальніцтваў для цэнзарскай вучобы, то дзве апошнія структуры з іх дапамогай праводзілі прафілактычную работу, «выхоўвалі» рэдактараў.

Наступны кантроль чытаў усе абласныя і раённыя газеты ў дзень іх выдання і толькі зрэдку пакідаў для чытання на наступны дзень. Сігнальныя асобнікі часопісаў таксама чыталіся цэнзарам у дзень іх выдання. Кнігі чыталіся на працягу аднаго-трох дзён

да іх выхаду ў свет. У рэспубліканскіх газетах цалкам чыталіся першыя тры паласы, чацвёртая — выбарачна. Абласныя і раённыя газеты — кожная пятая чыталася цалкам, астатнія чатыры ўважліва праглядаліся. Часопісы, брашуры і кнігі таксама чыталіся выбарачна. Акрамя таго, цэнзар наступнага кантролю праслухоўваў раз на дзесяць дзён усе перадачы рэспубліканскага радыёкамітэта і раз на два тыдні праглядаў яго праграмы перадач.

Калі наступная цэнзура дазваляла твор да друку, то два яго экзэмпляры праштампоўваліся («выпуск у свет дазваляецца»), адзін з іх вяртаўся паліграфпрадпрыемству, другі заставаўся ў Галоўліце. За ідэнтычнасць надрукаванага тэксту яго варыянта, дазволенага цэнзурай, персанальную адказнасць неслі дырэктар друкарні і галоўны рэдактар выдавецкай установы. Калі наступная цэнзура друк забараняла, то разасланыя па спісе ў бібліятэкі, кніжную палату і г. д. творы друку адклікаліся. І тады яна вырашала, ці трэба прыбіраць і перадрукоўваць асобныя старонкі, ці знішчыць увесь тыраж. Падчас вырабу зацверджаных папярэдняй цэнзурай палітычных плакатаў правяраць тыраж паштучна павінны былі паліграфпрадпрыемствы разам з замоўцам [48, арк. 43–66].

Цыркулярам 1951 г. цэнзарам Галоўліта катэгарычна забаранялася ўносіць праўкі ў творы класікаў марксізму-ленінізму, стэнаграфічныя справаздачы партыйных з’ездаў і канферэнцый, а

таксама сесій вярхоўных саветаў, афіцыйныя зборнікі дакументаў і энцыклапедычныя выданні.

Адной з праяў змягчэння цэнзуры, спробай надаць ёй цывілізаваны вонкавы выгляд у часы «адлігі» было знікненне з вокладак друкаванай прадукцыі цэнзарскага дазволу «Галоўліт БССР». Яго замянілі незразумелым для чытачоў шыфрам, які складаўся з дзвюх літар і парадкавага нумара, напрыклад «АТ 876345». Літары азначалі горад, дзе быў атрыманы цэнзарскі дазвол, напрыклад АТ — мінская цэнзура. Шыфр ставіўся на вокладкі ўсёй савецкай выдавецкай прадукцыі адразу за датай падпісання твора ў друк. Адзінае выключэнне было зроблена для выдавецкай прадукцыі, адрасаванай замежнаму чытачу, для якога ў СССР цэнзуры не існавала нават у выглядзе таямнічых абрэвіятур.

Загадам Упаўнаважанага Савета Міністраў СССР па ахове ваенных і дзяржаўных тайн у друку ад 25 сакавіка 1950 г. уніфікаваліся формы цэнзарскага справаводства — данясенні аб забароненых выданнях і надрукаваных творах, зводкі выкрэсліванняў папярэдняга кантролю, карткі наступнага кантролю, справаздачы абласных і раённых цэнзараў, справаздачы аб праверках бібліятэк, музеяў, букіністычных кнігарняў. У 1976 г. да іх дадаліся дзённікі і рабочыя сшыткі цэнзара. Усе яны мелі сакрэтны характар. Ніжэй падаецца адна з тэкставых зводак папярэдняй цэнзуры Галоўліта БССР.

Форма № 4 Сакрэтна (па запаўненні)

Экз. №

19 сакавіка 1946 г.

Упаўнаважанаму СНК СССР па ахове ваенных тайн у друку і Начальніку Галоўліта

## ТЭКСТАВАЯ ЗВОДКА

выкрэсліванняў папярэдняй цэнзуры за час з 1/III па 15/III 1946 г.

Галоўліт пры СНК БССР

| №№ п/ж | Дакладны тэкст выкрэслівання з указаннем назвы матэрыялу, з якога ён зроблены | Падстава выкрэслівання (раздзел, нумар Пераліку) | Назва выдання, чый орган, дата і яго нумар | Рэдактар | Палітрэдактар (цэнзар) |
|---|---|---|---|---|---|
| | З кнігі «Апавяданні пра Леніна», аўтар А. Конанаў, зроблены наступныя выкрэсліванні: | | | | |
| 1. | «Потым ужо Данілыч распавядаў: раззлаваўся Ленін. Раззлаваўся, ускочыў, пачаў хадзіць па пакоі. Але не стаў папракаць селяніна Дзмітрыя | З палітычных меркаванняў | Дзяржвыдат БССР | Няміра | Мінкіна Р. І. |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Данілавіча» (апавяданне «Ленінская папера», стар. 13) | | | | |
| 2. | «Уладзімір Ільіч навучыў яго розным сабачым навукам...» (гутарка ідзе пра сабаку, якую клікалі Жэнька) і далей — «...пачынаў нецярпліва прытоптваць нагой і сярдзіта пазіраў...» (апавяданне «Май», стар. 14 і 17) | З палітычных меркаванняў | Дзяржвыдат БССР | Няміра | Мінкіна Р. І. |
| 13. | У нататцы «Замацаваць поспехі ў палітычна-масавай рабоце» было дапушчана «... глыбокае вывучэн- (перанесена на наступны радок) не гістарычнай прамовы таварыша Сталіна...» | Палітычна-шкодны перанос | Магілёўская абласная газета «За радзіму», № 35 ад 10/III 46 г. | Філімонаў | Капусціна К. Я. |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 15. | Зроблена з апавядання А. Алешкі «Журба і Монцік» наступнае выкрэсліванне: «Ён ледзь данёс на сабе два мяхі. Мікіта паглядзеў на мяхі, усміхнуўся: — Ты мусіць у Штэціне разабраў завод?» (гэта казалася пра двух дэмабілізаваных байцоў, якія вярталіся дамоў з Германіі) | Раздзел I, параграф 11 | Часопіс «Беларусь», № 3 за 1946 г. | Гурскі | Ерэнбург С. I. |
| 23. | У артыкуле Тамары Бушко «Пачатак», у сказе «Зварот жыцця на родную зямлю паэт уяўляе сабе, як вынік вялікай барацьбы супроць цёмных сіл фашызма» выключаны словы «ўяўляе сабе» | З палітычных меркаванняў, таму што паэту няма патрэбы «ўяўляць сабе», а трэба толькі разумець здзейсненае ў дадзеным канкрэтным выпадку | Газета «Літаратура і мастацтва», № 9 (532) за 16/III46 г. | Куляшоў | Дадзіёмава Ф. I. |
| 18. | | | | Клімковіч | Андрэева Н. I. |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Знята «ў Маскве» са сказа «Прыкажуць мне быць у чужым краі, родных пазабыці, у Маскве служыці» | З палітычных меркаванняў | Дзяржвыдат БССР. Зборнік «Беларускія народныя песні, загадкі і прыказкі». Т. 1., у апрацоўцы Шырмы. на стар. 284 | | |
| 37. | У артыкуле «Сон пад новы год» зроблена выкрэсліванне: «Эх, кажа, пад Будапештам, брат, пшаніца была нядрэнная...» (атрымліваецца, што ў нас ураджай горш) | З палітычных меркаванняў | Часопіс «Вожык». № 1–2 за 1946 г. | Крапіва | Дадзіёмава Ф. І. |
| 24. | У нататцы «Смерць катам» зроблена выкрэсліванне «Разбойнікаў павесілі дзеля таго, каб больш ніколі ніхто не перашкаджаў вам, рабяты, вучыцца, гуляць і ўсміхацца» | З палітычных меркаванняў, як прытупляючыя пільнасць | Газета «Зорька» № 5 ад 31/І 46 г. | Андрэева | Гроднер Р. М. |
| 9. | | | | Клімковіч | Андрэева |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | З верша «Цемень» М. Багдановіча зняты словы «Не глядзіць на мяне ясны выраз Хрыста», «І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым і мяккім пылу дарагія сляды. Але гора вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі вы іх. Амінь» | З палітчных меркаванняў | Зборнік «Выбраныя творы», Дзяржвыдат БССР | | |
| 32. | «і выключаны з членаў УсеКП(б)Б». Гэтыя словы выдалены з матэрыялу «Па слядах ненадрукаваных лістоў», у якой казалася пра тое, што старшыня Дзівінскага райспажыўсаюза Зарэчны за незаконныя дзеянні зняты з працы і выключаны з партыі | Як памылка палітычнага характару | Брэсцкая абласная газета «Заря», № 54 ад 16/IV 46 г. | | |

[10, арк. 180–253].

На працягу першых пяці гадоў працы (1943–1948) цэнзары Галоўліта БССР зрабілі 2383 выкрэсліванні, з якіх 1808 — адпаведна «Пераліку...», 458 — ідэалагічнага характару, неабгрунтаваных — 117. Абсалютная большасць умяшальніцтваў была зроблена ў рэспубліканскіх і абласных газетах, а таксама ў кніжна-часопіснай прадукцыі [16, арк. 241]. Аб'ёмы працы цэнзараў увесь час павялічваліся адпаведна павелічэнню інфармацыйных плыняў. Так, ужо ў наступным 1949 г. Галоўліт БССР зрабіў 1394 выкрэсліванні, з якіх 1246 — адпаведна «Пераліку...», 73 — ідэалагічнага характару, неабгрунтаваных — 75.

У гэтай статыстыцы звяртае на сябе ўвагу вялікая колькасць неабгрунтаваных цэнзарскіх умяшальніцтваў. Тлумачылася гэта тым, што ў атмасферы татальнага недаверу, страху, рэпрэсій цэнзары перастрахоўваліся, ведаючы, што пакаранне за неабгрунтаванае ўмяшальніцтва лагодней за пропуск у друк сакрэтных звестак альбо, крый божа, ідэалагічна нявытрыманай думкі. Згадкі пра падобную перастрахоўку мы рэгулярна сустракаем у справаздачах і загадах кіраўніцтва Галоўліта. Напрыклад, у справаздачы за 1947 г. Ф. І. Дадзіёмава ў якасці адмоўнага дае прыклад работы цэнзара бабруйскага аблліта Плоткіна, які ў артыкуле «Калектыву рабочых і служачых 12 дыстанцыі чыгункі ўручаны пераходзячы Чырвоны сцяг» прыбраў інфармацыю пра колькасць нарыхтаваных

шпал [16, арк. 242]. А ў 1955 г. цэнзар пінскага аблліта Швяцова зняла артыкул пра расліны афрыканскага, азіяцкага і амерыканскага паходжання, што меліся на станцыі юннатаў, патлумачыўшы сваё рашэнне тым, што гэта — інфармацыя міжнароднага характару і не можа быць надрукавана без узгаднення з МЗС [65, арк. 33].

Пра феномен цэнзурнага мыслення красамоўна сведчыць выпадак з інкруставаным партрэтам Сталіна, вырабленым да яго сямідзесяцігоддзя беларускімі майстрамі. Зроблены да яго надпіс «Вялікаму Сталіну ад беларускага народа» прыйшлося тэрмінова даваць у рускім перакладзе, бо нехта ў апошнюю хвіліну прачытаў яго з націскам на прыназоўнік «ад», пераўтварыўшы яго такім чынам у назоўнік [2, с. 34].

З сярэдзіны 1954 г. пачалося некаторае спрашчэнне цэнзурных механізмаў. Ад папярэдняй цэнзуры была вызвалена друкаваная прадукцыя міністэрстваў, ведамстваў, акадэмій навук і ВНУ, а таксама ўся дробнатыражная прадукцыя (афішы, праграмы, абвесткі, улёткі, квіткі). Дазволілі змяшчаць у адкрытым друку звесткі пра выкананне прадпрыемствамі і транспартам дзяржаўнага плана. Для выяўленчай прадукцыі папярэдні цэнзурны прагляд захоўваўся [46, арк. 7–8]. Напрыклад, па ўзгадненні з ЦК КПБ цэнзары затрымалі серыю паштовак «Віды г. Гродна» з-за таго, што на пяці з іх былі выявы касцёлаў і цэркваў, што «не з’яўляецца характэрным для сучаснага пейзажа г. Гродна» [26, арк. 270].

Складаючай часткай дзяржаўнай палітыкі лібералізацыі, распачатай XX з’ездам КПСС, было рашэнне Галоўліта СССР, прынятае ў ліпені 1956 г., зняць з цэнзурнага кантролю ўвогуле шэраг відаў друкаванай прадукцыі. Галоўліт усклаў на дырэктараў і галоўных рэдактараў выдавецтваў суцэльную адказнасць за друкаванне твораў класікаў марксізму-ленінізму, рускай, савецкай і замежнай літаратуры, музыкі, мастацтва, а таксама навукі і тэхнікі[9]. Акрамя таго, ад цэнзурнага кантролю вызвалялася перакладная і дзіцячая літаратура, падручнікі, слоўнікі[10], кніжныя летапісы, рэфератыўныя акадэмічныя часопісы. У жніўні — кастрычніку 1956 г. гэты спіс падоўжыўся за кошт дакладаў і артыкулаў тагачаснага партыйнага і савецкага кіраўніцтва, пастаноў Вярхоўных Саветаў, ведамасных выданняў, картаў, нот, афіш, каталогаў, часопісаў мод, настольных гульняў, раскладаў руху транспарту [45, арк. 14]. У 1958 г. колькасць умяшальніцтваў Галоўліта БССР у паліграфічную прадукцыю, што была выдадзена ў рэспубліцы, зменшылася да 867. У 1959 г. назіралася далейшае скарачэнне — 522 умяшальніцтвы, у 1960 г. — 374 умяшальніцтвы, у 1961 г. — 251. Колькасць умяшальніцтваў, зробленых па палітычных меркаваннях, у тыя гады вагалася ў межах 30–40 штогод [71, арк. 2].

Але ўжо напачатку 1980-х гг. пераважыла агульная тэндэнцыя павелічэння цэнзарскіх умяшальніцтваў. Пра гэта сведчыць табліца, што падаецца ніжэй.

**Звесткі аб колькасці ўмяшальніцтваў, зробленых Галоўлітам БССР у матэрыялах выдавецтваў, часопісаў, газет у XI пяцігодцы**

| №<br>№ | Назва | 1981 г. | 1982 г. | 1983 г. | 1984 г. | 1985 г. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | *Выдавецтвы* | | | | | | |
| 1. | Навука і тэхніка | 29 | 36 | 18 | 18 | 35 | 136 |
| 2. | Вышэйшая школа | 16 | 21 | 16 | 17 | 20 | 90 |
| 3. | Университетское | 15 | 14 | 12 | 8 | 10 | 59 |
| 4. | Беларусь | 24 | 26 | 30 | 43 | 60 | 183 |
| 5. | Мастацкая літаратура | 9 | 2 | 13 | 17 | 5 | 46 |
| 6. | БелСЭ | 9 | 6 | 22 | 11 | 7 | 55 |
| 7. | Ураджай | 7 | 6 | 16 | 17 | 11 | 57 |
| 8. | Юнацтва | – | 4 | 2 | 6 | 14 | 26 |
| 9. | Полымя | 31 | 53 | 44 | 30 | 19 | 177 |
| 10. | Народная асвета | 2 | 3 | 16 | 4 | 2 | 27 |
| | *Часопісы* | | | | | | |
| 1. | Полымя | 6 | 8 | 7 | 5 | 6 | 32 |
| 2. | Маладосць | 4 | 5 | 5 | 2 | 3 | 19 |
| 3. | Беларусь | 7 | 9 | 12 | 9 | 3 | 40 |
| 4. | Неман | 5 | 10 | 11 | 12 | 7 | 45 |
| 5. | Коммунист Белоруссии | 8 | 9 | 8 | 9 | 8 | 42 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6. | Народное хозяйство Белоруссии | 19 | 11 | 17 | 9 | 21 | 77 |
| 7. | Здравоохранение Белоруссии | 6 | 5 | 5 | 7 | 6 | 29 |
| *Газеты* | | | | | | | |
| 1. | Звязда | 17 | 12 | 16 | 22 | 22 | 89 |
| 2. | Советская Белоруссия | 26 | 15 | 30 | 21 | 21 | 113 |
| 3. | Сельская газета | 7 | 2 | 6 | 23 | 18 | 56 |
| 4. | Мінская праўда | 19 | 9 | 20 | 22 | 41 | 111 |
| 5. | Вечерний Минск | 40 | 35 | 29 | 28 | 28 | 160 |
| 6. | Чырвоная змена | 14 | 19 | 16 | 18 | 24 | 91 |
| 7. | Знамя юности | 21 | 17 | 19 | 18 | 20 | 95 |
| 8. | Физкультурник Белоруссии | 6 | 6 | 11 | 7 | 8 | 38 |
| 9. | Літаратура і мастацтва | 3 | 5 | 12 | 15 | 11 | 46 |
| | Дзяржтэлерадыё БССР | 43 | 36 | 42 | 41 | 27 | 189 |
| | ***РАЗАМ*** | 393 | 384 | 455 | 439 | 457 | 2128 |

Такім чынам, нягледзячы на нязначныя часовыя хістанні, у першай палове 1980-х гг. пераважала тэндэнцыя павелічэння аб'ёму ўмяшальніцтваў. Гэта тэндэнцыя захоўвалася і ў першыя гады перабудовы. Напрыклад, у 1986 г. Галоўлітам БССР было ўжо зроблена 587 умяшальніцтваў [57, арк. 7].

У 1987 г., калі М. С. Гарбачоў абвясціў палітыку галоснасці, гэта лічба павялічылася амаль удвая, дасягнуўшы 1175 (агульныя палажэнні — 84, узброеныя сілы і абарона краіны — 303, картаграфія, гравіметрыя, геадэзія і гідраграфія — 6, гідраметэаралогія і кантроль прыроднага асяроддзя — 1, адкрыцці, вынаходніцтвы, навукова-даследчыя работы — 13, прамысловасць — 435, карысныя выкапні — 6, транспарт — 39, сувязь — 7, аграпрамысловы комплекс — 11, фінансы — 9, знешняя палітыка і знешні гандль — 22, медыка-санітарныя пытанні — 22, розныя звесткі — 198, іншыя абмежаванні — 19) [61, арк. 7–10]. І толькі з 1988 г. колькасць умяшальніцтваў рэзка пайшла на спад, што было спозненай рэакцыяй цэнзуры на новую палітыку галоснасці.

У другой палове 1988 г. з кантролю Галоўліта была знята ўся прадукцыя выдавецтваў «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва», а таксама ўся грамадска-палітычная і мастакая літаратура іншых выдавецтваў. Ад абавязковага цэнзуравання вызвалілі часопісы «Беларусь», «Полымя», «Неман», «Маладосць», «Вожык», «Мастацтва Беларусі», «Работніца і сялянка», «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», «Парус», «Крыніца», а таксама газеты «Літаратура і мастацтва», «Настаўніцкая газета», ведамасныя шматтыражкі. З 1988 г. цэнзураванню Галоўліта не падлягалі грамадска-палітычныя і мастацкія перадачы беларускага радыё і тэлебачання, кінасцэнары, драматургічныя і эстрадныя творы,

экспазіцыі музеяў і выстаў. Цэнзары, што засталіся ў Галоўліце, засяродзіліся на выбарачным наступным кантролі СМІ, кансультаванні рэдакцый па пытаннях сакрэтнасці, а таксама прадухіленні вывазу за мяжу матэрыялаў, якія змяшчалі сакрэтныя звесткі [42, арк. 74].

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе цэнзары Галоўліта БССР штогод прачытвалі каля 5 тыс. улікова-выдавецкіх аркушаў. Сярэднестатыстычны цэнзар на працягу працоўнага дня павінен быў прачытаць 150–180 старонак машынапісу. У 1987 г. нормы дзённай выпрацоўкі цэнзара ва ўлікова-выдавецкіх аркушах выглядалі ўжо наступным чынам. На папярэднім кантролі — 10 для цэнзара кніжна-часопіснай групы, 7 для цэнзара газетнай групы, 12 для цэнзара групы, што працавала ў Дзяржтэлерадыё, 8 для цэнзара ўчастка ў БелТА. На наступным кантролі нормы выпрацоўкі для цэнзараў, якія чыталі вёрсткі, супадалі з нормамі папярэдняга кантролю. А для тых, хто чытаў падпісаныя да друку выданні, дзённыя нормы былі павялічаны да 50 аркушаў [58, арк. 4].

Старэйшы рэдактар Галоўліта БССР М. К. Высоцкая, якая адказвала ў 1970-я гг. за часопісы, мусіла чытаць гранкі літаратурных твораў з-за тэрміновасці іх здачы «ў аўтобусе, у хаце... паміж рондалямі»[11].

Умовы штодзённай працы цэнзараў былі далёкія ад ідэальных. У справаздачы за 1947 г. мы чытаем: «...

у мінскай друкарні імя Сталіна выдаецца за ноч у сярэднім па тры газеты, але працуючыя там адначасова два палітрэдактары вымушаны знаходзіцца ў друкарні сістэматычна суткамі. У большасці выпадкаў з дзевяці гадзін вечара да трох гадзін начы палосы яшчэ не гатовы. А потым пачынаецца спешка. Усе рэдакцыі адначасова нясуць свае палосы. Аналагічнае становішча ў друкарнях шэрагу абласцей. У выніку зніжаецца якасць працы палітрэдактараў». Два цэнзары, прыкамандыраваныя да Дзяржаўнага выдавецтва БССР, таксама былі вымушаны працаваць у аўральным рэжыме [12, арк. 84].

Найбольш напружаная праца з-за яе аператыўнага характару была ў «газетчыкаў». Начальнік газетнага аддзела Галоўліта БССР В. С. Сярова ўзгадвала: «Ідзеш дамоў у 11–12 часоў вечара, а ў галаве адна думка: ці можна было пакідаць дадзеныя пра вытворчасць на "Інтэграле"...Там жа ўсё ішло ў абсалютных лічбах. Можа трэба было даць у працэнтах? Не, можна пакінуць так. Таму што з тэксту не бачна, за які перыяд выраблена гэта прадукцыя... І ўсё ж заўтра з ранку трэба ўважліва з гэтым разабрацца» [72, с. 14].

Але, нягледзячы на звышпільнасць, праверкі і пераправеркі, ідэалагічныя памылкі ў друк ўсё ж праслізвалі. Ужо на працягу 1944–1946 гг. наступны кантроль «з-за грубых палітычных памылак, скажэнняў, а таксама памылак друку» мусіў 19 разоў адбіраць цэлыя альбо часткі тыражоў друкаванай

прадукцыі (у т. л. 14-тысячны тыраж газеты «Звязда» ў 1944 г., 20-тысячны тыраж газеты «Чырвоная змена» ў 1946 г., 10-тысячны тыраж газеты «Віцебскі рабочы» ў 1945 г. і інш.) [12, арк. 80–83].

* * *

Як і ў даваенны час, у 1943–1991 гг. Галоўліт БССР быў найважнейшым, але не адзіным інструментам цэнзуры ў рэспубліцы. Па-ранейшаму цывільная цэнзура супрацоўнічала з ваенным цэнзарам штаба Беларускай вайсковай акругі[12]. Важкае месца ў інфармацыйным кантролі грамадства ў розныя часы належала іншым дзяржаўным і партыйным структурам — кампанентам прапанаванай вядомым расійскім даследчыкам цэнзуры А. В. Блюмам пяціяруснай кантралюючай машыны, дзе Галоўліт займаў цэнтральнае месца [1, с. 14–25].

1. Феномен *самацэнзуры*, альбо наўмыснага пазбаўлення аўтарам уласнага твору фрагментаў, немагчымых для публічнай прэзентацыі, праяўляўся ў СССР па розных прычынах. Часцей за ўсё самацэнзура была вынікам прымусовых абмежаванняў свабоды творчасці, магчымых санкцый у дачыненні аўтара ў выпадку парушэння гэтых абмежаванняў.

У апошні перыяд сталінскага праўлення склаўся трывалы сацрэалістычны канон, які вывеў па-за поле зроку мастака пэўнае кола тэм, поглядаў, стыляў і нават слоў. Іх выкарыстанне лічылася непажаданым. Аўтары, якія парушалі гэтыя абмежаванні, у сталінскі

час падлягалі прамому пакаранню. У часы «развітага сацыялізму» да іх часцей выкарыстоўвалі метады непрамога ўціску. Напрыклад, тыражаванне «няправільнага» фільма мінімальнай колькасцю копій, якое пазбаўляла фільм не толькі папулярнасці, але касавага збору. Або пакаранне за выданне «непатрэбнай» кнігі не аўтара, а галоўнага рэдактара выдавецтва, у выніку чаго ніводнае выдавецтва не пагаджалася браць наступны рукапіс гэтага аўтара.

У разглядаемы час існавала таксама неўсвядомленая цэнзура, калі аўтар пазбягаў непажаданых элементаў падсвядома, не разумеючы, што ён прытрымліваецца зададзеных звонку абмежаванняў. Самі сабе пісьменнікі і журналісты, мастакі і музыкі БССР тлумачылі гэта пазбяганне ўласным мастацкім густам, маральнымі меркаваннямі і інш.

У кантэксце вышэйсказанага паказальным з'яўляецца дыялог супрацоўніка часопіса «Беларусь» В. Ларына з былым цэнзарам Галоўліта БССР З. Я. Зарэцкім, які адбыўся ў 1990 г.: «Пэўна, амаль у кожнага журналіста, літаратара ёсць не толькі свой "унутраны рэдактар", але і "ўнутраны цэнзар". Ці існуюць тэмы, якія быццам толькі зараз сталі "адкрытымі", а на самай справе іх ніхто ніколі не аб'яўляў забароненымі?» — «Вядома! Вось — нітраты, пестыцыды... Хто не дазваляў публіцыстам яшчэ 5–10 гадоў назад звярнуць увагу грамадства на ўжо даўно пільную праблему? Ніякіх абмежаванняў не

існавала! Патрэбны былі толькі ініцыятыва і смеласць» [8, с. 25].

Г. Бураўкін узгадваў у 2011 г. у інтэрв’ю інтэрнэт-газеце «Салідарнасць»: «Ёсць розныя віды цэнзуры. Самая хітрая і небяспечная — самацэнзура. Калі пачалі пісаць, друкавацца перада мной, Рыгорам Барадуліным, іншымі равеснікамі, былі ўзоры — тарабаршчына ў гонар вялікага Сталіна, савецкай канстытуцыі і г. д. Гэтая самацэнзура сядзела ў нас усярэдзіне. Таму, калі мы давалі свае няўмелыя радкі ў друк, нічога цэнзураваць ужо не трэба было. Адчуванне цэнзуры, на якую трэба азірацца штодня, з’явілася пазней. Асабліва ярка, калі працаваў галоўным рэдактарам часопіса “Маладосць” і яшчэ на больш высокім узроўні — падчас кіраўніцтва Белдзяржтэлерадыё» [76].

Вядомы беларускі кінарэжысёр Ю. Лысятаў наступным чынам ілюструе феномен самацэнзуры: «У час здымак фільма “Наказ”[13] мне як рэжысёру давялося гутарыць з многімі калгаснікамі. Вельмі цікава, адкрыта і шчыра пра вясковыя праблемы пачаў гаварыць стары ветэран... Гэты матэрыял мог і павінен быў быць выкарыстаны ў фільме. І ён прагучаў бы надзвычай востра, актуальна. Але я проста разгубіўся, змаладушнічаў. Выкінуў запіс гэтай гутаркі» [75, с. 6].

2. *Рэдактарская цэнзура* ажыццяўлялася супрацоўнікамі рэдакцый выдавецтваў, часопісаў, газет, радыё. Часта рэдактары падвяргалі тэксты

жорсткай ідэалагічнай праўцы, якая не саступала ў гэтым сэнсе ўласна цэнзурным інстанцыям. Найбольшую падазронасць рэдактараў выклікаў падтэкст твора, эзопава мова, якую шукалі нават там, дзе яе не было.

Агульнае кіраўніцтва выдавецтвамі, прадпрыемствамі паліграфічнай прамысловасці і кніжным гандлем на тэрыторыі БССР з 1946 па 1963 гг. ажыццяўляла Упраўленне па справах паліграфіі і выдавецтваў пры Савеце Міністраў БССР (з 1953 г. дзейнічала як частка Міністэрства культуры). У верасні 1963 г. замест Упраўлення быў утвораны саюзна-рэспубліканскі Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку (Дзяржкамдрук), пераўтвораны ў 1972 г. у Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю (Дзяржкамвыдат). У 1989 г. ён быў зноў перайменаваны ў Дзяржкамдрук, але ўжо рэспубліканскага падпарадкавання.

У пасляваенны час манапалістам друку ў рэспубліцы было Дзяржаўнае выдавецтва БССР, якое вярнулася ў Мінск у другой палове 1944 г. Нягледзячы на вялікія цяжкасці — адсутнасць кадраў, абмежаваныя магчымасці адзінай паліграфічнай базы выдавецтва (друкарні імя Сталіна), у 1944 г. у ім было выдадзена 42 найменні кніг агульным аб'ёмам 151 аўтарскі аркуш тыражом у 1 415 000 асобнікаў. Выдаваліся пераважна кнігі, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне, працы І. В. Сталіна, П. К. Панамарэнкі, школьныя падручнікі,

мастацкая і сельскагаспадарчая літаратура. У наступным годзе з 210 назваў кніг, выдадзеных Дзяржвыдатам БССР, 86 адносіліся да палітычнай літаратуры, што складала 40,9% да агульнай колькасці. Разам з тым, выйшлі з друку звыш мільёна асобнікаў падручнікаў, «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат», выбраныя творы В. Дуніна-Марцінкевіча, М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, Зм. Бядулі. Выдаваліся тагачасныя беларускія аўтары (П. Броўка, А. Куляшоў, М. Машара, М. Танк, А. Кучар, К. Крапіва, В. Вольскі і інш) [12, арк. 31–42].

Калі ў 1945 г. у БССР было выдадзена 210 найменняў кніг, то ў 1958 г. ужо 1191, у 1965 г. — 1931, а ў 1987 г. у БССР надрукавалі 3000 найменняў кніг агульным тыражом у 93 млн асобнікаў, што было ў 2,2 раза больш, чым у 1980 г. [42, арк. 37]. У 1985 г. старшыня Дзяркамвыдата БССР М. І. Дзялец дакладваў першаму сакратару ЦК КПБ М. М. Слюнькову: «У завяршаючы год пяцігодкі ў БССР выдадзена мільярдная кніга» [41, арк. 31].

На працягу 1950-х гг. у БССР, як і ва ўсёй краіне, павялічылася колькасць выдавецтваў. 1 жніўня 1963 г., напярэдадні стварэння Дзяржкамдруку, ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР прынялі сумесную пастанову «Аб упарадкаванні выдавецкай справы ў краіне і павышэнні ролі выдавецтваў у гаспадарчым і культурным будаўніцтве». 21 верасня падобную пастанову прынялі ЦК КПБ і СМ БССР, паводле якой у рэспубліцы «ў мэтах ліквідацыі паралелізму і

ведамаснасці» была рэарганізавана сетка выдавецтваў і ўсталявана іх падпарадкаванасць Дзяржкамдруку:

«Беларусь» (былы Дзяржвыдат БССР) выдавала масавую палітычную, народна-гаспадарчую, навукова-тэхнічную, мастацкую, медыцынскую, дзіцячую, спартыўную, музычную літаратуру, а таксама альбомы, плакаты, паштоўкі;

«Навука і тэхніка» (былое выдавецтва АН БССР) — навуковую і тэхнічную літаратуру, навуковыя і масавыя навукова-папулярныя выданні;

«Народная асвета» (былое Вучэбна-педагагічнае выдавецтва) — падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, вучэбна-метадычную літаратуру для школ;

«Вышэйшая школа» (былое выдавецтва Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай прафесійнай адукацыі) — падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, вучэбна-метадычную літаратуру для ВНУ;

«Ураджай» (былое выдавецтва Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР) — сельскагаспадарчую літаратуру, выданні па лясной гаспадарцы, меліярацыі і сельскім будаўніцтве;

«Полымя» (былое газетна-часопіснае выдавецтва Міністэрства культуры БССР) — газеты, часопісы, каталогі, рэкламна-інфармацыйныя матэрыялы;

«Звязда» — газеты і часопісы.

У 1966 г. была створана Галоўная рэдакцыя БелСЭ, у 1967 г. арганізавана выдавецтва БДУ, у 1972 г. — спецыялізаванае выдавецтва «Мастацкая літаратура» [3, с. 248].

Усяго ў 1963 г. у БССР было 95 паліграфпрадпрыемстваў. З іх Галоўлітам кантраляваліся 37 (у т. л. 23 у Мінску), абллітамі — 58. Як правіла, усе паліграфпрадпрыемствы гарадоў, дзе працавалі цэнзары, правяраліся на працягу года не менш за чатыры разы. Раённыя друкарні кантраляваліся пры выездах, а таксама шляхам запатрабавання рэестраў на рассылку кантрольных і абавязковых твораў друку. Злосныя парушальнікі цэнзурнага рэжыму браліся на ўзмоцнены кантроль. Падчас знаходжання сур'ёзных парушэнняў «Адзіных правілаў...» складаліся акты. У 1962 г. іх было складзена 23. Напрыклад, у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі толькі ў першай палове 1962 г. было надрукавана без дазволу цэнзуры 10 выданняў. Друкарня АН БССР уносіла некалькі разоў змены пасля атрымання штампа цэнзара [29, арк. 20]. У 1971 г. Галоўліт БССР правёў 314 праверак паліграфпрадпрыемстваў (цэнтральны апарат — 80, абласныя ўпраўленні — 234) [30, арк. 24].

Найбольш суровыя ідэалагічныя патрабаванні да аўтараў прад'яўляла Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Яго дырэктар З. П. Матузаў бязлітасна здымаў з выдавецкага плана творы І. Пташнікава, А. Кулакоўскага, А. Карпюка, І. Чыгрынава і інш. У маі 1948 г. ён паведамляў сакратару ЦК М. Т. Іоўчуку пра рукапіс кнігі дацэнта І. В. Гутарава «Партызанская вайна і партызанская творчасць», дзе аўтар «... уключыў у кнігу шэраг частушак, вершаў,

“сатырычных анекдотаў” без строгага крытычнага адбору... Ці варта гэта даваць? Мне падаецца, што не» [14, арк. 35]. У ліпені таго ж года галоўны рэдактар Дзяржвыдата БССР І. З. Шарахоўскі патрабаваў ад прафесара М. К. Дабрыніна, каб той даў рэзкую крытыку фармалістычнай школы рускага філолага А. М. Весялоўскага ў рукапісе яго кнігі «Гісторыя старажытнай беларускай літаратуры» [14, арк. 145].

У барацьбе за захаванне чысціні сацрэалістычнага канону Дзяржвыдату БССР дапамагалі рэдакцыі літаратурных часопісаў. У выніку рэдактарскай апрацоўкі змяніўся фінал аповесці В. Быкава «Пастка». Другая яго аповесць «Праклятая вышыня» з’явілася ў часопісе «Новый мир» пад відавочна горшай назвай «Атака з ходу» (рэдактара насцярожыла негатыўная афарбоўка назвы). У лісце да паэткі Е. Лось ад 2 лютага 1959 г. В. Быкаў пісаў: «У “Маладосці” друкавацца стала вельмі цяжка, бяруць толькі абсалютна выразныя ў ідэі, прамалінейныя як плакат творы-агіткі, іншыя бракуюць. Адзін мой расказ забракавалі, бо ён толькі на 75 % агітка, відаць, забракуюць і другі, у якім гераіня толькі домработніца, а зусім не даярка і не механізатарка» [74, с. 151].

У некаторых іншых выдавецтвах рэдактары разам з аўтарамі шукалі шляхі абыходжання ідэалагічнага кантролю. Так было ў першай палове 1970-х гг. у Галоўнай рэдакцыі БелСЭ, супрацоўнікі якой здолелі падрыхтаваць і ўключыць ў тамы энцыклапедыі дзясяткі імёнаў прадстаўнікоў беларускіх магнацкіх

родаў — Радзівілаў, Сапегаў, Агінскіх, Хадкевічаў, Астрожскіх, Алелькавічаў, характарызуючы іх як «жорсткіх прыгнятальнікаў беларускага, украінскага, літоўскага і польскага народаў». Так было ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», якое пад кіраўніцтвам М. Ф. Дубянецкага ў першай палове 1980-х гг. паспрыяла рэнесансу беларускага мастацкага слова, у т. л. забароненага.

У 1985 г. цэнзура паспрабавала актывізаваць ідэалагічную пільнасць рэдактараў беларускіх выдавецтваў, выступіўшы з ініцыятывай іх фінансавай адказнасці за здзейсненыя памылкі ў выглядзе пазбаўлення прэмій і кампенсацыі кошту адабраных Галоўлітам частак тыражоў кніг і часопісаў [6, с. 227].

Напрыканцы 1980-х гг. пачаліся змены ў дзяржаўнай выдавецкай палітыцы. Са студзеня 1988 г. былі значна пашыраны правы выдавецтваў, якія распачалі самастойнае фарміраванне і зацвярджэнне выдавецкіх планаў, вызначэнне тыражоў, скасавана абавязковае рэцэнзаванне рукапісаў. У выпадку выдання прац, што змяшчалі дыскусійныя палажэнні, дазвалялася друкаваць рукапісы ў аўтарскай рэдакцыі, выдаваць кнігі за кошт аўтара і інш. Разам з тым, у 1988 г. звыш 300 службовых асоб былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правілаў выдавецкай дзейнасці. На працягу гэтага года Галоўліт БССР больш чым 50 разоў звяртаў увагу выдавецтваў на «скажэнні гісторыі беларускага народа» [43, арк. 12–18].

Акрамя дзяржаўных выдавецтваў, правам самастойнага выпуску дробнатыражнай літаратуры ў Савецкім Саюзе з часоў «адлігі» пачалі карыстацца пэўныя ведамствы, установы і арганізацыі. Ад пачатку Галоўліт рэгістраваў тут шматлікія парушэнні. Толькі за першае паўгоддзе 1961 г. Галоўліт БССР не дазволіў выдаць больш за 100 назваў кніг, брашур, зборнікаў, плакатаў, большасць якіх была падрыхтавана для бясплатнага распаўсюджання. Некаторым ведамствам было забаронена займацца самастойнай выдавецкай дзейнасцю ўвогуле.

Тым не менш аб'ектыўныя патрэбы інфармацыйнага забеспячэння грамадства спрыялі пашырэнню выдання дробнатыражнай літаратуры. У 1969 г. у БССР яе выдавала каля 70 ведамстваў, ВНУ, акадэмічных устаноў. Разам яны надрукавалі больш за 900 найменняў рознай прадукцыі тыражом каля мільёна асобнікаў [25, арк. 157]. Наступныя два дзесяцігоддзі Галоўліт з пераменным поспехам вёў барацьбу з парушальнікамі правілаў выдання дробнатыражнай літаратуры. Апошнія, нягледзячы на спецыяльныя пастановы вышэйшых партыйных органаў, увесь час імкнуліся выдаць замаскіраваныя пад службовую літаратуру навуковыя манаграфіі, часопісы, плакаты. Іншымі словамі, абысціся без штампа цэнзара ўвогуле.

Дадатковы клопат цэнзурнаму ведамству давалі ўчасткі памнажальнай тэхнікі, якія пачалі стварацца з сярэдзіны 1970-х гг. у міністэрствах, ведамствах, арганізацыях і на прадпрыемствах БССР для іх

забеспячэння ў неабходным аб’ёме ўнутранай службовай дакументацыяй. У 1974 г. толькі ў Акадэміі навук БССР іх было 75. Выкананне імі «Адзіных правіл друкавання несакрэтных выданняў» правяраў Галоўліт, першы аддзел Прэзідыума Акадэміі, МВД рэспублікі, а таксама народны кантроль [32, арк. 19].

У 1982 г. падобных участкаў у рэспубліцы было ўжо 1916. Усе ўчасткі памнажальнай тэхнікі, як і паліграфічныя прадпрыемствы, былі павінны кантраляваццa Галоўлітам. Але ў сувязі з іх вялікай колькасцю эфектыўна ажыццяўляць падобны кантроль тэхнічна было немагчыма, нават з прыцягненнем сіл міліцыі. Напрыклад, у першай палове 1982 г. Галоўліт БССР правёў 160 кантрольных праверак участкаў памнажальнай тэхнікі ў розных гарадах рэспублікі, якія далі несуцяшальныя вынікі. Парушэнні інструкцыі, што дазваляла памнажаць толькі службовую дакументацыю, былі паўсюль. Памнажалі людзі тое, што ва ўмовах ідэалагічнага дыктату немагчыма было набыць у кнігарнях, — ад царкоўных каляндароў да эротыкі [55, арк. 3–5].

3. *Галоўлітаўскі кантроль* адыгрываў прынцыпова важную ролю, паколькі ўласна ён і яго мясцовыя аддзяленні выконвалі ўсю практычную работу, пастаўлялі матэрыял наверх аб антысавецкіх, шкодных настроях і выпадках у літаратурным і ўвогуле інфармацыйным асяроддзі.

4. *Цэнзура МДБ–КДБ.* З Міністэрствам дзяржаўнай бяспекі — Камітэтам дзяржаўнай бяспекі БССР у Галоўліта існавалі партнёрскія адносіны. Абедзве структуры абменьваліся інфармацыяй, парадамі, дапамагалі адна адной, як гэта было, напрыклад, пры распрацоўцы сакрэтнага дакумента пад назвай «Аб парадку захавання, бібліяграфавання і выдачы чытачам выданняў абмежаванага распаўсюджвання», што рэгуляваў работу спецсховаў. Але паміж палітычнай цэнзурай і палітычнай паліцыяй было дакладнае размежаванне абавязкаў: калі цэнзура сачыла за афіцыйнымі інфармацыйнымі каналамі, палітычная паліцыя — за падпольнымі. Непасрэдна гэтым займалася 5-е (ідэалогія і дысідэнты), а таксама 6-е (інфармацыйная бяспека прамысловасці) упраўленні КДБ. Напрыклад, на пасяджэнні бюро ЦК КПБ 16 жніўня 1971 г. канстатавалася, што ў апошні час у шэрагу гарадоў БССР (Мінску, Віцебску, Гродне, Брэсце, Баранавічах, Пінску, Нясвіжы, Іванаве) былі выпадкі нелегальнага распаўсюджання антысавецкай і іншай палітычнай літаратуры, дзе крытыкаваўся вопыт сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР. Размова ішла пра выкрыты КДБ БССР «самвыдат» і «тамвыдат», якія распаўсюджваліся сярод навуковых і творчых работнікаў, вучнёўскай моладзі, а таксама веруючых [38, арк. 98].

Аднак у атмасферы татальнага страху і паўсюднага пошуку ворагаў размежаванне абавязкаў паміж МДБ і Галоўлітам часам парушалася. Тады паміж двума

ведамствамі адбываліся канфлікты. Адзін з іх адбыўся напачатку 1950-х гг., калі міністр дзяржаўнай бяспекі БССР Л. Ф. Цанава выявіў «варожую дыверсію» ў выглядзе памылкі друку ў адным з прапагандысцкіх матэрыялаў. З-за яе начальніку Галоўліта БССР Ф. І. Дадзіёмавай давялося бараніць гонар мундзіра свайго ведамства ў кабінеце першага сакратара ЦК КП(б)Б М. С. Патолічава [7, с. 249].

Наступствам любой цэнзарскай забароны ці нават увагі цэнзараў магла стаць перадача аўтарскага тэксту ў КДБ і прыцягненне аўтара да крымінальнай адказнасці па артыкулах Крымінальнага кодэкса БССР № 67 «Антысавецкая агітацыя і прапаганда» і № 186 ч. 1 «Распаўсюджанне заведама лжывых выдумак, якія зневажаюць савецкі лад». Разам па гэтых артыкулах з 1956 па 1987 гг. у СССР было асуджана 8 145 чалавек. Сярод іх — беларускі праваабаронца М. І. Кукабака, які за адкрыты ліст англійскаму пісьменніку А. Мантэгю, напісаны ў 1969 г. (ліст, дасланы аўтарам у «Комсомольскую правду», апынуўся ў КДБ) атрымаў шэсць гадоў зняволення ў спецыяльным псіхіятрычным шпіталі па абвінавачанні ў антысавецкай дзейнасці. Цалкам за напісанне непадцэнзурных тэкстаў і распаўсюджанне самвыдатаўскай літаратуры М. І. Кукабака адбыў у заключэнні 17 гадоў.

Беларускія савецкія пісьменнікі адчувалі рэгулярную ўвагу з боку не толькі цэнзараў, але таксама «літаратуразнаўцаў у цывільным». Да В.

Быкава быў прыстаўлены палкоўнік КДБ, які вёў з ім выхаваўчыя размовы. У 1982 г. з кватэры Ул. Караткевіча невядомыя скралі чарнавікі трэцяй і чацвёртай кніг рамана «Каласы пад сярпом тваім».

Адной з важных формаў палітычнага кантролю грамадскай свядомасці насельніцтва краіны была перлюстрацыя карэспандэнцыі. Перлюстрацыяй займаліся аддзел «В» НКУС–МДБ (1943–1953 гг.), потым 6-ы спецаддзел КДБ (1954–1959 гг.), нарэшце, 6-ы аддзел аператыўна-тэхнічнага ўпраўлення КДБ (з 1959 г.). Аддзел «В» складаўся з аддзяленняў ваеннай цэнзуры, палітычнага кантролю ўнутранай карэспандэнцыі і міжнароднага. Звычайна перлюстратары пачыналі свой прафесійны шлях у аддзяленнях ваеннай цэнзуры. Прыходзячы на службу, цэнзар атрымліваў штамп «Праверана ваеннай цэнзурай», а разам з ім нажніцы і два асобныя канверты. На адным было напісана: «Для адабранага тэксту», на другім — «Для аператыўнага выкарыстання». Унутраную карэспандэнцыю правяралі выбарачна, падазроную па знешніх прыкметах — без адраса адпраўніка, з адрасам «да запатрабавання», са змененым почыркам, з почыркам, падобным на почырк аўтараў ананімных антысавецкіх дакументаў. Частка лістоў трапляла ў аператыўную распрацоўку, і тады за іх аўтарам пачыналася назіранне, а ў асобных выпадках заводзілася крымінальная справа.

Міжнародная карэспандэнцыя правяралася ўся без выключэнняў. Усе савецкія карэспандэнты

замежных адрасатаў былі ўзяты на ўлік, частка «небяспечных» па змесце лістоў за мяжу і з-за мяжы затрымлівалася. Савецкія людзі ведалі пра перлюстрацыю замежнай карэспандэнцыі, таму ў лістах за мяжу пераходзілі на эзопаву мову («Жыллёвыя ўмовы савецкая ўлада стварыла добрыя, жыве нас у адным пакоі сем чалавек»). Пра перлюстрацыю прыватнай карэспандэнцыі ведалі таксама замежнікі. Напрыклад, у чэрвені 1968 г. падчас наведвання Мінска турыст з ЗША Рохлін спрабаваў даведацца ў гіда-перакладчыка, ці ёсць у СССР цэнзура асабістага ліставання [24, арк. 103].

Сярод цэнзараў было размеркаванне абавязкаў — адны ўскрывалі лісты, другія іх чыталі, трэція заклейвалі. Пункты перлюстрацыі звычайна знаходзіліся каля чыгуначных вакзалаў у памяшканнях без шыльдаў. Працэс перадачы пошты на перлюстрацыю быў засакрэчаны. З моманту прыняцця на працу ў аддзел «В» перлюстратарам рэкамендавалася абмежаваць кола знаёмых, забаранялася наведваць рэстараны, кавярні і іншыя месцы грамадскага адпачынку, уваходзіць у будынак упраўлення МДБ. Супрацоўнікам аддзела выдаваліся новыя дакументы, стваралася легенда пра месца працы (звычайна гаркам партыі ці камсамола). Іншымі словамі, гэта было жыццё разведчыка ў сваёй краіне. Сакрэтнасць працы па перлюстрацыі карэспандэнцыі цалкам зразумелая, калі ўзяць пад улік, што тайна ліставання гарантавалася артыкулам

№ 128 Канстытуцыі СССР 1936 г. і артыкулам № 56 Канстытуцыі СССР 1977 г.

Пасля XX з'езда КПСС асноўная ўвага перлюстратарамі КДБ надавалася плыні міжнароднай карэспандэнцыі, якая рэзка павялічылася. У 6-м аддзеле аператыўна-тэхнічнага ўпраўлення КДБ была ўласная сістэма ўліку: картатэка замежных карэспандэнтаў, картатэка савецкіх грамадзян, якія вялі ліставанне з замежжам, картатэка замежных грамадзян і арганізацый — адпраўніка карэспандэнцыі варожым элементам у СССР, фотатэка почыркаў невядомых адпраўнікоў, што хавалі свае адрасы, адпраўляючы карэспандэнцыю за мяжу. Спецыялісты 6-га аддзела аператыўна-тэхнічнага ўпраўлення таксама бралі ўдзел у почырказнаўчай экспертызе разнастайных антысавецкіх пракламацый і ўлётак [73, с. 212].

5. *Партыйная цэнзура*. Прызначэнне, кампетэнцыю і напрамкі работы савецкай цэнзуры вызначаў палітычны характар яе дзейнасці. Непасрэдны кантроль за яе работай і фактычнае кіраванне ажыццяўлялі вышэйшыя партыйныя органы. Агульнае кіраўніцтва выдавецкай дзейнасцю, а таксама працай электронных СМІ ў пасляваеннай БССР ажыццяўляў сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі (Ц. С. Гарбуноў у 1941–1947 гг., М. Т. Іоўчук у 1947–1949 гг., У. А. Тамашэвіч у 1949–1950 гг., Ц. С. Гарбуноў у 1950–1960 гг., В. Ф. Шаўра ў 1960–1965 гг., С. А. Пілатовіч у 1965–1971 гг., А. Т. Кузьмін у

1971–1986 гг.). Усе планы рэдакцыйна-выдавецкіх устаноў зацвярджаліся ў аддзеле прапаганды і агітацыі ЦК КПБ. Гэты аддзел даваў дазвол нават на дробныя змяненні ў планах, зацвярджаў тыражы выданняў. Яго супрацоўнікі таксама кансультавалі цэнзараў у найбольш складаных выпадках — напрыклад, друкаваць ці не друкаваць непісьменны панегірык Сталіну, складзены беларускімі сялянамі. Аддзел прапаганды і агітацыі таксама даваў дазвол на выданне агітацыйных плакатаў.

Усе супрацоўнікі ЦК, абкамаў, райкамаў добра ведалі, што азначае сакрэтнасць. Падчас прыёму на працу яны давалі пісьмовае абавязацельства захоўваць дзяржаўную тайну, а таксама ўсё, што тычылася працы партапарата. За распаўсюджанне інфармацыі супрацоўнікі неслі адказнасць адпаведна Указу Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 9 чэрвеня 1947 г. «Аб адказнасці за разгалашэнне дзяржаўнай тайны».

Як і ў даваенны перыяд, найвялікшую ўвагу ЦК КП(б)Б надаваў выданню класікаў марксізму-ленінізму, у т. л. на беларускай мове. Існавала спецыяльная камісія ЦК па рэдагаванні перакладаў, куды ўваходзілі загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б, народныя пісьменнікі, вучоныя-гуманітарыі і інш. У выпадках, калі даводзілася працаваць з гістарычнай літаратурай, рукапісамі, якія закраналі пытанні мінулага рэспублікі, цэнзары імкнуліся падзяліцца адказнасцю і звярталіся за падтрымкай да вышэйшага партыйнага

кіраўніцтва. Напрыклад, Ц. С. Гарбуноў асабіста даваў дазвол на выданне партрэтаў беларускіх пісьменнікаў, Вучоных запісак БДУ і, канешне, за ім было апошняе слова пры ўключэнні дакументаў і іх цэнзураванні ў дакументальных зборніках кшталту «З гісторыі ўсталявання Савецкай улады ў Беларусі і ўтварэння БССР» (Мінск, 1954). Вялікую ўвагу партыйных цэнзараў прыцягвалі, па зразумелых прычынах, энцыклапедычныя выданні. Кожны артыкул на гістарычную тэматыку ўважліва чытаўся ў аддзеле прапаганды і агітацыі ЦК.

Сутыкаючыся з рукапісамі сацыяльна-палітычнай літаратуры, кніг, якія закраналі пытанні тагачаснага грамадскага жыцця або нядаўняга мінулага рэспублікі, цэнзары зноў звярталіся за падтрымкай да вышэйшага партыйнага кіраўніцтва. Напрыклад, у 1950 г. па загадзе ЦК быў знішчаны тыраж кнігі «Навука ў БССР за 30 гадоў» выдавецтва АН БССР з-за палітычнай памылкі (прапаганда вучэння Мара). У 1956 г. па патрабаванні загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК М. А. Халіпава ў рукапіс даведніка «Мінск» дабавілі матэрыял пра праезд Сталіна праз Мінск, яго знаходжанне на Заходнім фронце. Тады ж са спіса кандыдатаў на ўвекавечанне ў серыі паштовак «Пісьменнікі БССР» сектар друку выкрэсліў Э. Самуйлёнка і П. Труса.

У 1959 г. пасля ўзгаднення з Ц. С. Гарбуновым была забаронена да друку брашура «Умацаванне сацыялістычнай законнасці на сучасным этапе», дзе ўзгадваліся шматлікія парушэнні рэжыму працоўнага

дня на прамысловых прадпрыемствах, незаконныя штрафы, якія спаганяліся з калгаснікаў, прыцягненне іх да прымусовых прац, неабгрунтаваныяператрусы, што праводзіліся міліцыяй у БССР [70, арк. 15]. У 1960 г. загадчык сектара друку і выдавецтваў ЦК С. В. Марцэлеў забараніў выданне альбома мастака-нонканфарміста Л. Баразны «Узоры народнага мастацтва», таму што «значная частка ўключаных у альбом арнаментаў і вопраткі не мае нічога агульнага з культурнай спадчынай беларускага народа» [20, арк. 141]. У 1962 г. загадчык сектара друку і выдавецтваў ЦК КПБ А. А. Тоўсцік палічыў «немэтазгодным» падтрымаць просьбу намесніка старшыні праўлення СП БССР І. Шамякіна дазволіць літаб’яднанню Мінскага аўтазавода выдаць уласны зборнік літаратурных твораў. Пры гэтым ён спасылаўся на пастанову ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкіх альманахах» ад 1 кастрычніка 1959 г., якая дазваляла выдаваць падобную прадукцыю «толькі ў абласцях, дзе маюцца аддзяленні Саюза пісьменнікаў» [22, арк. 96].

У студзені 1963 г. А. А. Маркевіч паведамляў загадчыку аддзела навукі і культуры ЦК КПБ М. Ф. Капічу пра дасланыя яму на кантроль гранкі статыстычнага зборніка «Народная гаспадарка БССР», падрыхтаванага Цэнральным статыстычным упраўленнем пры Савеце Міністраў БССР. А. А. Маркевіч лічыў патрэбным прыбраць з афіцыйнай статыстыкі лічбы, якія не ўкладваліся ў прынятую канцэпцыю развітога сацыялізму. Размова ішла пра

скарачэнне ў рэспубліцы дзяржаўных нарыхтовак і закупак збожжавых культур, бульбы, пушніны, змяншэнне колькасці калгаснікаў, нізкі працэнт старшынь калгасаў з сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыяй. На думку старшыні Галоўліта, афіцыйную статыстыку таксама сапсавала табліца нацыянальнага складу насельніцтва па абласцях, з якой вынікала, напрыклад, што значную частку насельніцтва Гродзенскай вобласці складалі палякі, а школ з польскай мовай навучання там не было. Не менш шкоднай была табліца размеркавання фізічнай і разумовай працы сярод насельніцтва БССР, дзе паказвалася, што фізічна працуюць у рэспубліцы пераважна жанчыны. Акрамя таго, А. А. Маркевіч прапаноўваў зняць са зборніка звесткі пра маці-адзіночак, а таксама нізкі адукацыйны ўзровень насельніцтва. Неўзабаве ўкладальнікаў зборніка выклікалі ў ЦК КПБ, дзе ім было прапанавана выканаць усе заўвагі галоўнага цэнзара [49, арк. 33–35].

Перыядычна партыйнае кіраўніцтва рэспублікі са свайго боку нагадвала цэнзарам Галоўліта пра абмежаваныя магчымасці прыняцця імі самастойных рашэнняў. Гучны скандал на вышэйшым рэспубліканскім узроўні ў 1963 г. справакаваў дапаможнік для самастойна вывучаючых англійскую мову, выдадзены з дазволу Галоўліта БССР Міністэрствам асветы. Створаны ў выглядзе зборніка кароткіх апавяданняў, жартаў і анекдотаў мінскай выкладчыцай Н. М. Рабавай, ён быў насычаны

прыкладамі жывой англійскай мовы, побытавай лексікай. Ідэя вучобы ў гульнёвай, забаўляльнай манеры вельмі не падабалася беларускім партыйным кіраўнікам. 11 лютага 1963 г. М. Ф. Капіч паведамляў сакратару ЦК КПБ К. Т. Мазураву, што «ўкладальнік зборніка ўключыла ў яго матэрыялы з амерыканскіх часопісаў і іншых замежных крыніц. Многія апавяданні і анекдоты па сваім змесце пахабныя, разлічаны на непатрабавальны абывацельскі густ і зусім непрыдатныя ў якасці вучэбнага матэрыялу». Неўзабаве пасыпаліся перуны на Галоўліт (быў строга папярэджаны цэнзар, які прапусціў рукапіс без перакладу на рускую мову) і Міністэрства асветы (быў звольнены галоўны рэдактар выдавецтва). Пры гэтым знішчылі гатовы 30-тысячны тыраж дапаможніка. Абурэнне беларускіх партцэнзараў, якія гэтым разам выступалі па сумяшчальніцтве ахоўнікамі грамадскіх маральных каштоўнасцей, выклікалі жарты кшталту: «Распавядаць некаторым нявестам, што яны павінны ўмець у першую шлюбную ноч — гэта тое самае, што вучыць рыбу плаваць», «Жанчына ў першую палову свайго жыцця шукае мужа, а ў другую — здзіўляецца, дзе ён» і т. п. [23, арк. 86–88].

Без узгаднення з ЦК КПБ Галоўліт БССР не адважваўся даць дазвол нават на адсылку кніг за мяжу. Калі ў лютым 1952 г. навуковая бібліятэка АН БССР звярнулася ў Галоўліт па дазвол даслаць 12 беларускіх выданняў у замежныя бібліятэкі, Л. В. Садоўскі ў сваю чаргу пераадрасаваў яе зварот у аддзел прапаганды і агітацыі ЦК. А ўжо загадчык

гэтага аддзела Ц. Я. Кісялёў дазволіў адправіць за мяжу толькі 5 з 12 меркаваных выданняў. Кнігі «Памяці Я. Купалы» (Ташкент, 1943), «Развіццё навукі БССР за 30 год» (Мінск, 1949), «Размеркаванне прыбыткаў і аплата працы ў калгасах» (Мінск, 1950) былі забаронены для замежных чытачоў [18, арк. 4]. Характэрна, што, у сваю чаргу, па розную інфармацыю аб выдавецкай дзейнасці ў рэспубліцы ЦК КПБ звяртаўся не ў Дзяржкамдрук, а ў Галоўліт БССР.

Сваяцкія адносіны ЦК і Галоўліта праяўляліся таксама ў тым, што начальнік апошняга, а таксама яго намеснік, начальнікі аддзелаў уваходзілі ў наменклатуру ЦК па аддзеле агітацыі і прапаганды. З іншага боку, на кіруючыя пасады Галоўліта рэкрутаваліся асобы, правераныя на партыйнай або камсамольскай рабоце. Функцыянерамі ЦК КПБ былі Л. В. Садоўскі і Г. С. Лазоўская, ЦК ЛКСМБ — А. А. Маркевіч. У 1977 г. намеснікам начальніка Галоўліта БССР стаў У. І. Падрэз, які з 1970 па 1974 гг. узначальваў беларускую камсамольскую арганізацыю.

---

9 Гэтае рашэнне дазволіла, напрыклад, дырэктару выдавецтва «Мастацкая літаратура» М. Ф. Дубянецкаму спрабаваць выдаць «Мужыцкую праўду», запланаваўшы яе ў кнігу «Публіцыстыка К. Каліноўскага», альбо скарынаўскую Біблію — у кнізе «Выбраныя пераклады Ф. Скарыны». Дубянецкі, М. «Трэба рызыкаваць...» / М. Дубянецкі. // Дзеяслоў. — 2009. — № 5 (42). — С. 246.

10 У БССР гэта было не так. У 1960 г. Галоўліт БССР прыбраў з «Арфаграфічнага слоўніка» для сярэдніх школ М. П. Лобана і М. Р. Судніка словы

«Хрыстос», «дамавы», «Вялікі пост», «Каляды», «Масленіца» (НАРБ. Ф. 1195. Воп. 1. Спр. 52. Арк. 24).

11 У сваім інтэрв'ю ў дакументальным фільме «Жалезная заслона цэнзуры» (ЗАТ «Другі нацыянальны канал», 2010) М. К. Высоцкая ўзгадвала, што за ўвесь час працы цэнзарам прачытала каля мільёна ўлікова-выдавецкіх аркушаў.

12 Напрыклад, па ўзгадненні з ім з экспазіцыі Рэспубліканскай будаўнічай выставы ў 1961 г. быў зняты план тэрытарыяльнага развіцця Мінска (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 62. Спр. 562. Арк. 94).

13 Дакументальны фільм «Наказ» знаёміў гледачоў з неперспектыўнай вёскай Вялікае Балота, самадурам старшынёй калгаса, галечай звычайных калгаснікаў. Фільм з цяжкасцю прабіваўся да гледача, але ўжо ішла перабудова (1987 г.), і неўзабаве адбылося яго публічнае абмеркаванне ў адным са сталічных кінатэатраў.

# Літаратура

1. Блюм, А. В. За кулисами «министерства правды» / А. В. Блюм. — Спб.: Академический проект, 2000. — 303 с.

2. Брыль, Я. Вячэрняе. Лірычныя запісы і мініяцюры / Я. Брыль. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — 350 с.

3. Волк, А. А. Книгоиздательское дело в Белоруссии / А. А. Волк, А. И. Ракович. — Минск: Изд-во БГУ им. Ленина, 1977. — 280 с.

4. Высшие органы государственной власти и центрального управления БССР (1965–1991). В 3-х ч. Ч. 3. / Редкол.: В. В. Федосов (гл. ред.), и др. — Минск: БелНИИДАД, 2000. — 204 с.

5. Горяева, Т. М. Политическая цензура в СССР. 1917–1991 / Т. М. Горяева. — М.: РОССПЭН, 2002. — 400 с.

6. Дубянецкі, М. «Трэба рызыкаваць...» / М. Дубянецкі // Дзеяслоў. — 2009. — № 4 (41). — С. 215–232.

7. Дубянецкі, М. «Трэба рызыкаваць...» / М. Дубянецкі // Дзеяслоў. — 2009. — № 6 (43). — С. 241–262.

8. Жыццё ў цэнзуры. Гутарку вёў В. Ларын // Беларусь. — 1990. — № 1. — С. 24–25.

9. НАРБ. Ф. 4п. — Воп. 2. — Спр. 88.

10. Там жа. — Воп. 47. — Спр. 78.

11. Там жа. — Спр. 92.

12. Там жа. — Спр. 84.

13. Там жа. — Спр. 164.

14. Там жа. — Спр. 195.

15. Там жа. — Спр. 230.

16. Там жа. — Спр. 231.

17. Там жа. — Спр. 289.

18. Там жа. — Спр. 372.

19. Там жа. — Спр. 453.

20. Там жа. — Спр. 478.

21. Там жа. — Спр. 493.

22. Там жа. — Спр. 508.

23. Там жа. — Спр. 516.

24. Там жа. — Спр. 577.

25. Там жа. — Спр. 592.

26. Там жа. — Воп. 62. — Спр. 347.

27. Там жа. — Спр. 509.

28. Там жа. — Спр. 534.

29. Там жа. — Спр. 624.
30. Там жа. — Спр. 783.
31. Там жа. — Спр. 821.
32. Там жа. — Спр. 844.
33. Там жа. — Воп. 81. — Спр. 86.
34. Там жа. — Спр. 1454.
35. Там жа. — Спр. 1693.
36. Там жа. — Спр. 2057.
37. Там жа. — Спр. 2409.
38. Там жа. — Спр. 2358.
39. Там жа. — Воп. 119. — Спр. 2.
40. Там жа. — Воп. 151. — Спр. 57.
41. Там жа. — Воп. 156. — Спр. 158.
42. Там жа. — Спр. 494.
43. Там жа. — Спр. 615.
44. Там жа. — Воп. 157. — Спр. 118.
45. Там жа. Ф. 1195. — Воп. 1. — Спр. 32.
46. Там жа. — Спр. 36.
47. Там жа. — Спр. 38.
48. Там жа. — Спр. 59.
49. Там жа. — Спр. 72.
50. Там жа. — Спр. 78.
51. Там жа. — Спр. 80.
52. Там жа. — Спр. 82.
53. Там жа. — Спр. 86.
54. Там жа. — Спр. 123.
55. Там жа. — Спр. 144.
56. Там жа. — Спр. 167.
57. Там жа. — Спр. 182.
58. Там жа. — Спр. 186.
59. Там жа. — Спр. 190.
60. Там жа. — Спр. 191.
61. Там жа. — Спр. 194.
62. Там жа. — Воп. 2. — Спр. 14.
63. Там жа. — Спр. 20.
64. Там жа. — Спр. 21.
65. Там жа. — Спр. 55.
66. Там жа. — Спр. 58.
67. Там жа. — Спр. 69.
68. Там жа. — Спр. 72.

69. Там жа. — Спр. 74.
70. Там жа. — Спр. 81.
71. Там жа. — спр. 89.
72. Силантьев, Б. Записки цензора / Б. Силантьев // 7 дней. — 2003. — 11 янв.
73. Смыкалин, А. С. Перлюстрация корреспонденции и почтовая военная цензура в России и СССР / А. С. Смыкалин. — Спб.: Изд-во Р. Асланова «Юридический центр Пресс», 2008. — 317 с.
74. Шапран, С. Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах. Ч. 1. / С. Шапран. — Мінск–Гародня: Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Гарадзенская бібліятэка, 2009. — 734 с.
75. Як у жыцці ці як у кіно [Гутарка карэспандэнта Т. Антонавай з заслужаным дзеячом мастацтваў БССР, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі рэспублікі Ю. Лысятавым] // Голас Радзімы. — 1989. — 12 студз.
76. Лашкевіч, К. Я здзівіўся, да якой ступені абалдзеласці дайшлі нашы чыноўнікі / К. Лашкевіч // Салідарнасць. — 2011. [Электронны рэсурс]. URL: http://gazetaby.com/cont/print.php?sn_nid=35420 (дата звароту: 27.06.2017)

...У весцібюлі Саюза пісьменнікаў БССР вісеў вялікі плакат «Пішыце праўду!»
Многія, заўважыўшы яго, ціха мармыталі: «Мала не будзе».
*Рыгор Рэлес, беларускі пісьменнік*

## У пасляваеннае дзесяцігоддзе

Афіцыйна ацэнка мастацкага ўзроўню твораў і майстэрства літаратараў не ўваходзіла ў службовыя абавязкі цэнзуры. Яна павінна была звяртаць увагу на творы альбо іх фрагменты, якія прапагандавалі расізм, антысемітызм, нацыяналізм, гвалт і секс. Гэтыя патрабаванні, у прыватнасці, мы знаходзім у «Пераліку звестак, складаючых дзяржаўную тайну», прычым тычыліся яны як айчыннай, так і перакладной замежнай літаратуры. Аднак у савецкай цэнзарскай практыцы вышэйадзначаныя паняцці інтэрпрэтаваліся патрэбным чынам і выкарыстоўваліся для выканання ідэалагічных задач.

Развіццё культуры ў БССР у пасляваеннае дзесяцігоддзе вызначалася далейшым узмацненнем барацьбы з любымі адхіленнямі ад задач сацыялістычнага будаўніцтва. Партыя і ўрад актыўна і адкрыта ўмешваліся ў работу дзеячоў літаратуры і мастацтва, што непазбежна прыводзіла да іх творчай дэградацыі. Калі ў галіне дакладных і прыродазнаўчых навук партыйна-дзяржаўны дыктат быў тормазам развіцця, то ў гуманітарнай сферы ён стаў сапраўднай катастрофай. На працягу пасляваеннага дзесяцігоддзя ў беларускай літаратуры, за нешматлікімі выключэннямі, не з’явілася значных твораў. Не менш адмоўна на літаратурны працэс паўплывала т. зв. кампанія па барацьбе з касмапалітызмам, якая разгарнулася ў канцы 1940-х — пачатку 1950-х гг. Яе мэтай было ачарненне ўсяго

несавецкага, несацыялістычнага, стварэнне бар'еру паміж савецкім народам і дасягненнямі заходняй цывілізацыі. Ахвярамі гэтай кампаніі сталі многія дзеячы навукі і мастацтва, якія згубілі права працаваць па прафесіі, атрымалі турэмныя тэрміны і г. д. Неаднаразова аб'ектам крытыкі партыйнага кіраўніцтва рабілася пісьменніцкая арганізацыя БССР на чале з М. Лыньковым. Па-ранейшаму ключавую ролю ва ўзаемаадносінах паміж уладай і творцам выконвала цэнзура. У гэты час ёй не даводзілася мець спраў з адкрытымі ці схаванымі праявамі апазіцыйнасці пісьменнікаў БССР дзеючай уладзе — тыя добра засвоілі правілы гульні падчас вялікага тэрору канца 1930-х гг. У пасляваеннае дзесяцігоддзе цэнзары змагаліся з двума тыпамі ідэалагічнага шкодніцтва: са шчырымі, але, на іх думку, няўдалымі спробамі аўтараў рэалістычна паказаць рэчаіснасць і з т. зв. «чырвонай халтурай», калі ідэалагічная паслужлівасць аўтараў набывала рысы гратэску.

Канфліктны характар набылі ўзаемаадносіны паміж новым апаратам цэнзуры, які ўзначальвала Ф. І. Дадзіёмава, і беларускай літаратурай у асобе К. Чорнага ўжо ў эвакуацыі, адразу ж пасля аднаўлення ў 1943 г. дзейнасці Галоўліта БССР. Улагоджванню канфлікта не спрыяла нават сумеснае пражыванне цэнзараў і літаратараў у маскоўскай гасцініцы «Якар». У 1944 г. К. Чорны ў сваім «Дзённіку» намаляваў наступны партрэт галоўнага беларускага цэнзара: «На тым жа паверху ўсю зіму займала асобны нумар мадам

Дадзіёмава, цяперашні цэнзар над усім друкам БССР. Да вайны яна з году ў год была ў такім чыне: "намеснік начальніка ўпраўлення справаў мастацтваў пры Саўнаркаме БССР". Самай важнай адзнакай гэтай установы была тая, што ў ёй ніколі, за год дзесяць, не было сказана ніводнага беларускага слова. А беларускае мастацтва было тым пунктам, навокал якога збіраліся сотні прайдзісветаў ваяваць за медалі і ордэны. Такім парадкам ішло спустошанне мастацтва, і з яго выветрывалася душа народа. Дадзіёмава не з гэтага вядомая асоба. Яна вядомая з іншага. Гэта хітрая і спекулянцістая местачковая жыдоўка, якая дасягнула немалое пасады ў рэспубліцы. Яна член партыі. Але яна плюе на ўсё. У партыйнасці яна бачыць не ідэю, а кар'еру. У іншых умовах яна ўладала б мануфактурным магазінам. Яна некультурная і нават непісьменная (па-беларуску яна чытае дрэнна і зусім не ўмее пісаць). Яна адцуралася свае нацыянальнае жыдоўскае культуры і асіміліравалася. Куды? Вядома, як і кожны паразіт, яна ішла на гатовае. Працэс асіміляцыі ішоў у гатовую ўжо вялікую расейскую культуру. Але яе прырода не дазваляе так адразу асімілявацца. Яна гаворыць па-расейску так, што трэба смяяцца. Да якой жа культуры яна належыць? Да жыдоўскай? Не. Да расейскай? Не. Да беларускай? Не. Яна выраклася жыдоўскай культуры, імкнецца і не дайшла да расейскай і стараецца мець высокую пасаду пры беларускай. Навадняючы беларускія ўстановы, Дадзіёмава выгнала з іх беларускую мову. А цяпер,

бачачы, што як бы дзьме беларускі вецер, яна, цэнзар, калечыць сваім алавіком мову беларускай літаратуры, думаючы гэтым паказаць начальству, што яна і ведае беларускую мову, і займаецца ёю. Начальства гэтае (скажам, Гарбунова) лёгка ашукаць, бо яно само беларускае мовы не ведае і ніколі блізка ля яе не ходзіць. Усе гэтыя дні я чакаю: ці зніме Панамарэнка Дадзіёмаву з пасады цэнзара, ці не? Калі не, дык каму ж верыць і дзе шукаць ратунку?» [11, с. 160].

Ф. І. Дадзіёмава, якой, канешне, даносілі пра скаргі К. Чорнага на цэнзуру сакратару ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнку, помсціла стваральніку першага беларускага рамана нават пасля яго заўчаснай смерці. У 1943–1948 гг. Галоўліт БССР забараніў друкаваць як «палітычна шкодныя» яго раманы «Бацькаўшчына» і «Пошукі будучыні», дзе аўтар, на думку цэнзара, «ідэалізаваў немцаў, развіваў думку аб іх гуманнасці». Такі ж лёс напаткаў апавяданні К. Чорнага «У вёсцы», «Начлег у вёсцы Сінегах», «Мяшчане ў густой пары», «Быльнікавы межы» («аўтар паказвае вёску ўбогай. Больш за тое, Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, Савецкая ўлада нічога не далі вёсцы») [36, арк. 243–247].

Разам з К. Чорным ахвярамі галоўлітаўскіх забарон у гэты час стаў шэраг маладых літаратараў паваеннага пакалення — будучых класікаў беларускай літаратуры. У сваёй справаздачы ў ЦК КП(б)Б, падрыхтаванай летам 1948 г., Ф. І. Дадзіёмава піша: «За прайшоўшыя пяць гадоў органамі цэнзуры

Беларусі (папярэднім кантролем) не былі дазволены ў набор і друк па палітыка-ідэалагічных прычынах наступныя творы: шэсць вершаў П. Панчанкі, у т. л. верш “Перад сустрэчай” у газеце “Літаратура і мастацтва”, аповесць Я. Брыля “Той самы” ў часопісе “Полымя” (яго творы — “Нядаўняя быль” у часопісе “Беларусь”, “Мышалоўкі” ў часопісе “Полымя”, “Прыгоды цюціка” і “Маленства” ў часопісе “Бярозка” з-за свайго палітычнага зместу і нізкай мастацкай якасці таксама не павінны былі быць надрукаваны), вершы М. Танка “Дружба” і “Восень”, верш П. Пранузы “Хвалюючае пытанне”, верш А. Моркаўкі “Ліпень”»[14].

У 1945 г. цэнзура прымусіла перапрацоўваць К. Крапіву яго арыгінальную, нязвыклую па форме камедыю «Мілы чалавек»[15], імкнучыся звесці яе да ўзроўню тагачаснай парадной літаратуры. Сатырык, вымушаны ўносіць праўкі, не ўстрымаўся адказаць на грубы прымус з дапамогай сваёй паэтычнай зброі:

Напісаўшы добры твор,
Мы здаем яго ў набор.
Калі ж ёсць у нас сумненні –
Адсылаем проста к Фені.
Наша Феня — Галоўліт,
Знает, что в ему болит.

[7, с. 331]

У апошнім радку К. Крапіва змясціў намёк на гаворку беларуска-яўрэйскіх мястэчак, ад якой не магла пазбавіцца галоўны беларускі цэнзар.

Са зборніка «Апавяданні» Я. Брыля ў 1946 г. выкінулі апавяданне «Выгодная хатка» як «ідэалізуючае бога і ўсхваляючае маленькую хатку, супрацьпастаўляючы яе вялікім прасторным дамам» [30, арк. 120].

Творы А. Астрэйкі не выратавала ад цэнзурнага алоўка пасада старшыні Гродзенскага аддзялення СП БССР, якую ў той час займаў паэт: «Ужо немалады паэт А. Астрэйка ў сваім вершы “Шчасце” бачыць шчасце не ў працы і творчасці, а выключна ў такіх рэчах, як “чэсны кавалачак члеба, трошачкі ласкі твае”». Па іроніі лёсу пад цэнзурную забарону першых пасляваенных гадоў трапілі творы («Сымоніха», «Дамок з верандай», «Нараджэнне героя», «Дзве сястры», «Перад бурай») І. Гурскага, які ўзначальваў беларускае цэнзурнае ведамства напрыканцы 1920-х гг. Яго апавяданне «На гуце» цэнзары вярнулі на перапрацоўку. Забароны Ф. І. Дадзіёмавай вершаў А. Вялюгіна «Крама» і паэта-франтавіка М. Гамолкі «Навабранцы» былі адменены Галоўлітам СССР як неабгрунтаваныя [36, арк. 243–247].

З 1943 па 1948 гг. Галоўліт БССР таксама забараніў паэму А. Бялевіча «Мой майстра», верш «Балада пра хлеб» К. Кірыенкі. Былі вернутыя на перапрацоўку апавяданне «Лёля» Ю. Рудзько, пяць апавяданняў са зборніка І. Грамовіча і шмат іншых матэрыялаў. Верш «Мае мары» не падабаўся цэнзару тым, што яго аўтар — М. Засім — у грубай, парнаграфічнай форме выказаў сваю нянавісць да

Гітлера. У забароненым вершы «Фронтовые записки» будучага заслужанага работніка культуры БССР, тады маладога паэта К. Цітова, на думку цэнзара, размова ішла пра зажыва пахаванага чырвонаармейца. У прыватнасці, К. Цітоў пісаў:

Когда уж могила готова была,
Когда горсть земли на гвардейца легла,
[гэта значыць, — заўважае цэнзар, — пахаваны, ён пытае:]
Скажите, отбили у немца село?
[36, арк. 247].

Галоўліт БССР вырашыў, што малады аўтар аднаактнай п’есы «Складаны вузел» Ус. Краўчанка[16] няслушна паказаў у ёй каханне ва ўмовах вайны, і забараніў яе. Падобнае ж уласнае няслушнае разуменне паняццяў «каханне» і «вернасць», на думку цэнзуры, прадэманстраваў малады літаратар Я. Шарахоўскі ў аповесці «Сустрэча». Таму яе публікацыю ў часопісе «Беларусь» таксама не дазволілі. У аднаактнай п’есе «Па сваёй ініцыятыве» малады аўтар — будучы тэатразнўца, член-карэспандэнт НАН Беларусі У. І. Няфёд — «палітычна невыгодна» паказаў піянераў калгаса. Цэнзара абурыў нізкі ўзровень гэтай п’есы-агіткі, дзе ў ахвяру ідэалогіі быў прынесены здаровы сэнс і логіка падзей. Напрыклад, у адным месцы п’есы піянеры распавядалі пра цяжкасці жыцця пры царызме старой бабульцы, якая здзіўлена, з удзячнасцю іх слухала. У другім —

чатырнаццацігадовыя падлеткі агітавалі яе ісці працаваць у калгас, хаця з папярэдніх дыялогаў было зразумела, што яна ўжо не толькі шчыравала на калгасных палетках сама, але загітавала ўсіх бабулек-суседак [36, арк. 246].

У сваёй дзейнасці Галоўліт прытрымліваўся прынцыпу пралетарскага інтэрнацыяналізму. Творы рускамоўных літаратараў БССР, якія імкнуліся да праўдзівага адлюстравання падзей вайны, цяжкасцяў пасляваеннага аднаўлення, таксама траплялі пад аловак цэнзара. Такі лёс напаткаў частку паэмы «Мир» М. Луконіна, верш «Бык» («настолькі незразумелы, што немагчыма высвятліць яго асноўную ідэю») з паэтычнага зборніка Л. Токарава, верш «Воскресенье» А. Шарапава, вершы «Живешь в моей ты памяти», «Беженцы», «После боя» П. Валкадаева. У альманаху рускай секцыі СП БССР «Советская отчизна» (Мінск, 1945–1946) былі зняты сказы «Байцы, а часам і камандзіры, якія збеглі з плену, выйшлі з акружэння, уладкоўваліся ў вясковых жанчын на правах мужа-парабка, дапамагалі па гаспадарцы, жылі цішэй за ваду, ніжэй за траву пад агульнай назвай “прымак”. У гэтым слове абагульнілася ўсё — трусасць, бесхарактарнасць, амаль здрадніцтва» [62, арк. 28]. А неўзабаве ў спіс забароненых трапіў верш рэдактара мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР Г. Камянецкага[17] «Мой сусед» на мове ідыш.

Пад асабліва жорсткім ідэалагічным кантролем знаходзілася савецкая дзіцячая літаратура. Прадметная вобласць літаратуры для дзяцей фарміравалася пад уплывам ідэалагічнай канцэпцыі выхавання, сфармуляванай у кіруючых партыйных дакументах. і была падпарадкавана выхаванню новага чалавека — будаўніка камунізму. Падобнае аднабаковае разуменне задач выхавання прыводзіла да знікнення цэлых жанраў — фантастыкі, прыгодаў, а таксама некаторых народных казак з рэпертуару дзіцячага чытання.

У загадзе Галоўліта СССР ад 23 лютага 1946 г. сярод недахопаў у рабоце беларускіх цэнзараў адзначаўся слабы кантроль дзіцячай літаратуры. У якасці прыкладу ў загадзе прыводзілася дазволеная Галоўлітам БССР да друку «шкодная» казка А. Бялевіча «Мароз-партызан» (Мінск, 1945), а таксама надрукаванае ў часопісе «Бярозка» (1945. № 5) апавяданне Л. Конанава «Ля возера Разліў», у якім «гістарычна няправільна трактаваўся для дзяцей вобраз Леніна» [58, арк. 3].

Выпраўляючы свае памылкі, беларускія цэнзары забаранілі апрацаваныя М. Клімковічам казкі «Бортнік», «Калітачка», «Хвасты» ў кніжцы «Беларускія народныя казкі» (Мінск, 1946). Падазронасць Галоўліта БССР выклікалі таксама казкі «Мена» і «Почему собака котов не любит» са зборніка «Сказы Сахвеи Ивановны Сацкевич». Тады ж наступная цэнзура затрымала ўжо гатовы тыраж кніжкі вершаў і апавяданняў «Для маленькіх» Цёткі.

З чытанкі для дзяцей дашкольнага ўзросту знялі казку «Пчала і авадзень» Ст. Шушкевіча. Быў вернуты на перапрацоўку «Літаратурны дадатак да дзіцячага адрыўнога календара». У 1951 г. не быў дазволены да набору па палітычных меркаваннях верш для дзяцей Я. Коласа «Журба рака» [61, арк. 28].

Статус жывога класіка беларукай літаратуры не быў перашкодай для паліткантралёраў, што рыхтавалі да друку 7-томны збор твораў Я. Коласа (1952). Гісторыя калектыўнага рэдагавання і вымушанага самарэдагавання апавяданняў «Пад Новы год», «Дачакаўся», «У двары пана Тарбецкага», «Адукацыя», «Туды, на Захад!», аповесцяў «На прасторах жыцця», «Адшчапенец», паэмы «Адплата», па словах вядомага літаратуразнаўцы М. Мушынскага, — гэта адна з найбольш драматычных старонак беларускай літаратуры. Па яго падліках, толькі ў аповесць «Адшчапенец» цэнзары ўнеслі звыш пяцідзесяці правак [29, с. 230]. Пра падобныя ж дзеянні пасляваеннай цэнзуры па выпустошванні твораў Я. Коласа распавядае яго сын М. К. Міцкевіч. Так, напрыклад, згубіла першапачатковы сэнс казка «Дудар». Не пазбегла гэтага лёсу і паэма «Новая зямля», у прыватнасці XIII яе раздзел «Падгляд пчол», дзе гучыць пахвала сялянскай кухні:

Крыніцы бурнага натхнення
Мінут вясёлых, ажыўлення,
Стаяць, як біскупы, бутэлі,
І ласа ўсе на іх глядзелі.

Ляжыць гарамі ў іх падножжы
Закуска, гэта міласць божа:
Тут сыр, як першы сьнег, бялюткі,
Каўбас прыемнейшыя скруткі,
Што толькі ёсць у Беларусі.
*А масла! Не! Сказаць баюся*
*У час пайкоў і суяты*
*Дражніць пустыя жываты!*

[28, с. 282]

Выдзеленыя апошнія радкі Я. Коласа прымусілі зняць.

Ужо ў першы мірны год абвінавачванні ў «палітычнай недальнабачнасці» прагучалі ў адрас беларускай літаратурнай крытыкі. У святле знакамітага даклада А. А. Жданава і рашэнняў ЦК УсеКП(б) ад 14 жніўня 1946 г. «Аб часопісах “Звязда” і “Ленінград”» Галоўліт БССР забараніў друкаваць у часопісе «Полымя» артыкул «Беларуская літаратура ў Айчыннай вайне і ў першыя дні аднаўлення». Такі ж лёс напаткаў артыкул «Аб ленінградскіх пісьменніках», падрыхтаваны да друку ў часопісе «Беларусь» з-за таго, што ў ім давалася станоўчая ацэнка твораў М. Зошчанкі і А. Ахматавай.

Пра штогадовую «вытворчасць» Галоўліта БССР тых часоў у галіне прыгожага пісьменства можна атрымаць уражанне па справаздачы цэнзурнага ведамства за 1947 г., калі папярэдняй цэнзурай па ідэалагічных матывах да друку было забаронена 16 асобных твораў (вершаў, п’ес, апавяданняў, фельетонаў, казак, артыкулаў), не лічачы шматлікіх

умяшальніцтваў цэнзараў у аўтарскія тэксты [60, арк. 3].

Пасля рэдактарскіх правак і сіта папярэдняй цэнзуры для наступнай цэнзуры працы ўжо было няшмат. І ўсё ж яна была павінна апраўдваць сваё існаванне. Напрыклад, у 1945 г. наступнай цэнзуры давялося знішчаць амаль увесь тыраж у колькасці 4,2 тыс. асобнікаў літаратурнага зборніка «Альманах 2» пад рэдакцыяй П. Глебкі (першы яго выпуск пад назвай «Беларусь. Альманах» з'явіўся ў 1943 г. у выдавецтве «Савецкая Беларусь»). Падобнае жорсткае рашэнне было выклікана з'яўленнем у ім двух артыкулаў М. Лынькова, напісаных у гады вайны і «палітычна састарэлых» [59, арк. 32].

На дзейнасць беларускай цэнзуры па кантролі мастацкага слова ў пасляваеннае дзесяцігоддзе наклалі адбітак антызаходнія ідэалагічныя кампаніі 1947–1953 гг. У БССР поўнамаштабная кампанія супраць інтэлігенцыі, якая разглядалася як носьбіт празаходняй, скептычнай ідэалогіі, распачалася пасля з'яўлення праграмнага артыкула новага, прысланага з Масквы сакратара ЦК КП(б)Б па ідэалогіі, доктара філасофскіх навук М. Т. Іоўчука «Няспынна развіваць і прапагандаваць ідэі савецкага патрыятызму» [76]. Для поўнага зацвярджэння ў масавай свядомасці ідэалагемы «савецкі патрыятызм» была патрэбна антытэза, вобраз ворага, які хутка стварылі ў асобе «бязродных касмапалітаў». У літаратурным асяродку касмапалітаў (А. Астрэйку, Э. Агняцвет, М. Клімковіча, У. Няфёда, М. Гурскага) адразу ж выкрыў

першы сакратар ЦК ЛКСМБ К. Т. Мазураў [25]. Важным сігналам для цэнзараў была крытыка ў артыкуле М. Т. Іоўчука тагачасных літаратуразнаўцаў, якія «залішне расхвальваюць тых малазначных, трэцярадных літаратараў Беларусі XIX стагоддзя, накшталт Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, Рыпінскага і іншых» [76]. Рэакцыяй на гэтую крытыку было шальмаванне літаратуразнаўцамі В. Барысенкам і А. Кучарам на старонках часопісаў «Большэвік Беларусі», «Полымя» памерлых беларускіх пісьменнікаў — Я. Чачота, А. Гаруна, А. Ельскага. Даставалася ад Барысенкі і Кучара таксама тым, хто даваў нябожчыкам станоўчую ацэнку (напрыклад, Н. Перкіну).

8 ліпеня 1947 г. з'явілася пастанова ЦК КП(б)Б «Аб рабоце Саюза савецкіх пісьменнікаў, літаратурных часопісаў і газеты "Літаратура і мастацтва"», дзе беларускі літаратурны цэх папаў пад моцную крытыку. У 1948 г. барацьба з касмапалітамі пад кіраўніцтвам М. Т. Іоўчука актывізавалася. Новы штуршок барацьба з носьбітамі заходняй ідэалогіі і беларускімі нацыяналістамі атрымала пасля XIX з'езда КП(б)Б, які адбыўся ў лютым 1949 г. Рашэнні з'езда патрабавалі ад пісьменнікаў трымацца ў сваёй творчасці метаду сацыялістычнага рэалізму і прынцыпу партыйнасці. Літаратурныя героі ў такіх творах абавязкова падзяляліся на станоўчых і адмоўных з абавязковым асуджэннем апошніх як носьбітаў таго, што аджыло і перашкаджае рухацца наперад. Імкненне да праўдзівага паказу ў

літаратурных творах жыццёвых падзей пасляваеннага аднаўлення, спробы паглыбленага асэнсавання трагедыі перажытай вайны І. Мележам, І. Шамякіным, Я. Брылем сутыкаліся з дыктатам цэнзуры. Не менш варожа яна сустракала ўслаўленне агульначалавечых каштоўнасцей у «вясковай» паэзіі П. Панчанкі, А. Вялюгіна, М. Лужаніна альбо наватарскі характар асобных вершаў М. Танка. Неўзабаве пасля заканчэння XIX з’езда КП(б)Б у Галоўліт БССР з Масквы прыйшоў загад, які патрабаваў узмацніць «палітыка-ідэалагічны кантроль над творамі друку». Выконваючы яго, цэнзары прачыталі 28 кніг беларускіх пісьменнікаў, якія знаходзіліся ў вытворчасці. У іх было ўнесена шмат істотных правак і выкрэсліванняў [36, арк. 243].

Ідэалогія кідала на ўсе творы адбітак сацыялагічнага схематызму, прымушала ідэалізаваць рэчаіснасць, рабіць яе бесканфліктнай. Атмасфера страху і разгубленасці дапаўнялася арыштамі беларускіх пісьменнікаў, якія ўзнавіліся з пачаткам кампаніі барацьбы з касмапалітамі. У 1949 г. былі паўторна арыштаваны і бязвінна асуджаны Ул. Дубоўка, Р. Бярозкін, С. Грахоўскі, А. Александровіч, С. Шушкевіч, Б. Мікуліч, А. Пальчэўскі і інш. Пра гэта, канешне, ведалі тыя, хто застаўся на волі.

2 ліпеня 1951 г. у газеце «Правда» з’явіўся рэдакцыйны артыкул «Супраць ідэалагічных вычварэнняў у літаратуры», дзе абвінавачваўся ленінградскі часопіс «Звезда», які надрукаваў верш украінскага паэта Ул. Сасюры «Кахай Украіну». Гэты

патрыятычны твор выклікаў падазронасць партыйных ідэолагаў і абвінавачванне Ул. Сасюры ў нацыяналізме. Неўзабаве пасля з'яўлення артыкула ў «Правде» ўпаўнаважаны СНК СССР па ахове ваенных тайн у друку выдаў цыркуляр № 9с, які патрабаваў узмацнення пільнасці цэнзараў у адносінах да мастацкіх твораў на нацыянальных мовах і іх перакладаў. У цыркуляры крытыкаваліся Галоўліт УССР, а таксама Ленінградскі аблліт, якія дапусцілі публікацыю верша Ул. Сасюры на ўкраінскай і рускай мовах. Адпаведна ўстаноўленых правілаў у адказ на такі сур'ёзны цыркуляр беларускія цэнзары былі абавязаны даць наяўныя доказы ўзмацнення ўласнай пільнасці. А неўзабаве з'явіліся і яе ахвяры.

У справаздачы Галоўліта БССР за 1951 г. чытаем: «Сур'ёзныя высновы мы робім з той крытыкі, якая была з боку партыйнага друку ў адрас некаторых беларускіх пісьменнікаў у сувязі з артыкулам газеты "Праўда" наконт верша Сасюры "Кахай Украіну". Асабліва крытыкаваліся беларускія паэты А. Бялевіч за паэму "Сям'я", надрукаваную ў 1948 г. у зборніку "Паэмы", і К. Буйло за зборнік вершаў "Світанне, 1909–1946." (Мінск, 1950). Хібы ў творчасці А. Бялевіча і К. Буйло не былі своечасова заўважаны ні ў пісьменніцкім асяроддзі, ні намі пры цэнзураванні іх твораў» [62, арк. 30–31].

Тая ж справаздача дазваляе скласці ўяўленне пра межы кампетэнцыі цэнзуры, куды ўваходзіла нават грамадска-палітычная літаратура, якая стваралася па загадзе вышэйшага партыйнага кіраўніцтва. На

працягу другой паловы 1951 г. не былі дапушчаны да друку і вернуты на перапрацоўку ў выдавецтвы брашура Я. Шкадарэвіча «Аляксандр Матросаў» («факты падабраны выпадковыя, нехарактэрныя, акрамя таго, маецца шмат палітычна недакладных фармулёвак»), а таксама зборнік твораў беларускіх пісьменнікаў, прысвечаных барацьбе за мір, пад назвай «Поступь мира» пад рэдакцыяй К. Цітова («уключаны нязначныя творы, не адлюстроўваючыя сапраўднай барацьбы прагрэсіўных народаў, у т. л. і беларускага народа за мір»). Напрыклад, з верша П. Пранузы «Я падпісаў зварот» цэнзар зняў наступныя радкі, якія, на яго думку, «гучалі двухсэнсоўна»: «Ні грама сталі для вайны не дам, ні метра для вайны не дам тканіны» [62, арк. 30–31].

У пасляваеннае дзесяцігоддзе асноўную ўвагу цэнзары Галоўліта, услед за партыйнымі ідэолагамі і рэдактарамі, звярталі на паказ тагачаснай рэчаіснасці ў літаратурных творах. У часопісе «Беларусь» (1953. № 2) у вершы П. Глебкі «У шчаслівай сям'і» з чатырохрадкоўя «Прывітанне вам, людзі рэспублік, / Дарагія браты і сёстры! / Прывітанне вам, нашы суседзі, / Паднявольных краін змагары» быў зняты апошні радок, паколькі «нашымі суседзямі з'яўляюцца краіны народнай дэмакратыі» [64, арк. 3–4].

Са зборніка А. Бялевіча «Дарогай шчасця. Вершы і паэмы» (Мінск, 1952) вярнулі на перапрацоўку вершы «Выплаўка сталі», «Я са шчасцем жыву» і знялі цалкам «Піянерскую лагерную» і «Лён», якія «не

адлюстроўвалі нашу рэчаіснасць і рэзка крытыкаваліся на старонках рэспубліканскіх газет» [62, арк. 24–26].

Паэтычны зборнік Н. Тарас «Вершы» (Мінск, 1952) быў затрыманы з-за таго, што «ў яго было ўключана шмат вершаў безыдэйных, скажаючых савецкую рэчаіснасць, састарэлых, неахайна апрацаваных, у іх ідэалізавалася старая, адсталая Беларусь. У вершы "Мы падымем з руін цябе самі", напісаным у 1944 г., паэтка, напрыклад, марыла аб нейкай ідылічнай Беларусі, у якой "над пушчаю глухою, сасновай, зноў удалячынь журавы паплывуць", аб "прыдарожных вётлах", "вярбах". Верхам жаданняў паэтэсы з'яўлялася жаданне ўбачыць, калі ў Беларусі:

"Над руінамі свежымі ўранку
Сонца ціха распаліць зару,
І над комінам новай зямлянкі
Дым паўецца ізноў угару".

Такое ж гучанне, на думку цэнзара, мелі вершы "Еду на вёску", "Беларусь", "Родныя вёскі" і інш.» [62, арк. 24–26].

З рускамоўнага зборніка вершаў Д. Кавалёва «Мы не расстанемся» было знята сем вершаў, як «шэрыя, безыдэйныя, не адлюстроўваючыя рэчаіснасць, нізкай мастацкай якасці». З анталогіі «Украінская савецкая паэзія» пад рэдакцыяй П. Тычыны (Мінск, 1952) былі зняты вершы: П. Тычыны — «Надыходзіла вясна», «Дума аб трох вятрах», «Вецер», «Як упаў жа ён з каня», «У камічным аркестры»,

«Псалом жалезу», «Раздзьмулі мы гарно», «Падаюць сняжынкі»; Л. Першамайскага — «Вясна», «З баямі прашлі»; С. Галаваніўскага — «Песня»; А. Малышкі — «Твая дума ідзе са мной» «як недарэчныя для дадзенага зборніка» [63, арк. 16–18]. Да беларускай савецкай прозы цэнзурныя патрабаванні былі не менш жорсткія, чым да паэзіі. У празаічных тэкстах на сучасную тэматыку не павінна было быць нават намёку на тое, што рай у асобна ўзятай краіне будуецца пякельнымі сродкамі. Ахвярай цэнзуры мог стаць кожны пісьменнік незалежна ад яго статусу. Напрыклад, у 1954 г. цэнзары прымусілі намесніка старшыні праўлення СП БССР І. Шамякіна перарабляць апавяданне «Нашы знаёмыя», дзе «няправільна адлюстроўвалася наша рэчаіснасць і настроі савецкіх людзей» [65, арк. 6].

У 1952 г. са зборніка апавяданняў М. Вішнеўскага «Скарб зямлі» па палітычных меркаваннях было знята апавяданне «Кавуны», у якім у нявыгадным святле адлюстроўвалася калгаснае жыццё. Са зборніка «Аповесці і апавяданні» А. Стаховіча па тых жа прычынах цалкам знялі аповесць «Пампей Шчупак» (яна ўжо выдавалася асобным выданнем раней — у 1946 г.). Матывацыя цэнзараў выглядала наступным чынам: «У гэтай аповесці няправільна паказваецца калгаснае будаўніцтва. Праз усю аповесць праходзіць Пампей Шчупак — лайдак, спекулянт, злодзей і п’яніца (крадзе калгасны хлеб са спекулянтам-адзінаасобнікам). Усе яго хітрыкі

застаюцца непакаранымі. У аповесці няма ніводнага станоўчага героя» [62, арк. 26].

У тым жа годзе па палітычных меркаваннях былі вернуты на перапрацоўку асобныя апавяданні з кнігі П. Кавалёва «У новы дзень» (Мінск, 1952). На думку цэнзара, «некаторыя з іх, як “Новы дзень”, “Брат і сястра”, “Спяваць вам, сёстры” былі недапрацаваныя, шэрыя, безыдэйныя. У героя апавядання “Брат і сястра” рэзка выражаны прыватнаўласніцкія інтарэсы. У апавяданні “Спяваць вам, сёстры” апяваўся Мінскі польскі нацыяналістычны тэатр». У часопісе «Беларусь» было знята апавяданне А. Кулакоўскага «Кватаранты». У ім бесканфліктна апісваліся калгасныя бухгалтар і ўрач — «людзі са старымі поглядамі на жыццё, п’яніцы, падманшчыкі. Дачка бухгалтара камсамолка парывае з сям’ёю не на глебе грамадскіх інтарэсаў, а на глебе асабістай зацікаўленасці». Нарэшце, быў вернуты на дапрацоўку зборнік твораў маладых пісьменнікаў «На сонечных сцежках» з-за шэрагу палітычна нявытрыманых твораў. Напрыклад, у апавяданні А. Рылько «Лында» быў выведзены калгаснік — «адпеты лайдак, і аўтар не падкрэслівае, што падобныя тыпы людзей з’яўляюцца выключэннем у калгасах і што перадавыя людзі і іх метады працы з’яўляюцца пераважнымі ў сельгасарцелях» [62, арк. 25].

У 1955 г. у рамане Ул. Карпава «За годам год», надрукаваным у часопісе «Полымя», у сказе «Яны аб’ехалі тыя нешматлікія будоўлі, дзе на ўзнаўленні

жылых дамоў працавалі ваеннапалонныя» было знята слова «ваеннапалонныя» [66, арк. 6].

Па-ранейшаму з жорсткім палітычным кантролем сутыкаліся ўсе аўтары, якія пісалі пра нядаўнюю вайну. Раман І. Мележа «Мінскі напрамак», нягледзячы на палітычную выверанасць паводзінаў усіх яго герояў, у 1952 г. выклікаў сур'ёзныя заўвагі маскоўскіх цэнзараў, але быў выдадзены без доўгіх затрымак. А ў рамане М. Ткачова «Згуртаванасць» (Мінск, 1952) Галоўліт БССР зняў шмат сцэн, у якіх «надта натуралістычна былі пададзены моманты бою партызан з фашыстамі» [63, арк. 16–18]. З твораў, што з'явіліся на старонках літаратурных часопісаў у 1953 г., прыбіралі сюжэты, дзе паказваліся «зверствы, абыякавасць, паніка савецкіх людзей, што знаходзіліся ў палоне», таксама «ўцёкі нямецкага мірнага насельніцтва ад Савецкай Арміі на Захад» [64, арк. 3–4].

Кульмінацыйнай кропкі абсурду сталінская цэнзура ў БССР дасягнула ў 1953 г., забараніўшы народную песню «Бела, бела бярозка да кучарава», а таксама народныя казкі «Поп і дзяк», «Певень і ліса».

Як ставілася пасляваеннае беларускае грамадства, шараговыя чытачы да «выхавальнай» работы партыйных ідэолагаў і цэнзараў у галіне мастацкай літаратуры? Голас народа тых часоў дазваляюць нам пачуць пытанні, зададзеныя празаіку П. Кавалёву пасля публічнай лекцыі «30 год беларускай савецкай літаратуры», прачытанай у 1947 г. Яны нечакана вострыя, у іх бачны прага вольнага слова і адначасова

схаваны пратэст супраць лакіроўкі рэчаіснасці, замоўчвання непатрэбных уладзе фактаў і асоб беларускага літаратурнага жыцця. Вось некаторыя з іх: «Распавядзіце, пры якіх абставінах памёр Я. Купала? Чаму некаторыя беларускія пісьменнікі ў час вайны апынуліся па той бок барыкад? Дзе цяпер В. Каваль[18], Т. Кляшторны[19], М. Багун[20]? Ці будзе выдадзены поўны збор твораў М. Багдановіча? У якім стане работа секцыі рускай і яўрэйскай[21] літаратуры СП БССР? Цікава ведаць пра значэнне твора Г. Смоляра "Мсціўцы з гета"[22]? Чаму ўжо трэці год ніяк не можа выйсці з друку новы руска-беларускі слоўнік?» [33, арк. 298].

Вынікам кампаніі барацьбы з касмапалітамі стала творчая, маральная і інтэлектуальная дэградацыя прадстаўнікоў беларускага літаратурнага цэха. Пра гэта можа сведчыць, напрыклад, сумны літаратурны помнік эпохі — зборнік панегірыкаў Сталіну «Ад шчырага сэрца», у стварэнні якога ўдзельнічалі Я. Колас, П. Глебка, К. Крапіва, А. Куляшоў, П. Панчанка, М. Танк, М. Лужанін, П. Пранузa, Э. Агняцвет, А. Вялюгін, В. Вітка і інш. [1, с. 326]. Кажучы пра татальны палітычны і ідэалагічны кантроль, устаноўленынад творцамі ў БССР, трэба агаварыцца, што ў той жа час за калючым дротам ствaралася пазацэнзурная лагерная літаратура, накіраваная супраць таталітарнага занявольвання. У 1951 г. падчас адбыцця 10-гадовага тэрміну ў Інце В. Супрун заклікаў:

Свяціся ж ярчэй, воблік роднай Пагоні!
Народу вярні памяць слаўных вякоў,
Аб волі даўно ссумаваліся гоні
Пад грузам апекі чужых сваякоў. [24]

Былы вязень ГУЛАГа Б. Мікуліч напрыканцы 1940-х гг. пісаў «Аповесць для сябе», бо тое, што ён пісаў для людзей, рэдактары, прызнаючы іх бясспрэчную мастацкую вартасць, не адважваліся друкаваць.

---

14 Паэтычны зборнік тонкага лірыка А. Моркаўкі «Дым жыцця» (1928) ужо быў да таго часу схаваны ў спецфонды бібліятэк.

15 Камедыя «Мілы чалавек», пастаўленая ў 1945 г. у тэатры імя Я. Купалы рэжысёрам І. Раеўскім, па загаду Галоўліта была знята з рэпертуару і аднаўлена толькі ў 1976 г. у Гродзенскім абласным драмтэатры.

16 У 1962 г. Ус. Краўчанка, знаходзячыся ў Парыжы ў складзе турыстычнай групы, скончыў жыццё самагубствам. Афіцыйна гэта было патлумачана псіхічным захворваннем пісьменніка.

17 У 1950 г. Г. Камянецкі будзе арыштаваны і адпраўлены ў ссылку.

18 Расстраляны ў 1937 г.

19 Расстраляны ў 1937 г.

20 Памёр у лагеры ў 1938 г.

21 У 1952 г. у разгар антысеміцкай кампаніі секцыя яўрэйскіх пісьменнікаў ССП быда ліквідавана.

22 Гутарка ідзе пра кнігу ўспамінаў актыўнага ўдзельніка падпольнай групы ў мінскім гета Г. Д. Смоляра «Мсціўцы гета», якая выйшла ў 1947 г. на рускай мове і мове ідыш у адным з маскоўскіх выдавецтваў. У 1945–1946 гг. Г. Д. Смоляр працаваў загадчыкам аддзела ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». Вядомы сваімі выступленнямі ў абарону грамадзянскіх правоў яўрэяў БССР. З 1946 г. жыў у Варшаве.

## У час «адлігі»

Перыяд «адлігі» ў беларускай літаратуры меў супярэчлівы характар. З аднаго боку, ішлі працэсы дэмакратызацыі літаратурнага жыцця, рэабілітацыі незаконна рэпрэсаваных пісьменнікаў, аслабленне партыйнага ўціску на творчы працэс. 31 кастрычніка 1956 г. на партыйным сходзе ў Саюзе пісьменнікаў БССР гучала адкрытая крытыка партыйнага кіраўніцтва рэспублікі з боку П. Пестрака і А. Бачылы за «прыніжэнне беларускай мовы і культуры, адарванасць ад народу, бюракратызм». Востра крытыкаваліся адказны сакратар праўлення СП БССР П. Н. Кавалёў і дырэктар Дзяржаўнага выдавецтва БССР З. П. Матузаў [37, арк. 245]. Вялікі рэзананс у жыцці савецкага грамадства атрымалі сустрэчы кіраўнікоў дзяржавы з дзеячамі культуры ў 1957, 1962, 1963 гг. Заклік зрабіць літаратурную творчасць вольнай, у тым ліку і ад цэнзуры, прагучаў на V з’ездзе пісьменнікаў БССР у 1966 г. у прамовах В. Быкава, А. Карпюка, І. Чыгрынава, Г. Бураўкіна і інш.

З іншага боку, таталітарная сутнасць савецкага грамадства ўвесь час нагадвала пра сябе звужэннем сферы выкарыстання нацыянальных моў і барацьбой з «фармальнымі ўплывамі» ў літаратуры. 27 ліпеня 1956 г. з’явілася запіска аддзела культуры ЦК КПСС «Аб некаторых пытаннях развіцця сучаснай савецкай літаратуры», якая сведчыла пра тое, што сутнасць таталітарнай мадэлі мастацкай культуры ў савецкім

грамадстве застаецца без змен [3]. У 1957 г. быў асуджаны на сем гадоў зняволення за крытыку нацыянальнай палітыкі ў БССР выкладчык Гродзенскага педінстытута, літаратуразнаўца і педагог Б. А. Ржэўскі. У 1963 г. у антыпартыйнай прапагандзе былі абвінавачаны літаратары Н. Тарас, І. Чыгрынаў, В. Каваленка, А Кулакоўскі.

Г. Бураўкін так у паэтычнай форме ахарактарызаваў той няпросты час:

...Далі нам век дваццаты,
з’езд дваццаты
На смеласць чалавечую правы.
І страхі выкарчоўвае нашчэнт
Сумленнасці і смеласці стыхія!..
Але халупы ціхія, глухія
На свет з апаскай жмурацца яшчэ...

У 1955 г. у Беларусь пачалі вяртацца рэабілітаваныя пісьменнікі, якія ацалелі пасля сталінскіх рэпрэсій. Першымі ўбачылі радзіму паэт А. Александровіч і празаік Я. Скрыган. У 1956 г. рэабілітавалі Ст. Шушкевіча, С. Грахоўскага, Л. Геніюш, М. Хведаровіча. Тады ж у Мінск з сібірскай ссылкі вярнуўся літаратурны крытык Р. Бярозкін. У 1957 г. быў вызвалены Ул. Дубоўка.

У цэлым у гады «адлігі» савецкая цэнзурная машына крыху запаволіла сваі абароты, што дазволіла з’явіцца ў друку творам, якія некалькі гадоў таму каштавалі б аўтарам не толькі права быць пачутым, але і асабістай свабоды. У 1956 г. на старонках «Літаратуры і мастацтва» з’явіўся верш П. Панчанкі

«Прыстасаванцы», нягледзячы на тое, што твор вельмі не спадабаўся прадстаўнікам «агіднага ордэна», супраць якіх быў накіраваны выкрывальніцкі пафас аўтара. У 1959 г. амаль без праблем праз Галоўліт БССР прайшоў раман А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі», дзе падаваўся адрозны ад афіцыйнага аўтарскі погляд на падзеі мінулай вайны. Г. Бураўкін у сваім надрукаваным у 1963 г. вершы «Паклёпнікі» здзекліва намаляваў даносчыкаў сталінскіх часоў. Яго знакаміты верш «Пустыя п’едэсталы» заўважылі нават за мяжой. Праз сем гадоў пасля вяртання ў 1963 г. з мардоўскіх лагераў Л. Геніюш друкуюцца яе першыя вершы, а ў 1967 г., дзякуючы М. Танку, пад рэдакцыяй Ул. Караткевіча — першы зборнік твораў «Невадам з Нёмана» (з шэрагам купюр).

Час ад часу цэнзурная машына пачала даваць нават збоі. Прыкладам падобнага збою можа быць гісторыя выдання аповесці А. Кулакоўскага «Дабрасельцы», якая з’явілася ў 1958 г. у часопісе «Маладосць». У гэтым творы была паказана беларуская правінцыя, якая, нягледзячы на новыя часы, была цалкам скаваная вялікім страхам сталінскай эпохі. Пад ціскам страху там знаходзіліся ўсе — ад самазваных мясцовых князькоў да калгаснага пастуха. Галоўліт БССР прапусціў гэты твор, чаму, канешне, паспрыяў не толькі адносна ліберальны час, але таксама пасада галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць», якую займаў аўтар.

Памылка Галоўліта была хутка заўважана партыйнымі ідэолагамі. Аповесць «Дабрасельцы»

пасля выхаду ў свет была адразу ж узята пад абстрэл і бадай што не знайшла сваіх адкрытых прыхільнікаў у крытыцы. Да фарміравання негатыўнага вобраза твора актыўна далучыўся адзін з класікаў вульгарызатарска-ачарняльнай крытыкі Я. Герцовіч. Неўзабаве на сумесным пасяджэнні ЦК ЛКСМБ і Саюза пісьменнікаў БССР аповесць, галоўны герой якой — старшыня калгаса — «дэмагог і п'яніца», была абвешчана «памылковай», а яе аўтар зняты з працы [69, арк. 13]. Пасля гэтай прапрацоўкі аўтар ужо не змог аправіцца ад маральнай траўмы да канца жыцця.

Дадатковыя праблемы цэнзарам у другой палове 1950-х — першай палове 1960-х гг. стваралі новыя літаратурна-мастацкія часопісы, зборнікі і альманахі — «Маладосць», «Неман», «Дзвіна», «Нарач», «Брэст», якія ўвесь час спрабавалі надрукаваць матэрыялы «ў абыход дырэктыўных органаў» [71, арк. 53]. Яшчэ адной прыкметай ліберальнага часу былі нешматлікія спробы беларускай творчай інтэлігенцыі наладжвання непадцэнзурных выданняў[23].

Кажучы пра некаторую лібералізацыю дзейнасці цэнзурнага ведамства ў гады хрушчоўскай «адлігі», трэба мець на ўвазе, што яго асноўныя задачы і метады работы заставаліся ранейшымі. І ў той час Галоўліт БССР у асобах яго найбольш артадаксальных цэнзараў імкнуўся спыніць творы найбольш арыгінальных і смелых пісьменнікаў. Сваю асноўную ўвагу цэнзура звяртала на літаратурныя творы, дзе паказвалася тагачасная рэчаіснасць, якая

афіцыйна вызначалася як «пабудова камуністычнага грамадства».

У 1956 г. неўзабаве пасля пропуску «Прыстасаванцаў» у часопісе «Беларусь» былі забаронены да друку тры крытычныя вершы П. Панчанкі [67, арк. 14].

У 1957 г. з апавядання І. Мележа «Дом пад сонцам» былі прыбраны месцы, дзе «ў перакручаным выглядзе была пададзена наша рэчаіснасць». З рамана Ул. Карпава «За годам год» прыбралі наступныя рэплікі герояў: «На могілках, напэўна, і тое прыпадае больш метраў на чалавека, чым у нас», «А колькі ў радзільным доме вашых будаўніц незамужніх?», «У каго раней у вёсцы больш за ўсіх дзетак было? У самых бедных, жабракоў беспрытульных». З апавядання Г. Халілецкага «Слухайце ўсе» знік сказ, дзе гаварылася пра праслухоўванне прыватных тэлефонных размоў грамадзян. У апавяданні А. Кулакоўскага «Дэпутатка» знялі сказ «Падаткі, штрафы, абкладанні, апісванні — хай яно згарыць усё гэта» [68, арк. 10].

У 1958 г. забаранілі друкаваць апавяданне Я. Брыля «Фамут», дзе шафёр нейкага міністэрскага начальніка з’едліва апісваў яго глупства і фанабэрыстасць. Тады ж з чацвёртага нумара часопіса «Советская Отчизна» было знята яго апавяданне «Пра белага бычка», дзе «няправільна» паказвалася палітыка партыі ў галіне літаратуры [70, арк. 108]. У тым жа годзе з адзінаццатага нумара часопіса «Полымя» знікла апавяданне М. Пянкрата «Васіль

Баршчэўскі» з-за таго, што ў ім было паказана варожае стаўленне заходнебеларускіх сялян да калектывізацыі.

Раман Т. Хадкевіча «Даль палявая», рукапіс якога быў дасланы ў Галоўліт у жніўні 1958 г., выклікаў спецыяльны ліст Л. В. Садоўскага сакратару ЦК КПБ Ц. С. Гарбунову. Начальнік Галоўліта, у прыватнасці, пісаў: «Беларускаму народу, які на працягу ўсёй сваёй гісторыі праяўляў мужнасць і адвагу ў барацьбе з ворагамі, вуснамі аднаго з герояў прыпісваецца пасіўнасць, прытым як характэрная рыса беларуса: “Баюся, мы крыху перабольшваем, калі гаворым аб партызанах. Бадай што ўсё насельніцтва Беларусі трапіла пад пяту акупантаў у пачатку вайны. А калі па-сапраўднаму разгарэлася партызанская барацьба? Тады, калі мы на фронце нанеслі шэраг моцных удараў па ворагу. Значыць, многія і многія з беларусаў, церпячы здзекі захопнікаў, сядзелі ў чаканні. Ці не праявілася ў этым рыса пасіўнасці ў характары беларуса?”» [38, арк. 104–106]. Акрамя таго, Л. В. Садоўскі быў супраць вобраза першага сакратара райкама партыі, створанага ў рамане Т. Хадкевічам, — пасіўнага чалавека, які з аднаго боку абараняе рознага кшталту махінатараў, а з другога — ставіцца абыякава да праблем сумленных людзей.

У 1957 г. са зборніка твораў А. Васілевіч «Адвечная тэма» было знята апавяданне «Выбоіны» за саркастычны паказ рэчаіснасці [69, арк. 13]. У 1960 г. вярнулі для перапрацоўкі кнігу яе апавяданняў «Падслухала сэрца». Асабліва цэнзар

быў раззлаваны апавяданнямі «Дзядзька Іван», дзе паказвалася абыякавасць тагачаснага грамадства да праблем пенсіянераў і «У дарозе», прысвечаным цяжкаму жыццю калгаснікаў [73, арк. 54].

З часопіса «Вожык» (1959. № 21) у апошні момант знікла байка Э. Валасевіча «Вол і шчанюк», у якой пісьменнік параўноўваўся з першым персанажам, а крытык — з другім, «пісьменнік працаваў, крытык гаўкаў з падваротні» [72, арк. 14].

Некаторыя літаратурныя творы цэнзары бракавалі адразу ж пасля прачытання іх назвы, не паглыбляючыся ў змест. Так, напрыклад, адбылося з аповесцю «Расчараванне» Я. Брыля, вымушана перайменаванай у «Апошнюю сустрэчу» [7, с. 331]. З кнігі апавяданняў А. Шашкова «Сонца тушыць зоркі» знікла характарыстыка кіраўнікоў сельскай гаспадаркай рэспублікі як «наменклатурных работнікаў, што завалілі справу ў горадзе» [74, арк. 22].

5 красавіка 1961 г. Л. В. Садоўскі накіраваў сакратару ЦК КПБ па ідэалогіі В. Ф. Шаўру дакладную запіску пра апавяданне Б. Сачанкі «Міцька», змешчанае ў прадстаўленым на кантроль часопісе «Полымя» (1961. № 4). Л. В. Садоўскі, у прыватнасці, пісаў: «У гэтым апавяданні аўтар хацеў паказаць бяздушныя і чэрствыя адносіны жонкі калгаснага пастуха да сына яго першай памёрлай жонкі. Але, абвінавачваючы гэтую злую жанчыну, [...] аўтар міжволі абвінавачвае і людзей, акаляючых гэтагага небараку, закінутага хлопчыка. Ніхто не

цікавіцца жыццём Міцькі, хоць жыве ён у наш савецкі час... Прачытаўшы гэтае апавяданне, кожны міжволі ўзгадае чэхаўскага Ваньку Жукава. Лічу, што гэтае апавяданне павінна быць карэнным чынам перапрацавана» [51, арк. 5–6].

Беларуская цэнзура сустракала ў штыкі ўсе, нават сціплыя спробы мастацкага асэнсавання феномену сталінізму. З часопіса «Беларусь» (1956. № 12) па палітычных матывах быў зняты верш А. Зарыцкага «Цяжка гояцца ў сэрцы раны», у якім «аўтар надрыўна-хваравіта аплакваў сябра, які быў несправядліва абвінавачаны ў варожай дзейнасці і загінуў у ссылцы». У 1960 г. у рукапісе кнігі ўспамінаў М. Хведаровіча «Памятныя сустрэчы» правяралася прозвішча кожнага пісьменніка, які трапіў пад нож сталінскіх рэпрэсій [50, арк. 19]. У тым жа годзе Галоўліт БССР двойчы вяртаў у выдавецтва для перапрацоўкі рукапіс кнігі твораў А. Марціновіча пад агульнай назвай «Надзея». Галоўнай прычынай падобнай увагі цэнзуры быў сюжэт аповесці «Споведзь», у цэнтры якой — незайздросны лёс дачкі раскулачаных [73, арк. 56].

3 снежня 1961 г. Л. В. Садоўскі зноў накіраваў дакладную сакратару ЦК КПБ В. Ф. Шаўру, на гэты раз пра зборнік рускамоўных вершаў І. Шклярэўскага «Я иду». Цэнзар хваляваўся: «Зусім незразумела думка, якую аўтар выказвае ў вершы “Дорога к жизни”. Цяжка зразумець, пра каго ідзе гаворка: пра будаўнікоў альбо зняволеных. Будаўніцтва дарогі аўтар паказвае як катаржную працу:

“Там люди за солнцем тянули дорогу.
А первые ливни пробили по жести...
А люди как трупы на койки валились.
Им снилась свобода, им женщины снились”».

Гэты верш цэнзар прапанаваў выключыць са зборніка, некаторыя іншыя — перапрацаваць [51, арк. 16–19].

Няпростыя адносіны з цэнзурай складаліся ў тых, хто прапаноўваў уласнае мастацкае бачанне беларускай гісторыі. Пасля паспяховых дэбютных твораў гродзенскага пісьменніка А. Карпюка ў 1958 г. мясцовы аблліт зняў шэраг «небяспечных месцаў» з аповесці «Маладыя гады», падрыхтаванай да публікацыі ў літаратурным зборніку «Нёман» (№ 2). У прыватнасці, знікла апісанне парада польскіх войскаў у Вільні ў 1938 г.: «Відовішча было захапляючае. Я пазіраў на абвучаных салдат, падцягнутых афіцэраў, новыя мундзіры, зайздросціў ворагам і сябе пацяшаў: — “Нічога, і мы будзем некалі такімі, нават лепшымі”». У 1960 г. з рукапісу аповесці А. Карпюка «Данута» зніклі месцы, якія «ідэалізавалі зацятага фашыста Пілсудскага», у прыватнасці факт яго знаходжання ў адной рэвалюцыйнай арганізацыі са старэйшым братам Леніна — А. І. Ульянавым. Не падабаліся таксама цэнзару тыя месцы рукапісу, дзе аўтар апісваў, як немцы падрывалі пакінутыя Чырвонай Арміяй снарады, рэзалі аўтагенамі бранятэхніку савецкай

вытворчасці, вялі доўгія калоны палонных чырвонаармейцаў [73, арк. 54].

Гродзенскага цэнзара не задавальняла не толькі тое, як А. Карпюк разумеў гісторыю, але і тое, як ён бачыў тагачасную рэчаіснасць. Са зборніка «У дапамогу мастацкай самадзейнасці» (1958. № 1) прыбралі яго апавяданне «Скарга мужа», дзе «інтарэсы простых савецкіх людзей дробязныя, размовы грубыя, паводзіны некультурныя» [70, арк. 108].

Галоўліт вярнуў у выдавецтва на дапрацоўку кнігу філолага і пісьменніка У. А. Калесніка «Паэзія змагання (Максім Танк і заходнебеларуская літаратура)» (1959). Па сцвярджэнні цэнзара, аўтар паказаў у ёй М. Танка ледзь не арганізатарам усяго рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, які ўжо за партай быў свядомым рэвалюцыянерам. Акрамя таго, у рукапісе кнігі даваўся матэрыял пра творчасць паэткі Н. Арсенневай без адпаведнай яе крытыкі.

У 1960 г. двойчы затрымлівалася выданне кнігі «Надзея» з-за аповесці А. Марціновіча «Споведзь». У ёй, на думку цэнзара, Саюз кампазітараў рэспублікі быў паказаны як купка людзей, якія ўвесь час спрачаюцца і не знаходзяць ісціну. Саюз расколаты на дзве групы, адна з якіх прызнае народнасць і нацыянальныя карані ў музыцы, а другая трымаецца выключна класікі. Галоўліт палічыў, што гэтага не можа быць, бо «па пытаннях музычнай культуры ёсць грунтоўныя ўказанні ЦК КПСС і яны выконваюцца нашымі кампазітарамі» [43, арк. 215].

Тады ж цэнзара напалохала вытрымка з загада камандуючага 6-й нямецкай арміі генерала фон Рэйхенау, якую ўставіў у рукапіс сваіх мемуараў «У баявым паходзе» былы партызан М. П. Ратушноў. У прыватнасці, фон Рэйхенау даводзіў падначаленым, што «беларускі народ у сваёй асноўнай масе настроены антысавецкі, але прытрымліваецца прынцыпу “пажывём — пабачым”, а калі выступае супраць немцаў, дык пад ціскам камуністаў» [73, арк. 54].

Першае сур’ёзнае сутыкненне Ул. Караткевіча з цэнзурай адбылося ў красавіку 1961 г., калі на кантроль у Галоўліт БССР прыйшлі гранкі часопіса «Полымя» (1961. № 4). У іх была змешчана адна з першых гістарычных аповесцяў Ул. Караткевіча — «Сівая легенда» (першапачатковая назва — «Раман Ракута»). Неўзабаве Л. В. Садоўскі накіраваў В. Ф. Шаўру дакладную, прысвечаную гэтаму твору. У ёй мы чытаем: «У легендзе Уладзімір Караткевіч не раскрывае сутнасці сялянскага паўстання, амаль нічога не кажа пра жыццё сялян таго часу. Для чытача не зразумелыя прычыны, што падштурхнулі сялянскія масы выступіць супраць панства... У той жа час аўтар надае шмат увагі кіраўніку паўстання нобілю Раману Ракуце. Ён яго ідэалізуе, а разам з ім і тую частку магнацтва, да якой ён належыць. Больш за тое, у легендзе прама кажацца, што “нобілі — самыя знакамітыя і самыя паважаныя народам людзі на гэтай зямлі... Народ акаляе гэтых людзей асаблівай увагай і ласкай”. Такая пастаноўка пытання,

безумоўна, выклікае ў чытача законнае здзіўленне. Тым больш, што гістарычна гэта недарэчна... У легендзе ідэалізуюцца і некаторыя прадстаўнікі судовых органаў таго часу, якія, па сцвярджэнні аўтара, не пазбаўлены пачуцця справядлівасці. Жыхароў горада Магілёва, дзе разгортваюцца заключныя падзеі легенды, аўтар паказвае як бязвольных п'яніц. Час, калі выбухнула паўстанне, высветліць цяжка. Патрэбна перапрацоўка» [51, арк. 7–8].

У ліпені 1961 г. цэнзар Цалуеўскі па палітычных меркаваннях выкідаў цэлыя дыялогі з кнігі апавяданняў Ул. Караткевіча «Блакіт і золата дня» [44, арк. 100].

Праз два гады, 16 красавіка 1963 г., В. Ф. Шаўра атрымаў дакладную ўжо новага начальніка Галоўліта БССР А. А. Маркевіча, цалкам прысвечаную аднаму твору. Гутарка ішла пра кніжную версію рамана Ул. Караткевіча «Нельга забыць» (першапачатковая назва — «Леаніды не вернуцца да зямлі»), рэдактарам якога быў В. Сёмуха. А. А. Маркевіч, у прыватнасці, пісаў: «У свой час гэты раман, надрукаваны ў часопісе "Полымя" пад назвай "Нельга забыць"[24], быў крытыкаваны за тое, што яго героі паказваюцца ў адрыве ад жыцця, яго грамадскіх інтарэсаў. Аднак пры падрыхтоўцы рамана для апублікавання яго асобным выданнем[25] гэтыя недахопы не толькі не выпраўлены, але значна пашыраны і паглыблены. Герой рамана — малады пісьменнік, які займаецца на

літаратурных курсах у Маскве. Ад яго імя вядзецца аповед пра незвычайнае каханне, якое бывае раз у стагоддзе, пра нейкія асаблівыя адносіны, якіх пакуль што не існуе на зямлі. На старонках рамана паказаны чалавек у роспачы ад барацьбы... Лейтматыў рамана — адчай, песімізм, індывідуалізм: “Ці варта жыць?”

...Пра далёкае мінулае герой рамана разважае з тугою, а пра нашу рэчаіснасць, пра людзей, з якімі ён сустракаецца, — са злой іроніяй і скептыцызмам. Яго замілоўваюць фрэскі на фасадах цэркваў, абразы, гукі званоў (дарэчы, уся вучоба на літаратурных курсах уяўляецца як бясконцыя экскурсіі ў храмы), пра нашых жа людзей, пра рэчаіснасць ён мяркуе па-іншаму. Сакратар камсамола ўніверсітэта — “палена няструганае, баязлівец, падлюга і алілуйшчык” (с. 72). Прыехаўшы на канікулы ў вёску, піша пра яе: “Сухадол быў прыдатны хутчэй да таго, каб дажываць, чым жыць” (с. 136). І далей: “Цяжка стала друкавацца. Нейкі разлад паміж пакаленнямі” (с. 167). Кажучы пра сваё духоўнае сталенне, ён падкрэслівае, што “за жыццё прайшоў тры прыступкі: артадаксальны патрыятызм, абражаны нацыянальны гонар... А цяпер я і не ведаю, чаму нягоднік-беларус [падкрэслена Маркевічам. — *А. Г.*] павінен быць мне бліжэй за высакароднага негра”. І далей: “На радзіме куча ворагаў, найлепшы сябар — латыш”.

Расчараваны ў жыцці не толькі галоўны герой, расчараваныя і ўсе персанажы рамана. Размовы герояў аб мастацтве, якое нібыта з’яўляецца другой

лініяй рамана, цалкам накіраваны ў мінулае. Аб мастацтве сённяшняга дня яны мяркуюць у духу набалелай праблемы “бацькоў і дзяцей”. Асяроддзе сучасных мастакоў, паэтаў і пісьменнікаў, у якое ўводзіць чытача аўтар, пакідае цяжкое ўражанне, нагадвае нейкую багему. Усе яны выглядаюць адарванымі ад жыцця, без пэўных ідэй і поглядаў, увесь час знаходзяцца ў стане бяздзейнасці.

Недазваляльны змешчаныя ў рамане грубыя і крыўдныя выказванні ў адрас жанчыны: “Евіна племя, яно, брат, таксама не ўсё з сабачага хваста”. Незразумела, што хацеў выразіць аўтар, перафразуючы вядомую песню наступным чынам: “Жыць нам стала лепей, стала весялей. Шыя стала тонкая, але ж — даўжэй”. Варта звярнуць увагу і на тую частку рамана, у якой вядзецца размова аб культе асобы Сталіна.

І, нарэшце, у заканчэнні герой рамана, у адчаі ад усяго, блукае ўначы па Маскве, разважаючы: “Леаніды больш не вернуцца да зямлі”. Суцяшэнне ён зноў знаходзіць у царкве, у нейкага “круціцкага церамка”. У гэтай сувязі выклікае сумнеў і сама назва рамана. Мяркуючы па развагах аўтара, ён хацеў сказаць аб тым, што “Леаніды” не вернуцца на зямлю да тых пор, пакуль тут будуць заставацца дрэнныя людзі. У фармулёцы ж аўтара назва гучыць як сцвярджэнне, што “Леаніды” ўвогуле не вернуцца на зямлю, гэта значыць, мы ніколі не пазбавімся ад дрэнных людзей.

Фармалістычныя, адарваныя ад жыцця і вершы галоўнага героя, якія друкуюцца ў рамане» [52, арк. 51–54].

Падобны жорсткі прысуд раману, вынесены А. А. Маркевічам, разам з рэцэнзіямі Я. Герцовіча ў Мінску і В. Чалмаева ў Маскве, паўплываў на яго далейшы лёс. Неўзабаве Ул. Караткевіч быў абвінавачаны ў «абстрактным гуманізме», а набор яго кнігі рассыпаны[26].

Трэба адзначыць, што няпросты шлях твораў Ул. Караткевіча да чытача быў абумоўлены таксама прэвентыўнай рэдактарскай цэнзурай. Рэцэнзіі многіх літаратурных рэдактараў і крытыкаў, з якімі аўтар адмаўляўся ісці на кампраміс, мелі заказны, палітычны, далёкі ад літаратурнай творчасці характар. Прыкладам гэтага можа быць гісторыя асобнага выдання першай кнігі рамана «Каласы пад сярпом тваім», якая ў скарочаным выглядзе пабачыла свет у часопісе «Полымя» (1965. № 2–6). Мала чым адрознівалася па тоне і змесце ад галоўлітаўскай рэцэнзія на раман, напісаная Я. Герцовічам у верасні 1965 г. На працягу 1965–1967 гг. на рукапіс рамана, які ляжаў у выдавецтве «Беларусь», было напісана яшчэ дзве рэцэнзіі — М. Лужаніна (пазаштатнага рэдактара выдавецтва) і Л. Салаўя (штатнага рэдактара), якія значна зацягнулі яго выданне і адбілі ахвоту ў аўтара працягваць працу над раманам [80]. Злавесную ролю ў гісторыі выдання «Каласоў...» адыграў дырэктар выдавецтва З. П. Матузаў, асноўны вытворчы прынцып якога гучаў так: «Нас ніколі не

білі за тое, што мы выкінулі, б’юць за тое, што пакідаем».

Значна сапсаваны рэдактарскімі праўкамі быў таксама рукапіс аповесці Ул. Караткевіча «Ладдзя роспачы» 1964 г. На яго дваццаці трох старонках было зроблена 296 правак. Рэдактары-цэнзары крэслілі словы «Беларусь», «беларус», упэўнена пісалі «Ладдзя» з маленькай літары [23, с. 148].

Напрыканцы хрушчоўскай «адлігі» Ул. Караткевіч як адзін з найбольш небяспечных парушальнікаў спакою на беларускім парнасе прыцягнуў да сябе ўвагу вышэйшага рэспубліканскага партыйнага кіраўніцтва ў асобе сакратара ЦК па ідэалогіі С. А. Пілатовіча. Гэта было вельмі небяспечна для Караткевіча-творцы, калі ўлічыць, што С. А. Пілатовіч з 1965 па 1971 гг. з’яўляўся куратарам Галоўліта БССР. Вядома, што партыйны ідэолаг быў супраць асобнага выдання «Каласоў...». Па яго загадзе крытыкавалі ў друку эсэ «Званы ў прадоннях азёр». Прозвішча Караткевіча ўзгадвалася на разнастайных ідэалагічных нарадах як сімвал заганнасці.

Сігналам заканчэння ліберальнага часу і пераходу ідэалагічнага кіраўніцтва да новага курсу была маштабная кампанія дыскрэдытацыі аповесці В. Быкава «Мёртвым не баліць». Да яе выхаду пісьменнік ужо не раз сутыкаўся з прэвентыўнай рэдактарскай і галоўлітаўскай цэнзурай. Напрыклад, у 1957 г. у аповесці «Апошні баец» рэдактары-цэнзары сумеснымі намаганнямі зрабілі больш ста купюр, прычым найбольшая з іх склала дзесяць кніжных

старонак [79, с. 147]. У 1965 г., адразу ж пасля публікацыі гэтага смелага твора ў маскоўскім часопісе «Новый мир» і мінскай «Маладосці», В. Быкаў трапіў пад крытыку маскоўскага ідэалагічнага кіраўніцтва ў асобе М. А. Суслава (яго думкі артыкуляваў аспірант Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС У. М. Сеўрук). Пасля маскоўскай крытыкі паўстала пытанне: хто прапусціў «шкодны літаратурны твор» у друк? 24 сакавіка 1966 г. Маркевіч мусіў апраўдвацца перад начальнікам Галоўнага ўпраўлення Камітэта па друку пры СМ СССР А. П. Ахотнікавым, што «ў чэрвені – ліпені 1965 г. у часопісе “Маладосць” у № 6–7 была надрукавана аповесць В. Быкава “Мёртвым не баліць” [...] Аб нашых заўвагах было паведамлена рэдакцыі (нам. рэдактара т. Асіпенка). Аднак рэдакцыя адхіліла ўсе нашыя заўвагі. Т. Асіпенка паведаміў нам пра тое, што яны гэтую аповесць абмяркоўвалі на пашыраным пасяджэнні рэдкалегіі часопіса ў прысутнасці члена рэдкалегіі сакратара ЦК ЛКСМБ т. Ваніцкага. Пры абмеркавані аповесці было зроблена шмат крытычных заўваг, у прыватнасці з боку сакратара т. Ваніцкага. Пасля такога шырокага абмеркавання гэтая аповесць была падвергнута вялікай праўцы. Рэдакцыя часопіса катэгарычна адмовілася яшчэ раз працаваць над аповесцю. Пасля гэтага мы падпісалі часопіс з гэтай аповесцю да друку» [53, арк. 44–45].

Гэта інтэрпрэтацыя інцыдэнту збольшага задаволіла важнага маскоўскага чыноўніка. Галоўліт БССР указаў на недахопы аповесці. Тое самае зрабіў

камсамольскі важак. Але рэдакцыя катэгарычна адмовілася прыслухацца да заўваг. Таму яна адна і вартая пакарання. У выніку быў зняты галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» П. Панчанка, які на гэтай пасадзе ў 1958–1966 гг. паспрыяў публікацыі многіх таленавітых, смелых твораў.

Як сведчыў цэнзар Салодзін, які спецыялізаваўся на літаратурнай прадукцыі, пасля публікацыі «Мёртвым не баліць» (дзе дзейнічаў асабіст з украінскім прозвішчам Сахно) цэнзура адсочвала ў прозе В. Быкава суадносіны станоўчых і адмоўных персанажаў па нацыянальнай прыкмеце — колькі і якіх было рускіх, украінцаў, беларусаў.

Падобным чынам беларуская цэнзура «праглядзела» аповесць В. Быкава «Праклятая вышыня», якая з'явілася ў 1968 г. таксама ў часопісе «Маладосць». Толькі пасля яе перадруку пад назвай «Атака з ходу» ў маскоўскім «Новом мире» за яе ўзяліся ідэолагі ЦК КПСС, галоўнае палітупраўленне Савецкай Арміі, узнялася хваля маральнага знішчэння аўтара.

---

23 Напрыклад, у 1963–1964 гг. выйшлі чатыры нумары рукапіснага часопіса «Падснежнік», падрыхтаваныя М. І. Ермаловічам.

24 Раман з'явіўся ў пятым і шостым нумарах часопіса за 1962 г. Пралог рамана друкаваўся як апавяданне «Паром на бурнай рацэ».

25 Планавалася выдаць раман асобнай кнігай разам з аповесцю «Дзікае паляванне караля Стаха».

26 Асобным кніжным выданнем раман Ул. Караткевіча пад назвай «Нельга забыць» выйшаў толькі ў 1982 г. спачатку ў Чэхаславакіі, а потым, пад націскам літаратурнай грамадскасці, і ў БССР.

## **У перыяд «застою»**

Кастрычніцкі пленум ЦК КПСС 1964 г., суд над пісьменнікамі А. Сіняўскім і Ю. Даніэлем, наданне Галоўліту статуса Упраўлення Савета Міністраў СССР вызначылі пераход да перыяду «застою» ў савецкай літаратуры. Змена палітычнага курсу была канчаткова замацавана 7 студзеня 1969 г., калі сакратарыят ЦК КПСС прыняў сакрэтную пастанову «Аб павышэнні адказнасці кіраўнікоў органаў друку, радыё, тэлебачання, кінематаграфіі, устаноў культуры і мастацтва за ідэйна-палітычны ўзровень друкаваных матэрыялаў і рэпертуару». Сутнасць яе была ў тым, каб частку адказнасці за ідэалагічны змест СМІ і мастацкай прадукцыі перакласці непасрэдна на кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў і рэдакцыйных калектываў. Тлумачыўся гэты захад умовамі «сацыялістычнай дэмакратыі», у якіх цэнзурныя органы былі павінны займацца абаронай толькі дзяржаўных і ваенных тайн. Устаноўлены сакрэтнай пастановай парадак ствараў цяжкую маральную атмасферу ў творчых калектывах. Іх кіраўнікі былі вымушаны выбіраць паміж уласнымі пасадай і сумленнем. Галоўліт са свайго боку таксама ўзмацніў палітычнае цэнзураванне тэксту, забараняючы згадваць не толькі імёны і паняцці, але і цэлыя гістарычныя з’явы, напрыклад, культ асобы.

У 1969 г. заява пра адсутнасць свабоды думак і творчасці, пра пераўтварэнне літаратуры ў казённага прапагандыста партыйных догмаў каштавала пасады

дацэнту кафедры рускай класічнай літаратуры БДУ І. С. Шпакоўскаму. Быў выключаны з КПСС і звольнены з працы за адкрытыя пратэсты супраць цэнзуры і акупацыі Чэхаславакіі загадчык аддзела нарысаў і публіцыстыкі часопіса «Неман» Ф. А. Яфімаў. 20 снежня 1969 г. старшыня КДБ СССР Ю. У. Андропаў інфармаваў ЦК КПСС аб палітычна нездаровых настроях беларускіх пісьменнікаў А. Карпюка і В. Быкава.

Вось як апісвае духоўны клімат у краіне напачатку перыяду «застою» В. Быкаў: «Падобна, у краіне махнулі кіраўнічай рукой на эканоміку, прамысловасьць, на далейшы ўздым сельскай гаспадаркі і ўзяліся за любімы канёк — уздымаць ідэалёгію. З поваду ідэалёгіі праводзіліся пленумы ўсіх узроўняў, творчых саюзаў; рэдакцыі і выдавецтвы ўмацоўвалі выпускнікамі ВПШ ды АГН. Неверагодных памераў дасягнулі Галоў- і аблліты, сьпісы забароненых тэмаў і зьвестак набылі таўшчыню тэлефонных даведнікаў. У рэдакцыях і выдавецтвах галоўным чалавекам стаў цэнзар, які прыдзірліва мацаў кожны радок і пры парушэньні дакладваў наверх, каб апэратыўна зрабіць аргвывады. Прапагандовым апаратам было вынайдзена ёмістае і ўнівэрсальнае азначэньне: ідэалягічныя дывэрсіі. Для іх выяўленьня пры кожным парткаме працавалі ідэалягічныя камісіі, якія таксама выносілі свае вэрдыкты» [10, с. 188].

В. Быкаў добра ведаў, што такое ідэалогія «развітога сацыялізму» з уласнага вопыту. У гэты час

атрымала працяг цэнзурная гісторыя яго аповесці «Мёртвым не баліць». У. М. Сеўрук, які ўжо курыраваў у ЦК КПСС цэнзуру, пільна сачыў за тым, каб пра апальны твор нідзе не было нават згадак. Па яго загадзе з ужо гатовага тыражу кнігі выбраных твораў В. Быкава «Дожить до рассвета» (Москва, 1979) адбіраліся старонкі з пасляслоўя В. Аскоцкага, дзе гаварылася пра «Мёртвым не баліць». Аўтара кнігі «Василь Быков: Очерк творчества» (Москва, 1979) Л. Лазарава ён таксама прымусіў зняць усе спасылкі на гэту аповесць. Падчас падрыхтоўкі ў 1984–1985 гг. у «Молодой гвардии» быкаўскага чатырохтомніка «Атака с ходу» «Мёртвым не баліць» таксама ўключана не была. Нарэшце, рукамі супрацоўнікаў маскоўскага і мінскага галоўлітаў У. М. Сеўрук спрабаваў выкінуць твор з беларускага чатырохтомнага збору твораў пісьменніка. Але намаганнямі дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура» М. Ф. Дубянецкага «Мёртвым не баліць», хаця і ў знявечаным выглядзе, ўсё ж была ўключана ў 1982 г. у апошні том [10, с. 321].

Галоўліт БССР выказаў свае заўвагі рэдакцыі і запярэчыў публікаванню ў 1968 г. у часопісе «Полымя» без грунтоўнай перапрацоўкі аповесці В. Быкава «Круглянскі мост». Цэнзараў насцярожыў лёс героя аповесці — 18-гадовага байца аднаго з партызанскіх атрадаў, сына паліцая Сцёпкі, які па волі камісара ідзе на верную смерць. У наступным годзе галоўны рэдактар часопіса «Полымя» П. Н. Кавалёў усё ж адважыўся на публікацыю твора —

пасля пэўных яго «аўтарскіх дапрацовак», а таксама атрымаўшы падтрымку былога партызана, сакратара ЦК КПБ па ідэалогіі С. А. Пілатовіча. Дапамагла таксама станоўчая рэцэнзія на аповесць, дадзеная галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва» былым палітработнікам Л. Я. Прокшам. Але пасля выхаду «Круглянскага маста» ў тым жа годзе на рускай мове ў часопісе «Новый мир» на В. Быкава абрынуўся шквал крытыкі з боку былых чэкістаў і партызанскіх генералаў.

Навучаны гэтым горкім вопытам П. Н. Кавалёў, атрымаўшы ў 1970 г. негатыўны водгук цэнзара на аповесць «Сотнікаў», наадрэз адмовіўся яе публікаваць. Рашэння рэдактара не змяніла нават з'яўленне яе рускага перакладу ў «Новом мире» (1970. № 5). Беларускаіх літаратуразнаўцаў у цывільным надта раздражняў адыход аўтара ад тагачаснай чорна-белай канцэпцыі вайны. І толькі пасля таго, як прызначаны рэдактарам рукапісу Б. Сачанка зрабіў Сотнікава камуністам, пытанні зняліся і ў П. Н. Кавалёва, і ў Галоўліта, і ў ЦК КПБ.

Па аповесці В. Быкава «Воўчая зграя», звярстанай у сёмым нумары часопіса «Маладосць» (1974), Галоўлітам БССР рабіліся заўвагі ў сувязі з тым, што ў ёй «няправільна» трактаваліся прычыны здрадніцтва: «здрадніцтва апраўдвалася жаданнем людзей выратавацца ад смерці, выжыць любой цаной, неабходнасцю выканання загаду нямецкіх уладаў, гэта значыць, здрадніцтва сыходзіла не з характару чалавека, а з непазбежнасці абставінаў, якія склаліся,

вызначалася нібыта наканаванасцю лёсам». Цэнзары звярнулі таксама ўвагу і на тыя месцы аповесці, дзе праводзілася думка аб неапраўданых расстрэлах партызан іх камандзірамі, якія кіраваліся пры гэтым не фактамі і ўпэўненасцю ў поўнай вінаватасці чалавека, а толькі тым, што такі падыход да вырашэння лёсу байца «не дасць ніякіх сюрпрызаў». Уносіліся змены ў тыя старонкі, дзе карныя экспедыцыі супраць беларускага мірнага насельніцтва былі паказаны як акцыі, што праводзіліся выключна паліцэйскімі з мясцовага насельніцтва без немцаў і нават без іх загаду. На думку цэнзуры, «атрымлівалася, быццам бы вайна на тэрыторыі Беларусі ў гады нямецка-фашысцкай акупацыі ішла паміж сваімі, а немцы да гэтага не мелі ніякага дачынення» [41, арк. 18–22].

Падчас кантролю 11-га і 12-га нумароў часопіса «Маладосць» (1975) цэнзары звярнулі ўвагу яго рэдактара на негатыўную трактоўку вобраза генерала ў аповесці В. Быкава «Яго батальён». Гэты прадстаўнік вышэйшага камандавання не лічыўся з абставінамі і паслаў на верную, нічым не апраўданую пагібель цэлы батальён. «Міжволі паўстаюць пытанні, — пісаў цэнзар, — хто вінаваты ў пагібелі цэлага батальёна, навошта быў дадзены загад штурмаваць вышыню без усялякай папярэдняй падрыхтоўкі? І адказ можа быць толькі адзін: вінавата вышэйшае камандаванне, вінаватыя генералы. Гэта яны, галавацяпы, перашкаджаюць ваяваць з розумам, ваяваць пісьменна, ваяваць так, каб і перамогу

атрымаць, і людзей па магчымасці захаваць». З гэтай заўвагай рэдакцыя часопіса пагадзілася, і ў аповесць былі ўнесены адпаведныя праўкі [42, арк. 99–102].

Аповесць В. Быкава «Знак бяды» была ўпершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (1982. № 8). Потым ужо з часопіса «Дружба народов» Галоўлітам СССР яна здымалася двойчы. Магчымасць яе рускамоўнага перакладу ў Маскве абмяркоўвалася на самым высокім узроўні — у Палітбюро ЦК КПСС. Былы прэс-аташэ М. С. Гарбачова ў сваіх успамінах пісаў, што ў Палітбюро разгарнулася дыскусія паміж старшынёй КДБ СССР В. М. Чэбрыкавым, які патрабаваў забараніць аповесць як «падкоп пад калектывізацыю», і М. С. Гарбачовым, які лічыў яе «знакам вясны, абнаўлення, дэмакратызацыі». Аповесць дазволілі друкаваць у часопісе «Дружба народов», але папярэдне цэнзура з яе прыбрала найбольш вострыя месцы. А калі аповесць была падрыхтавана да выдання асобнай кнігай, то па патрабаванні сакратара ЦК КПСС Я. К. Лігачова з яе былі зноў выкінуты сцэны раскулачвання і высылкі. Па словах аўтара, «цэнзары выдатна адчувалі, дзе быў “знак бяды”, і дужа імкнуліся, каб таго не сцяміў чытач» [10, с. 292–293]. Галоўліт нават патрабаваў зняць з супервокладкі кнігі выяву забітай птушкі, як надта змрочны сімвал.

Адным з першых надыход «халадоў» таксама адчуў на сабе сябра В. Быкава — А. Карпюк, які ўпарта бараніў сваю чалавечую годнасць, права вольна выказваць свае думкі. Пачатак закручвання ў БССР

ідэалагічных гаек супаў з перадрукам у 1965 г. у беларускай эміграцкай газеце «Бацькаўшчына» надрукаванай у часопісе «Маладосць» (1965. № 2) яго аўтабіяграфіі пад назвай «Мая Джамалунгма». З гэтай нагоды на размову ў ЦК КПБ выклікалі галоўнага рэдактара «Маладосці» П. Панчанку і адказнага сакратара СП БССР М. Ткачова. А 24 верасня 1965 г. ЦК ЛКСМБ прыняў спецыяльную пастанову «Пра памылку часопіса “Маладосць”, які надрукаваў аўтабіяграфію А. Карпюка», дзе літаратурны твор назвалі «ідэйна шкодным і непаўнавартасным у мастацкіх адносінах» [39, арк. 48–53]. Тым не менш А. Карпюк не захацеў адмовіцца ад гэтага твора, натхнёнага ліберальнымі ідэямі часоў «адлігі». У выніку яго звольнілі з працы і ўключылі ва ўсе магчымыя чорныя спісы.

Адыход ад рэальнай карціны жыцця і скажонае адлюстраванне савецкага Палесся Галоўліт знайшоў у эсэ Ул. Караткевіча «Званы ў прадоннях азёр». Нягледзячы на шэраг заўваг па асобных месцах гэтага твора, зробленых пры чытанні папярэднім кантролем, нарысы былі надрукаваны ў 12-м нумары часопіса «Маладосць» за 1969 год без перапрацоўкі і выпраўленняў. Начальнік Галоўліта адразу ж сігналізаваў у ЦК: «Хаця па жанры гэты твор (эсэ) з’яўляецца навукова-гістарычным публіцыстычным нарысам, лічым, што аўтар аднабакова падышоў да паказу сённяшняга Палесся, сканцэнтраваў увагу чытача на другасных з’явах, а не на галоўных. Захапленне аўтара даўнінай і помнікамі, яго

занепакоенасць іх захаванасцю былі б цалкам зразумелыя, калі б Ул. Караткевіч усё гэта паказаў не ў адрыве ад апавядання аб новым сучасным абліччы гарадоў Палесся, аб тым, якія пераўтварэнні адбыліся за гады Савецкай улады ў гэтай некалі забытай ускраіне Расіі. Паводле нарыса ж ствараецца ўяўленне, што не людзі, іх справы і духоўны рост, а помнікі даўніны складаюць галоўны твар, галоўны гонар гэтага краю» [54, арк. 12].

Падобныя ж прэтэнзіі («ідэалізацыя жыцця і побыту вёскі») з'явіліся ў цэнзара Б. А. Сіланцьева, які ў 1977 г. чытаў гранкі кнігі Ул. Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі». Аргумент яго быў такі: «У гады вайны я быў у многіх беларускіх вёсках (хадзілі з маці прасіць міласціну) і бачыў усю іх галечу» [55, арк. 1–3].

З надыходам «застойнага» часу зрабілася немагчымым выкананне аўтарскай задумы трэцяга рамана І. Мележа цыкла «Палеская хроніка». Калі першыя два выйшлі ў 1962 і 1966 гг. без асаблівых цэнзурных канфліктаў, то праца над раманам «Завеі, снежань» расцягнулася на дзесяцігоддзе. Тлумачылася гэта шчырым імкненнем і ў той жа час немагчымасцю паказу рэальных фактаў гвалтоўнага раскулачвання, якія аўтар сам бачыў у дзяцінстве. У выніку раман з'явіўся ў друку з асабістага дазволу сакратара ЦК КПБ А. Т. Кузьміна толькі пасля смерці аўтара ў моцна прыгладжаным самацэнзурай і цэнзурай выглядзе [9, с. 13].

У 1965 г. Галоўліт зняў па палітычных меркаваннях з чацвёртага нумара часопіса «Маладосць» апавяданне маладога аўтара Б. Сачанкі «Сабакі». Цэнзар сфармуляваў сэнс забароненага апавядання наступным чынам: «Немцы і партызаны былі мясцоваму насельніцтву аднолькава чужыя» [39, арк. 46]. Праз дзесяць гадоў Галоўліт прапанаваў выдавецтву «Мастацкая літаратура» ўдакладніць ідэйную аўтарскую пазіцыю ў ацэнцы дзеянняў героя ўжо ў рамане «Чужое неба». У цэнтры твора — лёсы двух беларускіх сялян, якія апынуліся на акупаванай тэрыторыі ў гады апошняй вайны. Адзін пайшоў у партызаны, і яго сям’ю расстралялі, другі падпарадкаваўся абставінам, якія склаліся, і захаваў жыццё сваякоў. «Хто з іх абраў слушны шлях? На баку каго сімпатыі аўтара?» — запытваў цэнзар у рэдактара. Пагадзіўшыся з важнасцю гэтых пытанняў і зрабіўшы некаторыя нязначныя праўкі, выдавецтва, тым не менш, здолела надрукаваць раман без удакладнення аўтарскай пазіцыі [42, арк. 99–102].

Няпростыя адносіны з цэнзурай былі ў беларускага паэта і перакладчыка В. Тараса. Адно з яго першых апавяданняў «Апошняя карова» было выкінута папярэдняй цэнзурай з гранак часопіса «Неман» (1966. № 1). У ім аўтар узгадваў тое, што бачыў у дзяцінстве ў партызанскім атрадзе, байцы якога, каб пазбегнуць голаду, забралі ў безабароннай сялянкі апошнюю карову. Праз тры гады гэта апавяданне надрукаваў часопіс «Юность», пасля чаго яно атрымала міжнародную вядомасць [77, с. 286].

З вялікімі цяжкасцямі пры праходжанні праз цэнзуру ўласных наватарскіх па змесце і метадзе мастацкіх твораў сутыкаўся А. Адамовіч. Ужо ў 1969 г. загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцэлеў дакараў А. Адамовіча за надрукаваны ў 3-м і 4-м нумарах часопіса «Полымя» крытычны артыкул, дзе ён паспрабаваў агульнасцю ідэйна-мастацкай праблематыкі аб’яднаць такіх не падобных адзін на аднаго пісьменнікаў, як Ф. Дастаеўскі і К. Чорны, і ад іх працягнуць лінію да сучаснай філасофіі экзістэнцыялізму [47, арк. 118]. У сярэдзіне 1970-х гг. партыйнае кіраўніцтва Ленінграда катэгарычна адмовіліся друкаваць рукапіс «Блакаднай кнігі» А. Адамовіча (сумесна з Д. Граніным). Маскоўская ж цэнзура дала рэдакцыі «Нового мира», якая прыняла тэкст да публікацыі, ажно 65 заўваг. У рукапісе дакументальнай аповесці А. Адамовіча «Караці» ўжо беларускія цэнзары звярнулі ўвагу на месца, дзе праводзілася, на іх думку, нічым не апраўданая аналогія жорсткасці нацыстаў з унутранымі падзеямі ў камуністычных Кітаі і Камбоджы ў 1970-х гг.[27]

Складаныя адносіны з цэнзурай ад пачатку творчага шляху былі ў С. Алексіевіч, якая развівала ўнікальны дакументальна-мастацкі метад А. Адамовіча. Набор яе першай кнігі «Я уехал из деревни» (маналогі людзей, якія з’ехалі з родных мясцін) быў рассыпаны па загадзе ідэалагічнага кіраўніцтва рэспублікі. У 1983 г. беларускія ідэолагі зноў абвінавацілі яе — на гэты раз ужо ў пацыфізме,

натуралізме, развянчанні гераічнага вобраза савецкай жанчыны ў толькі скончаным рукапісе кнігі «У войны не женское лицо». Публікацыя яго была прыпынена. У наступным годзе такі ж лёс напаткаў рукапіс «Последние свидетели». Абедзве кнігі ўбачылі свет з цэнзарскімі і рэдактарскімі купюрамі ў 1985 г., у аўтарскай версіі — ужо ў 2000-я гг. [80, с. 14].

Значныя складанасці з праходжаннем праз Галоўліт БССР знакамітай кнігі «Память о легендах» (Мінск, 1984) былі ў К. Тарасава. У выніку вытручвання тых месцаў, якія не ўкладаліся ў марксісцкую канцэпцыю гісторыі Беларусі, аўтарскі рукапіс скараціўся амаль на цэлы друкаваны аркуш. Зніклі месцы, дзе пісалася пра пагаршэнне становішча жыхароў Беларусі пасля далучэння да Расійскай імперыі, пра ўніяцтва як нацыянальную царкву беларусаў, пра В. Дуніна-Марцінкевіча і Я. Коласа, якія пісалі свае творы ў мінскай турме, пра адукацыйную дзейнасць езуітаў і інш. І нават у падобным скалечаным выглядзе выхад кнігі К. Тарасава выклікаў спецыяльны загад Дзяржкамдруку БССР «Аб памылках у літаратуры па краязнаўстве, надрукаванай выдавецтвам “Полымя”» [16, с. 202].

У падрыхтаванай у 1978 г. выдавецтвам «Мастацкая літаратура» кнізе класіка беларускай дзіцячай літаратуры В. Віткі «Дзеці і мы» правіліся замалёўкі-развагі аўтара «Вольны час — куды яго дзець?» і «Давайце падумаем...». У першай з іх, меркаваў цэнзар, давалася карыкатурная карціна агульнага культурнага ўзроўню сучаснага гарадскога

насельніцтва, схільнага толькі да пустога баўлення часу, футбольных жарсцяў і хаджэнняў па «гумах» і «цумах». У другой сродкам масавай інфармацыі быў прыпісаны негатыўны ўплыў на разумовае, эстэтычнае і маральнае выхаванне чалавека [56, арк. 3–9].

У сваім рамане «Жыццё — не тут» М. Кундэра пісаў, што дыктатары, аўтарытарныя рэжымы любяць паэзію і паэтаў, таму што ў адрозненне ад празаікаў яны не тлумачаць сусвет, а ствараюць яго вобразы. Развіваючы гэтую думку класіка, дададзім, што вершаваная прадукцыя савецкіх літаратараў таксама прыцягвала асаблівую ўвагу ідэолагаў і цэнзараў. Тлумачылася гэта перш за ўсё тым, што паэзія лепш за прозу была прыстасавана да міфалагізацыі мінулага і дэманстрацыі тагачасных «дасягненняў сацыялізму».

У 1968 г. з паэмы Р. Барадуліна «Блакада», якая атрымала шырокі розгалас, Галоўліт БССР выкрэсліў наступныя радкі:

Не грэюць паддзеўкі паношаныя,
Сагрэюць курорты паўночныя.
З асцярогаю партызан колішні
Пазірае на малінавыя аколышкі
[5, с. 293].

Яго сатырычную паэму «Смаргонская акадэмія» не пускалі нікуды каля дзесяці гадоў. Не друкавалі таксама верш «Мая мова».

З анталогіі беларускай паэзіі «Край паэтаў», прадстаўленай на кантроль у Міністэрства знешніх спраў БССР і падрыхтаванай да выдання ў ЮНЕСКА

ў 1974 г., былі зняты вершы П. Панчанкі «Родная мова» і «Раўнапраўе дрэў». У першым вершы аўтар выказваў непакой аб тым, што ў будучым беларуская мова можа знікнуць, што яна «аджывае век свой ціхі» і што гэту з’яву можа паскорыць чыйсьці загад. На думку цэнзара, «для падобнай высновы ў нашай савецкай рэчаіснасці няма аніякіх падстаў. Змяшчэнне ж гэтага верша ў падобным выданні дало б зачэпку розным буржуазным нацыяналістам весці размовы пра прыгнёт беларускага народа як нацыі». Другі верш, на густ паліткантралёраў, таксама вызначаўся глыбокім песімізмам. З анталогіі знялі таксама верш П. Макаля «Скарга цвіка», у якім алегарычна паказвалася бяспраўнае становішча простага савецкага чалавека [41, арк. 18–22].

У тым жа годзе цэнзура спыніла зборнік вершаў К. Цвіркі «Каласы», падрыхтаваны выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Вока паліткантролю зачапіў верш «Сонцаход», у якім «аўтар скажона малюе службова-грамадскія адносіны паміж кіраўнікамі і падначаленымі. З пункту гледжання аўтара, лёсамі людзей распараджаюцца “Самы, Замы, Завы” — распараджаюцца па ўласным капрызе. Патрабуюць ад падначаленых “са сваёй вышыні, каб выконвалі кожнае іх жаданне, каб маўкліва выслухвалі іх любую хлусню, каб забывалі сябе і поўзалі перад імі як чэрві”. У падначаленага ж чалавека застаецца толькі адно права: падаць заяву аб звальненні з працы па ўласным жаданні». Другі верш зборніка, які

забракаваў Галоўліт, не падыходзіў па сваёй назве («Мы гінем») [41, арк. 18–22].

Са зборніка П. Панчанкі «Крык сойкі», які быў прадстаўлены на цэнзурны кантроль у наступным годзе таксама выдавецтвам «Мастацкая літаратура», былі зняты чатыры вершы — «То ў надзеях, то ў скрусе», «Змоўкнуў жураўліны скрып калысак», «Я гаварыў занадта гучна», «Мала вар'яцтва ў нашай паэзіі». У іх, па словах цэнзара, «аплаквалася патрыярхальнае мінулае беларускага народа, у змрочных танах паказваўся жыццёвы шлях савецкага чалавека. У першым вершы чалавек, "нібы конь той, па крузе" ўсё ідзе, няма для яго ніякага прасвету і дарэмныя ўсе чалавечыя памкненні. У другім вершы не было заўважана ўсё новае і прагрэсіўнае, што прыйшло ў беларускую вёску разам з паляпшэннем дабрабыту людзей, на што накіраваны намаганні партыі. Замкнутыя, раз'яднаныя, бездухоўныя аказваюцца савецкія людзі ў трэцім вершы. Прычына гэтага ў саміх жыццёвых умовах: "Яны ні ў чым не вінаваты, / Яны такія як усе, / Іх слаўных, грэшных, дзіўнаватых / Жыццё шалёнае нясе". У чацвёртым вершы сцвярджалася, быццам бы савецкія паэты пазбаўлены свабоды творчасці. Усё загадзя разлічана і змадэлявана. Таму і паэзія дрэнная. "А хто цяпер на ражон палезе? / За Маякоўскім ісці, кажуць, позна. / Хто цяпер выскачыць з рэбраў уласных / І паспрачацца адважыцца з богам?" Назва зборніка "Крык сойкі" успрымаецца як крык паэта ад неўладкаванасці нашага жыцця» [42, арк. 99–102].

Чатыры вершы — «Лічаць абраннікі лёсу», «Мы — галіны», «Хто апошні», «Штодзень у мяне ўсяляюць» былі зняты са зборніка П. Макаля «Дотык да зямлі». Іх сэнс цэнзар зразумеў наступны чынам: «У іх у скажоным выглядзе паказваюцца адносіны паміж савецкімі людзьмі, кіраўнікамі і падначаленымі. Інваліды Вялікай Айчыннай вайны прадстаўлены людзьмі выключна чэрствымі, эгаістычнымі, якія ведаюць, як абысці іншых. Выказваецца пратэст супроць усіх формаў прапаганды і выхавання, якія існуюць у савецкім грамадстве» [42, арк. 99–102].

Талент А. Разанава, які вымагаў экзістанцыйных пошукаў, метафізічных роздумаў, яго заглыбленасць у сябе былі незразумелыя, недасягальныя для цэнзуры, а значыць, удвая небяспечныя. Рэспубліканскае ідэалагічнае кіраўніцтва гвалтоўна спыніла літаратурную дыскусію 1972 г., у фокусе якой былі яго творы. Сітуацыю абвастраў кожны новы зборнік А. Разанава. Нарэшце, пасля няўдалай спробы выдаць зборнік «Спадчына» са змешчанай там п’есай «Тутэйшыя» Я. Купалы [22, с. 211] будучаму лаўрэату Дзяржаўнай прэміі прышлося сысці з рэдакцыі «Мастацкая літаратура». Трэба адзначыць, што ў падмурку супрацьстаяння паміж А. Разанавым і цэнзурай палягалі хучэй ужо агульнакультурныя, а не палітыка-ідэалагічныя адрозненні.

Відаць, падобныя глыбінныя матывы рухалі цэнзарамі, калі яны ў 1984 г. забаранілі выданне паэтычнага зборніка А. Глобуса.

Асаблівую ўвагу цэнзуры прыцягвалі літаратурна-мастацкія часопісы, якія за гады «адлігі» сталі не толькі «кузняй майстэрства» маладых (а гэта значыць патэнцыяльна небяспечных) творцаў, але цэнтрамі прыцягнення грамадскай думкі. Галоўліт БССР у кожным разе інфармаваў аддзелы прапаганды і агітацыі, а таксама культуры ЦК КПБ альбо непасрэдна сакратара ЦК КПБ па ідэалогіі аб ідэйна-палітычных недахопах асобных твораў, што друкаваліся ў беларускіх тоўстых часопісах. Шкодныя творы або затрымліваліся і вярталіся на дапрацоўку, або здымаліся зусім. Па выніках цэнзуравання мастацкіх часопісаў іх рэдактараў рэгулярна выклікалі на выхаваўчыя размовы ў ЦК КПБ.

Са спасылкай на сакрэтную пастанову сакратарыята ЦК КПСС «Аб павышэнні адказнасці...» 25 жніўня 1970 г. А. А. Маркевіч дакладаў сакратару ЦК КПБ С. А. Пілатовічу аб ідэйна-палітычных хібах у матэрыялах, прынятых да друку ў рэспубліканскія літаратурныя часопісы. Да найбольш важных і прынцыповых недахопаў, на думку галоўнага цэнзара, адносіліся: 1) скажонае асвятленне некаторых з'яў савецкай рэчаіснасці; 2) скажэнне праўды аб партызанскай барацьбе на тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны і прыніжэнне герояў гэтай барацьбы; 3) прадузятае, аднабаковае асвятленне асобных з'яў і жыцця калгаснай вёскі.

А. А. Маркевіч далей канкрэтызаваў: «У нумарах 9 і 10 часопіса "Неман" за 1969 г. рыхтаваўся да друку

раман Э. Скобелева “Крокі за тваёй спінай”. Пасля яго прачытання папярэдні кантроль па ўзгадненні з агітпрапам ЦК КПБ вярнуў яго рэдакцыі на дапрацоўку. Сама ідэя рамана — савецкія людзі нібыта адмежаваны адзін ад аднаго нейкай непранікальнай сцяной, абыякавыя адзін да аднаго, жывуць у залежнасці ад выпадковых абставінаў, не маючы агульных мэтаў, — з’яўлялася памылковай... Раман быў населены вобразамі нейкіх ненармальных, душэўна хворых людзей, з’яўленне якіх у жыцці тлумачыцца абыякавасцю навакольнага асяроддзя. Значнае месца ў рамане было адведзена савецкай моладзі. І яе прадстаўнікі (за невялікім выключэннем) не бачаць яснай мэты ў жыцці, плывуць па плыні, збольшага марнуюць час у забавах, па-за працоўнай сферай, паддаючыся спакусам лёгкага жыцця. З націскам на ценевыя бакі ў рамане былі пададзены і вобразы камуністаў. Толькі пасля карэннай перапрацоўкі з улікам выказаных заўваг раман быў апублікаваны ў 11-м і 12-м нумарах часопіса “Неман”.

Скажэнне маральнага аблічча савецкага маладога чалавека змяшчалася таксама ў апавяданнях на маральную тэму А. Савелічава “Ідуць цягнікі” (альбо “Шчаслівы”) і “Трататушкі”, падрыхтаваных да друку ў № 9 за 1968 год і ў № 11 за 1969 год часопіса “Неман”. Галоўны герой апавядання “Ідуць цягнікі” — чалавек з хворай псіхікай. І, натуральна, ён не ў стане рэальна ўспрымаць навакольную рэчаіснасць. Ён хворы. Па сцвярджэнні ж аўтара, выходзіла, што

толькі чалавек, адхілены ад навакольнай рэчаіснасці, з хворым уяўленнем па-сапраўднаму шчаслівы. Усе астатнія персанажы апавядання — людзі і фізічна, і разумова нармальныя, але яны, па сцвярджэнні аўтара, беспрынцыпныя і маральна разбэшчаныя. Апавяданне “Трататушкі” — аб камасамольскай будоўлі. У ім і гераіня апавядання, і кіраўніцтва, і передавікі будоўлі паказаны як маральныя нябожчыкі. Нічога светлага, навокал — пошласць, бруд, п’янства, распуста. Брыгада выведзена як калектыў, які аб’яднаны толькі пляшкай. Кіраўнік будоўлі — чалавек стомлены ад усяго і заклапочаны толькі тым, каб хутчэй адтуль сысці. І ўвогуле праца нікому не дае радасці. Пасля заўваг абодва апавяданні рэдакцыя зняла з падрыхтаваных да друку нумароў.

Зняла рэдакцыя заверстаны ў другі нумар часопіса “Неман” за 1969 год нарыс А. Шумава “Ветэраны”. На наш погляд, у ім змяшчалася няправільная трактоўка сутнасці мерапрыемстваў партыі і ўрада, накіраваных на паляпшэне побыту інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны. З разваг аўтара, разваг герояў нарыса выходзіла, што савецкі ўрад толькі на словах праяўляе клопат аб інвалідах Айчыннай вайны, а аб увасабленні ў жыццё прынятых законаў і пастаноў не клапоціцца. Таму законы на месцах не выконваюцца. Мясцовыя ж органы савецкай улады ўсяляк імкнуцца ўшчаміць правы інвалідаў, а часам проста здзекуюцца з іх.

Скажэнне палітыкі нашай партыі па нацыянальным пытанні мела месца ў артыкуле В. А.

Круталевіча “Без народнай апоры”, падрыхтаваным для другога нумара часопіса “Полымя” за 1967 год — пра дзейнасць беларускіх нацыяналістаў адразу ж пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. У артыкуле змяшчаліся не зусім дакладныя, а часам вельмі заблытаныя палажэнні аўтара аб рашэнні партыяй нацыянальнага пытання ў Беларусі. Няправільна тлумачылася і ацэньвалася практычная дзейнасць партыйнай арганізацыі рэспублікі і яе асобных кіраўнікоў у галіне ажыццяўлення нацыянальнай палітыкі ў Беларусі ў першыя гады савецкай улады. Артыкул з нашай дакладной запіскай па гэтым пытанні быў дасланы на заключэнне дырэктару Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ тав. Ігнаценку. Ён паведаміў наступнае: артыкул сыры, недапрацаваны, змяшчае памылковыя палажэнні, яго трэба зняць на дапрацоўку. Па ўзгадненні з аддзелам агітацыі і прапаганды ЦК КПБ артыкул быў вернуты рэдакцыі...

Шэраг заўваг быў зроблены рэдакцыі часопіса “Маладосць” па рамане І. Навуменкі “Вецер у соснах”, з улікам якіх твор быў надрукаваны ў 4-м і 5-м нумарах за 1967 год. У прадстаўленым варыянце, насуперак гістарычнай праўдзе пра ўсенародны размах партызанскага руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, падзеі былі паказаны такім чынам, што складалася меркаванне: на барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ўзняліся не масы, а толькі адзінкі. Ды і самі партызаны прыніжаліся:

запушчаныя, брудныя, неголеныя, вашывыя. А там, дзе размова ішла пра здраднікаў — па рамане выходзіла, што ў мінулым гэта людзі, як правіла, альбо камуністы, альбо савецкія актывісты...

Няслушнае, скажонае адлюстраванне асобных з’яў у жыцці сучаснай калгаснай вёскі, перыяду калектывізацыі змяшчалася ў апавяданнях В. Дамашэвіча “Ля старых курганоў” (Маладосць. 1967. № 7), А. Кулакоўскага “На нем была телогрейка” (Неман. 1968. № 10), М. Капыловіча “Бечевка на чемодане” (Неман. 1969. № 12), у аповесці А. Васілевіч “Доля знойдзе цябе” (Полымя. 1967. № 1). Усе гэтыя апавяданні пасля выказаных намі заўваг рэдакцыі знялі, а ў аповесці А. Васілевіч уносіліся змены.

У апавяданні В. Дамашэвіча “Ля старых курганоў” жыццё калгасніка заходняй вобласці ў савецкі перыяд паказана змрочным, бязрадасным, а праца безвыходна цяжкай, нізка аплочваемай і мала чым адрознай ад працы селяніна пры буржуазна-прыгонніцкай Польшчы. Факт жа перасялення з хутароў у апавяданні быў пададзены такім чынам, што на калгаснікаў гэтае перасяленне нібыта клалася невыносным цяжарам, што вялікая фінансавая пазыка будзе вісець над імі многія гады, таму што дапамога з боку калгаса перасяленцам зусім нязначная, ды і не ўсім роўная. “А ўсё ж яшчэ бог няроўна дзеліць!” — падводзіць вынік герой апавядання разам з яго аўтарам.

У апавяданні А. Кулакоўскага “На нем была телогрейка” апісваецца самаахвярны ўчынак старога калгасніка, які дзеля выратавання калгаснага статка ўступае ў барацьбу з агнём. Сцэна ўручэння яму прэміі ў памеры 3-х рублёў выглядае як здзек з сумленнага чалавека. З нагнятаннем змрочных карцін намаляваны ў гэтай сцэне і ўсе кіраўнікі калгаснай гаспадаркі.

Аповесць А. Васілевіч “Доля знойдзе цябе” была надрукавана пасля ўнясення шэрагу правак у першым нумары часопіса “Полымя” за 1967 год. У аповесці ўзгадваўся перыяд калектывізацыі ў Беларусі, прычым падкрэслівалася, што сяляне ішлі ў калгасы пад пагрозай раскулачвання... Аднак аўтарскай ацэнкі гэтых з’яў як памылковых у творы не дадзена. Праз тры гады рэдакцыя часопіса “Неман” прадставіла гэтую аповесць у перакладзе на рускую мову для публікацыі ў № 3 за 1970 год. Аднак пры чытанні высветлілася, што ў прадстаўленым варыянце заўвагі не ўлічаны» [54, арк. 11–17].

Апавяданне В. Хамчук «Суседзі», звярстанае ў другім нумары часопіса «Маладосць» за 1974 г., выйшла без эпізода пра тое, як у гады вайны паліцэйскі расстрэльвае свайго суседа-селяніна, на якога ён жа з зайдрасці да яго былога жыцця данёс нямецкім уладам. Немцы ж, што прысутнічалі пры расстрэле, выглядалі падманутымі людзьмі, якія выконвалі чужую волю і то неахвотна, пад прымусам. Цэнзар тлумачыў сваё рашэнне тым, што «апавяданне гэта без правак магло быць выкарыстана

буржуазнымі ідэолагамі Захаду як ілюстрацыя для іх паклёпніцкіх выдумак пра тое, што на тэрыторыі часова акупаванай Беларусі была грамадзянская вайна і гінула вялікая колькасць людзей, у чым вінаватае было мясцовае насельніцтва». У рамане Б. Паўленкі «И нет дороги назад», звярстаным рэдакцыяй часопіса «Неман» (1975, № 1), цэнзура звярнула ўвагу на тыя месцы, дзе аўтар апісваў жорсткасці, якія суправаджалі калектывізацыю, рэпрэсіўныя меры, што ўжываліся пры ўмацаванні вытворчай дысцыпліны на заводах, дзе давалася эмацыйная ацэнка першых дзён вайны, кшталту: «Да Дня Перамогі дажыў бы не адзін мільён тых, хто застаўся на палях вайны з-за памылак генералаў». [41, арк. 18–22].

1 сакавіка 1977 г. А. А. Маркевіч дакладаў ужо новаму сакратару ЦК КПБ па ідэалогіі А. Т. Кузьміну аб рабоце Галоўліта з мастацкімі часопісамі:

«Раман І. Чыгрынава “Апраўданне крыві” (часопіс “Маладосць”. 1976. № 10, 11) па прапановах Галоўліта некалькі разоў правіўся ў тых месцах, дзе прыводзіліся двухсэнсоўныя выказванні герояў рамана адносна перадваеннай сітуацыі ў нашай краіне, якая малявалася толькі ў чорных фарбах. Уносіліся неабходныя выпраўленні ў тыя старонкі рамана, дзе нядобразычліва згадвалася аб актах інтэрнацыянальнай салідарнасці (наша дзяржава, маўляў, аказвае дапамогу іншым краінам на шкоду інтарэсам свайго народа і г. д.). Раман правіўся таксама ў тых месцах, дзе аўтар упарта вяртаўся да

фактаў асаблівых, лаяльных адносін нямецкіх уладаў да ваеннапалонных украінскай нацыянальнасці, якія нібыта меліся.

Не дазволена да публікацыі ў часопісе “Неман” (1976. № 12) “Аповесть пра Джэні і Джоне” Л. Вакулоўскай[28]. Аповесць напісана ў зласлівым тоне. На прыкладзе аднаго з раёнаў Украіны ў ёй ганіліся стыль і метады кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, подтасоўваліся негатыўныя факты з жыцця сучаснай вёскі.

У вёрстках урыўкаў “З новай кнігі” Я. Брыля, падрыхтаванай да друку рэдакцыямі часопісаў “Беларусь”, “Неман” і выдавецтвам “Мастацкая літаратура” па нашай прапанове тройчы правіўся тэкст, у якім настойліва праводзілася думка аб тым, што цяпер “шмат сапраўдных герояў-партызан адсунута ў цень, а то і прыбрана з дарогі”» [55, арк. 1–3].

Шмат увагі мастацкім часопісам надавалі цэнзары Галоўліта і ў наступныя гады. У справаздачы А. А. Маркевіча ў ЦК КПБ ад 26 снежня 1978 г. чытаем:

«У запісках Я. Брыля “Да творчай аўтабіяграфіі”, звярстаных у часопісе “Неман” (1978. № 2), правіўся тэкст з апісаннем сустрэчы аўтара ў 1957 г. з польскім пісьменнікам Л. Кручкоўскім на Нарачы: “На развітанне стары расчуліўся: “Ад вас як з дому еду ў нашу варшаўскую муць... Мы, старыя камуністы, адчуваем сябе там нібыта ў падполлі”. З запісак прыбралі таксама сказ: “Нягледзячы на нашу

бадзёрую статыстыку, у асяроддзі жыхароў Поўначы — нанайцаў — жыве спадчына мінулага — вялікі працэнт сухотаў, бытавыя пранцы”. У яго ж кнізе “Трохі пра вечнае: артыкулы, лірычныя нататкі, эсэ”, у адной з нататак прыводзілася цытата з дакументальнай аповесці М. П. Яругіна “Пра тых, хто выстаяў”: “О калі б гэтыя немцы і рускія сустрэліся б у іншым месцы, былі б, верагодна, добрыя знаёмыя, сябры. Але лёс кінуў іх у такое зачумленае месца, дзе чалавек перастае быць самім сабой. І яны забілі адзін аднаго не пазнаёміўшыся, не даведаўшыся, хто яны”. Цытата была прыбрана як праява пацыфізму.

Падчас кантролю вёрсткі часопіса “Неман” (1978. № 4) была затрымана аповесць Г. Папова “У гасцях добра, а дома лепш”, у якой шляхам супастаўлення жыцця на прыдуманай планеце і ў нашай краіне савецкая рэчаіснасць была паказана ў самым непрыглядным святле: тут і бюракратызм, і варварскія адносіны да акаляючага асяроддзя, і хабарніцтва, тут хтосьці будуе камунізм, а хтосьці сабе лецішча, тут больш турбуюцца аб касмічных справах, чым аб зямных. Аповесць аддалі на перапрацоўку.

Была звернута ўвага кіраўніцтва часопіса “Маладосць” на некалькі скажонае адлюстраванне пасляваеннай рэчаіснасці ў аповесці І. Навуменкі “Інтэрнат на Нямізе” (1978. № 10), ў прыватнасці — на тое месца, дзе распавядаецца пра наўмыснае замоўчванне прычын адступлення нашых войскаў да Волгі, аб паліцаях і ўласаўцах, аб надзвычайным усхваленні Вярхоўнага Галоўнакамандуючага.

Пры публікацыі часопісам “Неман” (1977. № 3, 4) “Перапіскі двух паэтаў” — А. Твардоўскага і М. Ісакоўскага былі зняты некалькі лістоў, змест якіх зводзіўся да дробных жыццёвых сварак, незадаволенасці з прычыны неўладкаванасці побыту, адсутнасці грошай, крытыкі з боку цэнтральных газет і інш.

Не была дазволена да друку ў часопісе “Маладосць” (1977. № 8) аповесць В. Гігевіча “Занадта мала было адчаю”, у якой дадзена скажоная карціна сучаснага савецкага грамадства: мары юнацтва аб жыцці, якое можна было б пражыць з карысцю для грамадства, разбіваюцца аб нашу непрыглядную рэчаіснасць. Савецкі лад жыцця пераўтварае людзей у мяшчан. Выйсця з гэтага становішча героі аповесці не бачаць.

У зборніку П. Панчанкі “Вячэрні цягнік” быў зняты верш “Хмары плаваюць над намі”, у якім свет сучасных людзей паказаны як адчужаны і раз’яднаны. Раней гэты верш здымаўся ў часопісе “Полымя” (1977. № 1)» [56, арк. 3–9].

Вельмі ўважліва цэнзура сачыла за развіццём беларускага літаратуразнаўства, адкідаючы ўсё тое, што не ўкладвалася ў марксісцкае разуменне гэтай дысцыпліны. Напрыклад, адзін з нарысаў кнігі Ул. Калесніка «Зорны спеў» быў забракаваны з-за таго, што ў ім давалася станоўчая ацэнка правасуддзю ў даваеннай Польшчы [42, арк. 99–102]. У яго ж кнізе «Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычныя традыцыі ў беларускай паэзіі» выявіліся больш

сур’ёзныя ідэалагічныя адхіленні. На с. 35 правіўся тэкст, дзе была зроблена спроба палітычнай рэабілітацыі паэта А. Гаруна — «нацыяналіста і ворага беларускага народа перыяду грамадзянскай вайны». На с. 133 змяшчалася «няслушнае» сцверджанне, што да глыбінных памкненняў беларускага народа ў дакастрычніцкі перыяд адносілася жаданне мець незалежнасць ад рускай школы [56, арк. 3–9].

Літаратуразнаўчае даследаванне доктара філалагічных навук члена-карэспандэнта В. А. Каваленкі «Агульнасць лёсаў і сэрцаў. Беларуская проза пра Вялікую Айчынную вайну ў кантэксце рускай і іншых літаратур» стала прычынай спецыяльнага даклада А. А. Маркевіча загадчыку аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ С. Я. Паўлаву ў кастрычніку 1985 г. Павышаная ўвага цэнзуры да гэтай манаграфіі, падрыхтаванай дырэктарам Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР для публікацыі ў выдавецтве «Навука і тэхніка», была выклікана двума абставінамі: яе тэмай і шырокай мэтавай аўдыторыяй (было запланавана яе выданне таксама на рускай мове). А. А. Маркевіча абурыла нацыяналістычная («змагаючыся ў спецыфічных умовах партызанскай вайны, народ умацоўваў традыцыі нацыянальнага духу») і пацыфісцкая («у сваёй глыбейшай сутнасці забойства ворага таксама з’яўляецца забойствам чалавека») рыторыка рукапісу. Акрамя таго, цэнзар знайшоў у ім хрысціянскія матывы («Пакуты і боль — гэта таксама крыніца дзеяння і барацьбы»), заклікі адмовіцца ад

спрошчаных поглядаў на асобу Сталіна ў мінулай вайне. Пасля рэдакцыйнай перапрацоўкі кніга В. А. Каваленкі выйшла ў значна спрошчаным выглядзе [57, арк. 6–9].

Па камандзе з ЦК КПБ у выдавецтве «Беларусь» рассыпалі набор кнігі крытыка С. Андраюка пра беларускую прозу другога пасляваеннага дзесяцігоддзя [8, С. 176].

Заўсёды няпростай справай для літаратуразнаўцаў была падрыхтоўка да выдання літаратурнай спадчыны. Нават калі рыхтаваліся да выдання творы заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры, Галоўліт даваў філолагам «майстар-класы» тэксталагічнага аналізу. Напрыклад, у 1978 г. з 13-га тома «Збора твораў» Я. Коласа, падрыхтаваным выдавецтвам «Мастацкая літаратура», былі выкрэслены радкі з ліста песняра пра тое, што мясцовае насельніцтва ў Сярэдняй Азіі ў 1941 г. ставілася да беларусаў горш, чым да масквічоў ці ўкраінцаў [56, арк. 3–9].

Пасля прыходу да ўлады Ю. У. Андропава ў СССР былі зроблены захады па ўмацаванні дысцыпліны, у тым ліку ў сферы ідэалогіі. Узмацнілася барацьба з іншадумствам. Шмат хто з партыйных і дзяржаўных кіраўнкоў зразумеў гэта як вяртанне да сталінскіх часоў. «Замаразкі» па інэрцыі працягваліся і ў час праўлення старога і хворга К. У. Чарненкі. 12 кастрычніка 1984 г. М. Дубянецкі пакінуў у дзённіку такі запіс: «Адносіны з цэнзураю абвастрыліся. У апошні час бадай што няма дня, каб нас не распіналі

за “палітычную блізарукасць”, “своечасова ўбачаную” Галоўлітам... Гэтымі днямі не далі дазвол на альманах “Дзень паэзіі — 84”, у якім палічылі непажаданымі вершы Ул. Караткевіча “Разведчык”, А. Глобуса “Браты”, “Сцяна”, адзін ліст Паўлюка Труса да Пятра Глебкі і слова “смерш” у артыкуле А. Вялюгіна пра творчасць Р. Няхая. На другі ж дзень затрымалі зборнік Міколы Арочкі, учора такі ж самы лёс напаткаў зборнік Дануты Бічэль-Загнетавай, сёння — Міколы Маляўкі... 10 кастрычніка, пазаўчора, была “ідэалагічная” нарада ў ЦК КПБ. На ёй выступіў начальнік Галоўліта БССР А. Маркевіч. Ён расказаў, як цэнзура пад ягоным кіраўніцтвам дапамагае партыі “ратаваць чытача ад тлятворных уплываў варожай ідэалогіі”. Асаблівы акцэнт зрабіў на “частыя спробы працягнуць чужыя нам погляды” ў мастацкай літаратуры» [16, С. 209].

У тым жа годзе цэнзар Галоўліта БССР В. Пепаляеў, выступаючы на адным з семінараў у Гродне, ахарактарызаваў Ул. Караткевіча ледзь не як ворага народа, пасля чаго хуткая дапамога забрала пісьменніка ў рэанімацыю [27, С. 181].

Пачынаючы з 1985 г., ва ўмовах дэмакратызацыі грамадскага жыцця і абвешчанай галоснасці, партыйныя ідэолагі імкнуліся ўсімі сродкамі захаваць губляемы кантроль над прыгожым пісьменствам. На працягу 1988 г. Галоўліт БССР забараніў друкаваць па палітыка-ідэалагічных матывах паэму І. Ласкова «Чэрвень» (Літаратура і мастацтва. № 7), нарыс Г. Бубнава «А правда все же посередине» (Неман. № 9),

артыкул В. Хомчанкі «Прагулка па Ленінскаму праспекту» (Літаратура і мастацтва. № 35) [49, арк. 12].

З прамымі цэнзурнымі забаронамі падчас перабудовы рэгулярна сутыкаўся Г. Бураўкін. Чарнобыльскую нізку «Брагінская вясна–1986» і шэраг вершаў, якія атрымалі агульны загаловак «Запісы з дальняй шуфляды», ён змог надрукаваць толькі пасля скасавання Галоўліта [8, с. 345]. В. Быкава яшчэ ў 1988 г. па патрабаванні ЦК прымушалі перапрацоўваць прадмову да факсімільнага выдання «Матчынага дару» А. Гаруна [21, с. 235]. З першых творчых крокаў спазнаў цэнзурныя абмежаванні Ул. Арлоў. Напрыклад, яго апавяданне «Маналог святога Пётры» на старонках «Літаратуры і мастацтва» пераўтварылася ў «Маўклівы маналог». Аўтару патлумачылі, што прысутнасць святых у літаратурных творах непажадана.

У разглядаемы час асноўныя высілкі цэнзараў, адказных за кантроль мастацкай літаратуры, былі скіраваны на новыя творы, якія дагэтуль ніколі нідзе не друкаваліся. Разам з тым дзейнічалі старыя даваенныя забароны. Напрыклад, Галоўліт дазволіў да друку толькі ў зменёным выглядзе альбо ўвогуле забараніў да 150 твораў Я. Купалы. Адзін з іх — верш «А хто там ідзе?», выдадзены да 100-годдзя паэта асобнай кніжкай у выглядзе анталогіі-перакладу на 82 мовы, забараніла асабіста намеснік старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова. Як патлумачылі пазней укладальніку анталогіі

літаратуразнаўцу В. П. Рагойшу, прычына забароны была палітычнага кшталту. Пераклад купалаўскага верша на рускую мову быў пастаўлены ў кнізе не на другім месцы, пасля арыгіналу, але паводле алфавіта, пасля перакладу на румынскую мову. У выніку каля тысячы надрукаваных асобнікаў кнігі пайшлі пад нож.

Выдавецтвы павінны былі прадстаўляць на кантроль у Галоўліт усю сваю прадукцыю, нягледзячы на тое, што яе частка ўжо атрымала дазвол у папярэднія гады. У 1983 г. Я. Брыль запісаў: «Напісаны дваццаць год таму назад раман мой выдаецца з улікам перакладаў і перавыданняў ужо чатырнаццаты раз, і трэба зноў штосьці выкідаць з нейкіх часовых, злабадзённых “палітычных” меркаванняў... Як гэта ўжо, кажучы па-караткевічаўску, астабрыдла!..» [7, с. 137]. Напачатку 1982 г. Галоўліт БССР выявіў спробы П. Панчанкі даць у друк у аргінальным, не выпраўленым цэнзурай выглядзе свае вершы «То ў надзеях, то ў скрусе...», «Пазарасталі ўсе траншэі...», «Схема жыцця», «Спагада» [13, с. 171]. У 1984 г. аўтара прымусілі разам з рэдактарам перарабляць страфу ў вершы «Такія беларусы»:

*Аўтарская рэдакцыя Прымусовая рэдакцыя*

Мы вечна спяшылі: Мы вечна спяшылі:
Мы балоты ўсе асушылі, Мы багата балот асушылі,
І рэкі малыя Спрадвечныя багны
Асушкаю той задушылі. Каналамі ўсюды прашылі
[17, с. 227].

У 1985 г. Галоўліт БССР зрабіў шмат выкрэсліванняў у рамане М. Гарэцкага «Камароўская хроніка», падрыхтаваным для 4-га тома збору твораў пісьменніка [19, с. 232]. Моцна пацярпелі творы Ул. Дубоўкі 1920-х гг. пры іх перадруку ў аднатомніку, выдадзеным у 1959 г. У 1971 г. з адзінаццатага нумара часопіса «Неман» Галоўліт БССР зняў падборку ўжо надрукаваных у Маскве вершаў Я. Еўтушэнкі, дзе «двухсэнсоўна адлюстроўвалася савецкая рэчаіснасць» [46, арк. 17]. А ў 1983 г. у Галоўліце БССР правілі Ул. Маякоўскага (sic!), у прыватнасці выкінулі дзённікавы запіс пра яго сустрэчу з Брыкамі [14, с. 121].

Перш чым трапіць на стол цэнзара, літаратурны твор праходзіў праз сіта прэвентыўнай цэнзуры. Усе новыя творы абмяркоўваліся на секцыях Саюза пісьменнікаў БССР — паэзіі, прозы альбо драматычнай. За якасцю іх працы пільна сачыла партыйнае кіраўніцтва. Напрыклад, у 1947 г. працу саюза правярала камісія ЦК, якая моцна крытыкавала секцыі за рэкамендацыю да друку твораў нізкага ідэйнага і мастацкага ўзроўню — аповесці Р. Няхая «Дняпроўскія хвалі», апавяданняў П. Пестрака «Лясная песня», М. Даніленкі «Пачастунак», В. Зуба «Франтавыя таварышы» [31, арк. 104].

Шмат рукапісаў літаратурных твораў не даходзіла да Галоўліта, «бракавалася» ўжо на ўзроўні выдавецкай рэдактуры. Рэдактары імкнуліся прыбраць тое, што не ўкладвалася ў сацрэалістычны

канон або ідэалагічна невытрыманыя моманты твора, каб не раздражняць цэнзуру. Напрыклад, за 1946–1947 гг. Дзяржвыдат БССР «забракаваў» 11 рукапісаў кніг і зняў тры творы са зборнікаў. Некаторыя з іх былі сапраўды літаратурна слабыя. Некаторыя адкінулі з палітычных меркаванняў, у т. л. «Выбраныя вершы» А. Гаруна разам з прадмовай М. Ларчанкі («аўтар быў ярым нацыяналістам і эміграваў»), падручнік па беларускай літаратуры для 8-га класа М. Ларчанкі («аўтар, недастаткова падрыхтаваны метадалагічна, не здолеў даць марксісцкую перыядызацыю літаратуры, зрабіў націск на нацыянальныя моманты… адарваў гісторыю літаратуры ад гісторыі барацьбы класаў»), верш К. Цітова «Асколак», які «заклікаў да агульнага даравання нямецкіх злачынцаў» [31, арк. 25–27].

У 1948 г. рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР В. В. Барысенка зняў у рукапісу хрэстаматыі па беларускай літаратуры для 8-га класа пад рэдакцыяй С. І. Васілёнка прымаўкі «Грашмі і на тым свеце дагодзіш», «Стварыў бог чалавека, ды і сам каецца», замяніўшы іх казкай «Ленінская праўда». Акрамя таго, ва ўрыўку з «Новай зямлі» Я. Коласа В. В. Барысенку не падабаліся развагі пра нікчэмнасць чалавечага жыцця [34, арк. 30].

Як і ў даваенны час, асноўным прызначэннем беларускай літаратурнай крытыкі партыйнае кіраўніцтва бачыла аказанне дапамогі цэнзуры, а таксама інфармаванне ўлады пра ўсе прапушчаныя цэнзарамі па недаглядзе ці разумовай абмежаванасці

небяспечныя памылкі, папярэджанне магчымасці іх узнікнення ў будучым.

У сакавіку 1948 г. тагачасны галоўны літаратурны крытык рэспублікі загадчык аддзела літаратуры і мастацтва Упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б І. В. Гутараў запярэчыў падпісанню ў друк «Выбраных твораў» Я. Купалы. Пратэст І. В. Гутарава выклікалі дарэвалюцыйныя творы паэта, дзе меліся «двухсэнсоўныя заклікі, рэлігійныя матывы, песімізм... у прадмове — шкодная блытаніна ідэалагічнага кшталту». Галоўны літаратурны крытык таксама сігналізаваў пра «Выбраныя творы» З. Бядулі, куды Белдзяржвыдат механічна ўключыў антысавецкія творы, «ад якіх паэт адмовіўся пры жыцці» [32, арк. 42–44].

У наступным годзе другі літаратуны крытык, кансультант Упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б Е. І. Войніч так характарызаваў надрукаваныя Дзяржвыдатам БССР кнігі Я. Маўра «Шлях у цемры» і «У краіне райскай птушкі»: «У першай кнізе аўтар упэўнена размаўляе пра той свет як пра рэальна існуючы... У другой — аб’ектывізм у паказе каланізатараў-англічан і пагардлівае стаўленне да папуасаў. На стар. 50 аўтар сцвярджае, што мяса папуасскіх сабак “смачнейшае за мяса нашых сабак”. На чым заснавана гэтае дзіўнае заключэнне — невядома. Бо мяса сабак, як вядома, да ежы не прыдатнае» [35, арк. 97–106].

Пачатак эпохі «застою» адзначыўся спробаю партыйнага кіраўніцтва рэспублікі ажывіць цені Л.

Бэндэ, Я. Бранштэйна, А. Кучара, зноў мабілізаваць літаратурную крытыку на барацьбу з літаратарамі-іншадумцамі. 4 студзеня 1968 г. сакратар ЦК П. М. Машэраў атрымаў ад загадчыка аддзела культуры ЦК С. В. Марцэлева ліст пад назвай «Аб стане літаратурнай крытыкі ў Беларусі». У ім мы чытаем: «Далёка не ва ўсіх літаратуразнаўчых працах мінулае трактуецца з правільных пазіцый. Асабліва гэта тычыцца многіх рэцэнзій навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры АН БССР М. Прашковіча[29] (ідэалізацыя Брэсцкай уніі, Льва Сапегі, Боны Сфорцы, спроба рэабілітацыі А. Гаруна). Падобнага роду грубейшыя памылкі, калі пытанні гісторыі тлумачацца прамалінейна, бяздоказна і ў той жа час безапеляцыйна, дапускаліся і ў некаторых іншых матэрыялах нашых крытыкаў (Ул. Караткевіч — "Рша камен..." — ЛіМ. 1967. 4 ліпеня)... Крытык Д. Бугаёў, напрыклад, у рэцэнзіі на раман М. Гарэцкага "Віленскія камунары" (Неман. 1967. № 7) робіць папрок аўтару, што ён "насцярожна, робка піша пра беларускі нацыянальна-вызвольны рух у перадрэвалюцыйныя гады, нібыта не рашаючыся ва ўвесь голас сказаць пра яго агульную прагрэсіўную накіраванасць"... Першым водгукам на аповесць В. Быкава "Мёртвым не баліць" была рэцэнзія В. Бурана ў ЛіМе (1965. 28 верасня), дзе рэцэнзент і газета ахарактарызавалі аповесць як "мужнае і чэснае слова ў абарону чалавечнасці, словаў імя памяці мёртвых і грамадзянскай смеласці і прынцыповасці

жывых”. Крытык А. Яскевіч без усялякага аналізу аповесці А. Адамовіча “Вікторыя”, якая мае пэўныя пралікі, з-за якіх не выйшла асобным выданнем, сцвярджае, што “з твораў апошніх гадоў сур’ёзным заглыбленнем у жыццё вылучаецца аповесць А. Адамовіча “Вікторыя” (Маладосць. 1967. № 9). У пісьменніцкім асяроддзі вядзецца шмат размоў вакол творчасці Ул. Караткевіча, але пакуль фактычна не зроблена сур’ёзнага аналізу яго твораў, такога аналізу, які б з дакладных ідэйна-мастацкіх пазіцый раскрыў тое станоўчае, што ёсць у творчасці пісьменніка, і даў прынцыповую крытыку таму недарэчнаму, што маецца ў яго творах... некаторыя крытыкі (В. Каваленка) у сваіх сцвярджэннях дайшлі да таго, што вынайшлі нават “антыкультаўскую ідэалогію”, якая, на іх думку, з’яўляецца падмуркам пафасу творчасці маладых літаратараў, выхаваных у апошнія гады... А. Лойка, А. Мальдзіс, М. Ларчанка захопленыя далёкім мінулым, ігнаруюць сучаснасць». У заключэнні С. В. Марцэлеў прапануе Саюзу пісьменнікаў БССР і Інстытуту літаратуры АН БССР зрабіць захады па актывізацыі крытыкі і павышэнні яе навукова-тэарэтычнага, марксісцкага ўзроўню [45, арк. 1–11].

Спробы мабілізаваць крытыку на барацьбу з іншадумцамі мелі абмежаваны, кароткатэрміновы эфект, накшталт з’яўлення ў 1969 г. у беларускай перыёдыцы артыкулаў А. Агеева і І. Мацяшова, дзе крытыкаваліся творы В. Быкава. 21 студзеня 1972 г. выйшла пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-

мастацкай крытыцы», на якую зацікаўленыя міністэрствы, навуковыя ўстановы, творчыя саюзы адгукнуліся наборам дзяжурных мерапрыемстваў.

У апазіцыі «літаратура і ўлада» фігура цэнзара была важнай, але не вызначальнай. Ад асобы таго, хто займаў пасаду цэнзара, залежала няшмат. Цэнзура нагадвала сакрэтны ўніверсальны механізм, цалкам пазбаўлены індывідуальнасці — на кнігах, газетах, любой друкаванай прадукцыі замест прозвішча цэнзара пазначаўся яго нумар. Цэнзурны механізм дазваляў толькі карэкціраваць, але не накіроўваць ці тым больш фарміраваць інфармацыйныя плыні. Гэтым займалася, разглядаючы мастацкую літаратуру як важны прапагандысцкі сродак, вышэйшае партыйнае кіраўніцтва. У беларускай мемуарнай літаратуры захавалася нямала згадак пра тое, як партыйныя правадыры непасрэдна ўмешваліся ў літаратурны працэс.

Неўзабаве пасля завяршэння сваёй арыгінальнай і вострай п’есы «Пагарэльцы» (першапачатковая назва «З кірмашу»), А. Макаёнак зразумеў, што крыху з ёю спазніўся. На двары стаяў 1967 год, і тэма знікнення лепшых людзей у выніку сталінскіх рэпрэсій стала ўжо небяспечнай. Прадбачыўшы вялікія складанасці пры праходжанні свайго тэксту праз Галоўліт, А. Макаёнак нанёс удар на апярэджанне. Пасля прачытання п’есы ў вузкім коле сяброў ён занёс яе на ідэалагічную экспертызу П. М. Машэраву. Той параіў пачакаць і з публікацыяй, і з пастаноўкай. Калі ж п’еса нарэшце дайшла напачатку 1980-х гг. да

чытачоў і гледачоў, дык пра сталінскія рэпрэсіі яны ўжо толькі здагадваліся з падтэксту — напрыклад, з рэплік герояў «Жыць стала лепей, таварышы, жыць стала весялей!» альбо «Кадры рашаюць усё» [9, с. 315].

У снежні 1981 г. нечакана для ўсіх Галоўліт БССР затрымаў другую кнігу рамана «Петраград–Брэст», прадстаўленую на кантроль часопісам «Полымя». Неспадзяванкай гэта падавалася перш за ўсё аўтару рамана — ужо недатыкальнаму ў той час Старшыні Вярхоўнага Савета БССР, народнаму пісьменніку БССР, Герою Сацыялістычнай Працы І. Шамякіну. Насамрэч негатыўная рэакцыя цэнзуры на рукапіс тлумачылася даволі проста. І. Шамякін закрануў у ім адну з табуіраваных тэм савецкай гісторыі, а менавіта — дзейнасць Л. Д. Троцкага на пасадзе Наркама замежных спраў. І Галоўліт адразу ж прызямліў народнага абранніка на грэшную зямлю. Аднак яго статус вымагаў не механічнага выкрэслівання непатрэбных фрагментаў, а папярэдняй навуковай экспертызы тэксту і яго абмеркавання на вышэйшым узроўні. Першае было зроблена ў Інстытуце марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС, другое — у ЦК КПБ. У выніку гэтых абмеркаванняў і наступных рэдактур вобраз Л. Д. Троцкага фактычна знік са старонак рамана, пасля чаго твор быў надрукаваны. У цэнзурнай гісторыі рамана «Петраград–Брэст» ёсць яшчэ адзін павучальны сюжэт, які ўзгадвае І. Шамякін на старонках сваіх дзённікаў. Яшчэ да таго як беларуская цэнзура затрымала другую частку

рамана, аўтар па-сяброўску перадаў яе рукапіс для перакладу на рускую мову куратару агульнасаюзнага Галоўліта ў ЦК КПСС, злому генію беларускай літаратуры У. М. Сеўруку. Адразу пагадзіўшыся, той адаслаў рукапіс рамана назад аўтару без тлумачэнняў пасля першых звестак пра яго праблемы [78, с. 330, 332].

У 1984 г. пытанні «выхавання» А. І. Мальдзіса[30] і ўсталявання кантролю за яго навуковай дзейнасцю разглядаліся ў кабінеце сакратара ЦК КПБ па ідэалогіі А. Т. Кузьміна ў прысутнасці кіраўніцтва АН БССР. Прычынай гэтага быў спынены цэнзурай рукапіс артыкула вучонага, напісаны па слядах каманзіроўкі ў Вялікабрытанію, у якім А. Макмілін быў названы «вядомым славістам», а В. Рыч[31] «таленавітай паэтэсай» [15, с. 175].

Першы сакратар ЦК КПБ К. Т. Мазураў ў адным са сваіх публічных выступленняў спачатку раскрытыкаваў, а потым даў асабісты дазвол на публікацыю апавядання І. Чыгрынава «Маці». Загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК С. Я. Паўлаў у сваім кабінеце праводзіў выхаваўчыя размовы з В. Быкавым, А. Адамовічам, С. Алексіевіч і інш.

У чэрвені 1973 г. у аддзел культуры ЦК КПБ былі выклікааны дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» М. Г. Ткачоў і галоўны рэдактар А. П. Кудравец, дзе ім было прапанавана «ў сувязі з пераацэнкай некаторых з’яў і імёнаў у літаратурным

працэсе 1920–1930-х гг.» па ўзгадненні з кіраўніцтвам Саюза пісьменнікаў Украіны прыбраць з рыхтуемай да выдання «Анталогіі ўкраінскай савецкай паэзіі» вершы У. Свідзінскага[32], М. Зерава[33], М. Драй-Хмары[34], а таксама Я. Плужніка[35]. Гэтая размова адбылася па выніках ліставання С. В. Марцэлева са сваім калегам з ЦК КПУ, які і вызначыў імёны непажаданых для анталогіі паэтаў [48, арк. 48].

У 1972 г. лёс гумарыстычнай аповесці кінарэжысёра Ул. Арлова «Смоліна — у год калі былі геолагі», знятай Галоўлітам з сёмага нумара часопіса «Неман», з падачы тагачаснага рэдактара часопіса А. Макаёнка вырашалі персанальна першы і другі сакратары ЦК КПБ — П. М. Машэраў і А. Т. Кузьмін. Вырашылі кампрамісна — аповесць з'явілася ў часопісе ў жніўні 1975 г. у выпраўленым выглядзе [2, с. 138].

Забарона на друкаванне твораў Л. Геніюш была знята ў сярэдзіне 1970-х гг. пасля яе ліста П. М. Машэраву, што, канешне, не абараніла аўтара ні ад павышанай увагі рэдактараў-цэнзараў, ні ад насцярожана-варожага стаўлення афіцыйнай крытыкі (вялікі артыкул М. Прашковіча «Шлях паэта» пра творчасць Л. Геніюш быў адхілены часопісам «Полымя») [4, с. 5].

Згодна з тагачаснымі правіламі, творы партыйных кіраўнікоў не падлягалі палітрэдактуры ў Галоўліце. Вычытваць рукапісы твораў вышэйшых партыйных

кіраўнікоў, якія ствараліся з дапамогай правераных літработнікаў, прызначаліся спецыяльныя рэдактары з вялікім вопытам. Барацьба за ідэалагічную вытрыманасць рукапісаў забірала ў іх усе сілы, і тады час ад часу на старонкі кніг праслізвалі звычайныя «ляпы». Напрыклад, у першым выданні сваіх успамінаў К. Т. Мазураў даверліва паведамляў чытачу, што яму падабаецца «Новая зямля» Я. Коласа, «дзе паэт паказаў людзей паслярэвалюцыйнай Беларусі» [26, с. 47].

Набліжанасць да партыйнай вярхушкі не выратоўвала літаратараў ад працэдуры праходжання іх твораў праз сіта палітычнай цэнзуры. У гэтым упэўніўся памочнік сакратара ЦК КПБ па ідэалогіі В. У. Болтач (В. Блакіт), прапанаваўшы ў 1970-я гг. часопісу «Маладосць» сваю аповесць «Адчай». Падчас працы над ёю, у адпаведнасці са сваёю пасадаю, ён добра ведаў галоўлітаўскі «Пералік звестак, забароненых для друку...». Але неўзабаве В. У. Болтач са здзіўленнем зразумеў, што для праходжання твора ў друк гэтага ведання мала. «Аказалася, што “перечень перечнем”, а “літаўскія” жанчынкі, кіруючыся нейкім іншым, таемна спушчаным ім “перачнем”, праяўляюць куды большую ідэйную вытрымку і рэвалюцыйную пільнасць, чым аўтар, які ў Маскве стацыянарам з чырвоным дыпломам закончыў ВПШ пры ЦК КПСС і займае пасаду загадчыка сектара ЦК. Ды што казаць пра мяне ці Быкава, калі яны “літавалі” нават самога

Машэрава. Насамрэч нейкая д'ябальская сіла стаяла за гэтымі "літаўскімі" жанчынкамі...» [6, с. 209].

Выданню некаторых літаратурных твораў перашкаджаў Дзяржаўны камітэт па друку пры Савеце Міністраў БССР (Дзяржкамдрук). Напрыклад, у 1975 г. старшыня камітэта зрабіў 96 заўваг аўтарам кнігі «Я з вогненнай вёскі». У 1987 г. адпаведна яго загаду запланаваны да друку ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» двухтомнік выбраных твораў М. Стральцова пераўтварыўся ў аднатомнік.

У найбольш складаных выпадках у працэс ідэалагічнага выпраўлення літаратурных твораў і іх аўтараў па-ранейшаму ўключаліся сакрэтныя службы. Супраць публікавання ў 1965 г. у «Новом мире» аповесці «Мёртвым не баліць» выступаў старшыня КДБ СССР У. Я. Сямічасны, які ніколі не ваяваў на фронце. У 1983 г. на карэктуру рамана «Свае і чужыя» І. Чыгрынава КДБ БССР даслала ў выдавецтва «Мастацкая літаратура» 52 заўвагі, што займалі сорак дзве старонкі машынапісу [14, с. 119].

Думка пра тое, што дрэнная ўлада ў асобе цэнзуры прыгнятала безабаронных пісьменнікаў, справядлівая, але сёння ўжо неарыгінальная і відавочна недастатковая. З боку пісьменнікаў была шчырая вера ў камуністычныя ідэалы і натуральнае жаданне «ўпісацца» ў дзеючую сістэму, страх пераўтварыцца ў маргінала і адкрыты цынічны сервілізм. Вось як піша пра гэта В. Быкаў: «У мірны ж час ужо не забівалі дзеля элементарнай патрэбы

выжыць, літаратарам не стралялі ў патыліцу. Затое шырока практыкавалася забойства іх твораў. Творы не друкавалі, за імі палявалі, рукапісы перахоплівалі на пошце, таемна аддавалі ў карныя органы, якія выносілі свае прысуды — і творам, і аўтарам. І рабілі тое не акупанты, ня людзі іншай нацыі ці рэлігіі, а свае — калегі, таварышы, нават сябры. Партыя не магла (а можа і не хацела) рабіць усю няўдзячную ўвогуле працу ўласнымі рукамі, рукамі сваіх штатных функцыянэраў, усіх гэтых сакратароў-глаўлітаўцаў-цэнзараў, чэкістаў у форме і ў штацкім, актывістаў ідэялагічных камісій, таму шырока карысталася паслугамі тых самых пісьменнікаў. Як тады гаварылі — літаратурных паліцаяў, і тое было дакладна. Усе рэдактары літаратурных (ды і астатніх) газэтаў і часопісаў, загадчыкі аддзелаў і рэдакцый, ці ня ўсе члены рэдкалегіяў і асобна давераныя рэцэнзэнты — былі зь ліку пісьменьнікаў, членаў СП, самі пісалі і друкаваліся ў тых самых органах, што і астатнія. Менавіта там яны і выкручвалі рукі ўсім іншым, хто не трапляў у іх кіраўнічае, як бы пастаўленае над літаратурай кола. Некаторыя гэта рабілі зь цьвёрдым бальшавіцкім перакананьнем, што так і трэба, што тое — у інтарэсах партыі і народу» [10, с. 214].

Дададзім, што ў беларускім савецкім пісьменніцкім асяроддзі быў супраціў цэнзурнаму прыгнёту. Існаваў самвыдат, найбольш вядомым прыкладам якога, напэўна, з'яўляецца паэма Н. Гілевіча «Сказ пра Лысую гару» з яе здзеклівай іроніяй і ўражлівай панарамай маральнай дэградацыі грамадства. Пісаліся

ў стол вершы «Падобны з твару да машчэй», «Даносчыку “са стажам”», няскончаная паэма «Свінцовы век» Ул. Дубоўкі, а таксама «Вячэрняе» Я. Брыля. Не прызначаліся для друку многія вершы-эпіграмы Г. Бураўкіна, напрыклад той, дзе аўтар высмейвае адразу трох генсекаў:

Якая гаспадарка не аслабне,
Як пакіруюць трэць стагоддзя ў ёй
Мікіта-кукурузнік,
Лёнька-бабнік
І Косця-пісар
З бандаю сваёй?!

[8, с. 347]

Асэнсоўваючы феномен палітычнай цэнзуры, трэба таксама памятаць пра ненапісаныя кнігі, якія засталіся на этапе творчых задум, пра няспраўджаных аўтараў, якія, не прымаючы ўмоў гульні, не здолелі надрукаваць ніводнага твора.

Але ўсё ж не адзін толькі супраціў і непрымірымыя канфлікты вызначалі адносіны ўлады ў асобе цэнзара і пісьменніка ў Савецкай Беларусі. На працягу другой паловы XX ст. паміж літаратарамі, рэдактарамі і цэнзарамі выбудавалася сістэма складаных ўзаемаадносін. Паводле дзеючых інструкцый, аўтары маглі кантактаваць з цэнзарамі толькі апасродкавана, праз рэдакцыі газет, часопісаў і выдавецтвы. Тым не менш штодзённая шматгадовая праца побач спрыяла персанальным знаёмствам, псіхалагічнаму ўзаемапранікненню, усталяванню пэўных адносін паміж прадстаўнікамі дзвюх прафесій. Адны

выконвалі сацыяльную ролю ахвяр, другія — катаў[36]. Паступова першыя і другія звыкліся з гэтымі ролямі, сталі неабходныя адзін аднаму. Часамі прымяралі на сябе сацыяльнае адзенне адзін аднаго. Жыццё складвалася такім чынам, што ў ахвяры з'яўляўся любімы кат, якому дазвалялася з яе здзеквацца. У ката — любімая ахвяра, якую ён ніколі не замучваў да смерці.

Р. Барадулін так піша пра гэта: «Прыгадваецца, наколькі пільнай была савецкая цэнзура і як ёй дапамагалі свае браты-пісьменнікі. Добраахвотна. На грамадскіх пачатках, так бы мовіць» [5, с. 294]. Падобную думку занатоўвае ў сваім дзённіку дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» М. Ф. Дубянецкі: «Вось дзе трагедыя — рэдактар і творца сталі памагатымі цэнзара» [12, с. 176]. Даючы рэцэнзію на паэтычны зборнік С. Крыўца, у красавіку 1971 г. П. Броўка ўхваліў яго як узор паэзіі барацьбы супраць белапольскіх акупантаў, але параіў выкінуць месцы пра пераходы С. Крыўца праз мяжу ў Савецкую Беларусь і перакідку яго назад. «Гэта трэба тлумачыць і нам, якія жылі ў той час, а малодшым будзе зусім незразумела. Ды і навошта!» [40, арк. 91].

Я. Брыль узгадваў, як у 1945–1946 гг. начальнік Галоўліта БССР Ф. І. Дадзіёмава разам са старшынёй праўлення СП БССР М. Лыньковым вырашылі пераадолець складанасці пры праходжанні яго твораў праз Галоўліт шляхам дадатковай працы пісьменніка з «рэпетытарам». Ф. І. Дадзіёмава загадала аднаму з

найбольш дасведчаных сваіх супрацоўнікаў чытаць рукапісы Я. Брыля перад іх здачай у выдавецтва. Такім чынам, пэўны час, акрамя рэдактарскага цэнзурнага і двух галоўлітаўскіх — папярэдняга і наступнага, рукапісы маладога аўтара праходзілі праз яшчэ адзін дадатковы фільтр — цэнзурна-педагагічны [7, с. 331]. Пры гэтым і обер-цэнзар БССР, і «галоўны» беларускі пісьменнік шчыра жадалі свайму таварышу палепшыць якасць яго літаратурнай працы.

Р. Барадулін без ценю іроніі ўдзячным словам узгадвае супрацоўніцу Галоўліта БССР М. К. Высоцкую, якая мела непрыемнасці ад начальства за тое, што ў 1986 г. заплюшчыла вочы на некаторыя «ідэалагічныя хібы» кнігі Ул. Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду» [5, с. 294]. Галоўны рэдактар «Вожыка» В. Блакіт не толькі ведаў начальніка Галоўліта БССР Г. С. Лазоўскую (што лёгка тлумачыцца яго пасадай і наменклатурна-партыйным мінулым), але лічыў яе «разумнай» і «памяркоўнай» [6, с. 270]. Псіхалогію цэнзара спрабаваў зразумець В. Быкаў: «Іншыя з рэдактараў, здаралася, разумелі сваё сабачае становішча, але ж у кожнага былі сем’і, дзецям патрэбны быў хлеб. І яшчэ было распаўсюджана юдава меркаванне — а каго замест? Маўляў, замест нас паставяць яшчэ горшых» [10, с. 215]. Ул. Калеснік спачуваў цэнзарам, якім не проста было працаваць з літаратурнай прадукцыяй: «метафарычная, мнагазначная вобразная мова выслізвае з пальцаў цэнзуры і рэдактуры» [22, с. 76].

Шмат цікавых назіранняў адносна псіхалогіі ўзаемаадносін цэнзараў і прадстаўнікоў беларускага літаратурнага цэха, тэхналогіі цэнзарскай працы раскідана па старонках дзённіка дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура» М. Ф. Дубянецкага, з іменем якога звязаны рэнесанс у выданні беларускай мастацкай літаратуры ў 1980-я гг. З гэтай важнай гістарычнай першакрыніцы можна, у прыватнасці, даведацца пра тое, як паміж творцамі і цэнзарамі заключаліся «здзелкі». Напрыклад, пасля ўладкавання на вучобу дачкі аднаго з супрацоўнікаў Галоўліта БССР мемуарыст запісвае: «Паглядзім, як гэты цэнзар будзе ставіцца далей да нас, цяпер ужо дабрадзеяў яе» [19, с. 238]. Чытач дзённікаў можа таксама даведацца пра тое, што адным з найбольш небяспечных для цэнзараў відаў выданняў былі «выбраныя творы». Тлумачылася гэта тым, што ўкладальнік мог пры жаданні працягнуць туды нейкі даўно забаронены і забыты ўсімі небяспечны твор [18, с. 243]. Нарэшце, не страціла сваёй актуальнасці думка М. Ф. Дубянецкага пра тое, што палітычная цэнзура як неад’емная частка савецкага таталітранага грамадства не скончыцца з прыняццем закона аб яе адмене, яна «разлічана на эфект пралангіраванага дзеяння» [20, с. 243].

Іншы сучаснік узгадвае паспяховыя спробы беларускіх аўтараў-укладальнікаў і рэдактараў абысці цэнзурныя перашкоды з дапамогаю розных прыёмаў. Г. В. Кісялёў ва ўкладзенай ім у 1977 г. кнізе «Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў

XIX ст.» надрукаваў фрагменты артыкула «буржуазнага нацыяналіста» А. Луцкевіча «Жыццё і творчасць Фр. Багушэвіча ва успамінах ягоных сучаснікаў», назваўшы іх «З успамінаў пляменніцы паэта Ю. Радзевіч і З. Нагродскага».

А ў кнізе «Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы» (1981) Г. В. Кісялёў, каб узгадаць забароненае імя Вацлава Іваноўскага, які даў прытулак маладому паэту ў Пецярбурзе, прыкрыў яго імем старэйшага брата В. Іваноўскага — Юрыя. У тым жа юбілейным годзе А. Разанаў уклаў зборнік Я. Купалы «Выйдзі з сэрцам, як з паходняй!..», дзе з’явілася паэма «На Куццю», якую забаранялі друкаваць цягам дзесяцігоддзяў. З публікацыі 8 красавіка 1987 г. у маскоўскай «Литературной газете» артыкула В. Рагойшы «Лёс паэта: Да стагоддзя з дня народзінаў Алеся Гаруна» пачалося адкрытае вяртанне беларускіх «забароненых» літаратурных імёнаў і твораў. За гэтай публікацыяй стаяла постаць тагачаснага карэспандэнта «Литературной газеты» ў Беларусі А. Казловіча, які, нягледзячы на забарону ЦК КПБ, рызыкнуў рэабілітаваць паэта ў больш ліберальным агульнасаюзным друку [75, с. 10].

У пэўных выпадках дзеля таго, каб твор забароненага аўтара быў узгаданы ў друку, спецыялістам было дастаткова прамаўчаць. Менавіта дзякуючы маўчанню ў зводным каталозе «Кніга Беларусі, 1517–1917» з’явілася надрукаваная ў 1912 г. у Пінску кніжка нейкага Арцёма Музыкі «Прыгоды Тараса і Панаса», насамрэч напісаная В. Ластоўскім.

Апрацаваныя апошнім творы таксама ананімна трапілі ў 1983 г. у том «Легенды і паданні» серыі «Беларуская народная творчасць», што выдавалася Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Гэтую «ідэалагічную дыверсію» здзейсніў з маўклівай згоды рэдактара тома А. С. Фядосіка навуковы супрацоўнік інстытута А. І. Гурскі. «Не заўважыў» А. С. Фядосік таксама імя аўтара артыкула «Слуцкае вяселле», прадстаўленага навуковым супрацоўнікам К. А. Цвіркам у том «Вяселле: Абрад». Імя Юркі Лістапада — слуцкага паўстанца, эмігранта, галоўнай фігуры гучнай палітычнай справы –не сказала нічога і цэнзару тома, і артыкул убачыў свет [75, с. 10].

---

27 У 1981 г. аповесць «Карацелі», першапачаткова задуманая як «Сны двух тыранаў», выйшла ў Мінску без главы «Дублёр», прысвечанай Сталіну. Яе аўтар здолеў надрукаваць толькі ў 1988 г. у адзінаццатым нумары часопіса «Дружба народов».

28 Вакулоўская Лідзія Аляксандраўна (1926–1991) — празаік, сцэнарыст, нарадзілася ў г. Шчорс Чарнігаўскай вобл., член СП СССР з 1963 г., у беларускай пісьменніцкай арганізацыі з 1965 г. пасля пераводу мужа на работу ў Мінск. Друкавалася ў часопісе «Неман», на кінастудыі «Беларусьфільм» выйшаў фільм «Саша-Сашачка» паводле яе сцэнара. На кватэры Вакулоўскай рэгулярна збіралася вальнадумная інтэлегенцыя Мінска. З 1967 г. пераследавалася КДБ, трапляла пад цэнзурныя абмежаванні, была распачата «справа Вакулоўскай». Пісьменніцу абвінавацілі ў спробах перадаць на Захад свае творы, распаўсюджванні забароненай літаратуры, антысавецкай прапагандзе. У 1988 г. напісала кнігу пра сталінскія рэпрэсіі «Вольфрам — металл твердый».

29 Прашковіч Мікалай Іванавіч (1932–1983) — беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык, працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры АН БССР. Некаторыя яго выступленні ў друку вылучаліся асаблівай палемічнай завостранасцю і атрымалі шырокі грамадскі рэзананс. Так, рэцэнзія М. Прашковіча

на кнігу А. Коршунава пра царкоўнага дзеяча XVII ст. Афанасія Філіповіча (Полымя. 1965. № 12) выклікала рэзка адмоўную рэакцыю прафесара Л. С. Абэцэдарскага і паслужыла ў 1966 г. падставай для спецыяльнай навуковай дыскусіі ў Акадэміі навук па пытаннях беларускай дзяржаўнасці, ацэнцы ролі царкоўна-рэлігійнай уніі і інш. Падчас фабрыкацыі справы і выкрыцця ў 1973–1974 гг. «беларускіх нацыяналістаў» у АН БССР, у выніку чаго пацярпела цэлая група беларускіх навукоўцаў, М. І. Прашковіч быў звольнены з працы. Пэўны час заставаўся беспрацоўным, затым працаваў грузчыкам, карэктарам у часопісе «Родная прырода» і газеце «Вечерний Минск». Трагічна загінуў у час пажару.

30 Да таго часу А. І. Мальдзіс ужо трапляў у поле зроку цэнзуры пасля напісання твора «Астравеччына — край дарагі», у якім «...няслушна паказаў станаўленне калгаснай вёскі ў Заходняй Беларусі» (НАРБ. Ф. 1195. Воп. 1. Спр. 123. Арк. 3–9).

31 У 1971 г. ЮНЕСКА выдала анталогію беларускай паэзіі «Як вада, як агонь» у перакладзе В. Рыч на англійскую мову насуперак ноце МЗС БССР, якое патрабавала прыбраць з кнігі прадмову і каментары перакладчыка, што «скажаюць гісторыю Беларусі і беларускай літаратуры» (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 116. Спр. 18. Арк. 105–115).

32 Свідзінскі Уладзімір — украінскі паэт і перакладчык, арыштаваны НКУС у 1941 г., абставіны смерці невядомыя.

33 Зераў Мікола — украінскі паэт, літаратуразнаўца, перакладчык, расстраляны як «вораг народа» ў 1937 г.

34 Драй-Хмара Міхайла — украінскі паэт, літаратуразнаўца, перакладчык, загінуў у лагеры на Калыме ў 1939 г.

35 Плужнік Яўген — украінскі паэт, драматург, перакладчык, загінуў у Салавецкім лагеры ў 1936 г.

36 Некаторыя з цэнзараў выковалі гэтую ролю зусім прафесійна, як Я. Ц. Аблаў, які да прыходу ў Галоўліт БССР быў начальнікам унутранай турмы КДБ БССР («амерыканкі»).

# Літаратура

1. Ад шчырага сэрца. Пісьмы беларускага народа таварышу Сталіну. Рэд. П. Броўка. — Мінск: ДВБ, 1952. — 326 с.

2. Арлоў, У. А. Магія белага экрана / У. А. Арлоў. — Мінск: Беларусь, 2002. — 351 с.

3. Архив А. Н. Яковлева. [Электронны рэсурс]. URL: http://www.alexanderyakovlev.org/almanah/inside/almanah-doc/55502 (дата звароту: 29.05.2017)

4. Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах. Ларыса Геніюш. — Мінск: «Лімарыус», 2010. — 454 с.

5. Барадулін, Р. Аратай, які пасвіць аблокі. Сяброўскае слова, эсэ і некананізаваныя ўспаміны / Р. Барадулін. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1995. — 350 с.

6. Блакіт, В. Уваскрасеньне ўчарашняга дня / В. Блакіт // Дзеяслоў. — 2008. — № 2 (33). — С. 348–272.

7. Брыль, Я. Вячэрняе. Лірычныя запісы і мініяцюры / Я. Брыль. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — 350 с.

8. Бугаёў, Дз. Служэнне Беларусі: Праблемныя артыкулы, літаратурныя партрэты, эсэ, успаміны / Дз. Бугаёў. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2003. — 381 с.

9. Бугаёў, Дз. Спавядальнае слова: Літаратурная крытыка, успаміны / Дз. Бугаёў. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2001. — 327с.

10. Быкаў, В. Доўгая дарога дадому / В. Быкаў. — Мінск: ГА БТ «Кніга». — 2003. — 366 с.

11. Дзённік Кузьмы Чорнага // Полымя. — 1988. — № 4. — С. 155–163.

12. Дубянецкі, М. Злое вогнішча. Да гісторыі выдання аповесці Васіля Быкава «Мёртвым не баліць» / М. Дубянецкі // Полымя. — 1999. — № 2. — С. 160–191.

13. Дубянецкі, М. «Трэба рызыкаваць...» / М. Дубянецкі // Полымя. — 2001. — № 10. — С. 150–194.

14. Дубянецкі, М. «Трэба рызыкаваць...» / М. Дубянецкі // Полымя. — 2001. — № 11. — С. 103–139.

15. Дубянецкі, М. «Трэба рызыкаваць...» / М. Дубянецкі // Полымя. — 2001. — № 12. — С. 173–207.

16. Дубянецкі, М. «Трэба рызыкаваць...» / М. Дубянецкі // Полымя. — 2002. — № 2. — С. 197–234.

17. Дубянецкі, М. «Трэба рызыкаваць...» / М. Дубянецкі // Полымя. — 2002. — № 3–4. — С. 226–238.
18. Дубянецкі, М. «Трэба рызыкаваць...» / М. Дубянецкі // Дзеяслоў. — 2009. — № 1 (38). — С. 224–252.
19. Дубянецкі, М. «Трэба рызыкаваць...» / М. Дубянецкі // Дзеяслоў. — 2009. — № 3 (40). — С. 224–249.
20. Дубянецкі, М. «Трэба рызыкаваць...» / М. Дубянецкі // Дзеяслоў. — 2009. — № 5 (42). — С. 234–259.
21. Дубянецкі, М. «Трэба рызыкаваць...» / М. Дубянецкі // Дзеяслоў. — 2010. — № 4 (47). — С. 234–253.
22. Калеснік, У. Усё чалавечае: Літаратурныя партрэты, артыкулы, нарысы / У. Калеснік. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1993. — 381 с.
23. Караткевіч, У. С. Ладдзя роспачы: навела: Першае непадцэнзурнае выданне: аналіз аўтарскіх і цэнзарска-рэдактарскіх правак / У. С. Караткевіч; уклад., ідэя, камент., аналіз Глеба Лабадзенкі. — Мінск: Медысонт, 2011. — 148 с.
24. Літаратура і мастацтва. — 1990. — 20 ліпеня.
25. Мазураў, К. Т. Аб задачах ідэйна-выхаваўчай работы ў комсамольскіх арганізацыях Беларусі / К. Т. Мазураў // Большэвік Беларусі. — 1947. — № 1. — С. 24–35.
26. Мазуров, К. Т. Незабываемое / К. Т. Мазуров. — Минск: Беларусь, 1984. — 349 с.
27. Мальдзіс, А. І. Жыццё і ўзнясенне Ўладзіміра Караткевіча. Партрэт пісьменніка і чалавека / А. І. Мальдзіс. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. — 230 с.
28. Міцкевіч, М. Пад бацькоўскім дахам. Згадкі пра Якуба Коласа / М. Міцкевіч // Дзеяслоў. — 2008. — № 32 (1). — С. 271–288.
29. Мушынскі, М. Спадчына Якуба Коласа. Праблема аўтарскай творчай волі / М. Мушынскі // Полымя. — 1993. — № 7. — С. 228–248.
30. НАРБ. Ф. 4п. — Воп. 47. — Спр. 78.
31. Там жа. — Спр. 99.
32. Там жа. — Спр. 144.
33. Там жа. — Спр. 163.
34. Там жа. — Спр. 177.
35. Там жа. — Спр. 195.
36. Там жа. — Спр. 231.
37. Там жа. — Спр. 427.
38. Там жа. — Спр. 452.
39. Там жа. — Спр. 538.

40. Там жа. — Спр. 607.
41. Там жа. — Спр. 641.
42. Там жа. — Спр. 647.
43. Там жа. — Воп. 62. — Спр. 535.
44. Там жа. — Спр. 562.
45. Там жа. — Спр. 711.
46. Там жа. — Спр. 783.
47. Там жа. — Воп. 116. — Спр. 11.
48. Там жа. — Спр. 20.
49. Там жа. — Воп. 156. — Спр. 615.
50. Там жа. Ф. 1195. — Воп. 1. — Спр. 52.
51. Там жа. — Спр. 58.
52. Там жа. — Спр. 72.
53. Там жа. — Спр. 81
54. Там жа. — Спр. 96.
55. Там жа. — Спр. 118.
56. Там жа. — Спр. 123.
57. Там жа. — Спр. 167.
58. Там жа. — Воп. 2. — Спр. 6.
59. Там жа. — Спр. 8.
60. Там жа. — Спр. 10
61. Там жа. — Спр. 27.
62. Там жа. — Спр. 33.
63. Там жа. — Спр. 38.
64. Там жа. — Спр. 44.
65. Там жа. — Спр. 50.
66. Там жа. — Спр. 57.
67. Там жа. — Спр. 63.
68. Там жа. — Спр. 69.
69. Там жа. — Спр. 75.
70. Там жа. — Спр. 76.
71. Там жа. — Спр. 78.
72. Там жа. — Спр. 81.
73. Там жа. — Спр. 85.
74. Там жа. — Спр. 86.
75. Сідарэвіч, А. Ідэялагічныя дыверсіі і дывесанты. Як падманвалі цэнзуру ў часы «развітага сацыялізму» / А. Сідарэвіч // Наша ніва. — 2011. — 27 ліп.
76. Советская Белоруссия. — 1947. — 13 сентября.

77. Тарас, В. На выспе ўспамінаў / В. Тарас. — Вільня: Інстытут беларусыстыкі, 2007. — 606 с.
78. Шамякін, І. Роздум на апошнім перагоне. Дзённікі 1980–1995 гадоў / І. Шамякін. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1998. — 527 с.
79. Шапран, С. Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах. Ч. 1. / С. Шапран. — Мінск–Гародня: Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Гарадзенская бібліятэка, 2009. — 734 с.
80. Шапран, С. Без купюр / С. Шапран // Белорусская деловая газета. — 2004. — № 19.
81. Шапран, С. «Прыміце мяне такім, які я ёсць». Да гісторыі выдання «Каласоў пад сярпом тваім» Ул. Караткевіча / С. Шапран // Дзеяслоў. — 2006. — № 4 (23). — С. 233–270.

Слова — не верабей, зловяць — вылеціш.
*Жарт савецкіх радыё- і тэлежурналістаў*

## Прэса

Пасля заканчэння вайны ўзнікла неабходнасць рэарганізацыі сістэмы сродкаў масавай інфармацыі БССР для работы ў мірных умовах. Кіраўніцтва рэспублікі рабіла захады па прыцягненні ў СМІ ваенных журналістаў, грашовых сродкаў, паліграфічнай тэхнікі, паперы. Крок за крокам ішло аднаўленне спачатку рэспубліканскіх, пазней абласных і нарэшце маладзёжных газет. Паступова павялічваўся аб’ём выданняў. Дзяржава, выкарыстоўваючы палітычную і арганізатарскую сілу журналістыкі, накіроўвала яе на прыцягненне шырокіх мас да працы па ўзнаўленні народнай гаспадаркі, на ўзмацненне палітычнай прапаганды.

У 1946 г. у БССР ужо выдавалася 9 рэспубліканскіх, 11 абласных, 10 гарадскіх, 161 раённая і 4 галіновыя газеты, а таксама 6 часопісаў («Бальшавік Беларусі», «Беларусь», «Полымя», «Работніца і сялянка», «Бярозка», «Вожык»). Асаблівае месца ў структуры ўсяго беларускага друку займалі газеты «Звязда» і «Советская Белоруссия» — органы ЦК КП(б)Б, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР. Разавы тыраж друкаваных СМІ тагачаснай БССР складаў: рэспубліканскіх газет — 763 тыс., абласных — 392,5 тыс., раённых — 196,5 тыс., часопісаў — 90 тыс. [12, арк. 204].

Спецыяльныя структурныя падраздзяленні партыйных органаў (сектары друку аддзелаў прапаганды і агітацыі ЦК, абкамаў, райкамаў)

ажыццяўлялі непасрэдны штодзённы кантроль за газетамі і часопісамі. Там узгадняліся перспектыўныя планы работы рэдакцый рэспубліканскіх газет, тэматыка перадавых артыкулаў, тэксты дакладаў партыйных кіраўнікоў, выявы класікаў марксізму-ленінізму і партыйных дзеячоў. Паведамленні ТАСС, якія рассылаліся па савецкіх газетах, суправаджаліся жорсткімі інструкцыямі парторганаў адносна таго, на якой паласе газет змяшчаць гэтыя матэрыялы. Галоўныя рэдактары дзвюх беларускіх газет — «Звязды» і «Советской Белоруссии» — уваходзілі ў наменклатуру ЦК КПСС, астатнія, да рэдактараў абласных газет уключна, — у наменклатуру ЦК КПБ.

З мэтай павелічэння эфектыўнасці партыйнай прапаганды праз друкаваныя СМІ партыйныя рашэнні ў разглядаемы час былі прыняты амаль па ўсіх тыпах газет — рэспубліканскіх, абласных, гарадскіх, раённых. Партыйныя органы рэгулярна праводзілі семінары для газетных работнікаў, куды запрашаліся цэнзары, якія рабілі даклады пра захаванне дзяржаўнай тайны ў друку.

Ужо 20 чэрвеня 1945 г. ЦК УсеКП(б)Б прыняў пастанову «Аб паляпшэнні якасці і павелічэнні аб'ёму рэспубліканскіх, краявых і абласных газет». Гэта пастанова з'явілася праграмнай для ўсёй савецкай прэсы. Адноўлены з 15 ліпеня 1945 г. чатырохпалосны аб'ём рэспубліканскіх і абласных газет патрабаваў ад рэдакцый пашырыць інфармацыю пра жыццё СССР, саюзных рэспублік, абласцей, публікаваць больш матэрыялаў па праблемах

прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культуры, надаваць больш увагі працы з насельніцтвам. У пастанове вызначалася не толькі асноўная праблематыка газет, але звярталася ўвага таксама на іх афармленне, на выкарыстанне розных газетных жанраў. Галоўны ж акцэнт у пастанове быў звернуты на тое, каб усе газеты сталі «баявымі органамі палітычнага выхавання мас», найважнейшым сродкам «партыйнага кіравання масамі» [6, с. 288].

Характар узаемаадносін партыі і прэсы перадае наступны ўрывак з успамінаў вядомага беларускага журналіста і перакладчыка В. Я. Тараса: «У кабінеце Пыжкова[37] праводзіцца планёрка... Звычайная рэдакцыйная цякучка. Раптам звоніць “вяртушка”, то-бок тэлефон спецсувязі... Трубку Пыжкоў бярэ з вялікай павагай, быццам здароўкаецца за руку са сваім нябачным абанентам, кажа па-руску: “Слушаю. Да, Тимофей Сазонович, это я. Чем занят? Провожу планерку. Что в завтрашнем номере? Минуточку!” Пыжкоў свабоднай рукой паказвае Пашкевічу[38], каб той даў яму вёрстку заўтрашняга нумара і пачынае падрабязна пералічваць матэрыялы, якія ў ім стаяць, называе прозвішчы аўтараў, іхнія пасады, коратка пераказвае змест найбольш важных артыкулаў. Запэўнівае свайго суразмоўцу, што ўсе факты, якія падаюцца ў матэрыялах, правераныя. Як і аўтары. Ператварэнне Васіля Андрэевіча ў простага сьмяротнага, ягоны голас, які з важка-начальніцкага зрабіўся нейкім сьмірным, зразумелыя: Цімафей

Сазонавіч — гэта сакратар ЦК КПБ па прапагандзе Гарбуноў, вярхоўны куратар усіх рэспубліканскіх газет, іхні галоўны цэнзар і дарадца» [102, с. 157].

Газеты часта спазняліся з выхадам на некалькі гадзін у сувязі з указаннямі партыйных органаў тэрмінова змяшчаць важныя матэрыялы. Напрыклад, 30 студеня 1962 г. «Чырвоная змена» спазнілася на 45 хвілін з-за таго, што трэба было тэрмінова размясціць інтэрв'ю з Ф. Кастра. 28 студзеня таго ж года — газета спазнілася на 43 хвіліны з-за паведамлення пра скліканне пленума ЦК КПСС. 16 студзеня — на 7 гадзін 15 хвілін з-за прамовы М. С. Хрушчова на нарадзе працаўнікоў сельскай гаспадаркі БССР [36, арк. 6].

Супрацоўнікі сектароў друку аддзелаў прапаганды і агітацыі партыйных органаў рэгулярна складалі агляды друку для вышэйстаячага кіраўніцтва. У адным з падобных аглядаў бабруйскай абласной газеты «Савецкая Радзіма» за кастрычнік 1951 г. — красавік 1952 гг. мы чытаем: «Газета незадавальняюча асвятляе марксісцка-ленінкую падрыхтоўку кадраў». Тут жа аўтар указвае на памылку Галоўліта: «19 лютага 1952 г. у газеце быў надрукаваны артыкул Зуйковай "Марксісцка-ленінскае вучэнне пра класы і класавую барацьбу", у якім аўтар сцвярджаў, што ў СССР — краіне, дзе перамог сацыялізм, ідзе класавая барацьба». У аглядзе «Гомельскай праўды» за восень 1953 г. пісалася: «Газета недастаткова прапагандуе рашэнні партыі і ўрада па пытаннях сельскай гаспадаркі. Да

сённяшняга дня на яе старонках няма матэрыялаў у дапамогу агітатару, а таксама грунтоўных прапагандысцкіх артыкулаў, якія тлумачаць пастановы Пленума ЦК КПСС». У 1954 г. указвалася на наступныя недахопы слонімскай раёнкі «Вольная праца»: «У раёне маюцца добрыя агітатары, дакладчыкі. Але пра іх газета піша мала. Рэдакцыя забываецца на галоўнае ў правядзенні палітычнай працы — змесце размоў, дакладаў» [27, арк. 10].

У кастрычніку 1947 г. ЦК КП(б)Б крытыкаваў газеты «Звязда» і «Советская Белоруссия» за тое, што яны абмежаваліся толькі перадрукам артыкулаў з цэнтральнага маскоўскага друку пра «антыпартыйны ўчынак» акадэміка А. Р. Жэбрака[39], не даўшы ўласных матэрыялаў. У студзені 1948 г. пацярпеў часопіс «Вожык» за тое, што той «не адгукнуўся на такія важныя пытанні, як выкрыццё нізкапаклонства і ўгодніцтва некаторай часткі інтэлегенцыі перад замежжам, захапленне часткай моладзі знешнім бляскам, прыгожай мішурой». Увогуле, «Вожык» з-за сваёй сатырычнай спецыфікі прыцягваў асаблівую ўвагу партыйных ідэолагаў. Напрыклад, у лютым 1953 г. яго правярала спецыяльная камісія ЦК КПБ, якая па выніках праверкі падрыхтавала жорсткую дакладную запіску на імя першага сакратара ЦК М. С. Патолічава. У ёй крытыкаваліся фельетоны А. Макаёнка — «Тайна храма», надрукаваны ў 18-м нумары («напісаны ў разбэшчанай манеры», «агульнае ганьбаванне нашых вучоных») і «Сцяпан

Сцяпанавіч», надрукаваны ў № 24-м нумары («паказаны нейкія пачвары, якія размаўляюць дзікаю моваю») [26, арк. 124].

Партыйнае кіраўніцтва не абмяжоўвалася канстатацыяй памылак і недахопаў журналістаў. Пасля публікацыі 26 мая 1946 г. у газеце «Ленінец» Высокаўскага раёна Брэсцкай вобласці «палітычна шкоднай» нататкі пра збіранне святарамі грошай і харчоў для дзяцей-сірот ЦК вынес аўтару нататкі — намесніку старшыні райвыканкама Жураўлёву — і рэдактару газеты Лошутаву партыйныя спагнанні [12, арк. 13]. А 6 кастрычніка 1949 г. быў адабраны ўвесь тыраж раённай газеты «Івянецкая праўда», яе адказнага рэдактара Малкова адхілілі ад працы з-за таго, што словы «Вялікі Кастрычнік» былі паменяны месцамі [21, арк. 107].

Напачатку 1953 г. старэйшага наборшчыка Коханаўскай раённай друкарні А. І. Ванцэвіча звольнілі з працы за памылкі падчас набору тэкстаў (напрыклад, адзін з нумароў газеты «Сталінскі прызыў» выйшаў са словам «рабоў» замест слова «работ»), а таксама за скажэнне клішэ партрэта С. М. Кірава [26, арк. 239]. У маі таго ж года старадарожскі райкам партыі прыняў рашэнне звольніць з працы ў друкарні Я. А. Жукоўскага, Г. М. Сыцько і Н. С. Дземідовіч (на рэдактара газеты «За Савецкую Радзіму» І. М. Ермаловіча і райліта Л. П. Кушнера наклалі партспагнанне) за грубую палітычную памылку, здзейсненую ў нумары газеты ад 28 лютага [26, арк. 385].

Цэнзараў таксама каралі. У 1950 г. цэнзар папярэдняга кантролю Нятылька атрымаў вымову ад начальніка Галоўліта БССР Ф. І. Дадзіёмавай «за пропуск палітычнай памылкі» ў перадавіцы «Советской Белоруссии», дзе было надрукавана «ўмацаванне дробных калгасаў» замест «узбуйненне дробных калгасаў». У наступным годзе змяніўшы Ф. І. Дадзіёмаву Л. В. Садоўскі вынес гэткае ж пакаранне цэнзару папярэдняга кантролю Бадзяю, які дапусціў у газеце «Калгасная праўда» скажэнне — замест слова «агрэсіўная» там было надрукавана слова «прагрэсіўная» [84, арк. 114; 85, арк. 60].

У найбольш складаных сітуацыях, звязаных з ідэалагічным кантролем СМІ, партыйныя органы звярталіся па дапамогу да сакрэтных службаў. Цікавы прыклад «спецаперацыі» КДБ, здзейсненай напярэдадні афіцыйнага візіту ў Мінск парламентарыяў Цэйлона, падае вядомы беларускі журналіст А. А. Тоўсцік. Падчас гэтай аперацыі супрацоўнікам камітэта давялося тэрмінова адбіраць з кіёскаў у мінскім аэрапорце першамайскі нумар «Чырвонай змены», дзе распавядалася пра тое, як падчас дэманстрацыі працоўных на Цэйлоне загінуў сцяганосец (што было кан'юктурнай прыдумкай журналістаў «Чырвонкі») [104, с. 56].

У раздзелах справаздач Галоўліта БССР пасляваеннага дзесяцігоддзя, прысвечаных перыёдыцы, мы сустакаем апісанні пераважна звычайных памылак друку альбо ўказанні на яго дрэнную якасць, кваліфікаваныя цэнзарамі як

палітычныя правакацыі. Адна з падобных памылак, зробленая ў газеце «Советская Белоруссия» ад 29 мая 1948 г., прымусіла яе адказнага рэдактара А. У. Раманава пісаць тлумачальную запіску на імя сакратара ЦК па ідэалогіі М. Т. Іоўчука. Размова ў ёй ішла пра абвестку аб лекцыі ў мінскім парку імя Горкага, дзе замест абрэвіятуры «ЦК КП(б)Б» была надрукавана абрэвіятура «ЦК УсеКП(б)», што сам А. У. Раманаў кваліфікаваў як «грубейшую палітычную памылку» [18, арк. 203].

Падобным чынам ацаніў падзеі, што адбыліся 2 сакавіка 1946 г., рэдактар газеты «Звязда» Д. І. Драгун. У той дзень яму давялося забракаваць 5 тыс. асобнікаў 44-га нумара газеты з-за скажэння клішэ (чорная пляма ў выглядзе пытальніка на твары сакратара ЦК П. К. Панамарэнкі), у выніку чаго тыраж газеты спазніўся на 7 гадзін [15, арк. 61]. Частковыя знішчэнні тыражоў газет не былі выключнымі падзеямі ў выдавецкай практыцы пасляваенных гадоў, што тлумачылася як прымітыўнай друкарскай тэхнікай[40], так і недахопам кваліфікаваных спецыялістаў. Звычайна «палітычныя» дэфекты ў газетных нумарах падчас вырабу тыражоў знаходзіла наступная цэнзура.

У 1945 г. з-за «грубых палітычных скажэнняў» (чытай, памылак друку) былі часткова знішчаны і перадрукаваны нанова тыражы газет «Чырвоная змена», «Палеская праўда», «Віцебскі рабочы». У наступным годзе чатыры разы часткова адбіраліся

тыражы бабруйскай абласной газеты «Савецкая Радзіма», двойчы — полацкай газеты «Большэвіцкі сцяг», па адным разе – абласных «Гомельскай праўды», «Чырвонай звязды», «Палескай праўды», «Віцебскага рабочага», «Сялянскай газеты», а таксама шэрагу раённых газет. 2 лютага 1947 г. быў знішчаны амаль увесь тыраж (75 тыс. асобнікаў) «Советской Белоруссии», 22 лютага таго ж года — «Літаратуры і мастацтва» (15 тыс. асобнікаў), 23 лютага — «Сталинской молодежи» (2 тыс. асобнікаў). Як і ў папярэднія гады, знішчаліся таксама тыражы абласных і раённых газет. Разам у 1947 г. цэнзура адабрала цалкам тыражы дзесяці нумароў рэспубліканскіх, абласных і раённых газет, дзе былі «дапушчаны грубыя палітычныя памылкі» [93, арк. 30].

Падобная практыка працягвалася ў наступныя гады. Напрыклад, 28 сакавіка 1952 г. адабралі ўвесь тыраж «Зорькі» з-за таго, што ў артыкуле, прысвечаным Леанарда да Вінчы, сцвярджалася, што ён вынайшаў парашут, хаця, як адзначаў цэнзар, «усім вядома, што яго вынайшаў рускі самародак Кацельнікаў» [25, арк. 319–322].

Некаторыя памылкі друку, знойдзеныя цэнзарамі ў газетах, мелі характар адкрытага здзеку з рэжыму. Напярэдадні адкрыцця выставы нямецкага трафейнага ўзбраення ў Мінску ў лістападзе 1944 г. было адабрана 14 тыс. асобнікаў нумара «Звязды», якая прысвяціла выставе цэлую паласу пад назвай «Выстаўка пераможцаў». Архіўныя крыніцы не

захавалі інфармацыі аб тым, як пакаралі супрацоўнікаў рэдакцыі лагойскай раёнкі «Новая вёска», якія завярсталі «Няродны (замест “народны”) суд даў злачынцам па заслугах», альбо супрацоўнікаў «Віцебскага рабочага», у адным з нумароў якога завярсталі «Ленін творча разбіў (замест “развіў”) марксізм». У ляхавіцкай раённай газеце «Савецкі патрыёт» адін з артыкулаў быў названы «За пахаванне міру» замест «За захаванне міру». Палітаддзельская газета «За камунізм» 2-й міёрскай МТС Полацкай вобласці надрукавала фразу «З вялікім намаганнем (замест “натхненнем”) было прынята пісьмо таварышу Сталіну».

Часам аўтары газетных матэрыялаў спрабавалі даць факты, якія характарызавалі рэальнае сацыяльна-эканамічнае, палітычнае, культурнае становішча рэспублікі, але не ўкладваліся ў савецкія прапагандысцкія штампы. Усе падобныя факты бязлітасна выкрэсліваліся цэнзарамі. Сёння зводкі цэнзарскіх выкрэсліванняў, зробленых у СМІ, можна разглядаць як цікавую спецыфічную першакрыніцу па найноўшай гісторыі Беларусі.

У 1946 г. баранавіцкі аблліт выкрэсліў са слонімскай раённай газеты «Вольная праца» наступны сказ: «Рабочыя па 8 дзён не атрымліваюць хлеба, а калі атрымліваюць, то гэта не хлеб, а мякіна». Тады ж полацкі аблліт прыбраў з абласной газеты наступнае: «За 5 месяцаў не выплачаны заробак, работнікі культасветустаноў не атрымліваюць прадуктовых картак, не атрымліваюць ніякіх

прамтавараў». 15 лістапада 1946 г. з «Гродзенскай праўды» знікла: «Сяляне затрымалі на хут. Дзергужы невядомага, які спрабаваў перайсці мяжу. Затрыманы па прозвішчы Пражайчык аказаўся буйным дыверсантам» [92, арк. 29, 54, 70].

У 1951 г. цэнзары Галоўліта БССР не прапусцілі ў газеце «Зара» Ваўкавыскага раёна нататку «З залы суда», дзе паведамлялася, што за крадзёж у калгасе 140 снапоў адзін з вінаватых быў асуджаны на 10 гадоў зняволення. У газеце «Сталінец» Добрушскага раёна знялі інфармацыю аб продажы з таргоў дамоў вялікай колькасці грамадзян за няўплату запазычанасці камунбанку. З газеты «Уперад» Міёрскага раёна быў зняты сказ: «У гэтым калгасе ўсяго адна галава рагатага ската і адна свіння». А з газеты «Ленінец» Бераставіцкай МТС — «у нас рабочыя гадамі не мыюцца» [94, арк. 37–38].

З 61-га нумара за 1952 г. газеты Крулеўшчызненскай МТС Полацкай вобласці «Па Сталінскаму шляху» знікла: «Да сённяшняга часу медыцынскія ўстановы не задавальняюць патрабаванні насельніцтва раёна». З бабруйскай абласной газеты «Савецкая Радзіма» ад 12 студзеня 1952 г. прыбралі: «У Старадарожскім раёне больш за 200 дзяцей школьнага ўзросту ў гэтым годзе не ахоплены вучобаю. З агульнай колькасці 8597 вучняў не паспяваюць па выніках I-га поўгоддзя 1921» [96, арк. 32].

Вось яшчэ некалькі прыкладаў з галоўлітаўскай справаздачы за 1952 год. З аднаго з нумароў газеты

«Звязда» быў зняты сказ: «З 707 працаздольных калгаснікаў калгаса “Большэвік” не выпрацавалі мінімум працадзён 602 і 61 не выпрацавалі ні аднаго дня». З газеты «Калгасная праўда» было знята: «У Багушэўскім раёне Віцебскай вобласці нявыхады на працу ў жніўні месяцы склалі 18 тысяч чалавекадзён, альбо 30 % працоўных рэзерваў». З «Віцебскага рабочага» — «На палях Суражскага раёна засталіся няўбранымі звыш тысячы гектараў зернавых і льну, шмат бульбы» [95, арк. 19].

У 1953 г. папярэдняя цэнзура прыбрала з газеты «Советская Белоруссия» па палітычных меркаваннях: «Я, Ігнат Александровіч, часу на вайне не губляў. З паходаў за мяжу я здолеў сабраць вялікую калекцыю насення розных раслін. Усю Германію дзеля гэтага аб’ехаў». У газеце «Палеская праўда» не прайшла інфармацыя аб тым, што ў раёне за год паменшылася колькасць камсамольцаў-калгаснікаў на 126 чалавек. З гранак раённай газеты «Ленінскі шлях» Асвейскага раёна Полацкай вобласці знік сказ «У калгасе пад выглядам плотнікаў, было прынята некалькі адзінаасобнікаў, якія збеглі ад калектывізацыі з Дзісненскага раёна» [97, арк. 5–6].

Аблліты рэгулярна дасылалі начальніку Галоўліта БССР агляды абласных і раённых газет, дзе паведамлялі пра зробленыя палітычныя і тэхнічныя памылкі. Гэтыя агляды ўважліва чыталіся, пасля чаго аблаітам адпраўляліся назад падрабязныя разборы іх працы. Якасць працы абллітаў была невысокай. Напрыклад, 18 сакавіка 1950 г. сектар друку ЦК

КП(б)Б інфармаваў сакратара ЦК В. А. Тамашэвіча, што «старонкі брэсцкай абласной газеты “Зара” поўныя грубых памылак друку, скажэнняў, неахайных фармулёвак, некаторыя з іх маюць палітычны характар. Часта газета друкуе “выпраўленні”, якія не ахопліваюць усіх зробленых памылак» [23, арк. 210].

Якасць працы райлітаў была яшчэ горшай. У 1947 г. па ўсіх газетах рэспублікі было 139 выпадкаў разгалашэння дзяржаўнай і ваеннай тайны (прадукцыя заводаў, кошт тавараў, дыслакацыя ваенных аб’ектаў і інш.), прычым іх большасць прыпадала на раённыя газеты. У іўеўскай раёнцы «Прамень» нават цэнзарскае таўро райліт пазначаў з памылкай. Паміж індэксам ГП і цэнзарскім нумарам ён ставіў працяжнік (рабіць гэта было не трэба). 20 сакавіка 1946 г. Ф. І. Дадзіёмава адправіла сакрэтнае данясенне сакратару ЦК КП(б)Б Ц. С. Гарбунову, дзе паведамляла пра тое, што рэдактар магілёўскай раённай газеты «Сацыялістычная праца» — палітычна непісьменны, бо падаў факты пра дрэннае матэрыяльнае забеспячэнне партыйна-савецкага апарата ў раёне [10, арк. 117].

Кепскае веданне раённымі рэдактарамі і цэнзарамі беларускай мовы таксама прыводзіла да таго, што старонкі газет рабіліся полем «ідэалагічных дыверсій». Напрыклад, 31 жніўня 1949 г. цэнзар забараніў наступны сказ, што з’явіўся ў рудзенскай раённай газеце: «У асобе т. Жданава партыя

*пазбавілася* выдатнага марксісцкага тэарэтыка» [24, арк. 42].

Беларускі журналіст А. Каўко, які напачатку 1950-х гг. з’яўляўся рэдактарам газеты палітаддзела Лагішынскай МТС Пінскай вобласці «Уперад да камунізма», так узгадвае пачатак сваёй працы: «У раённай друкарні зрабілі набор і вёрстку першага нумара. І вось познім вечарам, калі была закончана апошняя праўка газеты, у друкарні з’явіўся цэнзар (загадчык аддзела райкома партыі). Чытаў ён марудна, пыхаў папяроскай, глыбакадумна моршчыў лоб. У тэксце, відаць, нічога падазронага не заўважыў, але і з дазволам друкаваць не спяшаўся, усё круціў у руках двухпалоску, то падносіў яе бліжэй да святла, то набліжаў да вачэй. Нарэшце вынес прысуд:

– Трэба мяняць загаловак.

– Які загаловак? — не зразумеў я.

– Загаловак газеты... Што гэта за шрыфт?!

– Яго нарэзаў умелы майстар, — даводзіў я.

– Трэба яшчэ разабрацца з гэтым майстрам. Паглядзі ўважліва на літару “д”. Яе ж цяжка адрозніць ад літары “а”... Чалавек з аслабленым зрокам можа прачытаць і так: “Уперад ад камунізма”... Ты разумееш, чым гэта пахне?

Даказаць цэнзару, што літара “д” зусім прыстойная, было дарэмнай тратай часу. Давялося прасіць наборшчыкаў, каб падабралі больш-менш падыходзячы для гэтай мэты шрыфт і з такім

прымітыўным загалоўкам газета выйшла ў свет» [5, с. 14].

Спецыфіка работы БелТА — забеспячэнне газет аператыўнай інфармацыяй — стварала падмурак для рэгулярных канфліктаў паміж агенцтвам і цэнзурай, якая замаруджвала гэты працэс. Часам гэтыя канфлікты набывалі вострыя формы. Адзін з іх (рассылка рэдакцыям газет незацверджанай Галоўлітам інфармацыі пра выкананне плана прадпрыемствамі Мінска) у 1946 г. выйшаў на старонкі цэнтральнага партыйнага друку, калі БелТА «за грубыя памылкі» раскрытыкавала газета «Правда» [99]. І тым не менш 9 красавіка 1953 г. начальнік Галоўліта Л. В. Садоўскі зноў паведамляў партыйнаму кіраўніцтву пра тое, што дырэктар БелТА М. В. Марозаў рэгулярна перадае газетам «Веснікі БелТА» без візы цэнзара [26, арк. 253].

Да канца 1940-х гг. Галоўліт БССР устанавіў кантроль над 192 друкарнямі, што існавалі ў той час у рэспубліцы (3 рэспубліканскімі, 10 абласнымі, 14 ведамаснымі, 10 гарадскімі і 155 раённымі). Друкарні працавалі паводле галоўлітаўскай інструкцыі — «Правілаў выдання твораў друку», а таксама загаду № 700 Упаўнаважанага Савета Міністраў СССР па ахове дзяржаўнай і ваеннай тайны ў друку ад 25 чэрвеня 1947 г. Да таго ж ад усіх дырэктараў друкарняў цэнзурнае ведамства ўзяло падпіску аб тым, што яны не будуць выконваць аніякія замовы без яго дазволу. І тым не менш маштабная праверка працы друкарняў, якую правёў Галоўліт у 1947 г., выявіла шматлікія

парушэнні. Да найбольш сур’ёзных з іх адносіліся: спробы выдання прадукцыі без візы Галоўліта, унясенне змен пасля візіравання матэрыялу Галоўлітам, адпраўка па спісе абавязковай рассылкі брашур з грыфам «для службовага выкарыстання». Матэрыялы на дырэктара Буда-Кашалёўскай друкарні, які не захоўваў цэнзарскія дазволы на выдадзеную прадукцыю, Галоўліт перадаў у пракуратуру і абкам партыі [22, арк. 263].

Пасляваеннае дзесяцігоддзе было часам, калі цэнзура перыядычнага друку ў СССР дасягнула свайго апагею. Яе абсурдная звышпільнасць паралізавала працу рэдакцый некаторых газет, якім проста не было пра што пісаць. У міліцэйскай шматтыражцы «На варце Кастрычніка» Ф. І. Дадзіёмава забараняла даваць матэрыялы пра крымінальны вышук, парушэнні заканадаўства, унутраную дысцыпліну, лагерныя зборы. У заводскай шматтыражцы МАЗа «Аўтазаводзец» цэнзура здымала інфармацыю пра зборку аўтамабіляў, выраб дэталяў для іх, месцазнаходжанне завода, назвы прылеглых да яго вуліц, цэхаў і нават словы «цэх», «аддзел», «фрэзероўшчык», «канструктар» і інш.

Акрамя папярэдняй, наступнай і карнай (канфіскацыйнай) формаў кантролю, з’явіліся няпісаныя цэнзурныя забароны. Напрыклад, на газетнай паласе, дзе быў партрэт Сталіна, нельга было змяшчаць інфармацыю крытычнага характару. Існавала паняцце «палітычна шкодныя пераносы», напрыклад, «бес-смертны Ленін», «по-беда

коммунизма» альбо «кал-гаснік». Кампаноўка матэрыялаў на газетнай паласе таксама магла выклікаць пытанні ў цэнзуры. Так было ў 1952 г., калі ў 27-м нумары газеты «Па Ленінскаму шляху» Дзяржынскай МТС пад пастановай партыі і ўрада аб зніжэнні цэн была завёрстана нататка пад назвай «Голас пратэсту хлебаробаў».

Супрацоўнік рэдакцыі абласной газеты «Віцебскі рабочы» М. В. Тараткевіч так характарызаваў атмасферу пасляваеннага дзесяцігоддзя: «Гэтая зададзенасць, нейкая вярхоўная перадвызначанасць усяго ў працы і жыцці, абмежаванне журналісцкага мыслення нейкімі рытуальнымі рамкамі пранікалі і ў спосабы напісання тэкстаў, і ў аргументацыю, і нават у асобныя фразы і сур'ёзна скоўвалі аўтарскую думку». Узгадваў ён таксама прэвентыўную рэдактарскую цэнзуру, т. зв. «незаменных праўшчыкаў», галоўным клопатам якіх была «падгонка тэкстаў пад уласны, часта вельмі прымітыўны ўзровень» [103, с. 8]. Пра цэнзарскую сутнасць работы рэдактара галоўнай партыйнай газеты БССР узгадвае таксама ў сваіх успамінах В. Я. Тарас: «Размовы пра ўсялякія там "звышзадачы", "інтэрпрэтацыі", "падтэксты" выклікалі ў яе [рэдактара аддзела літаратуры і мастацтва "Звязды"] трывожны неспакой. І, вядома, быў яшчэ пастаянны страх дапусціць ідэйны промах, не заўважыць міну якой-небудзь ідэалагічнай крамолы... Таму асноўнай заўвагай, асноўным патрабаваннем было: "Трэба

прасцей! Штодзённая газета не для абраных, а для звычайных людей"» [102, с. 146].

Савецкае кіраўніцтва імкнулася схаваць факт цэнзуравання СМІ ад міжнароднай супольнасці. Выступаючы ў 1947 г. на канферэнцыі ААН па свабодзе інфармацыі і прэсы ў Жэневе, прадстаўнік БССР У. В. Скарабагаты запэўніваў замежных калег: «Некаторыя дэлегаты, перш за ўсё ЗША і Вялікабрытаніі, асаблівую ўвагу надавалі пытанню цэнзуры ў Саюзе Савецкіх Рэспублік. Дазвольце ў Вас, спадары, запытаць, пра якую цэнзуру ідзе гаворка? Які цэнзар мог сядзець у палескіх балотах, лясах Белавежскай пушчы, у зямлянках Віцебшчыны і іншых абласцей Беларусі і кантраляваць партызанскія газеты? Якога цэнзара Вы бачылі, каб ён кантраляваў сотні тысячаў газет у раёнах, калгасах, на фабрыках і заводах? Гэты цэнзар — вынік вашай фантазіі» [83, арк. 334].

У гады «адлігі» агульная колькасць выкрэсліванняў у перыядычных выданнях рэзка скарацілася, у іх складзе мы амаль не сустракаем правак па палітычных меркаваннях. Сведчаннем паслаблення пазіцый цэнзуры ў друкаваных СМІ быў загад 1957 г. пра зняцце з цэнзараў абавязку падпісваць нумары газет у друк. У 1962 г. 50 газет тэрытарыяльна-вытворчых упраўленняў, 4 шматтыражкі, 10 калгасных і саўгасных былі вызвалены ад цэнзарскага кантролю пад адказнасць рэдактараў. Сведчаннем дэмакратызацыі СМІ было з'яўленне ў сакавіку 1959

г. грамадскай арганізацыі — Саюза журналістаў БССР.

13 ліпеня 1961 г. намеснік начальніка Галоўліта Н. К. Захарава дакладвала сакратару ЦК В. Ф. Шаўру аб выкананні пастановы ЦК КПБ ад 12 снежня 1959 г. «Аб фактах разглашэння дзяржаўнай тайны ў друку». У прыватнасці, яна пісала, што колькасць цэнзарскіх умяшальніцтваў скарацілася з 768 у 1959 г. да 453 у 1960 г. У рэспубліканскіх газетах у 1960 г. гэтыя лічбы выглядалі наступным чынам: «Советская Белоруссия» — 14 (44 у 1959 г.), «Звязда» — 13 (30 у 1959 г.), «Мінская праўда» — 9 (30 у 1959 г.), «Чырвоная змена» — 5 (21 у 1959 г.), «Знамя юности» — 4 (12 у 1959 г.). У 1961 г. колькасць умяшальніцтваў у рэспубліканскіх газетах паменшылася да 28 (у параўнанні з 73 у 1960 г.).

Першае месца па колькасці цэнзурных парушэнняў сярод іх у часы «адлігі» стабільна ўтрымлівала газета «Советская Белоруссия». Пра гэта ў нататцы пад назвай «Аб нізкім ідэйным і літаратурным узроўні матэрыялаў і грубых памылках у газеце “Советская Белоруссия”», адрасаванай сакратару ЦК КПБ П. М. Машэраву, у студзені 1966 г. пісаў загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК А. Т. Кузьмін. Па яго словах, журналісты газеты часта блыталі ленінскія цытаты. У артыкуле «Чалавек і закон», надрукаваным 24 лістапада 1965 г., аўтар сцвярджаў, што эканамічнае развіццё ідзе па аб’ектыўных законах, якія не залежаць ад волі і жадання людзей. У нумары ад 25 лістапада ў карэспандэнцыі «Слова вучыць,

прыклад вядзе» аўтар сцвярджаў, што значэнне вераснёўскага пленума ЦК КПСС зводзіцца да барацьбы за чысціню на працоўным месцы. У артыкуле «Вернасць» (нумар ад 11 лістапада) былі непамерна раздуты маштабы бандытызму ў пасляваеннай Беларусі. Нарэшце, публікуючы заклікі ЦК КПСС да 48-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, газета надрукавала: «Хай жыве вечная, парушная (замест непарушная) дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і румынскім народамі!» [48, арк. 1–10].

Праблемным пунктам для цэнзуры заставалася па-ранейшаму БелТА (14 умяшальніцтваў у 1960 г.). 19 лютага 1960 г. БелТА перадала для друкавання ў рэспубліканскіх і абласных газетах без візы цэнзара інфармацыю «Пленум ЦК КПБ», дзе прыводзіліся звесткі пра асобы сектар ЦК. У рэспубліканскіх газетах гэтыя звесткі цэнзары прыбралі, а ў абласных сакрэтная інфармацыя прайшла, пра што і дакладваў 24 лютага сакратару ЦК К. Т. Мазураву Л. В. Садоўскі [44, арк. 256].

У часопісах БССР колькасць цэнзарскіх умяшальніцтваў таксама мела тэндэнцыю да зніжэння — з 26 у 1960 г. да 19 у 1961 г. Некаторыя з іх па-ранейшаму рабіліся па ідэалагічных матывах. У 1958 г. з шостага нумара часопіса «Маладосць» знялі артыкул Л. Ф. Яўменава «Некаторыя пытанні выхавання моладзі» («уся сістэма выхавання моладзі пададзена ў скажоным выглядзе»). З успамінаў З. Азгура «Пра сябе» (Полымя. 1961. № 6) цэнзар

Ярашэўская зняла абзац, прысвечаны Я. Лёсіку («я ніколі не сустракаў чалавека з такімі ведамі ў галіне краязнаўства») з матывіроўкай «Я. Лёсік, беларускі нацыяналіст, праходзіць па алфавітным спісе асобаў-аўтараў беларускай літаратуры, усе творы якіх падлягаюць адабранню» [46, арк. 99].

Ніжэй падаецца фрагмент аднаго з асноўных дакументаў галоўлітаўскага справаводства — «Зводкі цэнзарскіх умяшальніцтваў» з найбольш характэрнымі выкрэсліваннямі.

**Зводка цэнзарскіх умяшальніцтваў за ліпень 1956 г.**

| № | Дакладны тэкст выкрэслівання | Абгрунтаванне выкрэслівання | Назва выдання, дата, нумар, месца | Прозвішча рэдактара | П[illegible] |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | У артыкуле «Засваенне новай тэхнікі — у цэнтр увагі партыйнага камітэта» з тэксту «Мінскія аўтамабілебудаўнікі за апошні час значна палепшылі паказчыкі сваёй працы... Завод даў звыш плана прадукцыі больш чым на 10 млн рублёў» прыбрана падкрэсленае | СВУ № 4, § 124 | Газета «Мінская праўда», № 133 ад 7 ліпеня 1956 г. | Пузікаў | С[illegible] |
| 4. | | | | | К[illegible] |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | З тэксту «Бабруйскія сударэмонтнікі пабудавалі ў гэтым годзе і спусцілі на ваду чатыры камфартабельныя параходы тыпу “Масквіч” і дзве статонныя самаходныя баржы» знята падкрэсленае | СВУ № 4, § 129 | Радыёкамітэт. Апошнія паведамленні ад 10 ліпеня 1956 г. | | |
| 9. | Са зводкі «Вынікі справаздачнага года» з тэксту: «Сёлета вытворчы план прадпрыемства значна павялічаны. Наперадзе выпуск паўмільёна веласіпедаў і 30 тыс. матацыклаў» знята падкрэсленае | СВУ № 4, § 129 | Шматтыражная газета «Мотовелозаводец» № 13 ад 28 ліпеня 1956 г. | Андронаў | Кр |
| 11. | У артыкуле «Па-баявому выканаем рашэнні ХХ з’езда КПСС» з тэксту «На Мінскім станкабудаўнічым заводзе імя Кірава з 878 рабочых 617 з’яўляюцца перадавікамі вытворчасці» знята падкрэсленае | СВУ № 4, § 219, пункт «Г» | Зборнік «Машиностроитель Белоруссии». Вып. 2 | Чарняк | За |
| | | | | | |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 12. | У нататцы «Прывітанне, Радзіма» з тэксту «Усяго за апошнія тры гады ў Беларусь вярнуліся з Лацінскай Амерыкі 682 беларуса» знята падкрэсленае | СВУ № 4, § 335, пункт «Д» | Журнал «Советская Отчизна». № 4. | Панчанка | За |
| 16. | У нататцы «Вышэй узровень арганізацыі працы ДТСААФ БССР» з тэксту «ДТСААФ БССР налічвае ў сваіх шэрагах больш мільёна чалавек» знята падкрэсленае | СВУ № 4, § 93 | Газета «Советская Белоруссия» | | Хо |

(Усяго ў ліпені 1956 г. папярэдняя цэнзура зрабіла 17 выкрэсліванняў у газетах, часопісах, паведамленнях БелТА і радыёперадачах, што прыкладна адпавядала сярэднемесячнаму паказчыку таго часу) [29, арк. 92–98].

Партыйныя органы па-ранейшаму ажыццяўлялі функцыю «звышцэнзуры» СМІ, выступалі ў якасці найвышэйшых цэнзараў у найбольш складаных выпадках. Праілюстраваць гэтую думку можна гісторыяй публікацыі артыкула С. Х. Александровіча, напісанага на архіўных матэрыялах да 60-годдзя

выхаду першага пумара «Нашай нівы». Галоўны рэдактар часопіса «Полымя» М. Танк, дзе артыкул стаяў у плане, мусіў даслаць яго рукапіс на экспертызу сакратару ЦК КПБ па ідэалогіі С. А. Пілатовічу, а ўжо па даручэнні апошняга тэкст С. Х. Александровіча правіў інструктар аддзела прапаганды і агітацыі ЦК С. Я. Паўлаў [39, арк. 168].

У ліпені 1957 г. адбылося спецыяльнае пасяджэнне бюро Антокальскага райкама партыі, дзе абмяркоўвалася палітычная памылка, якую здзейсніў рэдактар мясцовай газеты «Перамога» А. І. Тунчык. Ён вырашыў не друкаваць пастанову ліпеньскага пленума ЦК КПСС «Аб антыпартыйнай групе Малянкова, Кагановіча, Молатава» цалкам, а абмежавацца толькі інфармацыйным паведамленнем аб пленуме. Па выніках абмеркавання гэтага здарэння рэдактару газеты далі вымову, а загадчыку аддзела прапаганды і агітацыі райкама Канькову паставілі на від і абавязалі яго асабіста праглядаць кожны нумар раёнкі [30, арк. 257].

У фокусе ўвагі партыйнага кіраўніцтва рэспублікі і Галоўліта БССР знаходзілася газета творчай інтэлігенцыі «Літаратура і мастацтва», якая пасля XX з’езда КПСС пачала ўздымаць вострыя пытанні развіцця нацыянальнай культуры. Падобныя публікацыі ўжо 27 лютага 1957 г. выклікалі спецыяльную пастанову ЦК КПБ «Аб памылках і недахопах у рабоце газеты “Літаратура і мастацтва”» [31, арк. 1–2]. І тым не менш ужо ў студзені 1958 г. загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК М. А.

Халіпаў пісаў Ц. З. Гарбунову: «Газета “Літаратура і мастацтва” ў нумары за 8 студзеня бягучага года надрукавала падборку лістоў у рэдакцыю пад агульнай назвай “Шанаваць родную мову”, якая з’яўляецца своеасаблівым водгукам на карэспандэнцыю Б. Сачанкі, змешчаную ў гэтай жа газеце 14 снежня 1957 г. Аўтары лістоў робяць зусім непатрэбныя для нашага друку абагульненні і заявы, якія льюць ваду на млын нацыяналістычна настроеных элементаў.

Напрыклад, студэнт Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума В. Голуб піша: “У Мінску цяпер працуюць 58 сярэдніх школ. З іх толькі дзесяць — беларускія. Ды хіба толькі ў Мінску такое становішча? Прыкладна тое ж назіраецца ў Гомелі, Брэсце, Магілёве і іншых гарадах”. Далей у лісце Голуба гаворыцца: “Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум рыхтуе тэхнікаў-будаўнікоў. Пераважная большасць выпускнікоў гэтага тэхнікума працуе на Беларусі. Гаварыць па-беларуску за чатыры гады яны амаль што развучыліся. На будоўлях рабочыя ў асноўным гавораць па-беларуску. Атрымліваецца, калі чалавек — які-небудзь там начальнік, дык ён амаль не карыстаецца беларускай мовай”.

Прыкладна ў тым жа духу пададзены і астатнія лісты — М. Прашковіча, В. Чамярыцкага, К. Санько. Асобныя з гэтых лістоў могуць з’явіцца сваеасаблівай знаходкай для варожай нам капіталістычнай прэсы і розных выданняў, якія друкуюцца беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі за мяжой».

Працягам гэтага звароту быў выклік у ЦК галоўнага рэдактара газеты М. Г. Ткачова, дзе яму былі зроблены сур'ёзныя заўвагі. У прыватнасці, галоўнаму рэдактару патлумачылі, што «пытанні, рашэнне якіх не ўваходзіць у кампетэнцыю газеты, неабходна ставіць перад адпаведнымі органамі рэспублікі» [31, арк. 1–2].

Журналіст А. А. Тоўсцік узгадваў, як у красавіку 1969 г. рэдактар газеты «Віцебскі рабочы» — былы марак, блакаднік — А. Ф. Пазняк паклаў галаву на рэйкі перад хуткім цягніком пасля рэзкай размовы ў віцебскім абкаме партыі. Гэтая размова адбылася з-за таго, што ў газеце ў матэрыяле ТАСС прайшла памылка — замест слова «сацыялізм» было надрукавана слова «капіталізм». Такім чынам, віцебскіх працоўных запэўнівалі, што яны будуюць ужо аджыўшую сацыяльную фармацыю [104, с. 99].

У гады «адлігі», хаця і ў значна меншых аб'ёмах, чым у папярэднія часы, працягвалася практыка знішчэння тыражоў газет з-за памылак друку. Напрыклад, быў знішчаны і перадрукаваны нанова 40-тысячны тыраж нумара газеты «Знамя юности» ад 23 лістапада 1958 г. з-за «буйной памылкі», зробленай у цытаце з даклада М. С. Хрушчова XXI з'езду КПСС. Гэта памылка каштавала працоўнага месца загадчыку аддзела інфармацыі газеты. Загадчыкам іншых аддзелаў абвясцілі вымовы. Па-ранейшаму, хаця і не настолькі жорстка, як у сталінскія часы, за памылкі друку каралі «стрэлачнікаў». У лістападзе 1958 г. Кармянскі

райкам партыі Гомельскай вобласці прыняў рашэнне аб звальненні з працы сакратара рэдакцыі мясцовай газеты «Авангард» за тое, што адзін з яе лістападаўскіх нумароў выйшаў без указання, чый гэта друкаваны орган [31, арк. 113–114].

Галоўліт кантраляваў не толькі тэксты перыядычных выданняў, але і мастацкае іх афармленне, беручы на сябе ролю арбітра эстэтычнай вартасці («прымітыўныя малюнкі», «мазня»). 28 мая 1959 г. Л. В. Садоўскі сігналізаваў сакратару ЦК Ц. С. Гарбунову пра дрэнны мастацкі ўзровень дзіцячых часопісаў «Бярозка» і «Вясёлка». Напрыклад, на вокладцы часопіса «Бярозка» (1958. № 4) на малюнку М. Бельскага «на фоне сумнага змрочнага краявіду двое дзетак. Твар дзіцяці, якое прыгнулася і збірае кветкі, не выказвае ні пачуццяў, ні думак. Не бачна і кветак. Замест іх накрэмзаны нейкія блакітныя плямы». У тым жа часопісе (1958. № 6) на вокладцы быў змешчаны малюнак будучага народнага мастака акадэміка Г. Паплаўскага «Першая баразна». На ім «за рулём трактара паказаны не юнак, які робіць першую баразну, першы крок у працоўнае жыццё, а нейкі шкілет з вугалькамі замест вачэй». Тым не менш усё гэта пайшло ў друк. А вось вокладку першамайскага нумара часопіса «Вясёлка» (1959. № 5) Галоўліт забараніў. З яе замест шчаслівых дзіцячых тварыкаў «на чытача глядзелі агромністыя старыя твары, якія выказвалі нейкі жах». Вельмі часта Л. В. Садоўскі крытыкаваў мастакоў за тое, як яны

малявалі класікаў марксізму-ленінізму [32, арк. 155–157].

7 мая 1965 г. было адабрана 2 тыс. асобнікаў з тыражу (500 асобнікаў усё ж дайшло да чытачоў) святочнага нумара шматтыражкі БДУ імя Леніна «Беларускі універсітэт». Прычынай адабрання з'явіліся дзіўныя знакі на касках удзельнікаў Парада Перамогі, паказаных на першай паласе газеты. Эксперты з аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ ідэнтыфікавалі знакі як нацысцкую свастыку. Таму гэтая «палітычная памылка» абмяркоўвалася на бюро Мінскага абкама партыі. У выніку абмеркавання цэнзару папярэдняга кантролю Дзмітрыевай была абвешчана вымова, цэнзару наступнага кантролю Крукоўскай пастаўлена на від. Кіраўніцтву БДУ было ўказана на нізкую дысцыпліну — «Беларускі універсітэт» доўгі час падпісваў да друку адказны сакратар рэдакцыі, студэнт факультэта журналістыкі Б. Сачанка, а не штатны рэдактар [38, арк. 60].

Кажучы пра партыйную і галоўлітаўскую цэнзуру, не трэба забывацца пра ведамасны цэнзурны кантроль, пад якім знаходзіліся савецкія газеты і часопісы. Калі карэспандэнт газеты «Советская Белоруссия» А. Сімураў у 1961 г. паляцеў у Нью-Ёрк асвятляць работу сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, то ўсе яго карэспандэнцыі візіраваў міністр замежных спраў БССР К. В. Кісялёў. «Драбнейшая вольнасць у выкладанні, каментарах, трактоўцы якіх-небудзь праблем, што абмяркоўваліся на пленарных

пасяджэннях, у камітэтах ААН, неміласэрдна вытручвалася» [101, с. 11].

У гады «адлігі» ў савецкім грамадстве час ад часу адбываліся рэцыдывы паранаідальнага светаўспрымання сфарміраванага гадамі вялікага тэрору 1930-х гг. Прафесійным цэнзарам Галоўліта, як і ў даваенны час, дапамагалі добраахвотнікі-аматары. У 1946 г. афіцэр МУС Галаваценка з Мінска паведамляў у ЦК КП(б)Б, што ў газеце «Советская Белоруссия» надрукавана: «амерыканскія ўлады прыгаварылі двух кар’ерыстаў (замест камуністаў) да шасці гадоў зняволення». Ліст канчаўся рытарычным пытаннем: «Ці памылка гэта?» [10, арк. 133]. У 1953 г. намеснік старшыні Дрыбінскага райвыканкама Галанаў інфарміраваў Ц. С. Гарбунова пра тое, што ў зробленым БелТА і змешчаным 1 снежня ў святочным нумары беларускіх газет клішэ «Уперад да камунізма» ёсць памылка. На ім савецкі працоўны трымаў «Планы пятай сталінскай пяцігодкі» пад пахай згорнутымі ў трубку. Між тым, «будаўніцтва камунізму ідзе не са згорнутым планам па ўсіх галінах народнай гаспадаркі і пераўтварэння прыроды, а з разгорнутым планам, для ўсіх даступным і зразумелым» [26, арк. 36]. Рэдактар аршанскай раённай газеты «Ленінскі прызыў» Каліbeраў сігналізаваў Ц. С. Гарбунову пра надрукаваны ў часопісе «Полымя» (1957. № 7) антываенны верш Ул. Караткевіча «Вадарод», накіраваны супраць атамнага апакаліпсіса: «Працоўныя Аршаншчыны

вельмі абураны “прадбачаннем” гэтага прарока» [30, арк. 251].

Тым не менш лібералізацыя грамадскага жыцця размывала цэнзурную грамадскую свядомасць, у т. л. у прадстаўнікоў журналісцкага цэха. У гэты час адбыліся першыя адкрытыя пратэсты журналістаў супраць дыктату цэнзуры. У 1955 г. паэт-франтавік А. В. Пысін, які ў той час працаваў рэдактарам чэрыкаўскай раённай газеты «Сацыялістычная перамога», даў тэлеграму М. С. Хрушчову, пратэстуючы супраць загаду сакратара райкама партыі зняць артыкул з крытыкай мясцовага начальства. У выніку нумар газеты выйшаў без купюр, сакратара райкама знялі з пасады, а А. В. Пысіну далі вымову, каб іншыя не бралі з яго прыклад [2, с. 7].

Праз тры гады, у жніўні 1958 г., начальнік Галоўліта БССР быў вымушаны ў ЦК КПБ даваць адказы на папрокі яго ведамству, выказаныя ў лісце ў ЦК КПБ рэдактараў дзвюх галоўных беларускіх газет — «Звязды» і «Советской Белоруссии». В. А. Пыжкоў і А. А. Здаравенін скардзіліся Ц. С. Гарбунову, што Л. В. Садоўскі выстаўляў перад імі абсурдныя патрабаванні, цэнзар Крукоўская надта павольна вычытвала палосы, дзяжурныя цэнзары самавольна падмянялі адзін аднаго, не заўсёды знаходзіліся на месцы [31, арк. 91].

Жаданне прадстаўнікоў савецкага журналісцкага цэха пазбавіцца цэнзарскай апекі цалкам натуральнае і зразумелае, і яно не патрабуе нейкіх далейшых інтэрпрэтацый. Значна цяжэй нашаму сучасніку

зразумець іх імкненне знаходзіцца пад кантролем цэнзуры. Ці была нейкая выгода ў кіраўніцтва БелТА і Камітэта радыёінфармацыі, калі яны катэгарычна не пагадзіліся з прапановай Галоўліта аб’яднаць дзве штатныя цэнзарскія пасады ў іх установах у адну? Якой логікай кіравалася дырэкцыя МТЗ, калі прасіла ЦК КПБ даць указанне начальніку Галоўліта аб выдзяленні цэнзара для наведвання заводскай друкарні, дзе выдавалася шматтыражка «Трактар», прынамсі два разы на тыдзень? Напэўна, стратэгіяй выжывання, логікай паводзінаў людзей у таталітарным грамадстве, якімі рухала прагматычнае жаданне пазбавіцца ад асабістай адказнасці за магчымыя ідэалагічныя памылкі, схавацца за спіну прафесійнага цэнзара, стаць пад яго «ахову».

Ва ўжо ўзгаданай вышэй пастанове ЦК КПСС «Аб павышэнні адказнасці кіраўнікоў органаў друку, радыё, тэлебачання, кінематаграфіі, устаноў культуры і мастацтва за ідэйна-палітычны ўзровень друкаваных матэрыялаў і рэпертуару», якая выйшла 7 студзеня 1969 г., адзначалася важная роля сродкаў масавай інфармацыі ў фарміраванні светапогляду, павышэнні палітычнага і культурнага ўзроўню савецкага народа. Разам з тым падкрэслівалася, што асобныя аўтары адыходзілі ад класавых крытэрыяў пры ацэнцы складаных грамадска-палітычных праблем, фактаў і падзей і нават ператвараліся ў носьбітаў чужых для сацыялістычнага грамадства поглядаў. Некаторыя кіраўнікі выдавецтваў, органаў друку, радыё, тэлебачання не прадухілялі выпуску ідэйна

памылковых твораў, дрэнна працавалі з аўтарамі, праяўлялі падатлівасць і палітычную беспрынцыповасць у вырашэнні пытанняў аб публікацыі ідэйна заганных матэрыялаў. Асобныя з іх спрабавалі перакласці ўласную адказнасць на Галоўліт.

28 сакавіка 1969 г. гэта пастанова ЦК КПСС абмяркоўвалася на пасяджэнні бюро ЦК КПБ, дзе старшынстваваў П. М. Машэраў. На ім адзначалася, што недахопы, прадстаўленыя ў пастанове, меліся таксама ў БССР. На кіраўнікоў Дзяржкамітэта па друку, членаў рэдкалегій і рэдактараў перыядычных выданняў ускладалася асабістая адказнасць за ідэйна-палітычны змест матэрыялаў, падрыхтаваных да друку. Узмацняўся партыйны і ведамасны кантроль за сродкамі масавай інфармацыі [56, арк. 9–14]. Галоўліт БССР адгукнуўся на гэту пастанову ЦК КПСС наборам рытуальных мерапрыемстваў — партыйным сходам, тэарэтычным семінарам, а таксама лекцыямі для супрацоўнікаў.

Заканчэнне непрацяглага і супярэчлівага перыяду «адлігі» ў беларускай прэсе было заўважана міжнароднай журналісцкай супольнасцю. Летам 1969 г. БССР наведала група амерыканскіх журналістаў. Сярод іх быў рэдактар газеты «Дэйлі Аклахоўмэн» Ч. Бенэт, які 31 кастрычніка таго ж года выклаў свае ўражанні ад візіту ў артыкуле, надрукаваным ва ўласнай газеце. У ім ён сцвярджаў, што свабоды друку ў СССР не існуе. Ён праілюстраваў сваю думку ўрыўкам з сустрэчы з мінскімі калегамі:

«Мы пацікавіліся, ці друкавалі савецкія газеты што-небудзь крытычнае пра Мікіту Хрушчова да яго падзення ў 1964 годзе, якога не чакаў ніхто ў свеце.

– Ён на пенсіі. Навошта яго цяпер абмяркоўваць? — адказаў адзін мінскі журналіст.

– Ці пісалі вашы газеты што-небудзь супраць яго, калі ён быў ва ўладзе? Як мы пазней даведаліся, ён не быў здольны кіраваць.

– Была крытыка некаторых прадпрыемстваў. Мы публікавалі тое, што казалася на розных сходах, — адказаў член праўлення Беларускага саюза журналістаў Анатоль Лісоўскі.

– А самі газеты што-небудзь казалі?

– Вам варта проста зноў прагледзець свае запісы, — адказаў другі мінскі журналіст.

– Калі-небудзь газеты Беларусі займаюць пазіцыю адрозную ад пазіцыі Вярхоўнага Савета?

– У нас такіх выпадкаў не было, таму што перад тым, як прымаецца закон, праводзяцца шырокія дыскусіі, — патлумачыў іншы мінскі журналіст» [51, арк. 419].

Адпаведна дадзеных ЦСУ БССР, у 1972 г. у рэспубліцы выдавалася 168 газет, у т. л. 11 рэспубліканскіх, 6 абласных, 14 гарадскіх, 106 раённых, 31 нізавая. З іх 128 газет выдаваліся на беларускай мове агульным гадавым тыражом у 255 тыс. асобнікаў, 40 — на рускай мове агульным гадавым тыражом у 445 тыс. асобнікаў. У тым жа годзе ў БССР выдавалася 111 часопісаў, бюлетэняў, перыядычных зборнікаў. 27 з іх выдаваліся на

беларускай мове агульным гадавым тыражом у 22,6 тыс. асобнікаў, 84 — на рускай мове агульным гадавым тыражом у 5,2 тыс. асобнікаў [41, арк. 58].

1970-я — першая палова 1980-х гг. былі часам вяртання да моцнага партыйнага і цэнзурнага кантролю над СМІ, канчатковай выпрацоўкі пісаных і няпісаных «правілаў гульні», паводле якіх дзейнічалі журналісты і цэнзура[41]. Толькі ў 1972 г., па нашых падліках, па пытаннях друку было прынята 25 пастаноў ЦК КПБ, у т. л. аб сур'ёзных недахопах у працы часопіса «Коммунист Белоруссии», аб павышэнні ролі прэсы ў прапагандзе і ўкараненні ў вытворчасць дасягненняў навукі, тэхнікі і перадавога вытворчага вопыту, аб эканамічнай вучобе работнікаў рэдакцый газет і часопісаў і інш. Ахвярай пастановы ЦК КПБ ад 7 мая 1975 г. «Аб парушэннях устаноўленага парадку выдання ведамаснай літаратуры ў рэспубліцы» стала студыя Саюза журналістаў БССР «Фота і жыццё», якая была пазбаўлена права выдавецкай дзейнасці [55, арк. 49].

Усе партыйныя пастановы былі абавязковыя для вывучэння і выканання не толькі прадстаўнікамі журналісцкага цэха, але і цэнзарамі Галоўліта. Сярод парушальнікаў у справаздачах Галоўліта БССР 1970-х гг. часцей за іншыя друкаваныя СМІ прыгадваецца газета «Вячэрні Мінск», а таксама БелТА. Іх парушэнні, як і большасці іншых газет, мелі тэхнічны, «пераліковы» характар (напрыклад,

інфармацыя пра падвышэнне сезонных коштаў на бульбу).

Радзей у справаздачах таго часу мы сустракаем цэнзарскія заўвагі, зробленыя паводле ідэалагічных памылак. Такіх, як у часопісе «Промышленность Белоруссии» (1977. № 6), дзе правіўся артыкул Д. Ротмана «Не дзеля формы». У ім сцвярджалася, што на мінскіх заводах «Тэрмапласт» і аўтаматычных ліній кожны трэці рабочы лічыць сябе ўцягнутым у сацыялістычнае спаборніцтва пад ціскам адміністрацыі, а на заводзе шасцярон і маторным заводзе такіх асобаў да 15 % [88, арк. 9].

У сярэдзіне 1980-х гг. ідэалагічны кантроль праглядзеў з’яўленне бюлетэня суполкі маладых беларускіх літаратараў «Тутэйшыя», які выходзіў пад назваю «Кантроль», а таксама літаратурныя старонкі, якія мела суполка ў газетах «Літаратура і мастацтва» і «Чырвоная змена». Дзякуючы лібералізму рэдактара наваполацкай газеты «Химик» У. Т. Сімурава ў сярэдзіне 1980-х гг. раз на месяц на літаратурных старонках гэтага выдання друкаваліся творы сяброў мясцовага літаб’яднання «Крыніцы». Сярод іншага, напрыклад, там можна было прачытаць вершы С. Сокалава-Воюша «Песні касінераў», якія пазней бард выконваў на дэмакратычных мітынгах.

Яшчэ радзей крытыка камуністычнай сістэмы ў асобах яе кіраўнікоў, пераадолеўшы цэнзурныя перашкоды, трапляла на старонкі друку. У канцы 1970-х гг. у «Сельской газете» друкаваліся матэрыялы літсупрацоўніка І. П. Сярэдзіча, якія выкрывалі

некампетэнтнасць сакратара ЦК КПБ В. С. Шавялухі. Гэтыя матэрыялы рабіліся прадметам абмеркавання на самым версе. Урэшце П. М. Машэраў зразумеў, што з вылучэннем В. С. Шавялухі ён памыліўся, і неўзабаве таго перавялі намеснікам міністра сельскай гаспадаркі ў Маскву [8, с. 114]. Пасля публікацый карэспандэнта «Известий» М. Я. Матукоўскага па нашумелай фальсіфікаванай «мазырскай справе»[42] былі знятыя з пасад міністр унутраных спраў рэспублікі, яго намеснік, пракурор БССР [4].

Па-ранейшаму неспакой у цэнзараў выклікала арганізацыя кантролю за зместам раённых газет. Як ужо згадвалася вышэй, з 1954 г. ахова дзяржаўнай тайны ў раённым друку была ўскладзена на рэдактараў газет. Галоўліт з гэтага часу ажыццяўляў толькі выбарачны наступны кантроль раёнак, а таксама праводзіў тлумачальную працу з рэдактарамі. Колькасць сакрэтных звестак, што праслізвалі ў раённы друк напрыканцы эпохі «адлігі», падаюць наступныя лічбы. У 1965 г. было выяўлена 10 парушэнняў «Пераліку звестак, забароненых да друкавання ў раённых, гарадскіх, шматтыражных газетах і перадачах па радыё», у 1966 г. — 19, за першую палову 1967 г. — 21 [49, арк. 213]. У 1968 г. забароненыя звесткі з’яўляліся на старонках раёнак 18 разоў [50, арк. 173].

Вялікай колькасцю пропускаў забароненых дадзеных характарызавалася праца раённага друку і ў іншых савецкіх рэспубліках. Выправіць гэту сітуацыю

маскоўскія ідэолагі паспрабавалі з дапамогаю спецыяльнай пастановы ЦК КПСС «Аб павышэнні ролі раённых газет у камуністычным выхаванні працоўных», прынятай 12 верасня 1968 г. Намаганні, прыкладзеныя да выканання гэтай пастановы, далі плён у кароткачасовай перспектыве. У 1972 г. наступная цэнзура выявіла пяць парушэнняў у раённых газетах БССР, у 1973 г. — толькі два [54, арк. 20]. Але ўжо з сярэдзіны 1980-х гг. колькасць парушэнняў зноў пачала няўхільна павялічвацца. Вось як выглядае статыстыка разгалашэнняў дзяржаўных і ваенных тайн, закрытых дакументаў і інш. у беларускім раённым друку: 1984 г. — 21, 1985 г. — 31, 1986 г. — 39, 1987 г. — 42 [90, арк. 1].

Манапалізацыя, адзяржаўленне прэсы, пераўтварэнне яе ў сродак камуністычнай прапаганды нарадзіла інфармацыйны голад у савецкім грамадстве. Штогод рэдакцыі перыядычных выданняў БССР атрымлівалі каля паўмільёна лістоў чытачоў. На значную частку пытанняў, якія змяшчаліся ў тых лістах, адказаць магчымасці не было. Пра што ж цэнзура не дазваляла казаць беларускім савецкім газетам і часопісам? Вось некаторыя пытанні, зададзеныя ў 1972 г. з залы членам прапагандысцкіх груп ЦК КПБ: «Як разумець палажэнне Праграмы КПСС, што сённяшняе пакаленне людзей будзе жыць пры камунізме? Які далейшы лёс беларускай мовы? Ці праўда, што пры асушэнні балот знікаюць рэкі і азёры? Чаму ў нас легкавік каштуе 5–6 тысяч рублёў, а за мяжой ён прадаецца за тысячу? Які стан і

перспектывы эканамічнага спаборніцтва паміж СССР і ЗША?» [53, арк. 165].

Пасля таго, як у 1987 г. М. С. Гарбачоў ухваліў палітыку галоснасці, сродкам масавай інфармацыі дазволілі пачаць шырокую кампанію крытыкі існуючага грамадства і яго гісторыі пад лозунгам «вяртання да ленінскіх нормаў». Журналісты спачатку асцярожна, а потым усё смялей распачалі крытыку гісторыі савецкай дзяржавы. У 1988 г. адбыўся літаральна выбух цікавасці да мінулага краіны. Адкрыты антысталінізм незаўважна перарастаў у адмаўленне вопыту і дасягненняў СССР за ўвесь перыяд яго існавання, нарадзіў у значнай частцы грамадства адчуванне тупіка, у якім апынулася ўся краіна. Выхад з яго кожная савецкая рэспубліка шукала па-свойму. У БССР з’явіліся першыя недзяржаўныя газеты. У 1988 г. у Літве пачалі друкавацца «Навіны БНФ», крыху пазней — «Свабода». У маі 1988 г. у прамове празаіка і публіцыста В. Якавенкі на пленуме Саюза пісьменнікаў у Мінску ўпершыню прагучала публічная крытыка «самадзейнай палітычнай цэнзуры СМІ, ужо адмененай у цэнтры, але якая штучна падтрымліваецца ў БССР Паўлавым» [57, арк. 3]. Выступаючы на пленуме ЦК ЛКСМБ у чэрвені 1989 г., намеснік рэдактара часопіса «Крыніца» Л. С. Екель прама назваў загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ С. Я. Паўлава «жандарам», «душыцелем прэсы» [60, арк. 124].

Адпаведна зменам у грамадскім клімаце краіны цэнзура здавала пазіцыі. Апошні начальнік Галоўліта БССР Г. С. Лазоўская ў сваёй справаздачы за 1988 г. здзіўлялася «жорсткай беспрынцыповай пазіцыі асобных супрацоўнікаў сродкаў масавай інфармацыі, іх хваравітай рэакцыі на любыя заўвагі і пытанні цэнзараў» [59, арк. 17]. Колькасць выкрэсліванняў, зробленых па ідэалагічных прычынах у беларускіх друкаваных СМІ эпохі перабудовы, яшчэ больш скарацілася. У 1988 г. толькі шэсць матэрыялаў былі цалкам забаронены Галоўлітам для публікацыі ў беларускіх СМІ. Гэта былі паэма І. Ласкова «Чэрвень» (завярстана ў газеце «Літаратура і мастацтва», № 7), артыкул Г. Бубнава «А праўда ўсё ж такі пасярэдзіне» (завярстана ў часопісе «Неман», № 9), артыкул В. Хомчанкі «Прагулка па Ленінскім праспекце» (завярстана ў газеце «Літаратура і мастацтва», № 35), зварот нефармальнага аб'яднання «Талака» (перасылаўся ў рэдакцыю беластоцкай газеты «Ніва»), статут гістарычна-асветніцкага таварыства (прадстаўлены Саюзам кінематаграфістаў БССР), плакат, прысвечаны галоснасці (прадстаўлены Саюзам мастакоў БССР). Больш чым у пяцідзесяці выпадках на працягу 1988 г. цэнзары Галоўліта ўказвалі рэдактарам газет і часопісаў на ідэалагічныя памылкі ў прадстаўленых матэрыялах. Некаторыя з іх выпраўляліся, некаторыя ішлі ў друк без дазваляльнага штампа цэнзуры пад адказ рэдактараў [59, арк. 14]. Тыповае парушэнне таго часу («узгаданы заводы, не дазволеныя да паказу ў

адкрытым друку») абмяркоўвалася на лятучцы ў рэдакцыі «Советской Белоруссии» і Галоўліце БССР у верасні 1988 г. Яно было зроблена па недаглядзе цэнзара ў артыкуле А. Бутэвіча «Няўжо яны не разумеюць?» [91, арк. 28].

Адным з фарпостаў свабоды слова ў БССР эпохі перабудовы была газета «Літаратура і мастацтва». Тагачасны галоўны рэдактар газеты А. І. Вярцінскі, які даведаўся пра цэнзуру на прыкладзе ўласнай творчасці ўжо ў 1968 г., адразу ж пасля свайго ліста П. М. Машэраву ў абарону В. Быкава наступным чынам ўзгадваў пра тое, як 3 чэрвеня 1988 г. ён надрукаваў артыкул З. Пазняка і Я. Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці»: «Раніцаю вырашыў, што нікому, акрамі свайго намесніка, не буду казаць пра артыкул, каб не было лішняй агалоскі. Мне вельмі хацелася, каб артыкул трапіў у нумар, і я разумеў, што трэба быць асцярожным. На рэдактарскай планёрцы мы пра Курапаты проста прамаўчалі. І нумар павезлі ў Дом друку. Там тады знаходзіўся галоўліт — так тады называлі цэнзурны орган, ад якога можна было чакаць усё што заўгодна. Артыкул маглі зняць. Але "Курапаты..." ён прапусціў! Мяркую, агульны дух часу ўсё ж такі нагадваў пра сябе: у Савецкім Саюзе Гарбачоў праводзіў перабудову, казаў пра галоснасць, плюралізм» [1, с. 6–7].

Эфект выбухнуўшай бомбы, які зрабіла публікацыя гэтага артыкула ў грамадстве, хутка ацвярозіў цэнзараў і іх куратараў у ЦК. Таму артыкул В. Быкава «Дручкі замест перабудовы», прысвечаны

разгону мірнага шэсця на Курапаты 30 кастрычніка 1988 г., ужо не мог быць надрукаваны ў БССР і з’явіўся ў тым жа годзе толькі ў маскоўскім часопісе «Огонек».

Апошняя безвыніковая спроба партыйных органаў рэспублікі захаваць кантроль над СМІ была зроблена на нарадзе кіраўнікоў газет, часопісаў, радыё і тэлебачання ў ЦК КПБ, якая адбылася ў студзені 1989 г. Кіраўнікам СМІ было ўказана на недапушчальнасць памылковых, адвольных тлумачэнняў асобных падзей, фактаў, якія скажалі гісторыю савецкага народа і рэчаіснасць. Да падобных фактаў арганізатары нарады аднеслі ў т. л. публікацыю крытыкі злоўжыванняў і прывілеяў кіруючых работнікаў. Па выніках нарады Галоўліту БССР было даручана правесці інструктаж кіраўнікоў СМІ па выпраўленні ўказаных памылак. Тым не менш падобных «памылак» рабілася ўсё больш і больш.

---

37 Пыжкоў Васіль Андрэевіч — галоўны рэдактар газеты «Звязда».

38 Пашкевіч Нічыпар Еўдакімавіч — адказны сакратар газеты «Звязда».

39 Жэбрак Антон Раманавіч — беларускі генетык, селекцыянер, з мая па лістапад 1947 г. з’яўляўся прэзідэнтам АН БССР. Пасля публікацыі артыкула ў часопісе «Science», у якім партыйнае кіраўніцтва БССР убачыла паклёп на савецкіх вучоных, А. Р. Жэбрака знялі з пасады прэзідэнта, ён быў вымушаны з’ехаць з Мінска.

40 Напрыклад, у 1946 г. у некаторых раёнах БССР газеты выдавалі яшчэ на партызанскіх ручных друкавальных машынах.

41 Напрыклад, адным з падобных няпісаных правілаў было «забыццё» П. М. Машэрава, якое пачалося ў СМІ пры яго спадкаемцы Ц. Я. Кісялёве і стала

нягласным табу пры змяніўшым апошняга М. М. Слюнькове. У той час нават карэспандэнцыя БелТА пра параход, які насіў імя «Машэраў» лічылася недарэчнай (Тоўсцік А. А. Вяртанне да вытокаў сваіх, 1997. С. 99).

42 «Мазырская справа» — крымінальная справа, па выніках расследавання якой за забойства інспектара рыбнагляду У. В. Кузьменкі і следчага пракуратуры С. Д. Кузьмянкова ў 1983 г. былі асуджаны пяцёра невінаватых. Па выніках праверкі міністр унутраных спраў БССР Г. М. Жабіцкі, яго намеснік П. С. Жук, пракурор рэспублікі А. І. Магільніцкі, а таксама шэраг іншых высокапастаўленых чыноў праваахоўных органаў былі адпраўлены ў адстаўку, паніжаны ў званнях і пасадах.

## Радыё і тэлебачанне

У верасні 1943 г. рашэннем ЦК КП(б)Б у Гомелі пачаў зноў дзейнасць Камітэт па радыёфікацыі і радыёвяшчанні пры СНК БССР, які адразу ж заняўся аднаўленнем сеткі вяшчання. Там жа 25 сакавіка 1944 г. узнавіла сваю работу перасоўная радыёстанцыя імя СНК БССР. Беларускае радыё пачало сваю працу ў пасляваенныя гады невялікім аб'ёмам вяшчання — тры гадзіны ў суткі. З перапынкамі, у якія вялася трансляцыя перадач маскоўскага радыё, яно працавала з 7 да 24 гадзін. Пасля вызвалення Мінска Радыёкамітэт перавялі ў сталіцу. А 3 чэрвеня 1945 г. у Калодзішчах была ўзноўлена радыёстанцыя «Савецкая Беларусь», якая забяспечвала прыём ва ўсіх раёнах БССР. Адкрыў таксама дзверы радыёдом на вул. Рэвалюцыйная, 3. На 1 студзеня 1947 г. у БССР было ўжо 94 784 радыёкропкі Міністэрства сувязі (з іх 13 368 кропак на вёсцы), а таксама 2132 радыёкропкі іншых ведамстваў. Асноўнай тэматыкай радыёперадач таго часу была Вялікая Айчынная вайна і пасляваеннае аднаўленне [14, арк. 221].

Раздзел «Інструкцыі цэнзара» пад назвай «Аб кантролі над радыёінфармацыяй» патрабаваў, каб тэксты ўсіх радыёперадач візіраваліся подпісамі цэнзара папярэдняга кантролю пааркушава, папка перадач завяралася асабістым штампам цэнзара, у яе канцы пазначалася колькасць матэрыялаў, дазволеных да эфіру, і зноў завяралася подпісам

цэнзара. У Галоўліце БССР і ва ўсіх абллітах стаялі радыёкропкі для наступнага кантролю радыёперадач. Раённае вяшчанне кантралявалася абллітамі шляхам адсылкі ў вобласці другіх экзэмпляраў тэкстаў радыёперадач. Цэнзар папярэдняга кантролю Фралова, якая «абслугоўвала» Радыёкамітэт у канцы 1940-х — 1950-я гг., сутыкалася альбо са звычайнымі памылкамі друку, альбо з няздольнасцю аўтара адрэагаваць на бягучую ідэалагічную замову. Слядоў свядомых ідэалагічных дыверсій на радыё тагачасныя архіўныя дакументы не захавалі.

За апошні квартал 1944, 1945 і першы квартал 1946 г. Галоўліт БССР зрабіў 266 выкрэсліванняў з матэрыялаў радыёперадач, з іх 135 — з матэрыялаў рэспубліканскага вяшчання і 131 — з матэрыялаў абласных радыёкамітэтаў. Шэраг з іх, на думку Галоўліта, меў «палітычны» характар [13, арк. 83]. Так, у лютым 1946 г. цэнзар Лаўрыновіч выкрэсліў па палітычных меркаваннях з нарыса А. Вольскага «Гаспадары пушчы», падрыхтаванага да трансляцыі па радыё, фразы «карны паліцыэйскі атрад», «паліцаі, напіўшыся ў вёсцы як след самагону». Тады ж з размовы на тэму «Дагляд за цельнай каровай» быў выкрэслены сказ «У рэспубліку завезена вялікая колькасць высокапрадуктыўнай і племянной жывёлы», бо ён ускосна ўказваў на завоз трафейнага быдла з Германіі [11, арк. 202]. З радыёперадачы «Родная глухмень» Галоўліт прыбраў наступныя словы аднаго з герояў: «Вы кажаце, дзядзька Антон, пра адсталую гаспадарку. Так, дарагі мой, Вы самі

ведаеце, што такое адсталы калгас. Гэта галодныя дзеці, гэта бацькі, якія глядзяць на мяне спадылба. Гэта, Антон Данілавіч, самае страшнае. А ў нас іх больш паловы ў раёне» [43, арк. 137].

У 1948 г. Баранавіцкі аблліт зняў з перадачы абласнога радыёкамітэта нарыс «Проста каваль», дзе распавядалася пра каваля-адзінаасобніка, што бясплатна рамантаваў сялянам сельскагаспадарчы інвентар, як «безыдэйны і непраўдападобны». Неўзабаве Галоўліт БССР забараніў трансліраваць праз Баранавіцкі камітэт радыёінфармацыі верш «Воўк-дыпламат» як палітычна нявытрыманы і не маючы візы МЗС [9, арк. 18].

Напачатку кампаніі барацьбы з касмапалітамі быў адсеяны ўвесь «ідэалагічны брак» у музычным рэпертуары беларускага радыё. У выніку з'явіліся аптымальныя прапорцыі музычных жанраў, транслюемых у эфіры: музыка савецкіх (у т. л. беларускіх) кампазітараў — 41%, руская класічная музыка — 29%, заходнееўрапейская класіка — 20%, забаўляльная музыка — 10% [16, арк. 33]. Неўзабаве пры радыёкамітэце стварылі рэпертуарную камісію, якая прымала музычныя творы для выканання ў эфіры.

Якасць радыёцэнзуры Галоўліта ў першыя пасляваенныя гады была не надта высокай. Інструкцыя «Аб кантролі над радыёінфармацыяй» з-за недахопу кваліфікаваных цэнзараў, а таксама абмежаваных тэхнічных магчымасцяў часта парушалася. Адно з падобных парушэнняў,

зробленае падчас перадачы матэрыялу, падрыхтаванага рэдактарам Сухоцкім і прачытанага дыктарам Абадоўскім, разглядалася ў 1947 г. на бюро ЦК КП(б)Б. 14 лістапада ў выпуску «Апошніх навін» у 8.35 раніцы ў эфір прайшло: «Дэлегацыя жаночых арганізацый, якая прыбыла з-за мяжы па запрашэнні *антысавецкага* [замест антыфашысцкага. — *А. Г.*] камітэта савецкіх жанчын для ўдзелу ў святкаванні 30-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, знаёміцца з жыццём і працай жанчын Масквы». Гэты матэрыял не завізіраваў папярэдні кантроль, яго таксама не слухаў цэнзар наступнага кантролю. Таму пра памылку партыйныя органы даведаліся з ліста пільных радыёслухачоў са Старобінскага раёна [17, арк. 11].

Аблліты на працягу пасляваеннага дзесяцігоддзя таксама не здолелі арганізаваць дасканалы кантроль за працай абласных радыёкамітэтаў. Колькасць матэрыялаў, якія прайшлі ў эфір без дазволу абласной цэнзуры, уражвае. Напрыклад, у 1950 г. Пінскі абласны камітэт радыёінфармацыі перадаў у эфір 18 матэрыялаў (агляды газет, прагнозы надвор’я і інш.) без візы цэнзуры, у 1951 г. — 20 матэрыялаў, у 1952 г. — 4. Магілёўскі камітэт радыёінфармацыі ў 1951 г. перадаў 50 аглядаў абласных газет і 38 розных матэрыялаў без візы цэнзуры. Гродзенскі абласны камітэт у 1952 г. перадаў 21 матэрыял без дазволу аблліта. Супастаўная колькасць цэнзурных парушэнняў напачатку 1950-х гг. была здзейснена

Віцебскім, Баранавіцкім, Маладзечненскім абласнымі камітэтамі радыёінфармацыі [96, арк. 32].

Недахопы ў арганізацыі цэнзуры цалкам кампенсаваліся цэнзурным мысленнем радыёжурналістаў, якое дасягнула свайго апагею ў пасляваенны час. Вось як выглядаў звычайны беларускі радыёдзень напрыканцы 1940-х гадоў:

8.50 — Маладзёжныя песні.

9.00 — Для насельніцтва заходніх абласцей БССР. Агляд газеты «Совецкі селянін».

9.15 — Рускія плясавыя мелодыі.

9.30 — Літперадача. Апавяданне Кулакоўскага «Не выбралі».

10.00 — Для дзяцей. Агляд піянерскіх газет.

10.15 — Выступленне артыстаў Маліноўскай і Картавенкі. У праграме творы Аляб'ева, Гурылёва і Варламава.

10.50 — Матэрыялы газеты «Звязда».

15.50 — Агляд рэспубліканскіх газет.

16.05 — Канцэрт беларускай музыкі ў выкананні артыста Пігулеўскага і секстэта домраў радыёкамітэта.

16.35 — На рускай мове. «Насустрач 10-годдзю ўз'яднання», «Багатыры працы» — перадачы аб Героях Сацыялістычнай Працы заходніх абласцей рэспублікі.

17.00 — Гутарка «Англійскі народ у барацьбе за мір». Аўтар — Ісакаў.

17.15 — Канцэрт-гутарка.

17.45 — Для дзяцей. «Першы дзень у школе». Рэпартаж з новай школы.

18.00 — Для моладзі. «За высокую культуру працы». Выступленні рабочых у сувязі з падрыхтоўкай да 32-й гадавіны Кастрычніка.

18.15 — Лёгкая музыка савецкіх кампазітараў.

19.15 — Для сялян. «З чаго складваецца грашовы даход нашага калгаса». Расповяд старшыні калгаса «За Радзіму».

19.30 — Выступленне скрыпача Афанасьева. У праграме творы Гліера, Куліева, Макаравай.

20.00 — Адказы на пытанні радыёслухачоў па міжнародным становішчы.

20.15 — Развучванне песні [19, арк. 31].

Не ўсе жыхары БССР пагаджаліся слухаць такое радыё. У сакавіку 1949 г. старшыня Радыёкамітэта пры Савеце Міністраў БССР П. С. Падбярэзскі дакладаў у ЦК пра факты супраціўлення радыёфікацыі ў заходніх абласцях рэспублікі. Сярод сялян хадзіла чутка: «Калі ўсталююць радыё — дык запішуць у калгас». Калектыўныя звароты сялян аб адключэнні праваднога радыё паступілі з в. Бярэзніца Ружанскага раёна, в. Вялікае Сяло Гарадзішчанскага раёна Баранавіцкай вобласці і інш. Жыхарам баптысцкай вёскі Белавічы Івацэвічскага раёна Брэсцкай вобласці праводзіць у хаты радыё забараніў прэсвітар. У г. Высокае Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці мясцовыя «рэлігійныя палякі» замест праваднога беларускага радыё слухалі касцёльныя імшы з эфіру [20, арк. 25].

Цэнзурная ментальнасць супрацоўнікаў радыё спрашчала дзейнасць Галоўліта, але непазбежна

прыводзіла да іх прафесійнай дэградацыі. Гэта ў сваёй справаздачы адзначала камісія ЦК КП(б)Б, якая ў красавіку 1948 г. правярала аддзел палітычнага вяшчання — вядучы аддзел Радыёкамітэта. У прыватнасці, правяраючыя былі вельмі незадаволеныя прымітыўным узроўнем прапаганды ў перадачы «Экскурсія па залах музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны». У якасці прыкладу ў іх справаздачы была прыведзена наступная вытрымка з перадачы: «Экскурсант: “Скажыце, у чым моц беларускага народа, што за такі кароткі тэрмін ён здолеў узнавіць народную гаспадарку?”. Экскурсавод: “Моц беларускага народа ў тым, што ён жыве і працуе ў братэрскай сям’і савецкіх народаў і што ўсе народы, а ў першую чаргу рускі, дапамагаюць беларускаму”». На думку членаў камісіі, нават неспрактыкаваны радыёслухач адчуў ненатуральнасць, прыцягнутасць гэтага дыялогу [16, арк. 140].

Дыктар беларускага радыё І. Л. Курган, які агучваў найважнейшыя ўрадавыя матэрыялы ў прамым эфіры, параўноўваў уласную прафесію з рамяством сапёра, які памыляецца толькі аднойчы. Ён узгадваў: «У снежні 1949 г., калі краіна святкавала 70-годдзе Сталіна (я працаваў на радыё крыху больш месяца), атрымалася так, што многія калегі захварэлі на грып. Мне давялося працаваць па дзве змены. Абстаноўка на студыі была даволі напружаная: вельмі адказныя перадачы ішлі тады ў эфір. Я, як звычайна, чытаў з аркуша, хаця, канешне, трэба было з тэкстам

азнаёміцца загадзя. І вось чытаю матэрыял на тэму: Сталін і Чырвоная армія. Тэкст, зразумела, завераны ўсімі патрэбнымі подпісамі. І раптам бачу дакладна і ясна надрукаваную фразу: "Сталін — прычына бяздольнасці Чырвонай Арміі". Выпраўляю па ходзе: "Сталін — прычына баяздольнасці..." Потым клічу Марыю Васільеўну — рэдактара. Папрасіў, каб прысела на стул, потым паказваю ёй машынапіс. Перачытала, але ад хвалявання нічога не заўважыла. Калі зноў прачытала, зразумела. Як яна мне дзякавала! Мы абодва добра разумелі: калі б памылка пайшла ў эфір, дык павезлі б куды-небудзь далей — і мяне, і яе, і старшыню радыёкамітэта...» [7, с. 237].

Увосень 1951 г. у разгар барацьбы з касмапалітамі стан радыёвяшчання ў БССР зноў правярала брыгада ЦК УсеКП(б) і Усесаюзнага радыёкамітэта. Было знойдзена шмат недахопаў: слаба паказвалася роля партыі, жыццё камсамольскай арганізацыі рэспублікі, работа прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Па выніках праверкі 25 снежня 1951 г. бюро ЦК КП(б)Б прыняло пастанову «Аб незадавальняючай рабоце Камітэта радыёінфармацыі пры Савеце Міністраў БССР». Неўзабаве на радыё правялі кадравыя чысткі. На працягу 1952 г. замест звольненых «нягодных і малакваліфікаваных кадраў» было прынята на працу больш 30 новых работнікаў — членаў партыі, пераважна беларусаў і рускіх па нацыянальнасці. На канец 1952 г. склад рэдактараў і карэспандэнтаў Беларускага радыё выглядаў наступным чынам: партыйцы — 31 чалавек, беспартыйныя — 12 чалавек,

беларусы — 22, рускія — 11, украінцы — 1, яўрэі — 9 чалавек [62, арк. 41].

Чысткі адбыліся таксама ў абласных камітэтах радыёінфармацыі. Адной з іх ахвяр стаў рэдактар палітвяшчання Бабруйскага камітэта радыёінфармацыі Дуберштэйн, які за дрэннае асвятленне грамадска-палітычнага, гаспадарчага і культурнага жыцця вобласці, адрыў ад мас, перадачу нізкапробных і малаідэйных матэрыялаў у 1952 г. быў звольнены з працы [26, арк. 328].

Другую палову 1940-х — першую палову 1950-х гг. можна лічыць найвышэйшай фазай развіцця савецкага радыёвяшчання, калі яно абсалютна дамінавала як сродак масавай камунікацыі, не маючы роўных па даступнасці і распаўсюджанасці. У гэты час у тэхналогію радыёвяшчання пачынае актыўна ўкараняцца магнітафонны запіс. Гэты момант лічыцца паваротным у гісторыі радыё, бо менавіта магнітафонны запіс ствараў з аднаго боку важную перадумову для фарміравання новай сінтэтычнай «мовы радыё». З другога — ён з’яўляўся тэхнічным сродкам цэнзурнага кантролю радыёэфіру. паколькі пераважная большасць радыёперадач з гэтага часу ішла ўжо ў запісе.

У 1953 г. падчас рэарганізацыі цэнтральных і рэспубліканскіх установ, міністэрстваў і ведамстваў Камітэт па радыёфікацыі і радыёвяшчанні пры СНК БССР быў расфарміраваны і работай беларускага радыё пачало кіраваць Галоўнае ўпраўленне радыёінфармацыі Міністэрства культуры БССР.

Аднак з’яўленне тэлебачання з вялікім комплексам творчых і тэхнічных задач патрабавала самастойнай кіруючай структуры, і ў маі 1957 г. быў утвораны Дзяржаўны камітэт па радыёвяшчанні і тэлебачанні пры Савеце Міністараў БССР.

Неўзабаве пасля XX з’езда КПСС у ліпені 1956 г. у дакладной загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ М. А. Халіпава сакратарам ЦК М. Я. Аўхімовічу і Ц. С. Гарбунову нечакана прагучалі словы праўды: «Буйны недахоп радыёперадач у тым, што ў іх надта многа непатрэбнага выхвалення і проста хлусні» [28, арк. 62]. Але што меў на ўвазе высокі партыйны чыноўнік, кажучы пра хлусню? Камуністычную радыёпрапаганду альбо яе не адпавядаючы часу прымітыўны ўзровень? На нашу думку, другое. Прынамсі, хлусня з беларускага радыё пасля дакладной М. А. Халіпава нікуды не сышла, пра што сведчыць наступны эпізод.

У верасні 1956 г. Упраўленне радыёінфармацыі вырашыла запісаць выступленне групы беларускіх турыстаў — удзельнікаў падарожжа вакол Еўропы на цеплаходзе «Перамога» для падрыхтоўкі адпаведнай перадачы. Запіс праслухоўваў інструктар аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ. У сваёй дакладной сакратару ЦК Ц. С. Гарбунову ён пісаў: «Распавядаючы пра славутасці капіталістычных краін Еўропы, усе выступаючыя таварышы з асобай сілай падкрэслівалі галечу простага люду, любоў працоўных капіталістычных краін да савецкага народа. Лічу менш удалым выступленне доктара

сельскагаспадарчых навук т. Рагавога. Неяк рассеяна, непаслядоўна гучала яго гаворка. Празмерна выхваляе поспехі сельскай гаспадаркі капіталістычных краін, іх высокую культуру земляробства. Упраўленне радыёінфармацыі перарабляе матэрыял таварышаў, што выступалі для перадачы яго па радыё, выключыўшы выступленне т. Рагавога» [28, арк. 65].

Як і часопіс «Вожык», у фокусе павышанай увагі цэнзуры і партыйных органаў у гады «адлігі» знаходзіўся сатырычна-гумарыстычны радыёчасопіс «На калючай хвалі». Акрамя цэнзараў, яго матэрыялы ўважліва чыталі загадчык сектара друку ЦК С. В. Марцэлеў, а таксама сакратар ЦК В. Ф. Шаўра [34, арк. 302].

У снежні 1958 г. Галоўліт БССР забараніў перадаваць па радыё рэкламу франка-іспанскага фільма «Галоўная вуліца» і мексіканскага фільма «Любоўнае спатканне». У прыватнасці, Л. В. Садоўскі пісаў Ц. С. Гарбунову, што «няма ніякай патрэбы рэкламаваць па радыё замежныя фільмы з пустымі амурнымі гісторыямі і гангстарскімі прыгодамі, да якіх у некаторай часткі гледачоў і без гэтага назіраецца павышаная цяга. Гэта, канешне, не тычыцца прагрэсіўных фільмаў» [98, арк. 18]. Калі на беларускім радыё праходзіў тыдзень рускай літаратуры, ЦК КПБ палічыў «немэтазгодным» уключаць у адпаведную перадачу ўрыўка з аповесці В. Аксёнава «Зорны білет» [35, арк. 49].

Начальнік Галоўліта СССР П. К. Раманаў, які ў 1960 г. правяраў работу беларускіх калег, указаў на

пралік цэнзара Фраловай. Яна прапусціла ў эфір грубую палітычную памылку ў матэрыяле пра грашовую рэформу (маўляў, яна нікому не патрэбна). Другая заўвага галоўнага цэнзара краіны тычылася візіту М. С. Хрушчова ў ЗША, пра які па беларускім радыё не прагучала ні слова [45, арк. 70, 82].

Але ў цэлым у той час колькасць цэнзарскіх умяшальніцтваў на радыё, як і ў іншых СМІ, скарацілася. Напрыклад, у 1961 г. у матэрыялах Камітэта па радыёвяшчанні і тэлебачанні іх было зроблена ўсяго 26 [47, арк. 18].

29 студзеня 1960 г. ЦК КПСС прыняў пастанову «Аб паляпшэнні савецкага радыёвяшчання», дзе адзначалася, што радыёвяшчанне адыгрывае ўсё большую ролю ў ідэалагічнай рабоце партыі, але вялікія магчымасці радыё яшчэ не ў поўнай меры выкарыстоўваюцца ў мэтах камуністычнага выхавання працоўных. Яе прадублявала пастанова ЦК КПБ ад 23 красавіка 1960 г. «Аб рабоце Камітэта па радыёвяшчанні і тэлебачанні пры Савеце Міністраў БССР». Адным з яе вынікаў было з'яўленне новага раскладу радыёперадач, дзе агульны час і колькасць грамадска-палітычных перадач павялічыліся. Радыёслухачам прапанавалі перадачы «Народныя чытанні аб камунізме», «Гутаркі аб праграме партыі», «Ленінскі ўніверсітэт мільёнаў», «Рабочая радыёгазета», «Сельскае жыццё», радыёчасопіс «Для веруючых і няверуючых», радыёстанцыю «Беларуская маладзёжная». З 1962 г. распачала працу галоўная рэдакцыя радыёвяшчання на замежныя краіны.

Пашырылася мясцовае радыёвяшчанне ў раённых цэнтрах. Рэспубліканскія радыёперадачы, дзве трэці абласных радыёперадач, а таксама большасць праграм Мінскай студыі тэлебачання вяліся на беларускай мове [100, с. 94–138].

У 1965 г. у структуры Дзяржтэлерадыё БССР быў створаны аддзел радыёперахопаў. Супрацоўнікі гэтага аддзела на аснове перадач беларускай службы Радыё «Свабода» складалі штотыднёвыя «радыёінфармацыі», якія выдаваліся тыражом у 44 асобнікі і рассылаліся па спецыяльным спісе [40, арк. 121].

Усю адказнасць за ідэйны і мастацкі ўзровень тэле- і радыёпраграм, іх тэхнічнае забеспячэнне ў 1970-я гг. нёс Дзяржкамітэт Савета Міністраў БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. 5 ліпеня 1978 г. як частка агульнасаюзнага Дзяржкамітэта ён быў перайменаваны ў Дзяржкамітэт БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Вось як выглядала ў той час структура Дзяржтэлерадыё БССР, дзе працавала ўжо каля 1,5 тыс. чалавек:

| | |
|---|---|
| Старшыня | |
| Намеснікі | |
| Калегія | |
| **Беларускае тэлебачанне** | **Беларускае радыё** |
| Дырэкцыя праграм | Дырэкцыя праграм |
| | |

| | |
|---|---|
| Галоўныя рэдакцыі: | Галоўныя рэдакцыі: |
| прапаганды | прапаганды |
| інфармацыі | інфармацыі |
| праграм для моладзі | эканомікі прамысловасці |
| праграм для дзяцей | эканомікі сельскай гаспадаркі |
| літаратурна-драматычных праграм | літаратурна-драматычнага вяшчання |
| музычных праграм | радыёвяшчання для моладзі |
| навукова-папулярных і вучэбных праграм | радыёвяшчання для дзяцей |
| эканомікі прамысловасці | музычнага радыёвяшчання |
| эканомікі сельскай гаспадаркі | галоўная рэдакцыя радыёвяшчання на замежныя краіны |
| аддзел сельскагаспадарчых праграм | |
| «Тэлефільм» | |
| Агульныя аддзелы і рэдакцыі | |
| Галоўная рэдакцыя мясцовага тэлебачання і радыёвяшчання | |
| Спартыўны аддзел тэлебачання і радыёвяшчання | |
| Адміністацыйна-кіраўнічы апарат | |
| Прадпрыемствы і арганізацыі пры Дзяржкамітэце | |
| Беларускі рэспубліканскі радыёцэнтр | |

Функцыю прэвентыўнай цэнзуры СМІ выконвалі Дырэкцыя праграм Беларускага тэлебачання і

Дырэкцыя праграм Беларускага радыё, створаныя ў адпаведнасці з пастановай Савета міністраў БССР ад 30 красавіка 1971 г. Цэнзарскія абавязкі ўскладаліся на дырэкцыі асобнымі пунктамі гэтай пастановы. Так, у пункце 2б было запісана: «Папярэдняе (да эфіру) азнаямленне з перадачамі з мэтай кантролю за ідэйна-палітычнай накіраванасцю праграм дня, іх актуальнасцю і літаратурна-мастацкім узроўнем». Наступныя пункты дэталізавалі дзеянне вышэйпададзенага цэнзурнага механізма. Пункт 2г абавязваў дырэкцыі ажыццяўляць «кантроль за паступленнем з галоўных вяшчальных рэдакцый сцэнароў перадач за тры тыдні ўперад чарговага вяшчальнага дня і ўлік іх праходжання па адпаведных інстанцыях». Пункт 2д патрабаваў праводзіць «кантрольны прагляд з эфіру інфармацыйных выпускаў, а таксама аператыўных перадач, што ідуць без папярэдняга азнаямлення з тэкстам у Дырэкцыі» [69, арк. 240–241].

У дачыненні да мясцовага вяшчання — 6 абласных камітэтаў, 115 раённых, 12 гарадскіх і 32 фабрычна-заводскіх рэдакцый радыё — функцыю прэвентыўнай цэнзуры ажыццяўляла Галоўная рэдакцыя мясцовага тэлебачання і радыёвяшчання. У сакавіку 1982 г. было распрацавана «Палажэнне аб парадку падрыхтоўкі абласнымі камітэтамі па тэлебачанні і радыёвяшчанні перадач для Рэспубліканскага тэлебачання». Адпаведна яму кінаматэрыялы з абласцей былі павінны паступаць у Галоўную рэдакцыю мясцовага тэлебачання і

радыёвяшчання ў наступным выглядзе: кінастужка ў скрыні, пашпарт, залітаваны абллітам суправаджальны тэкст у двух экзэмплярах. Тэлеперадачы былі павінны суправаджаць залітаваны сцэнар і мікрафонная папка [76, арк. 124].

Калі ў другой палове 1940-х гг. Галоўнае ўпраўленне радыёінфармацыі прадстаўляла на зацвярджэнне планы перадач толькі ў аддзел прапаганды і агітацыі ЦК, то ў 1970-я гг. планы перадач Дзяржтэлерадыё БССР штоквартальна зацвярджаліся ўжо ў сектарах тэлебачання і радыё, прапаганды, масава-палітычнай работы, інфармацыі аддзела прапаганды і агітацыі, а таксама аддзелах культуры, арганізацыйна-партыйнай работы і замежных сувязяў ЦК КПБ.

У справаздачах, якія начальнік Галоўліта БССР А. А. Маркевіч рэгулярна накіроўваў партыйнаму кіраўніцтву рэспублікі, асноўная ўвага надавалася цэнзарскім выкрэсліванням, зробленым паводле ідэалагічных матываў. Інфармацыя пра парушэнні радыёжурналістамі «Пераліку...» звычайна абмяжоўвалася толькі іх колькасцю.

Адно з найбольш складаных ідэалагічных выкрэсліванняў было зроблена ў 1975 г. з радыёперадачы, падрыхтаванай да выпуску рэдакцыяй замежнага вяшчання. З яе быў зняты ўрывак з рамана А. Савіцкага «Верай і праўдай», прысвечаны першым дням Вялікай Айчыннай вайны. У ім паказваліся беларускія сяляне, якія за нямецкія падачкі былі гатовыя выдаваць акружаных

чырвонаармейцаў [42, арк. 100]. У 1977 г. ідэалагічныя хібы былі знойдзены ў радыёперадачы «Новыя вершы Р. Барадуліна», адкуль быў зняты верш «Вёска». Яго ідэя, на думку цэнзара, была зведзена да таго, што «пакуль з горадам грані сціраюцца», сённяшняя вёска ўстае з ранкам і да ночы «потам грады полівае». Тады ж па прапанове Галоўліта з падрыхтаванай Дзяржкамітэтам тэлеперадачы «Новыя вершы П. Панчанкі» быў зняты верш «Хмары плаваюць над намі», у якім жыццё савецкіх людзей прадстаўлялася крайне раз'яднаным, а іх узаемаадносіны — змрочнымі, адчужанымі [87, арк. 1–3]. У сакавіку 1979 г. старшыня Дзяржтэлерадыё БССР абвясціў вымову рэдактарам літаратурна-драматычнага радыёвяшчання за пропуск у эфір відавочнай сёння думкі пра тое, што загады, якія паступалі ў калгасы ад раённага і абласнога начальства, бывалі «горш за пустазелле» [74, арк. 104].

Якасць кантролю радыёінфармацыі абллітамі была па-ранейшаму не надта высокай. У 1975 г. магілёўскі абллiт прапусціў у радыёэфір наступныя недарэчнасці: «Вопыты праводзіліся на фоне 40 тон гною на гектар», «Мужчын мы далучылі пазней... Увогуле з мужчынамі ў нас стала цікавей працаваць, таму што дадалося шмат новых фарбаў у хоры», «З вялікай фантастыкай афармляюцца ў нас кандытарскія вырабы» [70, арк. 278].

Савецкая цэнзурная палітыка ў адносінах да электронных СМІ была непаслядоўнай. Хвалі

ўзмацнення кантролю, новыя забароны змяняліся вызваленнем ад цэнзуры пэўных перадач. У зеніце брэжнеўскай эпохі загадам Галоўліта БССР 1976 г. ад папярэдняга кантролю былі вызвалены інфармацыйна-музычная радыёперадача «Крыніца», а таксама тэле- і радыёперадачы для дзяцей «Светлафор Сфетлафоравіч», «Загадкі лясной паляны», «Чатыры пары года», «Усмешка» [86, арк. 1]. Неўзабаве камісію ЦК КПБ, якая правярала працу музычных рэдакцый беларускага радыё і тэлебачання, насцярожыў той факт, што «ў эфір нярэдка прарываюцца бяздумныя, мяшчанскія песні, якім трэба паставіць надзейны заслон» [75, арк. 27]. Ад супрацоўнікаў музычных рэдакцый патрабавалі, каб яны тлумачылі «сутнасць заходніх ансамбляў, асабліва прафашысцкага толку» [75, арк. 80]. Падчас кароткага праўлення Ю. У. Андропава, у 1984 г., аднаму са старэйшых карэспандэнтаў рэдакцыі інфармацыі Беларускага тэлебачання В. М. Чайцы давялося чатыры дні збіраць неабходныя дазволы, у т. л. Галоўліта СССР, для запісу рэпартажу пра вартавых-беларусаў, якія стаялі ля маўзалея Леніна [78, арк. 136].

Пачатак перабудовы на радыё быў адзначаны загадам (1986 г.) А. А. Маркевіча аб адмене нядзельных дзяжурстваў на цэнзарскім пункце ў Дзяржтэлерадыё БССР, бо інфармацыя, што праходзіла ў эфір па нядзелях, дублявала інфармацыю ТАСС, БелТА, Дзяржтэлерадыё СССР, ужо прагледжаную цэнзарам і перададзеную ў суботу.

Аднак нядзельныя перадачы «Апошнія паведамленні», «Дзень нашага жыцця», «Панарама», «Рэха дня» падлягалі абавязковаму наступнаму кантролю [89, арк. 13].

Сярод найбольш злосных парушальнікаў цэнзурных забаронаў на беларускім радыё эпохі перабудовы была радыёстанцыя «Беларуская маладзёжная», якую ў 1986 г. узначаліла Ж. М. Літвіна. Цэнзара Галоўліта на радыё ўвесь час трымалі ў напружанні вострыя тэмы, яркія выступоўцы, свабодная манера размоў вядучых радыёстанцыі. Яны смела ўздымалі тэмы нацыянальнага адраджэння, трагедыі на ЧАЭС, стварэння свабодных прафсаюзаў і інш. Напрыканцы 1980-х гг. запіс круглага стала, дзе ўпершыню адкрыта абмяркоўваліся нацыянальная валюта, нацыянальная армія, суверэнітэт і незалежнасць краіны, быў адабраны з мантажнай супрацоўнікамі КДБ. Пасля ўмяшальніцтва старшыні Дзяржтэлерадыё Г. М. Бураўкіна запіс быў вернуты і перададзены ў эфір, што выклікала спецыяльнае абмяркаванне ў ЦК КПБ.

Спецыфічным відам савецкай радыёцэнзуры з’яўлялася глушэнне замежных радыёстанцый, якія вяшчалі на мовах народаў СССР, — «Радыё Свабода», «Голас Амерыкі», «Нямецкая хваля», Бі-бі-сі, — спачатку перадаючы ўласныя перадачы на іх частотах. Падобная тэхналогія часамі прыводзіла да анекдатычных сітуацый. У маі 1971 г. у ЦК КПБ трапіла скарга вайскоўца В. А. Паруцэнкі з Валожына,

які скардзіўся, што апошнім часам падчас прыёму першай праграмы Беларускага тэлебачання гук перадач забіваецца перадачамі радыёстанцыі «Свабода». Па даручэнні ЦК дадзеную інфармацыю правяраў КДБ БССР. Высветлілася, што пры пэўных умовах надвор'я на пэўных тэрыторыях БССР тэлевізары «Гарызонт» сапраўды прымалі сігналы замежных радыёстанцый, якія працавалі на тых жа хвалях, што і перадатчык Беларускага тэлебачання, прычым сігналы замежных перадатчыкаў, у т. л. радыёстанцыі «Свабода», былі мацнейшыя за ўнутраныя, беларускія. Міністру сувязі БССР П. В. Афанасьеву было даручана зрабіць неабходныя захады, каб выправіць гэта становішча [52, арк. 227].

У канцы 1970-х гг. пачалі выкарыстоўваць «мовападобны сігнал», зманціраваны з фрагментаў мужчынскіх і жаночых галасоў, што нагадвала вуркатанне. Ён не падлягаў адфільтроўцы. Былі збудаваны цэнтры радыёпадаўлення ў Мінску і Баранавічах, аб'яднаныя ў адну сінхрасетку на частаце 173 кГц. Пасля пастановы ЦК КПСС «Аб мерах па ўзмацненні абароны насельніцтва ад антысавецкага радыёвяшчання», прынятай у 1983 г., у БССР з'явіліся яшчэ тры цэнтры радыёпадаўлення ў Магілёве, Брэсце і Гродне, будаўніцтва якіх каштавала каля 10 млн рублёў. Абслугоўвала беларускую сетку радыёпадаўлення 165 чалавек [58, арк. 102].

У сталіцы БССР «глушылка» знаходзілася на радыёвышцы, пабудаванай на вуліцы Казлова.

Працавала яна даволі эфектыўна і стала для многіх жыхароў горада сімвалам савецкай цэнзуры. У 1963 г. ўдзельнікі антысавецкай групы на чале з мінчанінам С. М. Ханжонкавым планавалі падрыў гэтай вышкі, але па даносе былі арыштаваны КДБ (С. М. Ханжонкава асудзілі на 10 гадоў зняволення).

Пастановай ЦК КПСС 25 верасня 1986 г. было спынена глушэнне перадач адных замежных станцый («Голас Амерыкі», Бі-бі-сі) і ўзмоцнена глушэнне іншых («Свабода», «Нямецкая хваля»). Поўнасцю глушэнне замежных радыёстанцый у СССР было спынена 30 лістапада 1988 г. Сістэму глушэння перадач польскага радыё і тэлебачання, якая стваралася на працягу другой паловы 1980-х г. у Гродне, выкарыстаць ужо не паспелі.

1 студзеня 1956 г. адбылася першая перадача Мінскага тэлецэнтра на вуліцы Камуністычнай, які падпарадкоўваўся Галоўнаму ўпраўленню радыёінфармацыі Міністэрства культуры БССР. У той дзень у Мінску было каля 4 тыс. тэлевізараў, на экранах якіх першыя беларускія тэлегледачы ўбачылі кіначасопіс «Навіны дня» і мастацкі фільм «Пакаленне пераможцаў». Першапачаткова перадачы выходзілі толькі ў вячэрні час. У суботу вяшчанне пачыналася з традыцыйнага мультфільма ў 18.00. Па нядзелях яно раздзялялася на дзённае і вячэрняе, пачыналася ў 14.00 і сканчалася ў 21.00. Дыктары тэлебачання размаўлялі па-беларуску [7, с. 32].

Тэхналогія падрыхтоўкі перадач да тэлеэфіру была наступная. Ствральнік перадачы павінен быў загадзя

(ад двух тydняў да двух месяцаў у залежнасі ад тыпу перадачы) прадставіць у аддзел выпуску мікрафонную папку — надрукаваны на машынцы яе падрабязны сцэнар. Перад эфірам мікрафонную папку трэба было абавязкова зацвердзіць у стыліста, дырэктара праграм, дырэктара студыі і, нарэшце, у супрацоўніка Галоўліта. Падобная складаная сістэма на практыцы часта давала збоі, якія павінен быў рэгуляваць адказны выпускаючы (штосутачна прызначаўся з рэдакцыі выпуску). Ён адказваў за ўсё, што адбывалася ў эфіры на працягу яго дзяжурства. Адказны выпускаючы звычайна афармляў канчатковы варыянт тэксту для дыктара. Часта тэксты змяняліся ў апошнюю хвіліну па званку зверху.

20 лістапада 1958 г. выйшла пастанова ЦК КПБ «Аб працы Мінскай студыі тэлебачання», дзе адзначаўся шэраг істотных недахопаў у працы студыі (нізкі ўзровень грамадска-палітычных праграм, слабое адлюстраванне рэгіянальных падзей, непрафесійны мастацкі бок перадач) [33, арк. 17].

За зместам перадач Мінскай студыі тэлебачання ўважліва сачыў аддзел прапаганды і агітацыі ЦК. Перш за ўсё партыйных цэнзараў цікавілі, канешне, матэрыялы з ідэалагічным складнікам. У адной з падобных перадач, што прайшла ў эфіры 3 снежня 1963 г. і мела назву «Як я стаў атэістам», былы настаяцель Пакроўскай царквы, а падчас трансляцыі перадачы — фрэзероўшчык Гродзенскага велазавода т. Бандарук заклікаў веруючых адмовіцца ад Бога.

Якасць антырэлігійнай прапаганды не задаволіла партыйных ідэолагаў. «На працягу 25 хвілін герой перадачы манатонна пераказваў прапісныя ісціны, прыводзіў няпэўныя факты, якія наўрад ці ўздзейнічалі на веруючых» — адзначалася ў аналітычнай нататцы інструктара аддзела [37, арк. 20].

Не меншую ўвагу партыйнае кіраўніцтва звяртала на крытычныя матэрыялы, якія праходзілі ў тэлеэфіры. У лістападзе 1963 г. у аддзеле прапаганды і агітацыі ЦК КПБ адбылася нарада з удзелам кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё, дзе абмяркоўваліся перадачы крытычнага характару. Загадчык аддзела А. Т. Кузьмін узняў пытанне пра мэтазгоднасць падобнай крытыкі ў перадачах «Наша пошта» («сюжэт пра цяжкія жыллёвыя ўмовы рабочага-перадавіка Моўчана атрымаў двухсэнсоўнае гучанне і выклікаў у гледачаў адваротную рэакцыю») і «Народны кантроль» («у сюжэце пра парушэнні правіл супрацьпажаранай бяспекі ішла карціна за карцінай спаленых разам з быдлам калгасных і саўгасных жывёлагадоўчых фермаў, прычым усё гэта падавалася на фоне фрывольнай музыкі, а ў сюжэце “Як мы валенкі валяем” дырэктар Мінскай валяльнай фабрыкі паказаны нечым сярэднім паміж малпаю і чалавекам») [37, арк. 13].

Дадатковы клопат тэлецэнзарам у 1960-я гг. даваў т. зв. «жывы» мантаж, калі рэжысёр перадачы перапыняў словы дыктара ў прамым эфіры патрэбнымі кадрамі з кінафільмаў альбо кадрамі, што

перадаваліся перасоўнымі тэлевізійнымі станцыямі. Прамая трасляцыя тэлеперадач выводзіла іх з-пад кантролю папярэдняй цэнзуры, непазбежна стварала непрадказальныя сітуацыі ў эфіры. Адну з падобных сітуацый камічнага характару апісвае ў сваіх успамінах В. Я. Тарас: «З нагоды чарговай гадавіны Перамогі, здаецца ў траўні 1959 года, мы, некалькі паэтаў-удзельнікаў вайны, выступалі на Беларускім тэлебачанні. Відэазапісу тады не было, усе перадачы ішлі ў жывым эфіры. І вось прачыталі свае вершы Анатоль Вялюгін, Навум Кіслік, Антон Бялевіч, я і яшчэ нехта. Дайшла чарга да Прыходзькі[43], і ён, як заўсёды, патэтычна пачаў: "Дзе прайшлі салдаты, Сталіна сыны...". І тут жа спахапіўся, замахаў, адхрышчваючыся, рукамі: "Э-э-э, Леніна, Леніна, Леніна сыны!" Вельмі быў потым засмучаны, нават спалоханы, спытаў у нас пасля перадачы: "Што мне цяпер будзе за Сталіна?"» [102, с. 156].

Цяжкім выпрабаваннем для партыйных цэнзараў былі кожныя здымкі, якія праводзіліся ў БССР замежнымі тэлекампаніямі. Дазвол на здымкі даваў аддзел прапаганды і агітацыі ЦК, прычым зацвярджаўся не толькі склад здымачнай групы, але тэрміны і аб'екты здымак. Так было ў маі 1970 г., калі тэлебачанне ГДР рабіла 10-хвілінны рэпартаж з Наваполацка, дзе дазволілі зняць нафтаперапрацоўчы завод, хімкамбінат, будаўнічы камбінат, наваполацкі філіял Мінскага політэхнічнага інстытута, гарадскі музей, інтэрв'ю з сакратаром камсамольскай

арганізацыі і агульны выгляд горада. А вось у лістападзе таго ж года здымкі савецка-польскай тэлепраграмы «Партызаны Беларусі» не адбыліся, бо польскі бок не пагадзіўся са сцэнарам і рэжысурай, якія безальтэрнатыўна прапанавала Агенцтва друку і навін у Маскве [40, арк. 149, 239].

Упершыню ў справаздачах Галоўліта БССР Мінская студыя тэлебачання ўзгадваецца ў красавіку 1961 г., калі цэнзар выразаў 20 м кінаплёнкі з выявай мінскай вышкі радыёабароны ад варожай прапаганды з тэлевізійнай перадачы «Унукі Ільіча» [46, арк. 19].

Неўзабаве пасля ўтварэння ў 1957 г. Дзяржаўнага камітэта па радыёвяшчанні і тэлебачанні пры Савеце Міністараў БССР, у сувязі з павелічэннем аб'ёму інфармацыі, якая падлягала кантролю, яго абслугоўвалі ўжо два цэнзары Галоўліта БССР. Яны візіравалі ўласнымі штампамі ўсе мікрафонныя папкі з тэкстамі тэлеперадач. Без іх візы ні адна перадача не магла быць здадзена для вытворчасці запісу альбо прамога эфіру. «Тэксты цэнзары чыталі, але яны былі не ў стане чыста фізічна праглядзець усё тое, што ішло ў эфір. Калі яны адчувалі па тэкстах, што ў відэаматэрыяле могуць знаходзіцца "аб'екты" іх увагі, дык яны спецыяльна прыходзілі на прагляды», — узгадвае былы намеснік старшыні Белдзяржтэлерадыё Э. Р. Мельнікаў [8, с. 61].

Цэнзары тлумачылі рэжысёрам, аператарам, рэдактарам, што 80 % сакрэтнай інфармацыі ворагі здабываюць з адкрытых крыніц, г. зн. СМІ. Таму патрабавалася звышпільнасць. Напрыклад, цэнзар

«зарубаў» павольны агульны план дэлегатаў рэгіянальнай партканферэнцыі, тлумачачы гэта тым, што вораг мог падлічыць колькасць дэлегатаў-ваеннаслужачых, а ведаючы квоту іх прадстаўніцтва на падобных сходах, можна было вылічыць колькасць ваеннаслужачых, што знаходзілася на партыйным уліку, а ведаючы квоту прыёму ў партыю ва Узброеных Сілах СССР, можна было скласці ўяўленне пра агульную колькасць вайсковага кантынгенту, дыслацыраванага ў дадзеным раёне.

Кіназдымкі з паветра павінны былі праводзіцца па ўзгодненым у інстанцыях маршруце, нельга было здымаць з кропкі, размешчанай вышэй за трэці паверх, і каб пры гэтым ні ў якім разе не была бачна лінія гарызонта. Нельга было здымаць аэрапорты, вакзалы, штаб КБВА, радыёвышку, дзе знаходзіліся «глушылкі», і інш. За ўсім гэтым сачыў ваенны цэнзар, які прымаў гатовую прадукцыю тэлевізійнікаў. Напрыклад, ён адмовіўся прымаць фільм Э. Р. Мельнікава і Ю. І. Хашчавацкага «Зірні на свой дом» з-за таго, што аператар ужыў падчас здымкаў Палесся з верталёта аб’ектыў «рыбіна вока», а ваеннаму цэнзару падалося, што гэтыя здымкі вяліся з космасу [8, с. 192].

У 1964 г. Мінская студыя тэлебачання была перайменавана ў Беларускае тэлебачанне. Да таго часу яна ўжо прапаноўвала тэлегледачам дзве праграмы, якія пачыналі працаваць у 11.30. Першая прыкладна на 80 % складалася з беларускіх матэрыялаў, у другой пераважала прадукцыя

Цэнтральнага тэлебачання. Калі ў 1950-я гг. на экране пераважалі тэлеспектаклі, кінафільмы, спартыўныя рэпартажы, то ў 1960-я гг. павялічылася колькасць інфармацыйна-публіцыстычных і культурна-асветніцкіх перадач. Існаваў грамадскі савет тэлегледачоў, які рэгулярна збіраўся ў памяшканні студыі.

21 лістапада 1970 г. газета «Правда» надрукавала перадавы артыкул, у якім становішча на савецкім тэлебачанні характарызавалася як незадавальняючае, вызначаліся задачы павышэння ідэйнага ўзроўню праграм. Гэты артыкул адлюстроўваў закрытую пастанову Палітбюро ЦК КПСС аб тэлебачанні, адпаведна якой на тэлецэнтрах узрасла роля палітычнай цэнзуры, уведзена дадатковая цэнзура па ваенных і касмічных пытаннях. З цэнзарскіх навацый тых часоў варта адзначыць выкарыстанне тэхнічных магчымасцяў падчас кантролю за тэлебачаннем. На мяжы 1960–1970-х гг. пачынаецца панаванне відэазапісу, прамы рэпартаж скарачаецца да мінімуму. Перадачы выходзяць на экран пасля мантажу, падчас якога ўсё, што падавалася цэнзарам небяспечным, прыбіралася. Некаторыя перадачы ўвогуле зніклі. Структура інфармацыйных праграм будавалася па маскоўскім шаблоне і строга рэгламентавалася пэўнымі блокамі паведамленняў: партыйная «свецкая» хроніка (выступленні членаў Палітбюро ЦК і беларускіх партыйных кіраўнікоў, іх візіты, узнагароджанні), эканамічная парадная хроніка, міжнародныя навіны з іх тэндэнцыйным падборам

(поспехі краін сацыялістычнага лагера, барацьба працоўных Захаду за свае правы і інш.), спартыўная інфармацыя і прагноз надвор'я.

Ва ўмовах узмацнення жорсткасці ідэалагічнага курсу, Галоўліт БССР па-ранейшаму выконваў усю чарнавую працу, кшталту скарачэння тэлеперадачы «Выступленне агітбрыгады Гродзенскага палаца тэкстыльшчыкаў», у якой, па меркаванні цэнзара «ў змрочных танах намалявана навакольнае асяроддзе: людзі жывуць у атручаным паветры, у невыносным шуме; у рэках і азёрах усё атручана, людзі самі ўсё знішчаюць, забіваюць адзін аднаго, і выратаванне ад гэтага можна знайсці толькі на іншых планетах» [88, арк. 7]. Такія далікатныя пытанні, як складанне чорнага спіса дзеячоў культуры Беларусі, непажаданых для паказу ў эфіры (у розныя часы ў гэтым спісе знаходзіліся В. Быкаў, А. Адамовіч, Я. Брыль), адносіліся да кампетэнцыі вышэйшага партыйнага кіраўніцтва [3, с. 142].

У рэчышчы выканання закрытай пастановы Палітбюро ЦК КПСС, прынятай 1 студзеня 1971 г., Беларускае тэлебачанне распачало падоўжанае вяшчанне для жыхароў Гродзенскай і Брэсцкай абласцей пад рубрыкай «Для тых, хто не спіць». Пасля заканчэння вячэрніх перадач па першай праграме на працягу 1–1,5 гадзін перадаваліся фільмы, канцэрты, грамадска-палітычныя перадачы, выпускі навін. Асноўнай мэтай гэтых перадач было адцягнуць насельніцтва памежных абласцей рэспублікі ад прагляду начных тэлевізійных перадач,

якія транслявалі замежныя тэлецэнтры, перш за ўсё Польшча. Адначасова ставілася задача даць магчымасць тэлегледачам ПНР глыбей пазнаёміцца з поспехамі савецкага грамадства ў эканоміцы, культуры і мастацтве [66, арк. 12].

На працягу 1971 г. на пасяджэннях калегіі Дзяржтэлерадыё БССР рэгулярна крытыкавалася праца рэдакцыі «Тэлефільм». У студзені 1972 г. гэта крытыка была акумулявана ў пастанове калегіі «Аб рабоце Галоўнай рэдакцыі па вытворчасці тэлевізійных фільмаў “Тэлефільм”». Пастанова была накіравана на ўзмацненне прэвентыўнага цэнзуравання працэсу вытворчасці тэлефільмаў. З часу яе прыняцця прэвентыўны цэнзурны кантроль тэлевізійных фільмаў набыў наступны выгляд: сцэнарна-рэдакцыйная калегія Дзяржкамітэта БССР[44] — галоўнае ўпраўленне мясцовага вяшчання Дзяржкамітэта СССР[45] — мастацкі савет Дзяржкамітэта БССР[46] — старшыня Дзяржкамітэта БССР [63, арк. 80]. Калі да гэтага дадаць яшчэ цэнзара Галоўліта, ваеннага цэнзара, ведамасную цэнзуру, а таксама партыйных ідэолагаў, якія, як звычайна, выносілі канчатковы прысуд у найбольш складаных выпадках, дык робіцца зразумелым, што шанец бесперашкоднага праходжання тэлефільма праз усе пералічаныя колы пекла набліжаўся да нуля.

Загадам старшыні Дзяржтэлерадыё БССР С. М. Пуцылева 10 жніўня 1972 г. былі спынены падрыхтоўчыя работы над тэлефільмам «Па закону»

(«Пісаравы імяніны») па ранніх апавяданнях Я. Коласа. Гэты загад быў выкліканы заключэннем Галоўнага ўпраўлення мясцовага тэлебачання і радыёвяшчання СССР, з якога вынікала, што аўтар сцэнарыя І. Рудамётаў вольна абышоўся з літаратурнымі персанажамі Я. Коласа. Гэта прывяло ў сваю чаргу да таго, што былі парушаны «сацыяльныя акцэнты і сутнасць апавяданняў» [63, арк. 80].

Падчас прыёмкі ў 1972 г. тэлефільма-канцэрта рэжысёра У. Міхарскага «Беларусь мая — песня мая» прадстаўніка аддзела культуры ЦК насцярожыў план, на якім удзельнікі мінскага ансамбля «Аднагодак» беглі па полі, зарослым дзьмухаўцамі («савецкія дзеці на фоне пустазелля»). Сітуацыю выратаваў сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, прапанаваўшы погляд на дзьмухаўцы як на кветкі [71, арк. 26].

28 жніўня 1973 г. С. М. Пуцылеў загадаў падоўжыць тэрмін вытворчасці тэлефільма «Апаленыя каменні» на 10 дзён для ліквідацыі заўваг, зробленых пасля яго прагляду «дырэктыўнымі органамі» (эўфемізм цэнзуры, які шырока выкарыстоўваўся на Дзяржтэлерадыё) [65, арк. 114].

У тым жа годзе цэнзар, які адказваў за Беларускае тэлебачанне, здзейсніў сур’ёзную памылку. 3 верасня ў эфір прайшоў біяграфічны дакументальны фільм «Адзін Там» (Масфільм, 1972). Адразу ж пасля яго паказу партыйнае кіраўніцтва рэспублікі сігналізавала тэлевізійнаму начальству, што не ўсе кадры фільма «сугучны сённяшняму дню»[47]. За памылку цэнзуры

адказваць давялося стрэлачніку — быў звольнены старэйшы рэдактар кінапраграм І. Я. Сідарэнка [67, арк. 65–67].

Рэжысёр В. Карпілаў двойчы скарачаў і пераздымаў шэраг эпізодаў у мастацкім тэлефільме «Тартак» па заўвагах, зробленых у 1974 г. Галоўным упраўленнем мясцовага тэлебачання і радыёвяшчання СССР, а таксама дырэктыўнымі органамі. Рэжысёру В. Акімушкіну тыя ж інстанцыі прапанавалі праводзіць дадатковыя здымкі эпізодаў тэлефільма «Жывіце, хлопцы, даўжэй» [68, арк. 5, 38, 87].

У 1977 г. Галоўнае ўпраўленне мясцовага тэлебачання і радыёвяшчання СССР забракавала літаратурны сцэнар дакументальнага тэлефільма Г. Коласа «Мінск — аб часе і аб сабе». Праз год рэжысёр тэлефільма «І стане зерне хлебам» В. Яфрэмаў уносіў ужо ў гатовы фільм змены па заўвагах, зробленых Галоўным упраўленнем, а таксама дырэктыўнымі органамі [72, арк. 168]. Тады ж рэжысёр В. Басаў быў вымушаны перарабляць фінал у рэжысёрскім сцэнары тэлефільма «Дзядзька Коля» з мэтаю «паляпшэння ідэйнай канцэпцыі будучага фільма» [73, арк. 22].

На падставе ліста МУС БССР ад 3 лістапада 1982 г. аб немагчымасці працягваць здымкі па крымінальнай справе, якая з’яўлялася галоўнай сюжэтнай лініяй хранікальна-дакументальнага тэлефільма «Адбіткі» (рэжысёр У. Міхарскі), праца над тэлефільмам была спынена [77, арк. 69].

Вынікі сацыялагічных апытанняў, якія праводзіў навукова-метадычны аддзел Белдзяржтэлерадыё ў 1970-я — першай палове 1980-х гг., дазваляюць скласці агульнае ўражанне пра стаўленне насельніцтва да прадукцыі Беларускага тэлебачання. Так, у 1972 г. на пытанне «Ці з'яўляюцца для Вас матэрыялы перадачы "Панарама навін" навінкой?» 59 % апытаных жыхароў рэспублікі адказалі адмоўна, 36 % сцвярджальна, 5 % не змаглі адказаць [64, арк. 18]. Паводле вынікаў сацыялагічнага даследавання, якое праводзілася ў 1980 г., самыя высокія рэйтынгі на тэлебачанні былі ў эстрадна-забаўляльных перадач («Сустрэнемся пасля адзінаццаці», «Па вашых просьбах», «Выклікаем на біс», «Канцэртная тэлеафіша», «Дыскатэка»). А самыя нізкія — у грамадска-публіцыстычных («Ісціны», «Спытай сябе, таварыш», «Прамень», «Ракурс», «Пісьменнік і пяцігодка»). Выступаючы на пасяджэнні калегіі Дзяржтэлерадыё БССР у лістападзе 1985 г., загадчык аддзела сацыялагічных даследаванняў скардзіўся: «Карціна стаўлення насельніцтва да нашых праграм трывожная. Дастаткова сказаць, што ёсць нават перадачы, якія наогул ніхто не слухае і не глядзіць. А калі і глядзіць, дык мінімальная, так бы мовіць, "знікаючая" аўдыторыя. І гэта, таварышы, праграмы самыя для нас адказныя — грамадска-палітычныя» [80, арк. 19].

У другой палове 1980-х гг. змест тэлебачання стаў арыентаваны на публічнасць, на вострую крытыку недахопаў, на «сучасніка, які ажыццяўляе перабудову

ў краіне». Колькасць цыклаў і рубрык у 1989 г. была скарочана амаль у два разы. Прапагандысцкія, лекцыйнага характару перадачы замянілі «прамыя выхады», «жывыя эфіры», «адкрытыя мікрафоны», «тэлемасты», якія пашыралі аўдыторыю гледачоў. Стала больш дыскусійных, палемічнага характару перадач, у якіх назіраўся больш смелы зварот да сацыяльна-эканамічных праблем («Крок», «Наш каментарый», «Час пісьма»).

Палагоднела цэнзура. З пачаткам перабудовы кіраўнікі шэрагу рэдакцый атрымалі права даваць матэрыялы ў эфір пад уласную адказнасць. З’явіліся выпадкі адкрытага ігнаравання журналістамі цэнзурных забаронаў. Адну з іх — не даваць у эфір вершы Л. Геніюш — адмовілася выконваць галоўны рэдактар літаратурна-драматычнага вяшчання В. М. Іпатава. Прычым ніякіх карных альбо выхаваўчых захадаў у дачыненні да журналісткі ўжыта не было.

У чэрвені 1987 г. Галоўліт СССР выдаў загад, які дазваляў СМІ даваць інфармацыю пра баявыя дзеянні ў Афганістане. Калі адразу пасля аварыі на ЧАЭС у 1986 г. цэнзура наклала табу на абмеркаванне гэтай тэмы ў СМІ, то ў 1989 г. для тэлерадыёжурналістаў, якія выступалі на тэмы радыяцыйнай бяспекі, Галоўліт БССР ужо праводзіў нараду-семінар [81, арк. 13]. У тым жа годзе перадачу беларускага тэлебачання «Культура Беларусі XVII ст.» падрыхтаваў і правёў супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР старшыня БНФ З. С. Пазняк.

Начальнік Галоўліта БССР у 1988 г. скардзілася ў ЦК КПБ на рэдакцыі Дзяржтэлерадыё, якія, фармальна пагаджаючыся з заўвагамі цэнзуры, насамрэч іх ігнаравалі, хітравалі, здавалі матэрыялы напрыканцы працоўнага дня, калі выправіць што-небудзь было ўжо цяжка. Так было з тэлеперадачай «Ліра», якая пайшла ў эфір 18 мая і змяшчала размову вядучага (паэта Ул. Някляева) з пісьменнікам і публіцыстам А. Адамовічам. Усе патрабаванні цэнзуры прыбраць з размовы развагі пра «радыяцыйны СНІД», «вялікую хлусню аб Чарнобылі» і г. д. былі ігнараваны кіраўніцтвам Дзяржтэлерадыё [59, арк. 15].

Вось як прымалі дакументальны тэлефільм рэжысёра Ул. Арлова «Пытанні на адказы», прысвечаны разгону мітынгу на Дзяды 30 кастрычніка 1988 г. у Мінску, якія былі замаскіраваныя ў сцэнары праблемай прававой дапамогі насельніцтву (людзям, якія пацярпелі падчас разгону). Праз месяц пасля падзей сцэнар быў прыняты сцэнарна-рэдакцыйнай калегіяй з заўвагай больш узважана падысці да тых падзей. У сакавіку 1989 г. мастацкі савет і кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё на чале з Г. М. Бураўкіным прынялі гатовую карціну. У красавіку яе прыняў упаўнаважаны Галоўліта БССР на тэлебачанні Дзямідаў, наклаўшы рэзалюцыю: «Пад адказнасць рэдакцыі і Дзяржтэлерадыё БССР». У тым жа месяцы Дзяржтэлерадыё БССР рэкамендавала фільм да паказу на Цэнтральным тэлебачанні, што і адбылося 25 красавіка. Аддзел

прапаганды і агітацыі ЦК КПБ толькі назіраў за гэтым працэсам, выказаўшы ўласнае незадавальненне тым, што аўтары фільма далі слова толькі аднаму боку падзей — мітынгуючым [61, арк. 87].

Як і ў гады хрушчоўскай «адлігі», журналісты пачалі ставіць перад кіраўніцтвам непрыемныя пытанні адносна дзейнасці цэнзурнага ведамства. У жніўні 1985 г. кіраўніцтва Гродзенскага абласнога тэлерадыёкамітэта скардзілася старшыні Дзяржтэлерадыё БССР Г. М. Бураўкіну на перашкоды аператыўнасці перадачы інфармацыі ў эфір: «Мікрафонныя папкі ўпаўнаважаны Галоўліта чытае чамусьці да 12 гадзін. А перадача ідзе ў эфір пасля 17 гадзін. Пры такой пастаноўцы справы “навіны” губляюць сваю аператыўнасць» [79, арк. 94].

У сярэдзіне 1990 г. прэзідэнт СССР М. С. Гарбачоў падпісаў указ «Аб дэмакратызацыі і развіцці тэлебачання і радыёвяшчання ў СССР», які забараніў палітычную цэнзуру ў электронных СМІ. У снежні 1990 г. згубілі моц дакументы, якія рэгулявалі ў БССР прэвентыўнае цэнзураванне тэле- і радыёпрадукцыі: загад па Дзяржкамітэце ад 25 кастрычніка 1960 г. № 225 «Аб парадку выпуску ў эфір тэлевізійных пастановак і святочных канцэртных праграм», загад па Дзяржкамітэце ад 5 сакавіка 1962 г. № 79 «Парадак і тэрміны выканання работ па падрыхтоўцы перадач на Мінскай тэлестудыі», загад па Дзяржкамітэце ад 5 ліпеня 1965 г. № 231 «Аб парадку здачы перадач» і інш [82, арк. 27].

43 Прыходзька Пятро (Пётр Фёдаравіч) — беларускі паэт і перакладчык.

44 Створана ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністаў БССР ад 28 верасня 1976 г. з мэтай ідэйна-мастацкага кіраўніцтва працэсам стварэння сцэнарыяў тэлефільмаў усіх жанраў і відаў, тэлеспектакляў і іншых твораў для тэлебачання на відэа і кінастужкы.

45 Структурнае падраздзяленне Дзяржкамітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні СССР, якое кантралявала якасць тэле- і радыёпрадукцыі саюзных рэспублік, у т. л. тэлевізійных фільмаў. Прысвойвала фільмам катэгорыі (I, II, III) і рэкамендавала іх дэманстрацыю на саюзным ці рэспубліканскім экране. Большасць прадукцыі беларускага «Тэлефільма» рэкамендавалася для мясцовага паказу.

46 Прымаў да пастаноўкі рэжысёрскія сцэнары тэлефільмаў, тэлеспектакляў, буйных перадач. Узначальваў намеснік старшыні Дзяржкамітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні.

47 У 1966 г. вядомы савецкі фізік, акадэмік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі І. Я. Там падпісаў калектыўны ліст дзеячоў навукі і культуры Л. І. Брэжневу супраць рэабілітацыі Сталіна.

# Літаратура


1. Анципович, О. Статью про Курапаты в 88-м году пропустил цензор / О. Анципович // Комсомольская правда в Белоруссии. — 2013. — 30 мая–5 июня.
2. Арцем'еў, В. І. Паэт вузел завязаў / В. І. Арцем'еў. — Магілёў: Могилев. обл. укруп. тип., 2008. — 72 с.
3. Брыль, Я. Вячэрняе. Лірычныя запісы і мініяцюры / Я. Брыль. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — 350 с.
4. Генадзь Бураўкін: «...І тады Машэраў рэзка спытаў: "Я маю права на асабістую просьбу?.."». Інтэрв'ю Г. Лабадзенкі. [Электронны рэсурс]. URL: http://baj.by/be/node/21190 (дата звароту: 29.05.2017)
5. Каўко, А. Было / А. Каўко // Літаратура і мастацтва. — 1993. — 1 студз.
6. КПСС о средствах массовой информации: Сборник. — М.: Политиздат, 1987. — 607 с.
7. Курков, И. Н. Белтелерадиокампания. Мир живого эфира / И. Н. Курков. — Минск: Медиафакт, 2007. — 304 с.
8. Мельников, Э. Р. Иного пути нет: сборник статей / Э. Р. Мельников. — б. м., б. г. — 200 с.
9. НАРБ. — Ф. 4п. — Воп. 27. — Спр. 38.
10. Там жа. — Воп. 47. — Спр. 77.
11. Там жа. — Спр. 78.
12. Там жа. — Спр. 79.
13. Там жа. — Спр. 84.
14. Там жа. — Спр. 100.
15. Там жа. — Спр. 111.
16. Там жа. — Спр. 156.
17. Там жа. — Спр. 158.
18. Там жа. — Спр. 195.
19. Там жа. — Спр. 227.
20. Там жа. — Спр. 228.
21. Там жа. — Спр. 230.
22. Там жа. — Спр. 231.
23. Там жа. — Спр. 287.
24. Там жа. — Спр. 289.
25. Там жа. — Спр. 369.
26. Там жа. — Спр. 388.
27. Там жа. — Спр. 402.

28. Там жа. — Спр. 425.
29. Там жа. — Спр. 427.
30. Там жа. — Спр. 440.
31. Там жа. — Спр. 453.
32. Там жа. — Спр. 468.
33. Там жа. — Спр. 470.
34. Там жа. — Спр. 477.
35. Там жа. — Спр. 495.
36. Там жа. — Спр. 506.
37. Там жа. — Спр. 529.
38. Там жа. — Спр. 538.
39. Там жа. — Спр. 562.
40. Там жа. — Спр. 602.
41. Там жа. — Спр. 619.
42. Там жа. — Спр. 647.
43. Там жа. — Воп. 62. — Спр. 387.
44. Там жа. — Спр. 534.
45. Там жа. — Спр. 535.
46. Там жа. — Спр. 562.
47. Там жа. — Спр. 593.
48. Там жа. — Спр. 681.
49. Там жа. — Спр. 696.
50. Там жа. — Спр. 711.
51. Там жа. — Спр. 724.
52. Там жа. — Спр. 763.
53. Там жа. — Спр. 783.
54. Там жа. — Спр. 821.
55. Там жа. — Спр. 868.
56. Там жа. — Воп. 81. — Спр. 2207.
57. Там жа. — Воп. 156. — Спр. 256.
58. Там жа. — Спр. 494.
59. Там жа. — Спр. 615.
60. Там жа. — Спр. 616.
61. Там жа. — Спр. 643.
62. Там жа. — Ф. 871. — Воп. 3. — Спр. 3.
63. Там жа. — Воп. 4. — Спр. 25.
64. Там жа. — Спр. 28.
65. Там жа. — Спр. 50.
66. Там жа. — Спр. 51.
67. Там жа. — Спр. 52.

68. Там жа. — Спр. 78.
69. Там жа. — Спр. 80.
70. Там жа. — Спр. 106.
71. Там жа. — Спр. 107.
72. Там жа. — Спр. 197.
73. Там жа. — Спр. 199.
74. Там жа. — Спр. 226.
75. Там жа. — Спр. 300.
76. Там жа. — Спр. 301.
77. Там жа. — Спр. 304.
78. Там жа. — Спр. 356.
79. Там жа. — Спр. 388.
80. Там жа. — Спр. 389.
81. Там жа. — Спр. 492.
82. Там жа. — Спр. 515.
83. Там жа. — Ф. 907. — Воп. 1. — Спр. 26.
84. Там жа. — Ф. 1195. — Воп. 1. — Спр. 18.
85. Там жа. — Спр. 21.
86. Там жа. — Спр. 117.
87. Там жа. — Спр. 118.
88. Там жа. — Спр. 123.
89. Там жа. — Спр. 175.
90. Там жа. — Спр. 191.
91. Там жа. — Спр. 194.
92. Там жа. — Ф. 1195. — Воп. 2. — Спр. 9.
93. Там жа. — Спр. 10.
94. Там жа. — Спр. 33.
95. Там жа. — Спр. 38.
96. Там жа. — Спр. 42.
97. Там жа. — Спр. 44.
98. Там жа. — Спр. 74.
99. Ненадежная информация // Правда. — 1946. — 17 мая.
100. Радкевіч, Я. Р. Беларускае радыё. Гісторыя, перспектывы развіцця / Я. Р. Радкевіч. — Мінск: Выдавецтва БДУ, 1983. — 197 с.
101. Симуров, А. Поцелуй в темечко / А. Симуров // Рэспубліка. — 1996. — 3 мая.
102. Тарас, В. На высыпе ўспамінаў: мэмуары / В. Тарас. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2004. — 334 с.
103. Тараткевич, М. О том, что помнится / М. Тараткевич // Віцебскі рабочы. — 1997. — 14 ліст.

104. Тоўсцік, А. А. Вяртанне да вытокаў сваіх / А. А. Тоўсцік. — Мінск: ЗАТ «Канфіда». — 1997. — 180 с.

Фільм можа зняць і дурань,
але дурань ніколі яго не здасць.
*Жарт савецкіх кінарэжысёраў*

Цэнзура відовішчаў уяўляла сістэму дзяржаўнага нагляду за выданнем і пастаноўкай драматычных, эстрадных, музычных твораў, а таксама вытворчасцю кінапрадукцыі. Па формах кантролю ў разглядаемы час яна падзялялася на папярэднюю і карную. Цэнзура значна паўплывала на развіццё савецкага кіно, тэатра, музыкі, эстрады, якія разглядаліся ўладай перш за ўсё ў якасці сферы ідэалагічнай дзейнасці.

## Тэатр і эстрада

Чым можна патлумачыць уважлівае стаўленне партыйных ідэолагаў да тэатра? Перш за ўсё тым, што яны добра разумелі рэальны і патэнцыяльны ўплыў тэатра на грамадства. У СССР тэатр, як і літаратура, быў больш чым тэатр. Амаль кожны савецкі драматург і рэжысёр змог бы распавесці, што і як у яго забаранялі. Спіс быў бы доўгі, сітуацыі — і трагічныя, і камічныя. Так ці інакш, цэнзура змяніла сцэнічныя лёсы многіх п’ес, а таксама жыццёвыя лёсы тых, хто іх ствараў і ўвасабляў на сцэне.

Познесталінская цэнзура відовішчаў, якая хутчэй нагадвала інквізіцыю, давяла свае прэтэнзіі да абсурду, пакінуўшы пасля сябе на сцэне папялішча. У апошняе сталінскае дзесяцігоддзе тэатральныя, музычныя, эстрадныя ўстановы падпарадкоўваліся Камітэту па справах мастацтваў пры Савеце Міністраў БССР. Але ўвесь рэпертуар сталічных тэатраў і іншых відовішчных устаноў у той час зацвярджаўся ў аддзеле прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б (абласных тэатраў — у адпаведных падраздзяленнях абкамаў партыі). За мастацкай якасцю прадукцыі беларускіх тэатраў назіраў мастацкі савет пры старшыні Камітэта па справах мастацтваў, куды ўваходзілі кіруючыя тэатральныя работнікі, майстры мастацтва, прадстаўнікі партыі і дзяржаўных органаў, а таксама мастацкіх саветаў відовішчных устаноў. За ідэалагічнай якасцю — структурная адзінка камітэта пад назвай «аддзел па кантролю за відовішчамі і

рэпертуарам» (Рэперткам БССР)[48]. Гэты аддзел складаўся з начальніка[49] з невялікім штатам інспектараў у Мінску, а таксама меў па аднаму ўпаўнаважанаму ў кожнай з дванаццаці абласцей.

Рэперткам БССР узнавіў сваю дзейнасць у асобах начальніка, вядомага беларускага кампазітара Д. А. Лукаса, і ўпаўнаважанай Кузьміцкай у студзені 1944 г. Адпаведна архіўным дакументам, што захаваліся, 29 студзеня 1944 г. Д. А. Лукас і начальнік тэатральнага аддзела У. І. Няфёд склалі першы акт аб прыёмцы спектакля-канцэрта Белдзяржтэатра музычнай камедыі ў Гомелі [65, арк. 1]. Пасля вяртання ў Мінск Рэперткам на чале з новым начальнікам А. А. Есаковым (да вайны ён узначальваў тэатральны аддзел Камітэта па справах мастацтваў) распачаў актыўную працу. А. А. Есакоў уласнаручна зацвярджаў праграмы канцэртаў, клавіры да спектакляў, лібрэта опер, накладаючы рэзалюцыю «Дазваляецца выкананне на тэрыторыі БССР тэрмінам да...».

Усе спектаклі (канцэрты) здаваліся Рэперткаму ў сцэнічна гатовым выглядзе за пяць дзён да абвяшчэння прэм’еры, пасля чаго складаўся адпаведны акт прыёмкі. Калі спектакль узнаўляўся пасля доўгага перапынку, яго таксама праглядаў тэатральны цэнзар. У кожнага артыста Белдзяржфілармоніі быў рэпертуарны пашпарт, дзе пазначаліся творы, дазволеныя яму да выканання, а таксама тэрмін, на які даваўся дазвол. За парушэнні

цэнзурных правілаў арганізатары відовішчаў, як і ў даваенны час, прыцягваліся да крымінальнай адказнасці. Так было, напрыклад, з дырэктарам гарадскога тэатра ў Мазыры Брэгманам, супраць якога ў 1949 г. узбудзілі крымінальную справу [68, арк. 4]. Як і ў даваенны час, усе відовішчныя ўстановы былі павінны рэзерваваць месцы ў глядзельнай зале не толькі для прадстаўнікоў Рэперкама, але таксама для афіцэраў МУС–МДБ.

Галоўрэперткам рэгулярна рассылаў з Масквы рэперткамам саюзных рэспублік, у т. л. у Мінск, загады з пералікамі дазволеных і забароненых тэатральных п’ес, літаратурнага матэрыялу для эстраднага выканання, музычнага матэрыялу для эстрады і цырка, вакальных і інструментальных музычных твораў, а таксама грампласцінак. Акрамя таго, Рэперткам БССР кантраляваў выяўленчую прадукцыю (чытай, наглядную агітацыю), якая выраблялася ў Цэнтральных мастацкіх афарміцельскіх майстэрнях беларускага аддзялення Мастацкага фонду СССР. А з 1950 г. у сферу яго ўвагі трапілі арганізацыі, што гандлявалі рэпрадукцыямі твораў выяўленчага мастацтва.

Да большасці матэрыялаў, што прадстаўляліся на цэнзурны прагляд, у Рэперткама ўзнікалі пытанні. Напрыклад, у жніўні 1944 г. з праграмы Белдзяржфілармоніі знялі выступленне артыста Міхайлава, таму што ён выконваў «упадніцкія танга і фокстроты». Шмат матэрыялу Рэперткам забракоўваў цалкам. Пераважна гэта быў нізкапробны

рускамоўны канферанс, куплеты, інтэрмедыі. Але сярод забракаванага былі таксама сур'ёзныя спектаклі, знікненне якіх збядняла нацыянальную культуру. Першай падобнай ахвярай Рэперткама БССР у пасляваенны час стаў спектакль «Вадэвілі (Вечарына камедый)» паводле твораў Я. Купалы ў БДТ-1 (рэжысёр — Л. Літвінаў, кампазітар — Я. Цікоцкі, мастак — Б. Малкін). А. А. Есакоў і начальнік тэатральнага аддзела камітэта У. І. Няфёд забаранілі гэты спектакль у сакавіку 1945 г. з фармулёўкай: «жыццё дарэвалюцыйнай Беларусі паказана лжыва, ідэалізавана» [66, арк. 57].

За працай Рэперткама БССР уважліва сачыў аддзел прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б. Кожная памылка рабілася прадметам выхаваўчай размовы партыйных ідэолагаў з цэнзарамі ад мастацтва, а ў горшым выпадку — прычынай іх пакарання. Адна з першых падобных размоў з А. Е. Атрошчанкам у ЦК адбылася ў жніўні 1946 г. пасля дазволенага Рэперткамам «безыдэйнага, пошлага, антымастацкага» выступлення цыган у мінскім кінатэатры «Першы» [17, арк. 299].

Калі ў Мінску Рэперткам адразу ж пасля стварэння пачаў бязлітасна змагацца з «творамі, чужымі нашай ідэалогіі, апалітычнымі, беспрынцыпнымі, бяззубымі», дык у абласцях нават у 1946 г. штатныя адзінкі ўпаўнаважаных былі запоўнены не паўсюль. Іх абавязкі выконвалі альбо начальнікі (а часам сакратары) абласных аддзелаў мастацтва, альбо дырэктары дамоў народнай творчасці, з-за чаго

правілы кантролю на абласным узроўні часта парушаліся. Вось некаторыя з найбольш грубых парушэнняў, зробленых ў абласцях БССР у 1946 г. Начальнік Баранавіцкага абласнога аддзела мастацтваў Салабуцін дазволіў «левыя» спектаклі Пінскага драмтэатра. Начальнік Магілёўскага абласнога аддзела мастацтваў Храмаў самавольна стварыў канцэртна-эстраднае бюро і дазволіў яго брыгадам абслугоўваць насельніцтва рэспублікі з праграмай нізкай ідэйна-мастацкай якасці. У Гомелі прайшлі гастролі Чарнігаўскай філармоніі і адэскай эстрады адпаведна дазволу Рэчыцкага райліта, што было парушэннем субардынацыі. У Бабруйскім доме афіцэраў без дазволу працаваў Маскоўскі тэатр мініяцюр. Па заходніх абласцях БССР гастраляваў Кузнецкі драмтэатр, выступленні якога былі забаронены пасля яго прыезду ў Мінск. У Бабруйску даваў платныя канцэрты невядомы яўрэйскі калектыў. Наваградскі і Навамышскі райкамы партыі дазвалялі гастролі невядомых «дзікіх» калектываў. У многіх абласцях калектывы самадзейнасці па заданні ўласных прафсаюзных арганізацый раз’язджалі з платнымі канцэртамі, як, напрыклад, калектыў Баранавіцкага клуба чыгуначнікаў.

Арганізацыя кантролю над рэпертуарам правінцыйных установ яшчэ толькі наладжвалася, калі нечакана ў маі 1950 г. па загадзе з Масквы былі скасаваны пасады ўпаўнаважаных Рэперткама ва ўсіх 12 абласцях БССР. Замест іх у цэнтральны апарат у Мінск дадалі дзве пасады раз’язных палітрэдактараў.

Кампанію «барацьбы з нізкапаклонствам перад Захадам» на тэатральных падмостках распачала пастанова ЦК УсеКП(б) ад 26 жніўня 1946 г. «Аб рэпертуары драматычных тэатраў і мерах па яго паляпшэнні». Яна патрабавала ўзмацніць партыйны і дзяржаўны кантроль над тэатральным рэпертуарам, які аказаўся засмечаны ідэалагічна шкоднымі, безгустоўнымі творамі. У пастанове таксама праводзілася думка пра тое, што некаторыя кіраўнікі вырашылі паказваць людзям забаўляльныя спектаклі, у тым ліку заходніх аўтараў, проста для адпачынку, ігнаруючы ідэалагічны складнік. І забыліся, што галоўная задача савецкага тэатра — апяваць будаўніцтва сацыялізму ў СССР.

Пастанова «Аб рэпертуары...» абмяркоўвалася на партыйных сходах ва ўсіх тэатрах БССР. Па выніках гэтых абмеркаванняў аддзел прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б прапанаваў Камітэту па справах мастацтваў у асобе начальніка Рэперткама А. Е. Атрошчанкі зняць з рэпертуару наступныя п’есы забаўляльнага характару савецкіх і замежных аўтараў. Па Дзяржаўным драмтэатры БССР імя Я. Купалы — «Дрымучае сэрца» Б. Ліпатава, «Ён прыйшоў» Дж. Прыстлі, «Урок жыцця» В. Галаўчынера, «Мілы чалавек» К. Крапівы. Па Дзяржаўным драмтэатры БССР імя Я. Коласа — «Маё кафэ» Т. Бернара, «Факір на час» М. Слабодскага, «Начное радыё» бр. Тур і Л. Шэйніна. Па Дзяржаўным драматычным рускім тэатры БССР — «Самалёт спазняецца на суткі» М. Рыбака і І. Саўчанкі, «Памятныя сустрэчы» К.

Уцеўскага, «Сустрэча ў цемры» Ж. Кнор, «Вясельнае падарожжа» Ул. Дыхавічнага. Па тэатры музкамедыі БССР — «Марыета» В. Кало, «Тры сустрэчы» М. Старакадомскага. Па Палескім аблдрамтэатры — «Вясельнае падарожжа» Ул. Дыхавічнага, «Раскінулася мора шырока» Ус. Вішнеўскага, А. Крона, Ус. Азарова. Па Бабруйскім аблдрамтэатры — «Урок жыцця» В. Галаўчынера. Па Гомельскім аблдрамтэатры — «Начное радыё» бр. Тур і Л. Шэйніна. Па Баранавіцкім аблдрамтэатры — «Самалёт спазняецца на суткі» М. Рыбака і І. Саўчанкі, «Начное радыё» братоў Тур і Шэйніна, «Акно ў лесе» Л. Рахманава, «Урок жыцця» В. Галаўчынера, «Дзесьці ў Маскве» Ул. Маса і М. Чарвінскага, «Вясельнае падарожжа» Ул. Дыхавічнага.

П’есы «Хто смяецца апошнім», «Выпрабаванне агнём» К. Крапівы і «Заложнікі» А. Кучара дазволілі пакінуць у рэпертуары беларускіх тэатраў толькі пасля іх значнага выпраўлення[50].

У сваім дакладзе ў Маскву сакратар ЦК КП(б)Б Ц. С. Гарбуноў шчыра пісаў, што пасля гэтых забаронаў у рэпертуары тэатраў БССР засталася толькі руская і заходнееўрапейская класіка. Таму планавалася сканцэнтраваць усе намаганні драматургаў на тагачаснай беларускай савецкай тэматыцы [18, арк. 180–189].

Неўзабаве пасля выхаду пастановы «Аб рэпертуары...» моцна крытыкаваўся Беларускі тэатр

оперы і балета за ігнараванне твораў рускай класікі, з якой паказваўся толькі адзін спектакль — опера А. Даргамыжскага «Русалка». Мастацкі кіраўнік тэатра А. М. Брон «не вылучаўся высокім узроўнем палітычнай падрыхтоўкі і нярэдка праяўляў відавочнае рабалепства перад замежжам» [28, арк. 4, 7].

У 1946 г. была ачышчана праграма тэатра мініяцюр, адкуль прыбралі два скетчы «Дама ў чорным» і «Першая практыка». Рэперткам прапанаваў таксама вывесці з яго рэпертуару аднаактавую п’есу «Справа № 79» і скетч «Пільная перасцярога». Акрамя таго, у гэтым тэатры забаранілі праграму тэатралізаванага джаза. У абласных тэатральных установах рэспублікі А. Е. Атрошчанка забараніў гастролі аперэты Брэсцкай чыгункі і Маскоўскага тэатра мініяцюр. Быў выкрыты і выгнаны за межы рэспублікі цыганскі ансамбль, які гастраляваў па БССР з падробленымі дакументамі [25, арк. 312–315].

Сваё пасяджэнне 14 сакавіка 1946 г. Рэперткам прысвяціў абнаўленню рэпертуару Дзяржаўнага джаза БССР пад кіраўніцтвам Э. Рознера[51], куды неабходна было ўключыць творы беларускіх аўтараў. 23 верасня А. Е. Атрошчанка праглядзеў абноўленую праграму, але яна зноў выглядала «шэрай і безыдэйнай». У прыватнасці, начальніку Рэперткама не падабаліся «сентыментальныя» тэксты песень у выкананні Р. Камінскай і Л. Лямпель, а таксама

«прымітыўныя» творы Ю. Бельзацкага. Пасля з'яўлення пагромнага артыкула пра Э. Рознера ў «Известиях» знойдзены ім прыём абыходу цэнзуры — накладанне ідэалагічна актуальных тэкстаў на класічныя джазавыя мелодыі — ужо не спрацоўваў [18, арк. 318].

Напрыканцы 1946 г. сакратар ЦК КП(б)Б М. Я. Аўхімовіч атрымаў даведку аб стане рэпертуару Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР, падрыхтаваную яго падначаленымі з аддзела прапаганды і агітацыі ЦК. У прыватнасці, яны пісалі: «Рэпертуар тэатра не адпавядае патрабаванням пастановы ЦК Усе КП(б) "Аб рэпертуары...". П'есы савецкіх аўтараў на сучасныя тэмы выціснуты з рэпертуару. З 14 спектакляў, якія ідуць, толькі два прысвечаны сучаснаму савецкаму жыццю — "Так і будзе" К. Сіманава і "Помста" І. Левіна. Аднак і гэтыя два спектаклі былі знятыя як неадпавядальныя патрабаванням пастановы ЦК УсеКП(б)... Акрамя таго, з рэпертуару яўрэйскага тэатра зняты наступныя пастаноўкі: "Сіротка Хася" (мяшчанская меладрама, безыдэйны спектакль, чужы нашаму савецкаму гледачу); "Цвей Кунелемлех" (музычная камедыя, якая паказвае мінулае яўрэйскага народа ў груба скажоным выглядзе). Патрабуюць сур'ёзнай перапрацоўкі пакінутыя ў рэпертуары спектаклі: "Музыка" С. Галкіна (неабходна ўнесці карэктывы па лініі прагрэсіўнай ролі перадавой рускай рэвалюцыйнай інтэлігенцыі, якая вяла барацьбу з царскай рэакцыяй, і трактоўцы асобных вобразаў

спектакля); “Тэўе Малочнік” Ш. Алейхема (інсцэніроўка знаходзіцца ніжэй за ўзровень самога рамана і патрабуе карэнных выпраўленняў па лініі ўзмацнення дэмакратычных пачаткаў, закладзеных у аснову гэтага твора, пратэсту супраць сацыяльнай несправядлівасці буржуазнага грамадства); “200 000” Ш. Алейхема (спектаклю ўласцівы цэлы шэраг фармалістычных скажэнняў як па лініі афармлення, так і па лініі трактоўкі асобных сцэн); “Капрызная нявеста” А. Гольдфадэна (спектакль пастаўлены ў жанры музычнай камедыі, для знешней прыгажосці, эфектных фармалістычных трукаў, знік нават той ідэйны змест, які быў закладзены ў самой п’есе). Надаючы значную ўвагу паказу жыцця яўрэйскага народа ва ўмовах палітычнага і нацыянальнага бяспраўя царскай Расіі, рэпертуар тэатра зусім не адлюстроўвае галоўнага — жыцця і побыту яўрэйскага народа ва ўмовах савецкай дзяржавы. У рэпертуары няма сучаснага савецкага спектакля, які б паказваў росквіт жыцця і нацыянальнай культуры народаў Савецкага Саюза, у т. л. і яўрэйскага, іх сумесны ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве і ў гераічнай барацьбе супраць фашызму» [20, арк. 65–69].

У заключэнні аўтары даведкі адзначалі, што ў бліжэйшы час запланавана перакласці на ідыш і паставіць на сцэне тэатра класічную рускую і сучасную савецкую п’есы, а таксама стварыць і паставіць п’есу пра гераічную барацьбу яўрэйскага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Наступны трывожны сігнал для трупы яўрэйскага тэатра прагучаў у жніўні 1947 г., калі партыйнае кіраўніцтва рэспублікі атрымала даклад кансультанта аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б, галоўнага рэдактара газеты «Літаратура і мастацтва» аднаго з рупараў ідэалагічных кампаній канца 1940-х — пачатку 1950-х гг. М. М. Горцава. Ён сігналізаваў начальству пра «нацыяналізм і нізкапаклонства перад Захадам» рэжысёра Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР С. Марголіна, запрошанага дырэктарам тэатра Я. Гольдшварцам з Масквы для пастаноўкі п’есы «Глыбокія карані» Д. Гоу і А. д’Юсо. С. Марголін, у прыватнасці, лічыў, што «ў рэпертуар яўрэйскага тэатра можна і трэба ўключаць перакладныя п’есы, але тыя, што блізкія і цікавыя для яўрэйскага насельніцтва і дзе героямі з’яўляюцца яўрэі». Гэтую думку падзяляў Я. Гольдшварц. Падчас гастроляў тэатра ў Бабруйску сакратар мясцовага абкама забараніў лекцыі С. Марголіна за яго выказванне, што «вытокі Пушкіна варта шукаць у Шэкспіры», а гэта — «прамое выражэнне ўкленчання, рабалепства перад Захадам, перад замежжам» [20, арк. 1—5].

У лютым 1948 г. быў знойдзены мёртвым на адной з мінскіх вуліц мастацкі кіраўнік Маскоўскага дзяржаўнага яўрэйскага тэатра С. Міхоэлс. А ў красавіку 1949 г. быў закрыты Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР.

Творчую інтэлегенцыю рэспублікі пачалі рыхтаваць да гэтай сумнай падзеі загадзя. 14 лютага 1949 г. газета «Літаратура і мастацтва» надрукавала

артыкул былога начальніка Рэперткама, тады ўжо загадчыка аддзела ў «ЛіМе» А. А. Есакова «Носьбіты бязроднага касмапалітызму». Гэты артыкул, напісаны па прапанове сакратара ЦК М. І. Гусарава, які курыраваў знішчэнне Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР, быў беларускім працягам артыкула «Аб адной антыпатрыятычнай групе тэатральных крытыкаў», які з'явіўся напярэдадні, 29 студзеня 1949 г., у газеце «Правда».

У падрыхтаваным А. А. Есаковым матэрыяле сцвярджалася, што некаторыя прадстаўнікі тэатральнай грамадскасці БССР, пераважна яўрэйскай нацыянальнасці, з'яўляюцца «носьбітамі не ўласцівага для савецкага чалавека, варожага яму бязроднага касмапалітызму», працягваюць у савецкае грамадства ідэалогію культуры буржуазнага Захаду. Да касмапалітаў далучылі галоўнага рэжысёра Беларускага тэатра імя Я. Купалы Л. Літвінава, якому не даравалі пераробку аўтарскага тэксту ў бок яго змякчэння ў антызаходняй п'есе К. Сіманава «Чужы цень»[52]. Адразу ж пасля прэм'еры ў 1949 г. п'еса была знята з рэпертуару тэатра, а Л. Літвінаў, якому ўзгадалі 1920-я гг., калі ён узначальваў групу мінскіх паэтаў-футурыстаў, пакінуў БССР. Другім буйным касмапалітам быў галоўны рэжысёр Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага В. Галаўчынер. Падазронасць выклікаў таксама тэатральны крытык М. Модэль. А. А. Есакоў асудзіў беспрынцыповасць выступленняў акцёраў Б.

Герцберга і М. Сокала, шкодную эстэцка-фармалістычную рэпертуарную палітыку Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР. На партсходзе ў тэатры крытыкавалі рэжысёра С. Марголіна за спектакль «Блукаючыя зоркі», С. Штэйна за спектакль «Музыкант», В. Галаўчынера за спектакль «Скатабоец Берман». У ЦК дадалі ў канцы рукапісу артыкула фразу: «Ці можа такі тэатр дзейнічаць далей?»

Дакументы, што захаваліся, даюць магчымасць даведацца пра змест працы Рэперткама БССР у канцы 1940-х — пачатку 1950-х гг.

Класічны рэпертуар па сваім змесце, натуральна, не выклікаў пярэчанняў у тэатральных цэнзараў. Таму яны звярталі ўвагу пераважна на расстаноўку акцэнтаў у спектаклях па творах класікаў. Калі да пастаноўкі «Лебядзінага возера» ў 1948 г. у Рэперткама не было ніякіх заўваг, то да спектакля па п’есе А. Астроўскага «Не ўсё кату масленіцы» ў пастаноўцы рэжысёра Брэсцкага тэатра імя Ленінскага камсамола Е. Баталіна прэтэнзіі з’явіліся. Па-першае, на думку цэнзара, «купец Алаў паказаны недастатковым самадурам, наадварот, часам ён сапраўды добры і да яго адчуваеш сімпатыю, чаго ні ў якім разе не павінна быць». Па-другое, трэба было «абстаноўку купца Алава паказаць больш заможнай, каб быў бачны кантраст з кватэрай Кругловай». У спектаклі «Авадзень» па рамане Э. Л. Войніч рэжысёру Магілёўскага рускага драмтэатра А. Міронскаму было рэкамендавана «не шкадаваць

фарбаў для сатырычнага паказу гнюснай ролі каталіцкага духавенства, [...] больш гратэскна паказаць ханжаства святара ў вязніцы». У 1949 г. у спектаклі па п’есе О. Голдсміта «Ноч памылак» Гродзенскага абласнога драмтэатра рэжысёру М. Кавязіну настойліва параілі «падкрэсліць элементы палітычнай сатыры на англійскі ўрад». А ў наступным годзе яго спектакль «Слуга двух гаспод» па п’есе К. Гальдоні забаранілі як «фармалістычны». Акрамя «песенек» сумніўнай якасці, касцюм Беатрычэ быў прызнаны надта «эратычным» [69, арк. 4].

Тым не менш асноўная ўвага тэатральных цэнзараў была накіравана на п’есы тагачасных драматургаў, якія паказвалі савецкую рэчаіснасць.

У п’есе-агітцы Я. Пятрова «Востраў міру», прэм’ера якой адбылася ў Магілёўскім тэатры рускай драмы ў лютым 1948 г., Рэперткам загадаў састарыць акцёраў з дапамогай грыму, касцюмаў і змены галасоў, бо ў спектаклі размова ішла аб прадстаўніках адміраючага англійскага імперыялізму, а таксама падкрэсліць сцэну выкрыцця пацыфізму героя [67, арк. 11]. Праз месяц упаўнаважаны Рэперткама Караткоў пасля прагляду п’есы В. Бергольц «У нас на зямлі» ў тым жа тэатры загадаў: «1. Перарабіць у больш рэалістычным плане заднік, дзе змешчана выява завода; 2. У фінале зрабіць масавую сцэну, каб падкрэсліць грамадскую тэму спектакля — непадзельнасць асабістага і грамадскага ў жыцці савецкіх людзей;
3. Згладзіць залішнюю нервовасць і тлум у ходзе

спектакля, узмацніўшы ліра-эпічную брую» [67, арк. 12].

У 1948 г. ад пастаноўшчыка спектакля па п’есе Ул. Дыхавічнага і М. Слабодскага «Чалавек з таго свету» запатрабавалі «глыбей раскрыць вобраз Лангара, паказаўшы, што амерыканізм у яго неглыбокі, што, сутыкнуўшыся з вірам жыцця савецкіх людзей, ён зноў загараецца пафасам барацьбы за свабоду свайго народа» [67, арк. 49]. З п’есы В. Палескага «Песня нашых сэрцаў» (агітка, прысвечаная пасляваеннаму ўзнаўленню горада) прыбралі наступныя фразы: «Чытала я нядаўна добрыя вершы Ахматавай, але іх забаранілі»; «Я самому сакратару гаркама прэміі даваў»; «Калі на даваенную дзірку паясы адпусцілі». М. Клімковіча прымусілі ўнесці наступныя змены ў яго лібрэта оперы «Кастусь Каліноўскі»: прыбраць ксяндзоў, падкрэсліць розніцу паміж сялянскім і шляхецкім паўстаннем, выпукліць ролю рускіх афіцэраў, а таксама сувязі паўстанцаў з рускім рэвалюцыйным рухам [29, арк. 176].

Толькі на працягу снежня 1949 г. Рэперткам забараніў пастаноўку ў БССР наступных п’ес: «Не пераскочыўшы, не кажы гоп», «Подзвіг», «Родная кроў» П. Кавалёва, «Мост» Ус. Краўчанкі, «Тварам да твару» І. Мележа, «Нечаканая перамена», «Перад сустрэчай» А. Макаёнка, «Перадавая ферма», «Не па той баразне» Е. Яфрэмава, «Валодзін гальштук» К. Крапівы, «Помста» С. Свірыдава, «Сапраўднае шчасце», «Універсальны фотаапарат». У. Няфёда [68, арк. 17–18].

Нягледзячы на недахоп у тагачасных тэатрах спектакляў, адрасаваных юнаму гледачу, цэнзура моцна трымала дзіцячы рэпертуар у полі зроку. У 1950 г. прадстаўнік Рэперткама А. А. Іваноўскі, прымаючы ў Гродзенскім абласным драмтэатры спектакль-казку «Пунсовая кветачка», патрабаваў «акцэнтаваць патрыятычныя моманты ў спектаклі» [69, арк. 112]. Праз тры гады Галоўліт БССР забараніў п’есу для дзяцей С. Свірыдава «Тройка», таму што яна «выхоўвае ў дзяцей непавагу да бацькоў», а таксама дзіцячую п’есуЕ. Садоўскага «Востраў мудрасці», напісаную па матывах кітайскіх казак, бо яна «перакручвае сапраўдны сэнс і вялікасць перамогі кітайскай рэвалюцыі пад кіраўніцтвам кампартыі Кітая».

Дзейнасць Рэперткама «на музычным фронце» таксама мела разбуральны эфект нават у кароткатэрміновай перспектыве. У справаздачы камісіі ЦК КП(б)Б, якая ў жніўні 1951 г. правярала Беларускі тэатр оперы і балета, мы чытаем: «Бясконцыя і безвыніковыя перапрацоўкі опер “Алеся”, “Кастусь Каліноўскі”, “Машэка”, “Песня”, “Шчасце” сапсавалі нервы кампазітарам, лібрэтыстам і пастаноўшчыкам і не прывялі да стварэння беларускай нацыянальнай оперы... Упраўленне па справах мастацтваў канчаткова заблыталася ў ацэнцы гэтых лібрэта... Новыя лібрэта не замаўляюцца, і беларускія аўтары мала прыцягваюцца да работы... На летніх гастролях тэатр не здолеў паказаць беларускі рэпертуар увогуле». Але тлумачылася ўсё гэтае

бязладдзе членамі камісіі ЦК адсутнасцю марксісцка-ленінскага падыходу ў рэпертуарнай палітыцы: «Навошта спатрэбілася ўключаць у план пад націскам Л. Александроўскай пустую беззмястоўную оперу Манюшкі “Страшны двор”, ці ёсць ў гэтым патрэба ў беларускага гледача?» [51, арк. 41].

Ідэалагічная кампанія «барацьбы з нізкапаклонствам перад Захадам» паспрыяла з’яўленню вала танных кан’юнктурных драматургічных вырабаў, што ставіла цэнзараў Рэпerткама БССР у складанае становішча. Найбольш «урадлівы» ў гэтым сэнсе быў 1949 год, калі святкавалася 70-годдзе Сталіна. Праца па напісанні прысвечаных яму твораў пераўтварылася ў звычайную халтуру, сродкам хутка зарабіць грошы і стаць афіцыйна прызнаным у прафесіі. Калі кан’юктурны выраб выходзіў з-пад пяра галоўнага тэатральнага цэнзара рэспублікі[53], яе далейшы лёс вырашаўся, натуральна, на карысць аўтара. Лёс «твораў», якія выходзілі з-пад пяра кан’юнктуршчыкаў, не абцяжараных высокімі дзяржаўнымі пасадамі, вырашаўся цэнзарамі ў кожным разе асобна.

У 1950 г. Рэперткам дазволіў для выканання ў школьных драмкружках п’есу С. Свірыдава «Каля дуба», якая распавядала пра ўдзел дзяцей у калгасным будаўніцтве, іх пільнасці на заходніх межах краіны з фармулёўкай: «Драматургічныя і ўвогуле мастацкія якасці п’есы пасрэдныя, але ў сувязі з тым, што ў Беларусі зусім адсутнічае рэпертуар для дзіцячага

гледача... прыняць» [70, арк. 1]. Падобная ж сітуацыя склалася з п’есай В. Палескага «Калі зацвітаюць сады», якая распавядала пра калектывізацыю Заходняй Беларусі, класавую барацьбу на вёсцы, рэакцыйную ролю каталіцкага духавенства, што выконвае волю амерыканскага імперыялізму. Яе рэкамендавалі для паказу, асабліва ў тэатрах Заходняй Беларусі, з-за яе актуальнасці, нягледзячы на «блякласць» сюжэта. П’есу Н. Чарнышэвіча «Сям’я доктара Чыверса» таксама дазволілі ставіць, нягледзячы на фантасмагарычны сюжэт, дзе амерыканскі фізік-ядзершчык А. Чыверс пасля прачытання працы Сталіна «Да пытанняў ленінізму» адмаўляецца ад супрацоўніцтва з буйным капіталам і далучаецца да прагрэсіўнага руху [71, арк. 14].

Зусім прымітыўныя п’есы-агіткі Рэперткам вымушаны быў адпраўляць на перапрацоўку. Так, не дазволілі ставіць нават у гуртках самадзейнасці п’есу А. Махнача «У імя жыцця», што распавядала пра гераізм карэйскага народа, які змагаўся з амерыканскімі агрэсарамі. Паказаная аўтарам нянавісць карэйскіх дзяцей да амерыканцаў цалкам задаволіла цэнзара. Але шэраг тэхнічных аспектаў выклікаў яго пярэчанне: «У Вас амерыканцы такія ж, як і немцы, — хочуць абліць хату бензінам і падпаліць яе разам з людзьмі. А чаму б не прымусіць амерыканцаў абліваць карэйцаў кіпенем, як пра гэта пісалі нашы газеты?» [70, арк. 15].

Загадам упаўнаважанага СНК СССР па ахове ваенных тайн у друку ад 7 верасня 1951 г. у

структуры Галоўліта стварaўся новы аддзел кантролю за мастацкімі творамі, у абавязкі якога ўваходзіла папярэдняе і карнае цэнзураванне ўсіх відаў мастацтва. Працэдура кантролю тэатральных устаноў была вызначана ў спецыяльнай інструкцыі ад 18 студзеня 1952 г. «Аб парадку цэнзарскага кантролю твораў мастацтва». Яна патрабавала, каб творы мастацтва прымаліся на кантроль цэнзурай толькі ад Камітэта па справах мастацтва альбо ад устаноў, якім дазволены выпуск твораў мастацтва (але не ад аўтараў ці выканаўцаў). Галоўліт канцэнтраваўся на кантролі дзейнасці сталічных устаноў культуры, аблліты кантралявалі рэпертуар прафесійных і самадзейных мастацкіх калектываў у сваіх тэрытарыяльных межах. Аддзел па кантролі за відовішчамі і рэпертуарам (Рэперткам), які паўстаў у 1922 г. у складзе Галоўпалітасветы[54], спыніў сваё існаванне як структурная адзінка Камітэта па справах мастацтваў. Але ад цэнзарскіх абавязкаў Камітэт цалкам не пазбаўлялі. З мэтай прэвентыўнага цэнзуравання твораў мастацтва пры Камітэце стваралася рэпертуарна-рэдакцыйная калегія, старшыня якой быў абавязаны прадстаўляць ухвалены членамі калегіі матэрыял на кантроль у Галоўліт.

Перадача прыярытэтных правоў у працэсе цэнзурнага кантролю над мастацкімі ўстановамі ад Камітэта Галоўліту БССР адбывалася не без праблем[55]. Камітэт па справах мастацтваў не хацеў аддаваць такую важную сферу сваёй дзейнасці. У

лістападзе 1951 г. ён санкцыянаваў без візы Галоўліта эстрадныя выступленні ў Доме афіцэраў і Політэхнічным інстытуце, у студзені 1952 г. у Дзяржаўным рускім тэатры абышліся без цэнзараў падчас пастаноўкі п’есы В. Каверына «Два капітаны». Дзеля таго каб Камітэт даў загад спыніць працу над пастаноўкай п’есы А. Макаёнка «На досвітку», забароненай у аўтарскім варыянце Галоўлітам, спатрэбілася ўмяшальніцтва ЦК.

Першыя вынікі цэнзуравання Галоўлітам твораў мастацтва напрыканцы 1951 г. былі вельмі сціплыя, а менавіта шэсць песень, забароненых як «псеўданародныя і не адпавядаючыя патрабаванням ідэйнага выхавання савецкіх людзей», а таксама 24 творы малых формаў для эстрады [82, арк. 49–54]. Сітуацыя змянілася ў маі 1952 г. пасля ўмяшальніцтва ў гэтае супрацьстаянне ЦК КПБ і прыняцця кампраміснага рашэння — прызначэння на пасаду загадчыка аддзела кантролю твораў мастацтва Галоўліта БССР былога начальніка Рэперткама А. Е. Атрошчанкі.

Яго першай акцыяй на новай пасадзе была забарона да пастаноўкі ў дзяржаўных тэатрах і гуртках самадзейнасці наступных драматычных п’ес: «Што пасееш, тое і пажнеш» С. Свірыдава («пра славуты любоўны трохкутнік, даўно выкінуты за борт літаратуры сацрэалізму»), «Аксёніна цялушка» А. Макаёнка («скажае сапраўднасць і прыніжае значэнне важнай дзяржаўнай справы») і «Жыццё патрабуе» таго ж аўтара («прапагандуе будаўніцтва

цагельных заводаў у калгасах, што ў дакладзе Малянкова названа памылкай»), «Жніўнымі днямі» П. Кавалёва («паказаны не людзі, а нейкія напаўдзікія істоты»). У аперэце «Халопка» М. Стрэльнікава цэнзар зняў рэпліку Мітруся, якую той прамаўляў падчас катавання сялян: «У Францыі я адзвычаіўся ад гэтага, а тут (г. зн. у Расіі) зноў даводзіцца прызвычайвацца» [52, арк. 260].

Усяго ў 1952 г. Галоўліт БССР разгледзеў 29 п’ес, 135 музычна-вакальных твораў, 81 твор размоўнага жанру для эстрады і цырка, 37 кіначасопісаў «Беларусьфільм». Акрамя таго, у аддзел кантролю твораў мастацтва паступалі лібрэта, афішы, праграмы, зборнікі песень, іншых музычных твораў. Ажыццяўляўся кантроль рэпертуару аркестраў паркаў, рэстаранаў, кіно, мастацкай самадзейнасці. Найбольш цяжкім участкам у аддзеле кантролю твораў мастацтва Галоўліта БССР была эстрада. Аўтары-выканаўцы ўносілі змены ў тэкстах ужо на сцэне, спрабавалі выступаць увогуле без галоўлітаўскай візы. У 1952 г. быў цалкам зняты 31 эстрадны твор, у іншых творах, у т. л. п’есах, зроблены шматлікія выкрэсліванні [83, арк. 28–33].

Сярод іншага, са зборніка «Вернасць» В. Віткі была выключана п’еса «Прамень будучыні», дзе галоўны герой — зняты з пасады старшыня калгаса — арганізуе брыгаду з лайдакоў і п’яніц, якія хутка здымаюць лепшы ў акрузе ўраджай («горшыя робяцца лепшымі, абышоўшы ў паказчыках перадавікоў»). З п’есы «Брэсцкая крэпасць» яе аўтара К. Губарэвіча

прымусілі зняць месцы, дзе афіцэры гарнізона дзяліліся між сабою прадчуваннем вайны («паддаліся засмучэнню, паніцы, напалохаліся»), а таксама дзе камандзір гарнізона патрабуе камісара даць клятву стаяць насмерць, калі сам загіне («не давярае»). Зніклі таксама словы аднаго з персанажаў п’есы: «Я адчуваю, што хутка мая пагранзастава будзе перанесена пад Берлін». У п’есе «Простая дзяўчына» таго ж аўтара знялі наступную рэпліку аднаго з герояў: «Заплюшчыш вочы, так і не пакаштаваўшы гэтага самага камунізму».

У 1953 г. Галоўліт БССР пасля выпраўленняў дазволіў выконваць на канцэртных пляцоўках рэспублікі 250 эстрадных твораў, 150 праграм эстрадных брыгад, 186 музычных твораў. 12 твораў былі забаронены [84, арк. 26–27]. У наступным годзе цэнзары аддзела кантролю твораў мастацтва адабралі 1870 грампласцінак[56], 2987 адзінак выяўленчай прадукцыі, 416 дыяфільмаў [85, арк. 42]. Аблліты былі пераважна заняты праверкай мясцовай самадзейнасці, а таксама давалі дазвол на расклейку афіш, звяралі іх з праграмамі, правяралі ў гастралёраў наяўнасць дазволу сталічнай цэнзуры.

Ужо да канца першага пасляваеннага дзесяцігоддзя праявілася супярэчанне паміж ідэалагічнымі ўстаноўкамі партыйных органаў і інтарэсам гледачоў, і як вынік — эканамічнымі інтарэсамі арганізацый. Найбольш яскрава яно назіралася ў дзейнасці Белдзяржэстрады, якая

працавала ва ўмовах поўнага гаспадарчага разліку. Многія спектаклі Белдзяржтэатра оперы і балета на працягу 1950-х гг. праходзілі ў напаўпустой зале. Сярэдняя загрузка залы тэатра ў 1952 г. складала 37%, у 1953 г. — 43%, у 1954 г. — 48%, у 1956 г. — 41% (гэта быў самы нізкі працэнтны паказчык сярод тэатраў оперы і балета СССР). Нягледзячы на час «адлігі», ЦК КПБ імкнуўся выправіць гэтую сітуацыю старымі метадамі, патрабуючы павялічыць колькасць пастановак твораў рускай класікі і савецкіх аўтараў [38, арк. 96].

Нават у самыя змрочныя часы сталінскіх ідэалагічных кампаній канца 1940-х — пачатку 1950-х гг., калі пра свабоду творчасці можна казаць толькі ўзяўшы гэтыя словы ў двукоссе, імкненне да вольнага самавыражэння ў народзе захоўвалася. Так, у маі 1952 г. канферансье Шышкін падчас канцэрта ў Мінску пажартаваў: «А цяпер адзіны замежны нумар нашай праграмы — "Антракт"» (гэты жарт стаў прадметам абмеркавання ў кабінеце Ц. С. Гарбунова) [52, арк. 260]. У студзені 1953 г. загадчыку аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ М. А. Халіпаву паведамлялі, што моладзь вёскі Баравікі Крывічскага раёна, аб'яднаўшыся ў драмкружок, паставіла спектакль па «безыдэйнай, забароненай п'есе нацдэма Аляхновіча "Манька"» [33, арк. 58].

У перыяд «адлігі» ў працэсе змен у складзе апарата Міністэрства культуры пры ім паўсталі розныя мастацкія саветы і камісіі. У іх кампетэнцыю ўваходзіла абмеркаванне пытанняў стварэння

рэпертуару, а таксама прадстаўленне ўласных рэкамендацый на калегіях міністэрства. Стала менш тэм, забароненых для тэатра. З'явілася больш перакладных п'ес замежных аўтараў. Галоўліт быў вызвалены ад абавязку кантраляваць гатовы рэпертуар тэатральных устаноў. Зацвярджаліся толькі тэксты, сцэнары, лібрэта і г. д. Напрыклад, у 1959 г. на цэнзарскі кантроль былі прадстаўлены тэксты 6 драматычных твораў, 34 твораў для эстрады і 8 твораў для мастацкай самадзейнасці. Усе яны былі дазволены для выканання [44, арк. 154].

У 1960 г. у БССР дзейнічала адзінаццаць тэатраў (оперы і балета, сем драматычных, юнага гледача, лялек, а таксама перасоўны драмтэатр) і пяць канцэртных арганізацый — Дзяржаўная філармонія, Народны ансамбль песні і танца, Акадэмічная харавая капэла, Дзяржаўны ансамбль танца, а таксама Мінскі абласны ансамбль песні і танца). Праз дзесяцігоддзе колькасць прафесійных тэатраў у рэспубліцы павялічылася да 14. У 1970 г. іх наведала каля 2,5 млн чалавек, з якіх сельскія гледачы складалі толькі 6 %. На кожным спектаклі ў сярэднім чацвёртая частка месцаў у глядзельнай зале пуставала. Напрыклад, у Беларускім дзяржаўным драмтэатры імя Я. Коласа вольнымі было 34 % месцаў, у Магілёўскім дзяржаўным тэатры драмы і камедыі — 44 % месцаў [58, арк. 28]. Спробы тэатраў прыцягнуць да сябе цікавасць аўдыторыі з дапамогай паказу лёгкіх камедый сустракала супрацьдзеянне парткантралёраў. Напрыклад, у 1977 г. Беларускі

дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы рэзка крытыкаваўся аддзелам прапаганды і агітацыі ЦК за пастаноўку п’есы «10 сутак за каханне», якая карысталася надзвычайнай папулярнасцю ў гледача (яе паказалі 77 разоў!) [58, арк. 36].

У гады «адлігі» ў мастацкіх саветах тэатральных устаноў, якія прымалі гатовыя спектаклі, музычныя, эстрадныя праграмы, сталі чутны галасы не толькі партыйных і дзяржаўных чыноўнікаў, але і творцаў. Саветы па-ранейшаму ажыццяўлялі цэнзурныя функцыі, але ўжо не ў класічным выглядзе «дазволена — не дазволена», а ў рэчышчы пошуку кампрамісу — адкласці прэм’еру, штосьці прыбраць, змяніць. Пасля прыёмкі гатовых спектакляў альбо канцэртаў мастацкімі саветамі тэатральных устаноў іх прымалі камісіі Міністэрства культуры, якія ўзначальваў адказны кіраўнік гэтага ведамства. У склад камісіі ўваходзілі найбольш дасведчаныя работнікі міністэрства, а ў выніку неабходнасці прыцягваліся спецыялісты звонку. Абмеркаванне спектакляў, канцэртаў, прадстаўленняў вялося пад кіраўніцтвам дырэктара альбо мастацкага кіраўніка ўстановы, але апошняе слова, якое вызначала лёс сцэнічнага твора, належала старшыні камісіі.

Функцыі асноўнага кантролю за фарміраваннем рэпертуару тэатральна-відовішчных устаноў, а таксама ўся праца з аўтарамі ўскладалася на рэпертуарна-рэдакцыйную калегію па драматургіі Міністэрства культуры БССР. Была асобная музычная рэпертуарна-рэдакцыйная калегія (пэўны

час яны былі аб’яднаныя). Па ўзгадненні з мастацкім кіраўніком адпаведнай установы калегіі давалі дазвол на рэпетыцыю новай п’есы або музычнага твора, а таксама ўсталёўвалі тэрміны і форму здачы спектакля альбо канцэрта. Яны былі павінны «мэтанакіравана арыентаваць творчасць аўтараў, дапамагаць ім у сюжэтна-тэматычным выбары». З сярэдзіны 1960-х гг. рэпертуарна-рэдакцыйныя калегіі ўзялі на сябе функцыі заключэння дамоў на напісанне новых твораў, пачала фарміравацца сістэма дзяржаўных замоў. Яна ў сваю чаргу нарадзіла заганную практыку стварэння незапатрабаваных адпаведнымі ўстановамі твораў, напісаных выключна для Міністэрства культуры. Склалася кола аўтараў, набліжаных да міністэрства, якіх шчодра стымулявалі за патрэбныя дзяржаве творы[57]. У калегіі меліся спісы рэкамендаваных да пастаноўкі п’ес.

Напрыклад, на працягу 1965 г. на разгляд у калегію паступіла 26 арыгінальных п’ес беларускіх драматургаў, 6 з якіх былі прыняты да пастаноўкі, 10 адхілены, яшчэ 10 вернуты аўтарам на дапрацоўку. Прымаючы адмоўныя рашэнні, члены калегіі кіраваліся ўжо ў меншай ступені ідэалагічнымі меркаваннямі. У большай ступені іх не задавальняў прафесійны ўзровень прапанаванага матэрыялу. Усе ўхваленыя мастацкія творы накіроўваліся на кантроль у Галоўліт са стандартнай візай старшыні калегіі: «Ідэйна-мастацкую якасць п’есы лічым прымальнай». Творы беларускіх аўтараў на

гістарычныя тэмы старшыня калегіі адпраўляў на дадатковую экспертызу ў Інстытут гісторыі партыі. Акрамя таго, ухвалялі пераклады на беларускую мову ўжо зацверджаных Галоўлітам СССР п'ес расійскіх і замежных аўтараў [78, арк. 83].

У першай палове 1960-х гг. у Маскве назіралася імкненне кіраўніцтва сферай культуры ў асобе К. А. Фурцавай пазбавіцца ад дадатковага ідэалагічнага кантролю з боку Галоўліта. Яна падтрымлівала захады вядомых савецкіх драматургаў і кампазітараў, якія лічылі, што кантроль Галоўліта толькі запавольвае з'яўленне новых твораў, і настойвалі на перадачы ўсіх функцый кантролю рэпертуарна-рэдакцыйным калегіям. З іншага боку, аслабленне ідэалагічнага кантролю справакавала шматлікія выпадкі, калі тэатры, выкарыстоўваючы складанасць кантролю твораў мастацтва, прымалі да пастаноўкі п'есы без санкцыі Галоўліта, даводзілі працу з імі да публічнай генеральнай рэпетыцыі і ставілі цэнзараў перад здзейсненым фактам. Пераламаць падобную сітуацыю было заклікана новае «Палажэнне аб кантролі за рэпертуарам драматычных і музычных тэатраў, канцэртных арганізацый, мастацкіх калектываў і цыркаў», распрацаванае ў 1966 г. Міністэрствам культуры СССР па даручэнні ЦК КПСС. Палажэнне замацоўвала ролю Галоўліта СССР у Маскве як апошняй інстанцыі ў зацвярджэнні тэкстаў драматычных, эстрадных і музычных твораў (у тым ліку напісаных у саюзных рэспубліках), а міністэрства як органа, які рэкамендуе

гэтыя тэксты цэнзурнаму ведамству пасля папярэдняй працы з імі.

Галоўліт БССР спыняў усе спробы беларускіх драматургаў асэнсаваць феномен сталінізму ўласнымі сцэнічнымі сродкамі. У 1956 г. была забаронена да пастаноўкі п’еса І. Мазгавога «Страшней за смерць», у якой была «памылкова адлюстравана барацьба партыі ў перыяд 1937 года з паклёпнікамі, тэндэнцыйна паказана савецкая рэчаіснасць» [86, арк. 14]. Партыйныя органы таксама імкнуліся ўтрымаць увагу творцаў на станоўчых баках савецкага ладу. Напрыклад, 13 верасня 1957 г. Гомельскі абкам КПБ прыняў пастанову «Аб рабоце абласнога драмтэатра», дзе адзначалася адсутнасць у рэпертуары тэатра п’ес, якія б «адлюстроўвалі савецкую рэчаіснасць, гераіку барацьбы і працы, новага савецкага чалавека» [43, арк. 224].

У 1959 і 1960 гг. Галоўліт БССР двойчы правяраў рэпертуар брыгад Белдзяржфілармоніі. Было знойдзена шмат недахопаў — матэрыялы рэпертуару знаходзіліся ў хаатычным стане, некаторыя творы выконваліся без візы цэнзуры, немагчыма было высветліць, з якой праграмай у дадзены час выступае тая ці іншая брыгада. Артысты філармоніі выконвалі «маламастацкія», «безыдэйныя» творы, якія згубілі сваю актуальнасць. Да апошніх адносілі, напрыклад, фельетоны і інтэрмедыі артыста І. Вінаградскага, дзе ён крытыкаваў дэфіцыт спажывецкіх тавараў і паслуг, стварэнне «пацёмкінскіх вёсак» для замежнікаў і інш. [80, арк. 97]

Мастацкі савет у Белдзяржэстрадзе ў другой палове 1950-х гг. працаваў нерэгулярна, былі выпадкі выканання нумароў без візы Галоўліта, назіралася таксама вялікая цякучка кадраў. У 1960 г. Галоўліт БССР забараніў дазволеную Белдзяржэстрадзе Міністэрствам культуры сатырычную сцэнку «Размова п’янага з цвярозым чортам», напісаную па аднайменным апавяданні А. П. Чэхава Б. Ямпольскім. На думку цэнзара, беларускі аўтар механічна пераносіў сатыру класіка, накіраваную супраць мяшчанства і чынавенства царскай Расіі, на сучасную глебу. Забаранілі таксама рэпрызу «Модны танец», якая змяшчала няякасную пародыю на рок-н-рол [88, арк. 14]. Схема праходжання матэрыялаў у Белдзяржэстрадзе выглядала наступным чынам: 1. Прадстаўленне аўтарам уласнага твора ў літчастку Белдзяржэстрады. 2. Разгляд твора на рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры. 3. Кантроль твора ў Галоўліце. 4. Прыёмка твора мастацкім саветам Белдзяржэстрады ўжо ў выкананні артыста.

Па-ранейшаму Галоўліт БССР ажыццяўляў кантроль за вырабам выяўленчай і фотапрадукцыі[58]. Уяўленне пра маштаб гэтай працы ў часы «адлігі» даюць наступныя лічбы. У 1959 г. на кантроль у Галоўліт БССР было прадстаўлена 2840 экзэмпляраў выяўленчай прадукцыі (153 з іх было вернута на дапрацоўку, 5 — адхілена), а таксама 654 экзэмпляры фотапрадукыі (19 з іх было вернута на дапрацоўку, 10

— адхілена). Пераважная большасць матэрыялаў адхілялася цэнзарамі па палітычных матывах. Так, плакат «Камсамольцы, актыўна распаўсюджвайце кнігі!» быў забракаваны з-за таго, што сярод кніг класікаў і сучасных аўтараў на ім не было паказана кніг Леніна. А плакат «Няхай жыве 1 мая», па словах цэнзара, не ствараў святочнага настрою, бо «на сцягі насунуліся чорныя хмары» [45, арк. 272].

У некаторых выпадках канцэртныя праграмы, зацверджаныя Міністэрствам культуры і Галоўлітам, рабіліся аб'ектам жорсткай крытыкі на старонках перыядычнага друку, інспіраванай партыйнымі ідэолагамі. Напрыклад, у 1955 г. музычны крытык І. Нісневіч характарызаваў балет В. Залатарова «Палымянае сэрца» як «фармалістычны» [90, с. 2]. Пасля выканання ў 1963 г. Беларускім дзяржаўным сімфанічным аркестрам у Мінску 13-й сімфоніі Д. Шастаковіча другі беларускі музычны крытык у напісаным па замове К. Т. Мазурава артыкуле сцвярджаў, што «яна мае істотныя недахопы ў ідэйным сэнсе», «Шастаковіч не зразумеў, што трэба грамадству», «словы Еўтушэнкі перашкаджаюць успрымаць музыку» [9].

Ліберальныя вятры канца 1950-х гг. не змянілі афіцыйнага стаўлення да джазавай музыкі. Па сігналу зверху ў жніўні 1959 г. цэнзары Галоўліта правяралі радыёвузлы на мінскім стадыёне «Дынама», а таксама ў парках імя Чалюскінцаў і Горкага. Падчас праверкі высветлілася, што там меліся грампласцінкі і магнітафонныя стужкі з запісамі замежнай джазавай

музыкі[59]. Шкодныя грампласцінкі здалі на склад, запісы сцёрлі, пасля чаго з гукаўзмацняльнікаў трансліравалася толькі савецкая музыка, а таксама музыка краін «народнай дэмакратыі» [36, арк. 30]. Неўзабаве па загадзе ЦК КПБ быў «ачышчаны» рэпертуар, а таксама склад эстрадных ансамбляў у сталічных рэстаранах «Мінск» і «Беларусь» ад «заходняга джаза, пошласці і непрафесійнага імправізавання» [77, арк. 144].

Але асабліва старанна партыйнае кіраўніцтва паранейшаму сачыла за рэпертуарам драматычных тэатраў. У 1956 г. незадавальненне кіраўніка аддзела навукі і культуры ЦК КПБ К. П. Буслава выклікала новая п’еса «У ціхім завулку», напісаная начальнікам сцэнарнага аддзела кінастудыі «Беларусьфільм», прызнаным аўтарам узорнай п’есы «Канстанцін Заслонаў» А. І. Маўзонам. Партыйнага чыноўніка ўстрывожыла тое, што ў якасці адмоўнага героя быў выведзены стары камуніст, адказны савецкі работнік, які перарадзіўся ў мешчаніна і жыве за кошт грамадства [35, арк. 66].

Калі рэдактар часопіса «Полымя» перадаў у 1958 г. у Галоўліт БССР на «літаванне» камедыю А. Макаёнка «Каб людзі не журыліся», то не прадбачылася аніякіх складанасцяў. Па тэатрах краіны ішло трыўмфальнае шэсце п’есы «Выбачайце, калі ласка!», дзе ўжо паказваліся недахопы жыцця калгаснай вёскі. Тым не менш у камедыі было знойдзена шмат месцаў, якія «скажалі квітнеючую

савецкую рэчаіснасць». Камедыя, на думку паліткантралёраў, не выклікала ў гледача пачуцця аптымізму, адмоўнае ў ёй не было выпадковым, выключным. Наадварот, жыццё калгаснікаў выглядала вельмі цяжкім — не было дроў, хлеба і г. д. Пасля зняцця цэнзарскіх заўваг п’еса ўсё ж была надрукавана [8, с. 251].

Але яе пастаноўка на сцэне была тэрмінова прыпынена з-за надзвычайнай, нікім не чаканай падзеі. Рэдакцыя беларускага эміграцкага штотыднёвіка «Бацькаўшчына» перадрукавала «Каб людзі не журыліся» ў Мюнхене. Гэты перадрук, акрамя несалодкага жыцця для драматурга, выклікаў новую «літоўку» камедыі ў Галоўліце, які, канешне, знайшоў у ёй новыя ідэалагічныя хібы. А неўзабаве паўстала новая хваля барацьбы за ідэалагічную чысціню на беларускім драматургічным фронце. Яе накал перадае выступленне А. Маўзона ў лютым 1960 г. на пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Ён, у прыватнасці, сказаў, што пасля крытыкі п’есы А. Макаёнка «Каб людзі не журыліся» на абмеркаваннях у сакратара ЦК КПБ Ц. С. Гарбунова і ў іншых інстанцыях беларускія драматургі не рызыкуюць распачынаць працу над новымі п’есамі [44, арк. 181].

Да канца 1960-х гг. буйнейшыя савецкія драматургі і рэжысёры ўжо перайшлі на эзопаву мову. Вялікай папулярнасцю карысталіся экранізацыі і тэатральныя пастаноўкі твораў класікаў, якія выкрывалі заганы былой Расійскай імперыі. Іх персанажы —

кар’ерысты, хабарнікі, бюракраты — атрымлівалі надзённае гучанне, бо шмат што нагадвала гледачам рэаліі савецкага грамадства. Цэнзура таксама з большым ці меншым поспехам вучылася чытаць, глядзець і слухаць «між радкоў».

Пасля гісторыі з замежнай публікацыяй п’есы «Каб людзі не журыліся» эзопаву мову пачаў ужываць і А. Макаёнак. «Хаваючы зярняткі ерасі ў “арэх”. Пуляючы арэх “з начыннем” уперамешку з абоймай “пустацелых” (у “Лявонісе”, “Таблетцы”). Грыміруючы арэх “тутэйшы” пад “заморскі” (у “Апостале”, “Кашмары” і апошнім трагіфарсе “Дыхайце эканомна”). Словам, ён ператварыўся ў Сміта Хола — дворніка, які “прыкідваецца прастаком”, каб містэр Хартлі — “следчы, які прыкідваецца хітрым сышчыкам”, — не здагадаўся, што размова ў “Крымінальнай справе” не пра прэзідэнта Трумэна, а пра Генсека Сталіна» [8, с. 257].

Былі аўтары, п’есы якіх Галоўліт дазваляў друкаваць, але яны не атрымлівалі дазволу на пастаноўку. Такім чынам, паўстала два паняцці — п’есы для азнаямлення і п’есы, дазволеныя да пастаноўкі. Рэжысёры павінны былі прыкласці немалыя намаганні, каб перавесці тую ці іншую п’есу з першага становішча ў другое.

Нягледзячы на тое, што супрацоўнікаў устаноў культуры і мастацтва ў пераліку тых, каму была адрасавана пастанова ЦК КПСС «Аб павышэнні адказнасці работнікаў органаў друку, радыё,

тэлебачання, кінематаграфіі, установ культуры і мастацтва...» ад 7 студзеня 1969 г. паставілі на апошняе месца, яны былі таксама пакліканы «фарміраваць светапогляд, павышаць палітычны і культурны ўзровень савецкага народа» [53, арк. 9]. На пасяджэнні бюро ЦК КПБ 28 сакавіка 1969 г., дзе абмяркоўваліся захады па практычнай рэалізацыі пастановы ЦК КПСС, адказнасць за ідэйна-палітычны змест твораў прафесійнага мастацтва была ўскладзена на Міністэрства культуры, творчыя саюзы, кіраўнікоў установ культуры, а таксама персанальна на творцаў. Рэпертуар самадзейных калектываў рэспублікі абавязваліся фарміраваць і кантраляваць мастацкія саветы пры аддзелах культуры выканкамаў Саветаў [53, арк. 14].

Адзін з галоўных адрасатаў пастановы ЦК КПСС 1969 г. — органы прэвентыўнай тэатральнай цэнзуры — не заўсёды паспяваў за ўзмацненнем жорсткасці афіцыйнага ідэалагічнага курсу. У 1969 г. загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцэлеў дакладваў сакратару ЦК С. А. Пілатовічу: «Гняце вялікая колькасць драматургічных вырабаў, якія спекулююць на сацыяльнай праблематыцы — “Адплата” і “Я прысягаў Радзіме” рэжысёра А. Струніна ў Гродзенскім драмтэатры, “Дняпроўскі рубеж” драматурга Я. Тарасава ў Магілёўскім тэатры і інш. На сцэну пранікае яўная халтура, як п’еса М. Гарулёва “Помста Палавінкіна”» [57, арк. 118].

У тагачасных справаздачах Галоўліта БССР таксама неаднаразова фіксаваліся памылкі мастацкіх

саветаў і рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры рэспублікі. У адной са справаздач цэнзурнага ведамства за 1974 г. чытаем: «Міністэрства культуры рэкамедавала да паказу на сцэнах тэатраў рэспублікі п’есу А. Петрашкевіча “Трывога”. Між тым, яе аўтар зрабіў абагульненне аб тым, што ў савецкай рэчаіснасці прарасло і квітнее грамадска-сацыяльнае зло — п’янства і алкагалізм. Улада адпусціла лейцы, і вёскі залілі гарэлкай, п’юць цяпер больш, чым у старыя часы, і вынікі ад гэтага шкодныя. А людзі цярпліва ўсё гэта трываюць, таму што ў кіруючых органах пануе коснасць і бюракратызм. З нашымі думкамі аўтар пагадзіўся. П’еса была прадстаўлена ў другі раз на кантроль у выпраўленым выглядзе» [39, арк. 18–22].

У галоўлітаўскай справаздачы за наступны год беларускае «міністэрства праўды» звяртала ўвагу начальства на «недакладную ідэйную накіраванасць» п’есы беларускага драматурга А. Паповай «Пад сузор’ем гончых псоў», ухваленую рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіяй да паказу ў тэатрах рэспублікі. Цэнзар, у прыватнасці, пісаў пра гэты твор: «Па п’есе атрымлівалася, што ўсе заганы нашай маладой інтэлігенцыі — кар’ерызм, непавага да старэйшых, амаральныя ўчынкі, абыякавасць — вынік гарадскога ўплыву. Адзіны станоўчы герой — вясковы хлопчык Алька, але і ён у горадзе з цягам часу робіцца як усе. Пасля перапрацоўкі п’еса была прадстаўлена пад назвай “Жнівень”» [40, арк. 102].

У справаздачы за 1976 г. размова ідзе пра п’есу Я. Шабана «Шрамы», якая трапіла на кантроль у Галоўліт БССР пасля таго, як яе таксама рэкамендавала для пастаноўкі ў тэатрах рэспублікі рэпертуарна-рэдакцыйная калегія Міністэрства культуры. Твору Я. Шабана цэнзарам дадзена наступная характарыстыка: «У п’есе справядліва крытыкуюцца п’янства, хуліганства, жорсткасць, бяздушнасць, мяшчанскія запатрабаванні, жаданне жыць дзеля ўласнага задавальнення. Разам з тым, у ёй былі зроблены неабгрунтаваныя абагульненні і абвінавачанні ў адрас усёй савецкай моладзі. Глядач навязліва запрашаўся да размовы аб канфлікце пакаленняў у нашай краіне. У п’есе гучалі сумніўнага характару рэплікі, якія крыўдзілі ветэранаў вайны, прадстаўнікоў Савецкай Арміі, вучоных, пісьменнікаў, работнікаў міліцыі, камсамольскіх важакоў. П’еса была вернута Міністэрству культуры БССР на перапрацоўку». У тым жа годзе з Міністэрства культуры на галоўлітаўскі кантроль трапіла п’еса М. Матукоўскага «Нашчадны прынц. Сцэны з калгаснага жыцця»[60]. У ёй, у прыватнасці, сцвярджалася, што тагачасная калгасная вёска была цёмным царствам, дзе гаспадарыла «прыгонніцтва», дзе конь і той менш працаваў за людзей, што ў сваім развіцці савецкая вёска адстала ад сусветнага прагрэсу на пяцьдзесят гадоў [81, арк. 1–3].

Пра кожную з падобных памылак беларускія цэнзары інфарміравалі не толькі ўласнае маскоўскае начальства, але таксама рэспубліканскае партыйнае

кіраўніцтва. Гэтыя памылкі рабіліся прадметам непрыемных размоў у высокіх кабінетах, што, канешне, узмацняла пільнасць прэвентыўнай тэатральнай цэнзуры. Эфектыўнасць яе працы павінны былі таксама павысіць мерапрыемствы кшталту нарады галоўных рэдактараў рэпертуарна-рэдакцыйных калегій міністэрстваў культуры саюзных рэспублік (БССР прадстаўляў А. І. Каландзёнак), што адбылася ў Мінску ў верасні 1977 г. [60, арк. 186].

Ужо ў 1969 г. у сваім дэбютным спектаклі «Што той салдат, што гэты» ў купалаўскім тэатры рэжысёр В. Раеўскі быў вымушаны зняць шэраг сцэн, каб прыцішыць пацыфісцкае гучанне п’есы Б. Брэхта. Увесь творчы шлях рэжысёра быў пазначаны супрацьстаяннем цэнзуры, якая абвінавачвала яго ў антынароднасці, фармалізме. Напрыклад, у 1980 г. мастацкі савет Купалаўскага тэатра адмовіўся прыняць пастаноўку спектакля В. Раеўскага па п’есе А. Макаёнка «Пагарэльцы». Да таго часу значна сапсаваная рэдактурай і цэнзурай, гэтая п’еса ўжо была надрукавана ў часопісе «Театр». Тым не менш членаў мастацкага савета напалохала надта актуальнае гучанне п’есы, нягледзячы на тое, што фармальна яна была накіравана супраць культу асобы. Удзельнік абмеркавання тэатразнаўца У. І. Няфёд наступным чынам «уступаўся» за аўтара: «Калі героі першага акта жыўцом, толькі змяняючы адзенне, пераходзяць у 80-я гады — спектакль гэтым штрыхам кампраментуе ідэю аўтара». І далей: «У спектаклі тыпы шматгадовай

даўніны перанесены ў дзень сённяшні, што парушае прыроду тэатра» [79, арк. 10–17]. Сапраўды, кожны спектакль В. Раеўскага ў прыхаванай форме нёс у сабе крытычнае стаўленне да ўлады, парушаў сацрэалістычны тэатральны канон. Ён быў, па словах тэатральнага крытыка В. Ракіцкага, «мяккім дэсідэнтам» у беларускім тэатральным мастацтве [93, с. 11].

У канцы 1970-х гг. пад жорсткую партыйную крытыку трапляюць спектаклі галоўнага рэжысёра Рускага тэатра імя Горкага Б. Луцэнкі. Падчас маскоўскіх гастроляў тэатра 1978 г. спектакль «Вяртанне ў Хатынь» (аўтар А. Адамовіч) «заслужыў» асабістую крытыку сакратара ЦК КПСС П. Н. Дземічава. Неўзабаве на пленуме ЦК КПБ крытычны абзац свайго выступлення спектаклю Б. Луцэнкі «Трагедыя чалавека» па п’есе І. Мадача прысвяціў П. М. Машэраў. У спектаклі «Узнятая цаліна», інсцэніраваным у 1980 г. Б. Луцэнкам па рамане М. Шолахава, рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі не падабаўся паказ трагедыі народа, у прыватнасці сцэны раскулачвання, акцэнтаванай рэжысёрам. Яго пастаноўка гогалеўскага «Рэвізора» ў Берліне была ахарактарызавана як здзек з рускай класікі. Нарэшце пад ціскам уладаў Б. Луцэнка вымушаны быў пакінуць Рускі тэатр на доўгія дзесяць гадоў [15].

Падчас прыняцця рашэння адносна выхаду тых ці іншых мастацкіх твораў, што адлюстроўвалі падзеі Вялікай Айчыннай вайны, кіруючыя інстанцыі не маглі не ўлічваць меркаванне Міністэрства абароны.

Мемуары вядомых рэжысёраў даюць уяўленне аб тым, якім чынам прымаліся спектаклі з удзелам прадстаўнікоў гэтага міністэрства. Напрыклад, яны былі супраць наступнага дыялогу ў п’есе «Радавыя» А. Дударава: «Ты чаму не страляў?» — «Веруючы я. І раней не страляў». Падобная аргументацыя не падыходзіла. І герой — шчыра веруючы салдат Салянік — пачаў казаць, што не страляў таму, што быў пры абозе, з коньмі.

Акрамя прамых указанняў аб зняцці «слабых» з пункту гледжання кіраўніцтва спектакляў, існаваў іншы метад «карэкціроўкі» бягучага рэпертуару. Ёсць шмат прыкладаў таго, як пасля крытычнага артыкула ў друку здымаўся ці абмяжоўваўся паказ папулярнага ў гледачоў спектакля. Адзін з падобных артыкулаў з’явіўся адразу ж пасля прыняцця ў 1976 г. пастановы ЦК КПСС «Аб працы з творчай моладдзю». Аб’ектам крытыкі яго аўтар — у той час ужо вядомы тэатразнаўца У. І. Няфёд — абраў наватарскія пастаноўкі маладых беларускіх рэжысёраў. У іх лік трапілі наступныя спектаклі: «Галоўная стаўка» ў Магілёўскім драмтэатры (рэж. Ю. Міраненка), «Юнацтва бацькоў» і «Чайка» ў ТЮГу (рэж. Р. Баравік), «Аптымістычная трагедыя» ў Купалаўскім (рэж. В. Раеўскі) [89, с. 5].

Аддзел культуры ЦК КПБ сачыў за пастаноўкамі ў сталічных тэатрах і іншых тэатральна-відовішчных установах рэспубліканскага падпарадкавання. Функцыю рэгіянальнага кантролю выконвалі партыйныя кіраўнікі розных узроўняў. Па-

ранейшаму абавязковаму зацверджанню ў ЦК падлягалі п’есы і пастаноўкі, якія мелі дачыненне да савецкай гісторыі. Тым не менш тэатральныя рэжысёры ўжо пасля задавальнення прэтэнзій цэнзурных інстанцый, імкнуліся паставіць п’есы ў аўтарскай ці ўласнай рэдакцыі.

У сваім выступленні на XVII пленуме ЦК КПБ 25 лістапада 1975 г. сакратар ЦК А. Т. Кузьмін нечакана звярнуўся да спектакля Беларускага рэспубліканскага ТЮГа «Надзея» па п’есе маладога маскоўскага драматурга А. Радзіёнавай «Дзяўчынка Надзя». Прататыпам галоўнай гераіні ў п’есе была юная маскоўская мастачка Надзея Рушава, якая заўчасна пайшла з жыцця, пакінуўшы каля 10 тыс. арыгінальных малюнкаў. На думку А. Т. Кузьміна, «тэатр не здолеў пры пастаноўцы спектакля дакладна перадаць характар супярэчнасцяў, якія паўсталі ў выніку сутыкнення гераіні п’есы з акаляючым яе асяроддзем... моладзі прапаведуецца безвыходнасць, абыякавасць людзей да яе намераў, парываў» [59, арк. 26]. Неўзабаве пасля заканчэння пленума спектакль «Надзея» закрылі, драматургу прапанавалі перарабіць фінал, рэжысёру — «удакладніць» лініі дзеючых асоб. Загадчыка аддзела тэатра, музыкі і кіно газеты «Літаратура і мастацтва» Б. І. Бур’яна, які даў станоўчы водгук пра спектакль, пакаралі суровай вымовай.

Прычына звароту высокага партыйнага чыноўніка ў сваім выступленні на партыйным форуме да такой «несур’ёзнай» тэмы, як дзіцячы спектакль стане

больш зразумелай, калі ўзгадаць, што ў 1970-я гг., калі на пасадзе галоўнага рэжысёра Тэатра юнага гледача знаходзіўся Р. Баравік, там ставіліся смелыя, бескампрамісныя спектаклі. Сярод іх — «Чатыры кроплі» па В. Розаву, «Драма праз лірыку» па п'есе Г. Палонскага (рэжысёр У. Салюк), якія крытыкавалі ў часопісе ЦК КПБ «Коммунист Белоруссии» [94, с. 11].

22 лютага 1983 г. выйшла пастанова ЦК КПСС «Аб рабоце партыйнай арганізацыі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы». Гэтай пастановай партыйнае кіраўніцтва імкнулася пашырыць практыку разгляду на пасяджэннях партбюро ўстаноў культуры тэатральнага рэпертуару, складу пастановачных груп, а таксама пытанняў падрыхтоўкі найбольш адказных і складаных спектакляў. Адначасова ў пастанове ЦК КПСС асаблівая ўвага надавалася складу мастацкіх саветаў устаноў культуры, якія былі павінны фарміравацца пад жорсткім кантролем партыйных органаў [61, арк. 34].

Тым не менш і ў «застойны» час рабіліся смелыя, т. зв. «эксперыментальныя» пастаноўкі. Напрыклад, у 1979 г. рэжысёр В. Анісенка паставіў на сцэне Дома кіно ў Чырвоным касцёле спектакль «Паляванне на качак» па п'есе А. Вамплілава. Савецкія тэатры з вялікімі складанасцямі ўключалі творы А. Вампілава ў свой рэпертуар. Нягледзячы на поспех у гледача (ролю Зілава выконваў В. Тарасаў), гэты спектакль

пасля прэм’еры ў Мінску паказалі толькі некалькі разоў [101, с. 44].

Нядоўгім было сцэнічнае жыццё аднаго з лепшых спектакляў галоўнага рэжысёра Магілёўскага абласнога драмтэатра В. Маслюка «Тутэйшыя», дзе ён спалучыў тэкст п’есы з паэмай Я. Купалы «Адвечная песня» і асабіста выканаў ролю Я. Здольніка. Пасля двух паказаў «Тутэйшых» у Магілёве і Мінску спектакль прымусілі зняць з рэпертуару. У 1985 г. В. Маслюку давялося пераадольваць значныя цэнзурныя перашкоды ўжо на пасадзе рэжысёра Рускага драмтэатра імя М. Горкага падчас пастаноўкі спектакля «Знак бяды» па аднайменнай аповесці В. Быкава.

Міністэрства культуры БССР не дазволіла кампазітару Я. Глебаву паставіць на сцэне оперу «Майстар і Маргарыта», якую ён пачаў пісаць у сярэдзіне 1970-х гг. Пастаўлена яна была толькі ў 1992 г. і з таго часу заслужана ўвайшла ў залаты фонд беларускай музычнай культуры.

Адзін з сяброў Я. Глебава наступным чынам перадае спецыфіку эзопавай мовы, якую выкарыстоўваў кампазітар у сваіх музычных творах. Дыялог, што прыводзіцца ніжэй, адбыўся падчас выканання араторыі Я. Глебава «Камуністы вядуць», якая выконвалася на святкаванні 50-годдзя савецкага цырка ў Мінску ў 1969 г.

« — Чуеце, Валера, як вось тут трамбоны глісандуюць уніз? Ту-ту-Ту-ту? Ведаеце, што гэта значыць?

– Не ведаю.

– Гэта значыць, што камуністы вядуць назад. Разумееце?

– Не разумею.

– Ну як жа, гэта даволі тлусты намёк. Хор спявае: “Камуністы — наперад”, а трамбоны ўсё перакрэсліваюць сваім глісанда ўніз. Яны вобразна кажуць: усё наадварот. Назад, а не наперад» [10].

На чэрвеньскім (1983) пленуме ЦК КПСС сур’ёзна крытыкавалася становішча ў эстрадным мастацтве. Асаблівую трывогу партыйнага кіраўніцтва краіны выклікалі праблемы, звязаныя са станам вакальна-інструментальнага жанру. У прыватнасці, на пленуме было адзначана, што на хвалі яго папулярнасці з’яўляліся праграмы сумнiўнай якасці. Размова на партыйным форуме ішла не пра прафесійныя вакальна-інструментальныя ансамблі (у БССР, напрыклад, іх у той час было толькі чатыры — «Песняры»[61], «Верасы», «Сябры» і «Чараўніцы»), а пра самадзейныя калектывы, якіх толькі ў рэспубліцы налічвалася больш за тысячу.

Многія з іх запазычылі на Захадзе не толькі арганізацыйную форму, але і музычную (пачынальнікамі былі мінскія біт-гурты 1960-х гг. «Алгарытмы», «Дойліды», «Пане-браце», «Шпакі»). Пратэстны па сутнасці рок ніяк не адпавядаў грамадскай атмасферы эпохі «застою». Пасля паспяховага правядзення першага беларускага рок-фестывалю ў Мінску ў 1968 г., да ўвядзення савецкіх

войскаў у Чэхаславакію, фестываль маладзёжнай музыкі, што праходзіў у юбілейным ленінскім 1970 г., быў скандальна зачынены прадстаўнікамі аддзела культуры ЦК. Тым не менш колькасць вакальна-інструментальных ансамбляў у рэспубліцы ўвесь час павялічвалася. Лёс іх складваўся па-рознаму. У 1983 г. паводле загаду Міністэрства культуры быў расфарміраваны штатны філарманічны ансамбль «Сузор'е», які фактычна з'яўляўся рок-гуртом і знаходзіўся ў той час на піку папулярнасці.

З мэтай ідэалагічнага ачышчэння рэпертуару ансамбляў у 1984–1985 гг. у СССР праходзілі іх «атэстацыі». Калектывы з нефарматным рэпертуарам не праходзілі атэстацыю, не атрымлівалі дзяржаўную рэгістрацыю і, такім чынам, распадаліся альбо пераходзілі на падпольную форму існавання. Звычайна адмова ў рэгістрацыі тлумачылася адсутнасцю прафесійнай адукацыі ў кіраўніка ансамбля. У БССР атэстацыю самадзейных вакальна-інструментальных ансамбляў курыравала намеснік загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ П. П. Украінец [97]. Яе намаганні не прынеслі аніякага плёну, калі не лічыць паглыблення прорвы, якая падзяляла ўладу і «нефармальную» творчую моладзь. У 1986 г. частка яе аб'ядналася ў рок-клуб «Няміга», ля вытокаў якога стаялі гурты «Мроя», «Бонда», «Магістрат». У сваіх рок-кампазіцыях яны смела ўздымалі вострыя сацыяльныя праблемы.

Няпроста было паставіць пад кантроль рэпертуар рэстаранных ансамбляў, якія ўвесь час парушалі

канцэртныя праграмы, зацверджаныя ў гарадскіх упраўленнях культуры. У 1973 г. Міністэрства культуры БССР стварыла пры Белдзяржфілармоніі бюро музычных ансамбляў, якое абавязалася ажыццяўляць мастацка-ідэалагічны кантроль іх працы. Але далей агляду-конкурсу справа не пайшла. Сітуацыя змянілася ў 1982 г., калі было створана Аб'яднанне музычных ансамбляў пры ўпраўленні культуры Мінгарвыканкама. Мастацкі савет аб'яднання ўстанавіў кантроль за рэпертуарам 32 штатных і 82 няштатных ансамбляў, абавязаўшы іх выконваць пэўную колькасць твораў савецкіх, у т. л. беларускіх аўтараў. З музыкамі праводзілася ідэйна-выхаваўчая праца (адзіныя палітдні, лекцыі таварыства «Веды» і інш.), ствараліся прафгрупы ў калектывах, праводзіліся абавязковыя шэфскія канцэрты. Адначасова разам з камсамольскім актывам сталіцы і супрацоўнікамі міліцыі спыняліся спробы выступленняў незарэгістраваных ансамбляў [7]. У 1988 г. музыкі пачалі атрымліваць ад дзяржавы патэнты на індывідуальную працу, пасля чаго цэнзурная дзейнасць Аб'яднання музычных ансамбляў згубіла сэнс.

У сярэдзіне 1980 гг. у савецкім друку разгарнулася шырокая дыскусія пра шляхі развіцця культуры. У краіне пачаўся эксперымент па ўдасканаленні кіравання і павышэнні эфектыўнасці дзейнасці відовішчных устаноў, у якім узялі ўдзел вядучыя калектывы БССР. Павялічылася колькасць наватарскіх тэатральных пастановак. Найбольш

вострыя з іх па-ранейшаму сустракалі супраціўленне з боку ўлады. Неўзабаве пасля адкрыцця Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра ў Мінску ў сакавіку 1986 г. там адбылася прэм’ера спектакля «Гэтыя незразумелыя старыя людзі» па кнізе С. Алексіевіч «У вайны не жаночы твар» (рэжысёр Р. Баравік). Гэты спектакль выклікаў незадавальненне ў аддзеле прапаганды і агітацыі ЦК КПБ. Наступны спектакль Р. Баравіка «Рамонт» па п’есе М. Рошчына з яго непрыхаванай сатырай на высокія інстанцыі абумовіў сыход галоўнага рэжысёра з тэатра дзеля захавання апошняга [94]. Цікавым помнікам супярэчлівай эпохі перабудовы сёння выглядае загад ЦК КПБ, разасланы ўсім адпаведным установам рэспублікі ў маі 1985 г. «выяўляць у рэпертуары сцэны, дзе ў прывабным выглядзе паказваліся застоллі і піцейныя рытуалы» [62, арк. 39].

Да 1990 г. цэнзура адпаведнічаў у БССР, даказаўшы ўласную бясплоднасць, фактычна спыніла існаванне. Канец савецкай тэатральнай цэнзуры ў БССР засведчыла пастаноўка «Тутэйшых» Я. Купалы (рэж. М. Пінігін), здзейсненая ў кастрычніку 1990 г. у Мінску.

---

48 Мастацкія і ідэалагічныя крытэрыі, што прад’яўляліся ў той час да твораў мастацтва, шчыльна перапляталіся, прычым большасць эстэтычных патрабаванняў да іх, як правіла, мела ідэалагічную афарбоўку. Таму адной з функцый мастацкіх саветаў, якія ўзначальваліся дырэктарамі адпаведных установаў, было правядзенне прэвентыўнай цэнзуры. Атмасферу «тэатра абсурду», што панавала ў тыя часы на пасяджэннях мастацкіх саветаў, перадаюць заўвагі, зробленыя падчас прыёмкі ў 1952 г. у Купалаўскім тэатры ў прысутнасці сакратара ЦК КПБ М. С. Патолічава

спектакля «Кастрычнік». Найбольшую ўвагу членаў савета, натуральна, прыцягнулі вобразы Леніна ў выкананні П. Малчанава і Сталіна ў выкананні Б. Платонава. Першаму параілі «не есці так доўга бліны, калі пачынаецца важная размова», другому — «запоўніць гутарку значнымі паўзамі, каб адчувалася праца мозга», а таксама «пашукаць яшчэ ў знешнім абліччы, бо балотна-зялёны колер гімнасцёркі выклікае сумненне» (НАРБ. Ф. 799. Воп. 1. Спр. 420. Арк. 16–24).

49 За кароткі перыяд існавання Рэперткама БССР з 1944 па 1951 гг. яго ўзначальвалі Д. А. Лукас (студзень–ліпень 1944 г.), А. А. Есакоў (жнівень 1944 г. — снежань 1945 г.), А. Е. Атрошчанка (студзень 1946 г. — май 1950 г.), У. М. Стэльмах (май 1950 г. — верасень 1951 г.).

50 К. Крапіва выправіўся ў лірычнай камедыі «Пяюць жаваранкі» (1950). Выкрыццю «спусташальнага ўздзеяння» тэорыі бесканфліктнасці на драматургію і шляхам пераадолення яе вынікаў былі прысвечаны артыкулы К. Крапівы «Аб сатырычнай камедыі» (1953) і «Канфлікт — аснова п'есы» (1954).

51 Рознер Эдзі (1910–1976) — польскі, нямецкі, савецкі джазавы трубач, кампазітар, аранжыроўшчык, шоўмен. Пасля падзелу Польшчы ў кастрычніку 1939 г. быў запрошаны ў Беласток, дзе фарміраваўся джазавы аркестр БССР. У 1940 г. узначаліў Дзяржаўны джаз-аркестр БССР, які стаў лепшым свінгавым біг-бэндам СССР 1940-х г. 18 і 21 красавіка 1940 г. у Мінску адбыліся першыя канцэрты аркестра, якія выклікалі сапраўдны ажыятаж. У студзені 1944 г. Рознер атрымаў званне заслужанага артыста БССР. У другой палове 1944 г. аркестр вярнуўся ў Мінск, дзе працаваў пры асабістым спрыянні П. К. Панамарэнкі. 18 жніўня 1946 г. у газеце «Известия» з'явіўся артыкул «Пошласць на эстрадзе», які быў фактычна публічным даносам. 28 лістапада 1946 г. Рознера арыштавалі ў Львове (адкуль ён спрабаваў выехаць у Польшчу) і этапіравалі ў Маскву, дзе зняволілі на Лубянцы. Пастановай асобнай нарады пры МДБ у ліпені 1947 г. ён быў асуджаны да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Пасля вызвалення і рэабілітацыі ў 1954 г. працягваць музычную дзейнасць у Мінску ўлады БССР яму не дазволілі.

52 Сам К. Сіманаў да канца жыцця адчуваў сорам за гэты кан'юнктурны твор.

53 У 1949 г. А.Е. Атрошчанка прадставіў на разгляд Рэперткама ўласную п'есу «На шырокія прасторы», прысвечаную змаганню з перашкодамі на шляху будаўніцтва новага калгаснага жыцця.

54 Да стварэння Рэперткама БССР у чэрвені–ліпені 1919 г. «з мэтай барацьбы з антымастацкімі тэатральнымі п'есамі і эстраднымі нумарамі» кантроль усяго рэпертуару ажыццяўляў тэатральна-мастацкі аддзел Наркамасветы Літоўска-Беларускай СССР (Звезда. 1919. № 483. 28 июня).

55 Сутычкі паміж гэтымі ўстановамі адбываліся і раней, напрыклад, калі ў 1947 г. Ф. І. Дадзіёмава забараніла да друку п'есу М. Клімковіча «Адплата».

56 Пасля заканчэння вайны ў насельніцтва з'явілася вялікая колькасць патэфонаў, а таксама трафейных апаратаў для «нарэзкі» самадзейных пласцінак. Да канца 1940-х гг. можна казаць пра цэлую падпольную галіну па вытворчасці і продажы забароненых Галоўрэперткамам песень (пераважна белаэмігранцкі і блатны рэпертуар).

57 У сярэднім ганарар за драматычную п'есу складаў 3 тыс. рублёў, за сімфонію — 5 тыс. рублёў.

58 Уласныя аўтарскія творы беларускія савецкія жывапісцы, графікі, скульптары, фатографы паказвалі публіцы на рэспубліканскіх выставах, якія рэгулярна ладзіліся да кастрычніцкіх і майскіх святаў, а таксама розных юбілейных дат. Асобныя беларускія мастакі ўдзельнічалі ў агульнасаюзных і замежных выставах. Адбор па «ідэйна-мастацкіх якасцях» эскізаў твораў ажыццяўляў выставачны камітэт, гатовых твораў — экспертная камісія Міністэрства культуры БССР. Агульны нагляд за выставачнай дзейнасцю ў рэспубліцы ажыццяўляў аддзел культуры ЦК КПБ. Праз гэта партыйна-дзяржаўнае цэнзурнае сіта з цяжкасцю праходзілі мастакі-нонканфармісты з нестандартным мысленнем кшталту Б. Заборава, М. Селішчука, А. Ісачова.

59 У 1960-я гг. попыт на «песні на рэбрах» знік. Надышла эра магнітафоннай культуры. Звычайныя людзі атрымалі тэхнічную магчымасць запісваць і перазапісваць любыя музычныця творы, у т. л. забароненыя цэнзурай.

60 У «дагалоўлітаўскім», аўтарскім варыянце гэта п'еса М. Матукоўскага была надрукавана ў дзясятым нумары часопіса «Неман» за 1976 г.

61 Пасля свайго дэбюту ў 1969 г. «Песняры» (у той час «Лявоны») былі адразу ж абвінавачаны партыйна-камсамольскім начальствам і аўтарытэтнымі дзеячамі культуры рэспублікі ў адыходзе ад традыцыйнай манеры выканання народных песень.

## Кіно

Адразу ж пасля вызвалення Беларусі ў 1944 г. Камітэт па справах кінематаграфіі пры СНК БССР (з сакавіка 1946 г. — саюзна-рэспубліканскае Міністэрства кінематаграфіі) стаў цэнтрам па аднаўленні матэрыяльнай базы кінавытворчасці, кінапраката, размеркаванні кадраў. У 1945 г. у будынку Чырвонага касцёла ў Мінску аднавіла работу кінастудыя «Савецкая Беларусь» (з 1946 г. — кінастудыя мастацкіх і дакументальных фільмаў «Беларусьфільм»). Аднаўлялася сетка кінапракату ў гарадах і на вёсцы. Падавалася, што савецкі кінематограф канчаткова знайшоў уласнае месца ў сістэме дзяржаўнага кіравання. Паказчыкі яго дзейнасці планаваліся Дзяржпланам БССР і зацвярджаліся вышэйшымі кіраўнічымі інстанцыямі.

Як і ў даваенны час, улада разумела кіно перш за ўсё як агітацыйна-прапагандысцкі інструмент, сродак маніпулявання масавай свядомасцю. Міністэрства кінематаграфіі стала цэнтрам, дзе зацвярджаліся планы кінавытворчасці, кінасцэнары, карціны, кантраляваўся кінарэпертуар, кінарэклама і інш. Кінавытворчасць у БССР з аднаго боку знаходзілася пад кантролем саюзна-рэспубліканскага Міністэрства кінематаграфіі, з другога — кантралявалася беларускім і агульнасаюзным партыйным кіраўніцтвам. Напрыклад, адзін з першых дакументаў Міністэрства кінематаграфіі БССР, які быў прадстаўлены на зацвярджэнне ў аддзел прапаганды і

агітацыі ЦК КП(б)Б, — тэматычны план кінавытворчасці на 1947 г. — адхілілі з-за вялікай колькасці «другарадных тэм», кшталту спорту, прыроды, мастацтва, і амаль поўнай адсутнасці ў ім паказу выканання рашэнняў партыйных з'ездаў і пленумаў, узнаўлення і працы буйнейшых індустрыяльных прадпрыемстваў, разгортвання сацспаборніцтва [21, арк. 27].

Там жа, у ЦК, выносіўся канчатковы прысуд сцэнарам і гатовай кінапрадукцыі, прынятай мастацкім саветам Міністэрства кінематаграфіі БССР. Але апошняй цэнзурнай інстанцыяй для тагачаснай савецкай, у т. л. беларускай, кінавытворчасці быў Крэмль. Ніводны савецкі мастацкі фільм не выходзіў на экраны без санкцыі галоўнага кінагледача краіны. Ён жа даваў санкцыі на забарону карціны. Удзел Галоўліта ў працэссе цэнзуравання савецкай кінапрадукцыі абмяжоўваўся кантролем сцэнараў і ў асобных выпадках зманціраванага матэрыялу дакументальных фільмаў.

У жніўні 1946 г. выйшла ініцыяваная сакратаром ЦК УсеКП(б) А. А. Ждановым пастанова «Аб кінафільме "Вялікае жыццё"», якая на доўгія гады закрыла шлях да экрану шэрагу карцін, а таксама паставіла тэму сучаснасці ў кіно на мяжу знікнення. Сталінская ідэя выпуску ў СССР невялікай колькасці мастацкіх фільмаў, але выключна кінашэдэўраў, а таксама барацьба з касмапалітамі, падчас якой пацярпела шмат кінадзеячоў, прывялі да рэзкага

скарачэння кінавытворчасці ў краіне — да дзевяці фільмаў у год.

Меркавалася, што адным з падобныў кінашэдэўраў у БССР павінна стаць карціна «Канстанцін Заслонаў», праца над якой распачалася ў 1945 г.[62] Ад пачатку гэты праект ішоў цяжка. З-за канфлікту на студыі рэжысёрам карціны адмовіўся быць К. М. Саннікаў. Калі мастацкі савет Міністэрства кінематаграфіі БССР у 1948 г. рэкамендаваў літаратурны сцэнар А. І. Маўзона да пастаноўкі і на яго была надрукавана станоўчая рэцэнзія ў партыйнай газеце «Культура и жизнь», да сакратара ЦК КП(б)Б М. Т. Іоўчука звярнуўся былы намеснік камандзіра партызанскай брыгады імя К. С. Заслонава па разведцы А. Я. Андрэеў. Ён, у прыватнасці, пісаў, што «сцэнар Маўзона “К. Заслонаў” з’яўляецца вынікам несур’ёзнага і глыбока памылковага стаўлення да гэтай важнай тэмы, ён скажае і не раскрывае перад гледачом маральна-палітычнае аблічча, буйны арганізацыйны і баявы талент легендарнага народнага беларускага героя» [24, арк. 107].

Пасля зацвярджэння літаратурнага сцэнара некалькі варыянтаў рэжысёрскага сцэнара «Канстанцін Заслонаў» (аўтары У. Корш-Саблін і А. Файнцымер) абмяркоўваліся (чытай цэнзураваліся) на самым высокім узроўні — у ЦК КП(б)Б. У выніку гэтага з’явілася сцэна, дзе жыхары рэспублікі слухаюць прамову Сталіна 3 ліпеня 1941 г. Быў

зроблены акцэнт на моцным супраціўленні Чырвонай Арміі ў першыя дні вайны, арганізаванай эвакуацыі прамысловасці. Нарэшце, сцэнар «узбагаціўся» эпізодам, у якім К. Заслонава з заданнем на акупаваную тэрыторыю адпраўляе сакратар ЦК КП(б)Б. Гэтая міфалагізаваная версія сцэнара была адпраўлена для зацвярджэння ў Маскву загадчыку аддзела прапаганды і агітацыі ЦК УсеКП(б) Д. Т. Шапілаву і міністру кінематаграфіі СССР І. Р. Бальшакову [23, арк. 319].

Пасля вяртання сцэнара з Масквы ў студзені 1949 г. У. Корш-Саблін быў вымушаны ўнесці ў яго новыя змены: 1. Замест сцэны ў кабінеце Сталіна была дадзена сцэна прыёму Заслонава сакратаром ЦК КП(б)Б. 2. Са слоў Заслонава адабраны разважанні пра рэйкавую вайну, каб у гледача не ўзнікла ўражанне, што ён быў ініцыятарам апошняй. 3. Выпраўлены ўсе месцы, дзе Заслонаў быў паказаны як недастаткова вопытны кіраўнік барацьбы з фашыстамі, а таксама эпізоды, дзе фашысты былі паказаны дурнямі. 4. Зусім адабраны ўсе размовы Заслонава з Хіртам пра нібыта хуткі захоп немцамі Масквы. 5. Вобраз кіраўніка партыйнага падполля Кораня паглыблены, узмоцнена сцэна, дзе ён па радыё даведваецца пра разгром немцаў пад Масквой. 6. Выпраўлена сцэна ў канцы фільма, дзе Заслонаў павольна сыходзіў на вачах у немцаў (у новай версіі ён адступаў ужо з боем) [30, арк. 373].

29 жніўня 1947 г. выйшла пастанова ЦК КП(б)Б «Аб рабоце Міністэрства кінематаграфіі БССР», якая

патрабавала актывізаваць працэс кінавытворчасці ў рэспубліцы. У пастанове, у прыватнасці, казалася пра неабходнасць стварэння фільмаў «Народныя мсціўцы», «Пяты ўдар», «30 год БССР», а таксама карцін, прысвечаных Я. Купалу і пасляваеннаму жыццю рэспублікі [24, арк. 156]. Асобна ў пастанове ЦК узгадваўся мастацкі фільм «Новы дом», які да 1947 г. перарабляўся ўжо тры разы. Павільённыя здымкі фільма, зробленыя на адэскай кінастудыі, былі забракаваныя з-за сур'ёзных ідэйных памылак, якія здзейснілі аўтар сцэнара камедыёграф Я. Памешчыкаў і рэжысёр-пастаноўшчык У. Корш-Саблін. На думку партыйнага кіраўніцтва, карціна атрымалася перапоўненай забаўляльнымі мерапрыемствамі, лёгкімі песнямі, банкетамі.

Сцэнар мастацкага фільма «Палескія рабінзоны» яго аўтар Ф. Блажэвіч таксама перарабляў некалькі разоў, прычым заўвагі мінскіх партыйных функцыянераў пераўзыходзілі па колькасці і абсурднасці прэтэнзіі маскоўскага кінаначальства. Так, аддзел прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б прапанаваў у 1948 г. наступныя змены ў сцэнары фільма: «Паказаць хаця б у некалькіх кадрах, як у глухія, адарваныя ад шырокіх дарог мядзвежыя куты Палесся пранікала савецкая культура», «як выконваецца дзяржаўны план па асушцы Палескай нізіны», «піянеры не павінны дасылаць ліст-абавязальніцтва ў "Пионерскую правду" дапамагчы навуковай экспедыцыі ў пошуку прыродных багаццяў без ведама сваіх кіраўнікоў», «чаму райкам аказаўся

бездапаможны ў пошуку зніклых піянераў, якіх па ўласнай ініцыятыве расшуквае паляўнічы Якуб» [22, арк. 286–289].

Ідэалагічная экспертыза ў ЦК у выніку збегу непрыемных абставін магла скончыцца для аўтара трагічна. Так, у 1949 г. загадчык сектара літаратуры і мастацтва аддзела прапаганды і агітацыі прапанаваў сакратару ЦК У. А. Тамашэвічу аддаць адзін экзэмпляр кінасцэнара «Паэт народа» (аўтар — Багарад) «адпаведным органам». На думку партыйнага функцыянера, аўтар твора, прысвечанага Я. Купалу, сказіў і прынізіў постаць песняра. У прыватнасці, ён паказаў ледзь не інтымныя адносіны Я. Купалы з нейкай княгіняй Я. Главацкай, яго сяброўства з нацыяналістамі Я. Пушчам і П. Шукайлам, папойкі з Я. Коласам і Зм. Бядулем [31, арк. 313].

На працягу першага пасляваеннага дзесяцігоддзя асноўнай прадукцыяй кінастудыі «Беларусьфільм» было неігравое кіно. Ужо на працягу 1946 г. на студыі былі зняты хранікальна-дакументальныя фільмы «Абраннікі народа», «Мінск адраджаецца», «Узбагачоная зямля», «Суд народаў», «Свята вызвалення», «Па малых рэках», а таксама 24 нумары гукавых часопісаў для мясцовага экрана. Большасць гэтых фільмаў і часопісаў трапляла пад жорсткую крытыку партцэнзараў, якія не былі задаволены панарамай пасляваеннага жыцця рэспублікі, што атрымлівалася ў кінадакументалістаў («не раскрываюць усёй паўнаты жыцця, маральныя якасці савецкага чалавека, пафас барацьбы за выкананне

сталінскай пяцігодкі», «сюжэты выпадковыя, непрадуманыя» і т. п.).

Шчырае жаданне аўтараў паказаць лепшае, што было ў рэспубліцы (хто з беларускіх рэжысёраў ці аператараў мог дапусціць думку нават пра схаваную крытыку сталінскага рэжыму!) сутыкалася з пошукам ідэалагічных памылак і нават дыверсій. У адным з аглядаў дакументальнай прадукцыі «Беларусьфільма», зробленым функцыянерам ЦК КП(б)Б у 1947 г., мы чытаем: «Сюжэт “Чырвоны хлебароб” аператары Бераў і Фрыд прысвяцілі аднаму з перадавых калгасаў Гомельскай вобласці. Аднак калгас паказаны ў непрыглядным святле. Пачынаючы з сумнага пейзажу вёскі — пустой вуліцы з некалькімі хаткамі да двума дрэўцамі і сканчаючы эпізодам выдачы хлеба калгаснікам — усё гэта выглядае бедна і непераканальна. У кароткаметражных фільмах “Возера Нарач”, “Світанак”, “Белавежская пушча” ёсць некаторыя поспехі. Але і тут — надзвычайнае захапленне старажытнымі, этнаграфічнымі, пабытовымі забаўляльнымі сцэнамі (вясельныя абрады, скокі, частаванне)» [26, арк. 127].

Галоўнай задачай кінадакументалістаў партыйнае кіраўніцтва лічыла стварэнне кінаміфа пра сталінскі СССР. Гэты міф меў уласныя правілы канструявання, каноны і іерархію герояў, парушаць альбо ігнараваць якія было нельга. Так, у 1947 г. на XVI пленуме ЦК КП(б)Б беларуская кінахроніка трапіла пад крытыку ўжо за ўгодніцтва і падхалімства. Гэтыя яе якасці праявіліся падчас здымак урачыстых сходаў, на якіх

рэжысёры імкнуліся здымаць больш кіраўнікоў, а не народ у зале. Прыгадвалася таксама на пленуме «пагоня» кінагрупы ў Асвейскі раён за членамі ўрада БССР, што дыскрэдытавала апошніх у вачах насельніцтва [26, арк. 127].

Другой ілюстрацыяй працэсу канструявання кінаміфа можа быць наступны фрагмент сцэнаграмы абмеркавання матэрыялаў дакументальнага фільма «Савецкая Беларусь» (рэж. Л. Голуб), які здымаўся да 30-годдзя кастрычніцкай рэвалюцыі:

«*Корш-Саблін.* ...Шмат інсцэніровак, і часта няўдалых. Трэба арганізоўваць матэрыял. У Вас, напрыклад, коўш чэрпае бруд з канавы, а навокал пуста. Дрэнна. Дзяўчынкі чэрпаюць з канавы ваду рыдлёўкамі і стаяць вялікай групай. Дрэнна. На велізарных фермах завода працуюць толькі некалькі чалавек. На працы людзі ўбога апрануты, сумныя, брудныя. Беларусь выглядае ўбогай, няма маштабнасці. Трэба бачыць перспектыву нашага жыцця, паэтызаваць матэрыялы.

*Жураўлёў (начальнік аддзела хронікі Міністэрства кінематаграфіі СССР).* Інсцэніраваць дакументальную кінематаграфію не трэба, але трэба арганізоўваць матэрыял, бачыць гэты матэрыял вачыма мастака. Кіраўнікі рэспублікі заўсёды дадуць патрэбную колькасць людзей на здымкі.

*Садковіч (міністр кінематаграфіі БССР).* Для рэжысёра не павінна быць слова “нельга”. Для яго ўсё павінна быць магчыма» [26, арк. 359].

Увогуле фільм «Савецкая Беларусь» быў вельмі адказным праектам кінастудыі, яго рэалізацыя на ўсіх этапах адсочвалася ў ЦК КП(б)Б. З аўтарамі сцэнара — К. Губарэвічам і Л. Голубам — працаваў спецыяльна выдзелены інструктар ЦК, які імкнуўся давесці да ідэалагічнай дасканаласці кожную старонку: «Ненатуральна атрымліваецца паказ начы перад сяўбою. Ніхто не спіць. Старшыня калгаса аб'язджае палі разам са звеньявым і з ліхтаром у руцэ. Конюх з ліхтаром правярае кармушкі, на сядзенні трактара прыкархнуў трактарыст, калгасны аграном ноч прасядзеў з прарошчаным зернем на далоні, двое калгаснікаў сталага веку на краі поля расціраюць вільготную зямлю і прыходзяць да высновы "Так, пара...". І ўсё гэта ўноч перад сяўбою. Аўтары імкнуліся паказаць адказнасць кожнага за ўласны ўчастак працы, а атрымалася разгубленасць, паказ непадрыхтаванасці, няўпэўнасці, быццам бы ўся падрыхтоўка ішла "на авось", і толькі ў апошнюю ноч спахапіліся» [22, арк. 311–315].

Калі, нарэшце, даведзены да ідэалагічнай дасканаласці сцэнар прачытаў першы сакратар ЦК М. І. Гусараў, ён... абвінаваціў аўтараў ва ўгодніцтве і падхалімстве. У прыватнасці, яго незадавальненне выклікаў фінал фільма, выкананы ў канонах познесталінскай эстэтыкі: «А вось сотні беларускіх юнакоў і дзяўчат на Чырвонай плошчы ў Маскве. Беларуская дэлегацыя дэманструе свае дасягненні на Усесаюзным фізкультурным парадзе. У заключэнні выступу бурна і заразліва весела танчаць беларускія

фізкультурнікі “Лявоніху”. Апладзіруюць з трыбун... Апладзіруе таварыш Сталін... Стройнымі калонамі пакідаюць фізкультурнікі Чырвоную плошчу пад гукі ўрачыстага марша. Музыка гэтага марша працягвае гучаць. Як і напачатку фільма — у кадры аркестр і хор. Гучыць магутная і велічная музыка фіналу. У двайной, трайной, шматкратнай экспазіцыі на фоне фіналу сімфоніі праходзяць шматлікія карпусы будоўляў, заводаў, фабрык... кадры з працуючымі камбайнамі, трактарамі... Плывуць залацістыя плыні зерня, ломяцца сады ад яблык, груш, сліў... Праходзіць бурная ўрадлівасць беларускай зямлі... Спявае Аляксандроўская, хор, іграе аркестр. Магутна гучыць фінал сімфоніі» [26, арк. 300]. М. І. Гусараў, які добра ведаў рэальнае эканамічнае становішча ў рэспубліцы ў першыя пасляваенныя гады, засумняваўся ў выхаваўчым эфекце празмернай дэманстрацыі дабрабыту, паказу «бурнай урадлівасці беларускай зямлі». У лепшым выпадку гэта магло выклікаць у тагачаснага гледача ўсмешку, у горшым — абурэнне.

Першымі гледачамі гатовай карціны «Савецкая Беларусь» былі сакратары ЦК М. І. Гусараў, П. К. Панамарэнка і міністр кінематаграфіі М. Ф. Садковіч, якія зноў зрабілі шэраг заўваг. Іх выпраўленне зацягнула здачу фільма яшчэ на паўгода [22, арк. 60].

У 1947 г. сцэнарны аддзел «Беларусьфільма» даслаў у ЦК КП(б)Б сцэнар фільма-канцэрта «Родныя напевы». Неўзабаве яго аўтар І. Шульман

мусіў сесці за грунтоўную перапрацоўку свайго твора пасля атрыманых заўваг. Задача І. Шульмана была не з простых, калі ўлічыць, што парткрытыкі абвінавацілі яго ў тым (паэтычнасць формы, любаванне прыродай, суб’ектыўнае ўспрыяцце рэчаіснасці), што з’яўляецца падмуркам мастацкай творчасці. Акрамя таго, кансультант аддзела прапаганды і агітацыі ЦКЕ. І. Войніч не мог зразумець, чаму артысты балета выконваюць народны танец «Мяцеліца» напоўаголеныя, ахутаныя завірухай. «У народзе назіраецца іншае. Танец “Мяцеліца” выконваецца абавязкова каля печы. Часта на разасланай шубе... І песня, і танец з’яўляюцца прадуктам працы» [22, арк. 370].

Эстэтычныя густы і ідэалагічныя патрабаванні ўлады перадае фінал канчатковага, перарobленага І. Шульманам варыянта сцэнара фільма-канцэрта «Родныя напевы»:

«На сцэне ў багатай канцэртнай сукенцы стаіць народная артыстка СССР Ларыса Пампееўна Александроўская. У руках яе крыштальны келіх, напоўнены іскрыстым шампанскім. Скончыўся отыгрыш. Узняўшы келіх, Ларыса Пампееўна запявае:

Добра ўзаралі і добра пасеялі,
Гляньце, пшаніца як гай,
Поўную чарку, за гаспадарку,
Вып’ем за наш ураджай.

На пляцоўцы, дзе толькі скончыўся танец ураджаю, на фоне піраміды — працаўнікі калгасных

палёў з натхненнем і радасцю падхопліваюць прыпеў:

Поўную чарку, за гаспадарку,
Вып’ем за наш ураджай.

З вялікім пачуццем і майстэрствам Ларыса Пампееўна запявае другі куплет:

Доля нам шчасная партыяй дадзена,
Сонца і праўда для нас,
За нашу долю, за нашу волю,
Вып’ем за родны калгас.

У праменях заходзячага сонца па новай калгаснай вуліцы ідуць радасныя, шчаслівыя людзі. Яны спяваюць:

За нашу долю, за нашу волю,
Вып’ем за родны калгас.

І зноў уступае Александроўская:

За пяцігодку, што Сталіным складзена,
Велічны кожны ў нас год,
Тост наш за дружбу, дружбу народаў,
Тост за Савецкі народ.

На калгаснай плошчы ў новага клуба святочна апранутыя людзі падхопліваюць прыпеў:

Тост наш за дружбу, дружбу народаў,
Тост за Савецкі народ.

Як выразнік народных думак і спадзеваў, Ларыса Пампееўна спявае:

За нашы песні вясёлыя, звонкія,
За росквіт Савецкай зямлі...

(Яна ідзе па сцэне, апарат рухаецца за ёй)

...за нашы справы, за нашу дзяржаву,
Вып’ем за бацьку ў Крамлі.

Апарат дае буйны план Ларысы Пампееўны, яна працягвае келіх — у кадр уваходзяць толькі рукі з келіхамі (спявае хор).

...за нашы справы, за нашу дзяржаву,
Вып’ем за бацьку ў Крамлі.

Звон келіхаў пераходзе ва ўрачысты звон — звон крамлёўскіх курантаў. Святочна гучаць куранты.

На пярэднім плане аркестр, ззаду глядзельная зала. Узмахнуў рукой дырыжор, і ў аркестры магутна загучала кантата аб таварышы Сталіне:

Ад краю да краю, па горных вяршынах,
Дзе вольны арол развінае свой лёт,
Аб Сталіне мудрым і родным, любімым,
Цудоўную песню складае народ.

Уздымаецца ўся глядзельная зала і ў адзіным парыве з пачуццем падхоплівае:

Аб Сталіне мудрым і родным, любімым
Цудоўную песню складае народ.

І ўсё пашыраецца і пашыраецца песня, і гучыць яна стройна і моцна.

Мы выязджаем з тэатра на плошчу перад Домам урада, — а песня гучыць, яе спявае ўвесь Беларускі народ. Уся плошча запоўнена народам — фізкультурнікамі.

Святочна ўбраны партрэты таварыша Сталіна, у моры кветак патанае фігура Леніна.

Усе спяваюць:

Мы з гонарам гэтую песню спяваем,
І славім мы велічнасць Сталінскіх год,

Пяем пра жыццё мы, адвагу ўслаўляем,
Пра радасць шчаслівых пяем перамог.
Ад краю да краю
Па горных вяршынах
Гамонку сваю самалёты пяюць,
Аб СТАЛІНЕ мудрым і родным, любімым,
Цудоўныя песні народы пяюць.

Гэта спявае народ. Гэта ягоныя думкі і пачуцці. Гэта яго любоў і адданасць» [26, арк. 14–61].

Тым не менш фільм-канцэрт «Родныя напевы», зняты ў 1948 г. рэжысёрамі І. Шульманам і С. Сплашновым нават па новым сцэнары, крытыкавалі за фармалізм і адыход ад прынцыпаў беларускага савецкага мастацтва.

У маі 1948 г. Міністэрства кінематаграфіі БССР правярала камісія ЦК КП(б)Б на чале з А. Д. Малочкам. Падчас праверкі члены камісіі выявілі шмат недахопаў — ад «засмечанасці» штату міністэрства людзьмі, якія ў часе акупацыі працавалі ў нямецкіх установах, да стварэння няякаснай кінахронікі. У 1948 г. з-за заўваг цэнзуры выхад пятага нумара кіначасопіса «Савецкая Беларусь» затрымаўся на 25 дзён, шостага нумара — на 15. У восьмым нумары першы выезд калгаснікаў «Камсамольца Гомельшчыны» ў поле быў паказаны ў выглядзе забаўляльнай прагулкі ў суправаджэнні гармоніка. Меліся сур’ёзныя недахопы ў дзявятым першамайскім нумары кіначасопіса [27, арк. 69].

Кіначасопісы «Савецкая Беларусь» № 37–38 за 1949 г., а таксама №№ 24 і 27 за 1950 г. былі забаронены цэнзурай па ўзгадненні з сакратарамі ЦК Ц. С. Гарбуновым і М. С. Патолічавым. У нумарах 37–38 кіначасопіса былі арганізаваны няўдалыя пастановачныя здымкі святкавання 70-годдзя Сталіна ў адной з вясковых хат з шампанскім і крышталёвымі келіхамі. У 24-м нумары кадры ўборкі ўраджаю на Палессі выдалі за ўборку ў Мінскай вобласці. У 27-м нумары кіначасопіса зноў арганізавалі няўдалую пастаноўку — выдачу хлеба па працаднях перадавым калгаснікам (насамрэч, здымалі пад агульны рогат калгаснікаў выпадковых людзей). За прымітыўную няўмелую прапаганду савецкага ладу жыцця, якая давала адваротны эфект, рэжысёра В. Стральцова і апаратара І. Вейнеровіча часова адхілілі ад працы. Неўзабаве быў вызвалены ад сваёй пасады і міністр кінематаграфіі М. Ф. Садковіч [42, арк. 47].

На 1 студзеня 1947 г. дзяржаўная кінасетка БССР складалася з 252 кінаўстановак стацыянарнага тыпу і 226 кінаперасовак. На іх дэманстраваліся пераважна савецкія поўнаметражныя мастацкія фільмы на рускай мове («Ленін у 1918 г.», «Чапаеў», «Як гартавалася сталь», «Сакратар райкама», «Мы з Кранштата», «Зоя» і інш.), «трафейныя» нямецкія і амерыканскія карціны, а таксама кароткаметражныя, хранікальныя і навукова-тэхнічныя фільмы, частка якіх была беларускай вытворчасці з беларускамоўным агучваннем.

У першыя пасляваенныя месяцы, пры агульнай запатрабаванасці кіно з боку насельніцтва як сродку баўлення вольнага часу[63], былі выпадкі зрыву кінасеансаў, што адразу ж фіксавалася «на самым версе». Кінамеханік Дыдыкіна вярнула фільм «Абарона Царыцына» з актам аб тым, што «сеанс не адбыўся — не сабраўся народ». Кінамеханік Раманенка датэрмінова вярнуў фільм «Родныя палі» з-за таго, што «народ не хоча глядзець». Упраўляючая Беларускай рэспубліканскай канторай «Галоўкінапракат» Каржыцкая ў сваёй даведцы на імя сакратара ЦК КП(б)Б Ц. С. Гарбунова, падрыхтаванай у сярэдзіне 1946 г., тлумачыла непапулярнасць у публікі ідэалагізаванага савецкага кіно тым, што «зусім недастаткова праводзіцца вакол фільмаў палітыка-масавая работа», «фільмы не папулярызуюцца шляхам тлумачальных размоў, кароткіх выступаў перад пачаткам сеансаў», «кіно шырока не рэкламуецца праз газеты, радыё і іншае» [19, арк. 112–113].

У 1946 г. выйшла пастанова ЦК КП(б)Б «Аб мерах паляпшэння работы кінатэатраў і кінаперасовак па абслугоўванні насельніцтва», у рэчышчы выканання якой пачаўся выраб дадатковых соцен копій лепшай прапагандысцкай прадукцыі — «Ленін у Кастрычніку», «Ленін у 1918 г.», «Клятва», «Якаў Свярдлоў», «Чалавек са стрэльбаю», «Трылогія пра Максіма», «Вялікі пералом» і інш. Перад сеансамі кінамеханікі пачалі праводзіць масава-палітычную работу сярод насельніцтва — размовы пра савецкае выбарчае права,

дасягненні ў эканоміцы і культуры краіны, тлумачылі змест кінафільмаў. Неўзабаве на дапамогу кінамеханікам у вясковай мясцовасці прыйшлі кінаарганізатары, якія не толькі тлумачылі гледачам змест карцін па спецыяльных лібрэта, але таксама адказвалі за запоўненасць глядзельных залаў.

Адначасова быў абраны курс на згортванне дэманстрацыі заходняй кінапрадукцыі. Адну з першых забаранілі нямецкую карціну «Дзяўчына маёй мары». Неўзабаве з'явіўся загад ЦК аб зняцці з экрана ў заходніх, пераважна каталіцкіх абласцях БССР італьянскай драмы «Рым — адкрыты горад», якая ўмацоўвала аўтарытэт каталіцкага духавенства. А ў 1948 г. міністр кінематаграфіі М. Ф. Садковіч дакладваў кіраўніцтву, што ў БССР поўнасцю спынена дэманстрацыя замежных фільмаў, за выключэннем тых, што зроблены ў «краінах новай дэмакратыі» — Чэхаславакіі, Югаславіі і інш. [24, арк. 243]

Гэта, канешне, было не так. У ЦК, на студыі «Беларусьфільм», у іншых рэспубліканскіх ведамствах, такіх як МДБ, рэгулярна наладжваліся закрытыя прагляды нямецкіх і амерыканскіх фільмаў «для сваіх». Адразу ж пасля згортвання антызаходніх ідэалагічных кампаній заходняе забаўляльнае кіно, якое давала касу, зноў заняло ўласную нішу ў савецкім пракаце. У кастрычніку 1955 г. на стацыянарных кінаўстаноўках у сельскай мясцовасці БССР дэманстравалася 23 мастацкія фільмы, з якіх толькі 9 было савецкай вытворчасці. А кінаперасоўкі,

якія мелі найвышэйшыя планы па ахопе гледачоў, дэманстравалі выключна замежныя фільмы [35, арк. 98].

У пасляваенны пракат «трафейных» нямецкіх, а пераважна амерыканскіх фільмаў сыходзіць традыцыя «кастрацыі» замежнага кіно ў СССР. Карціны скарачалі, пераймяноўвалі, здымалі з тытраў краіну вытворчасці. У арыгінальным выглядзе ў савецкім пракаце не дэманстраваўся ніводны замежны фільм. Цэнзараў не задавальнялі эпізоды, якія, на іх думку, змяшчалі эротыку, жорсткасць, палітыку альбо не ўкладваліся ў часавыя пракатныя патрабаванні (паўтары гадзіны).

Спецыфіка, складанасць кінамовы стварала сітуацыі, калі праз усе цэнзурныя фільтры ў пракат усё ж праходзіў непатрэбным чынам скампанаваны матэрыял. У 1948 г. упраўляючая «Галоўкінапракату» паведамляла сакратару ЦК М. Т. Іоўчуку, што ў выніку непрадуманай кампаноўкі матэрыялу ў кіначасопісах «Савецкая Беларусь» некаторыя сюжэты набываюць скажоны сэнс. Напрыклад, дыктарскі тэкст «Сталіца Беларусі сустракае гадавіну Вялікага Кастрычніка» суправаджаў план, які ўяўляў абсалютны змрок. А дыктарскі тэкст «Сталіца ўзнімаецца з руін. Вось ён, сённяшні Мінск» — будынак МДБ на вуліцы Савецкай [32, арк. 7].

Не меншае значэнне мела кампаноўка кіначасопіса і фільма на сеансе. 22 сакавіка 1953 г. у дні жалобы па Сталіне ў мінскіх кінатэатрах «Перамога» і «Першы» паказалі жалобны выпуск

кіначасопіса «Навіны дня» разам з кінакамедыяй «Гарачае сэрца», чым выклікалі «справядлівае абурэнне гледачоў» [34, арк. 183].

Звычайная недакладнасць падчас склейкі кінаплёнкі пры збегу акалічнасцяў магла набыць маштабы буйной ідэалагічнай дыверсіі. У 1949 г. органы МДБ распачалі праверку старэйшага мантажора гродзенскага кінатэатра «Спартак» Міхальковай пасля таго, як яна зрабіла памылковую склейку плёнкі мастацкага фільма «Сустрэча на Эльбе». У выніку яе з рэплікі палкоўніка Кузьміна знікла часціца «не», што дыяметральна змяніла сэнс дыялогу Кузьміна з амерыканскім маёрам Хілам:

«*Кузьмін.* Сустрэліся мы з Вамі як саюзнікі! Жылі як суседзі!

*Хіл*. Развітваемся як сябры.

*Кузьмін.* Зрабіце так, каб у будучым мы [не] сустрэліся як ворагі!»

[41, арк. 136].

Падчас правядзення ідэалагічных кампаній канца 1940-х — пачатку 1950-х гг. увесь час ішлі праверкі рэспубліканскай і абласных баз кінапракату з мэтай адабрання «шкодных» кадраў (пераважна з выявамі «ворагаў народа») з дакументальных фільмаў. А ў 1954 г. з фільмаў адбіраліся ўжо ўсе кадры з выявамі Л. П. Берыі.

У лютым 1954 г. у аддзеле навукі і культуры ЦК КПБ забракавалі як «хранікальна-дакументальны дапаможнік, пазбаўлены мастацкасці» літаратурны

сцэнар мастацкага фільма «Назаўсёды разам». Гэта забарона была знакавая, улічваючы тэму фільма (падзеі 1917 года на Беларусі), а таксама аўтара — аднаго з рупараў пасляваенных ідэалагічных кампаній у БССР М. М. Горцава. Пасля смерці Сталіна кампаніі самі сабою сцішыліся, іх «рупары» зрабіліся непатрэбныя. Пачыналася новая эпоха.

Абнаўленне савецкага кіно ў перыяд хрушчоўскай «адлігі» суправаджалася арганізацыйнымі зменамі (з мая 1953 г. па жнівень 1963 г. кінавытворчасць і кінапракат у рэспубліцы падпарадкоўваліся Галоўнаму ўпраўленню кінематаграфіі Міністэрства культуры БССР), яго вяртаннем на міжнародную арэну, значным павелічэннем колькасці карцін і прыходам маладога пакалення творцаў. Лібералізацыя грамадскага жыцця, некаторыя цэнзурныя паслабленні, канешне, не азначалі адмену ідэалагічнага кантролю на такім важным участку, як кіно. У часы «адлігі» карціны ўжо не знішчалі, але іх марудна і цяжка прымалі на розных узроўнях, дзе аўтараў прымушалі зрабіць бясконцую колькасць правак. Менавіта ў гэты час з'явіўся феномен «паліцы»[64], на якую фільм трапляў, калі яго непрымальнасць высвятлялася пасля здымак і мантажу.

Зачэпкі для цэнзурнага ўмяшальніцтва маглі быць розныя: ідэалагічныя памылкі, неадпаведнасць эстэтычным канонам сацрэалізму, афіцыйным уяўленням пра мараль, эміграцыя аўтараў або іх

відавочная нядобранадзейнасць, нарэшце, абарона інтарэсаў зацікаўленых ведамстваў — ад сельскагаспадарчага да касмічнага. Забарона гатовай карціны лічылася надзвычайным захадам, таму крамолу імкнуліся знішчаць у зародку, на ўзроўні сцэнара, а «памылковыя» эпізоды пераздымаць або выразаць.

У перыяд «адлігі» ў вытворчасці беларускіх фільмаў, акрамя здымачнай групы, «удзельнічалі» аддзелы прапаганды і агітацыі, а таксама культуры ЦК КПБ, Галоўліт БССР, ваенная цэнзура, Дзяржкамітэт па кінематаграфіі (беларускі і агульнасаюзны), сцэнарна-рэдакцыйная калегія і мастацкі савет кінастудыі, а таксама створаны ў 1962 г. Саюз кінематаграфістаў БССР. Значная частка прадукцыі кінастудыі «Беларусьфільм» была прысвечана падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Гэтыя карціны, акрамя вышэйзгаданых інстанцый, праходзілі цэнзураванне ў палітычным упраўленні Беларускай ваеннай акругі, а таксама ў галоўным палітычным упраўленні Узброеных Сіл СССР. У 1963 г. В. Быкаў падчас здымак фільма па яго аповесці «Трэцяя ракета» (рэжысёр Р. Віктараў) падлічыў, што права ўмешвацца ў кінапрацэс мелі каля 60 чалавек. Кожны з іх штосьці забараняў, змяняў, патрабаваў.

Старшыня Дзяржкіно БССР Б. У. Паўлёнак асабіста кантраляваў працэс здымак «Альпійскай балады», папракаючы В. Быкава: «збеглы з фашысцкага палону чырвонаармеец скардзіцца

італьянцы на несправядлівасць сацыялістычнага ладу». Ад аўтара сцэнара фільма «Сыны ідуць у бой» А. Адамовіча ён патрабаваў, каб той прыбраў «спачуванне да немчыкаў, якія церпяць ад рускіх марозаў» [91].

Мастацкае кіно лічылася, безумоўна, найбольш важным з пункту гледжання ідэалогіі відам кінапрадукцыі і знаходзілася пад непасрэдным наглядам партыйнага кіраўніцтва. У лютым 1959 г. загадчык сектара культуры і мастацтваў аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ Э. П. Герасімовіч запатрабавала карэннай перапрацоўкі кінасцэнара драмы «Крыніцы», напісанага І. Лукоўскім па аднайменным рамане І. Шамякіна. У прыватнасці, яна матывавала ў лісце сакратару ЦК Ц. С. Гарбунову сваё патрабаванне наступным чынам: «Райкам партыі паказаны не як кіраўнічы орган, а як першакрыніца шматлікіх праблем, тормаз у рабоце калгасаў. Сакратар райкама Бародка — чалавек, які маральна расклаўся, падманшчык, паклёпнік. Інструктар райкама Шапавалаў — тупы непісьменны ліслівец і падхалім. Нікчэмнымі людзьмі з'яўляюцца завуч школы Арэшкін, старшыня калгаса Махнач, сакратар партарганізацыі Баранаў» [37, арк. 20]. У 1966 г. карціну «Крыніцы», пастаўленую рэжысёрам І. Шульманам па новым сцэнары, напісанаму І. Шамякіным і Б. Шчарбаковым, зноў крытыкавалі за тэндэнцыйнасць у адлюстраванні калгаснага жыцця.

У адрозненне ад высокіх партыйных інстанцый, у поле зроку Галоўліта БССР мастацкае кіно трапляла

зрэдку. Штатны цэнзар, замацаваны за «Беларусьфільмам», праглядаў пераважна мантажныя аркушы і гатовую прадукцыю кінахронікі, дакументальныя і навукова-папулярныя фільмы. Аднак эпоха «адлігі», што нарадзіла «крыклівае племя маладых кінадакументалістаў», якое, па словах Б. У. Паўлёнка, прыйшло ў той час на мінскую студыю, ускладніла гэту працу. У чэрвені 1959 г. Л. В. Садоўскі пісаў Ц. С. Гарбунову, што ў кіначасопісах «Савецкая Беларусь» слаба асвятляецца культура, спорт, дзейнасць рацыяналізатараў, марксісцка-ленінская вучоба, антырэлігійная прапаганда. Дакладная галоўнага цэнзара БССР сканчалася высноваю: «кінахроніка “Беларусьфільма” працуе незадавальняюча». Гэта выснова стала падставаю для правядзення ў ЦК спецыяльнай нарады з удзелам кіраўніцтва кінастудыі [87, арк. 32–35].

У красавіку 1961 г. цэнзар З. Я. Зарэцкі па ўзгадненні з загадчыцай аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ Н. Л. Сняжковай выразаў кадр з дакументальнага фільма «Вылет адбудзецца» (рэж. У. Скітовіч). На ім дэманстравалася пустое крэсла ў зале чакання аэрапорта, на якім ляжаў пакінуты кімсьці нумар газеты «Правда». Гэты кадр, на думку З. Я. Зарэцкага, мог выклікаць у гледачоў двухсэнсоўныя асацыяцыі [46, арк. 21].

Пра аб'ёмы цэнзурнай працы Галоўліта на «Беларусьфільме» ў часы «адлігі» дае ўяўленне наступная лічба: на працягу 1962 г. цэнзар З. Я. Зарэцкі праглядзеў 27 044 метраў кінаплёнкі

навукова-папулярных, дакументальных фільмаў і кіначасопісаў [47, арк. 4].

19 ліпеня 1962 г. ЦК КПСС прыняў пастанову «Аб мерах па паляпшэнні кіраўніцтва развіццём мастацкай кінематаграфіі». 25 жніўня таго ж года ЦК КПБ прадубляваў яе ўласнай пастановай пад той жа назвай. Вынікам прыняцця гэтых пастаноў былі арганізацыйна-кіраўнічыя змены ў беларускім кіно. 24 ліпеня 1963 г., пасля дзесяцігадовага падпарадкавання Міністэрству культуры, кінавытворчасць і кінапракат рэспублікі былі перападпарадкаваны самастойнаму Дзяржаўнаму камітэту Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі. Яму ж падпарадкоўваліся кінастудыя «Беларусьфільм», Мінская кінастудыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў, сістэма кінапракату, якая складалася з 315 гарадскіх і 3456 сельскіх кінаўстановак.

Але галоўнай задачай, якую партыйнае кіраўніцтва ставіла ў пастанове перад кінагалінаю, было камуністычнае выхаванне працоўных. Папулярнасць кіно не зніжалася (у 1962 г. у рэспубліцы было прададзена 115 млн квіткоў на кінасеансы), а гэта значыць, яно павінна было вырашаць выхаваўчыя задачы. У якасці аднаго з найважнейшых інструментаў ідэалагізацыі кіно, аўтары пастановы па-ранейшаму бачылі прэвентыўную цэнзуру. Увосень 1962 г. быў умацаваны склад сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм», праца яе стала рэгулярнай. Галоўным рэдактарам

калегіі стаў А. Куляшоў (неўзабаве яго змяніў М. Лужанін). Адначасова павысілася адказнасць за ідэйна-мастацкую якасць выпускаемай прадукцыі мастацкага савета кінастудыі, які ўзначальваў дырэктар «Беларусьфільма» І. Л. Дорскі [54, арк. 85].

Першапачатковa органы прэвентыўнай кінацэнзуры цалкам не спраўджвалі спадзяванні партыйнага кіраўніцтва. Так, напачатку 1963 г. сцэнарна-рэдакцыйная калегія ўхваліла сцэнары мастацкіх фільмаў Г. Шпалікава «Я родам з дзяцінства», а таксама Р. Вікерса і А. Канеўскага «40 хвілін да світання». Патрабавалася ўмяшальніцтва партыйнага кіраўніцтва рэспублікі, каб спыніць запуск гэтых сцэнараў у вытворчасць [77, арк. 101].

19 чэрвеня 1963 г. начальнік беларускага цэнзурнага ведамства А. А. Маркевіч накіраваў міністру культуры Г. Я. Кісялёву свае заўвагі па кінасцэнары А. Кучара «Шар распалены», ухваленаму сцэнарна-рэдакцыйнай калегіяй і мастацкім саветам «Беларусьфільма». Па яго меркаванні, у гэтым сцэнары, прысвечаным Веры Харужай, не была раскрыта яе дзейнасць як рэвалюцыянеркі. Акрамя таго, занадта шмат увагі аўтар надаў дапросу В. Харужай у НКУС, бесчалавечнаму стаўленню да яе савецкіх людзей пасля вызвалення з турмы [80, арк. 74–75].

У 1965 г. сцэнарна-рэдакцыйная калегія двойчы абмяркоўвала матэрыял фільма «Любімая» рэжысёра Р. Віктарава. Але, па словах старшыні Дзяржкіно БССР Б. У. Паўлёнка, заўвагі членаў калегіі толькі

часткова палепшылі якасць карціны (Р. Віктарава абвінавачвалі ў апашленні кахання, скажэнні сацыялістычнай рэчаіснасці і інш.). У тым жа годзе не выйшла на экраны кінакамедыя «Рагаты басціён», пастаўленая П. Васілеўскім па сцэнары А. Макаёнка [55, арк. 193].

Пасля разгромнай крытыкі творчасці В. Быкава на з’ездзе Саюза пісьменнікаў у 1966 г. загадам з ЦК была спынена праца над дыпломнай працай рэжысёра Л. Мартынюка — фільмам паводле аповесці В. Быкава «Западня» [11]. Былі прэтэнзіі да працы калегіі і ў наступныя гады.

9 лютага 1968 г. адпаведна загаду старшыні Дзяржкамітэта па кінематаграфіі БССР сцэнарна-рэдакцыйную калегію ўмацавалі кадрамі з мэтай «павышэння ўзроўню кіраўніцтва ідэйна-творчым працэсам на студыі» [60, арк. 3]. Быў установлены парадак, адпаведна з якім рашэнне аб зацвярджэнні сцэнара і запуску фільма ў вытворчасць прымалася дырэкцыяй «Беларусьфільма» на аснове сумесных рэкамендацый сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі і мастацкага савета студыі. Усе змены ў сцэнары, што ўносіліся ў працэсе пастаноўкі карціны, былі павінны таксама зацвярджацца ў сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі.

У кінавытворчасці саюзных рэспубліках, у т. л. у БССР, ідэалагічны дыктат быў больш жорсткі, чым у Маскве. Беларускія кінематаграфісты існавалі ў рэжыме падвойнай цэнзуры, калі маскоўскія цыркуляры дапаўняліся службовай стараннасцю

мясцовых уладаў. Пачынаючы з 1960-х гг. іх асаблівую ўвагу прыцягвалі спробы кінематаграфістаў даць уласную інтэрпрэтацыю далёкіх і блізкіх падзей айчыннай гісторыі.

Адразу ж пасля вяртання з Вышэйшых сцэнарных курсаў у Маскве з беларускай кінацэнзурай сутыкнуўся У. Караткевіч. У 1963 г. ён перадаў на «Беларусьфільм» свой дыпломны сцэнар — філасофскую прытчу «Гнеўнае сонца палючае». З ім узяўся працаваць малады беларускі рэжысёр І. Дабралюбаў. Але ўвесь склад сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі на чале з М. Лужаніным выступіў супраць гэтага твора У. Караткевіча, і фільм не адбыўся [5, с. 95]. У наступныя гады супрацоўніцтва пісьменніка з кінастудыяй было больш плённае — выйшлі знятыя па караткевічаўскіх сцэнарах дакументальныя карціны «Сведкі вечнасці» (1964), «Памяць каменя» (1966), «Будзь шчаслівай, рака» (1967).

Аднак у 1965 г. сцэнар мастацкага фільма «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» зноў сустрэў супрацьдзеянне на ўзроўні сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі. Неўзабаве Дзяржкіно БССР атрымала адмоўны водгук на сцэнар з Савета па справах рэлігій пры Савеце Міністраў СССР. У ім, у прыватнасці, адзначалася, што аўтар «не паказвае шкоднасць рэлігійнай ідэалогіі», «правакуе на недабразычлівае стаўленне да веруючых». Асабліва раззлавалі экспертаў Савета апошнія словы сцэнара: «Слава сыну божаму! Гора сыну чалавечаму!» [74, арк. 111].

У 1967 г. працу над карцінай спыняў асабіста начальнік Галоўнага ўпраўлення мастацкай кінематаграфіі Камітэта па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў СССР. У 1968 г. ён жа адмовіўся прымаць карціну з-за «недакладнай ідэйнай канцэпцыі і стылістычнага рашэння» [75, арк. 60]. Перайменаваная ў «Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка», пасля дванаццаці рэдактур, скарачэнняў і перазапісаў карціна ў рэшце рэшт была пакладзена на паліцу, бо «шаржыраваны паказ царкоўнікаў крыўдзіў пачуцці вернікаў» [63, арк. 63]. Па словах яе рэжысёра В. Бычкова, у «Жыцці...» камусьці з кіраўніцтва ўбачыўся намёк на Хрушчова, якога, як і Хрыста, пакінулі ўсе верныя паплечнікі. Не менш палохала маскоўскае кіраўніцтва беларуская гісторыя, нацыянальны каларыт фільма [12, с. 94].

Так і не дайшоў да запуску ў вытворчасць напісаны У. Караткевічам у 1972 г. сцэнар поўнаметражнага мастацкага фільма «Апавяданні з каталажкі», які адхіляўся то ў Мінску, то ў Маскве.

У другой палове 1960-х гг. маскоўскае кінакіраўніцтва выказвала заўвагі з мэтай «паляпшэння ідэйна-мастацкай якасці» беларускім карцінам «Колькі летаў, колькі зім» (рэж. М. Фігуроўскі), «Тысяча вокнаў» (рэж. А. Спешнеў і У. Рагавы) [72, арк. 160]. У 1967 г. яно адхіліла сцэнар фільма «Я, Францыск Скарына» М. Садковіча, а кінастудыі «Беларусьфільм» рэкамендавалі сканцэнтравацца на вытворчасці сцэнароў, прысвечных тагачаснай беларускай рэчаіснасці [73,

арк. 246]. Годам раней па ўказанні з Масквы з мастацкага фільма рэжысёра В. Турава «Я родам з дзяцінства» зніклі песні В. Высоцкага «Пра шпіталь» і «Штрафныя батальёны», у якіх надта моцна адчуваўся іх аўтар.

Цяжка ствараліся рэжысёрам В. Туравым мастацкія фільмы па раманах А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой». У іх уносілі праўкі прадстаўнікі ўсіх магчымых «інстанцый» — мастацкага савета кінастудыі, Дзяржкіно рэспублікі, аддзела культуры ЦК КПБ, Дзяржкіно СССР. Патрабавалі прыбраць пралог, прысвячэнне фільма, рэпліку гераіні, дзя яна ўзгадвала пра сваіх раскулачаных бацькоў, і інш. А. Адамовіч быў сведкам таго, як рэжысёр даволі смела для таго часу супрацьстаяў «кастрацыі» дылогіі аб партызанах. Калі аднойчы сакратар ЦК па ідэалогіі С. А. Пілатовіч «выгаворваў» аўтарам, В. Тураў, не ўстрымаўшыся, запярэчыў: «А чаму Вы лічыце, што Ваша думка ў кіно самая галоўная?» Адказ быў безапеляцыйны: «Таму што мы пастаўлены кіраваць» [16, с. 362]. Больш падрабязна пра складаны шлях гэтых фільмаў да гледача распавёў сам В. Тураў ва ўспамінах пра У. Высоцкага: «Яны два з нечым гады ляжалі на паліцах, іх сур’ёзна парэзалі, і цяпер яны існуюць зусім не ў тым выглядзе, як былі задуманы першапачаткова» [3, с. 15].

Па словах А. Адамовіча, больш за ўсё прэтэнзій на розных узроўнях да аўтараў было за негераічны паказ партызанскай барацьбы. Аўтараў жа цікавілі не баявыя дзеянні, а вайна ў саміх людзях, іх маральна-

псіхалагічны стан. Да таго ж у фільмах песні У. Высоцкага былі агучаны іншым выканаўцам, бо голас Высоцкага не падабаўся прымаючым інстанцыям [4, с. 72].

Ад сябе дададзім, што пасля выхаду дылогіі А. Адамовіча і В. Турава на экраны яе цэнзурная гісторыя не скончылася. У лютым 1971 г. упаўнаважаны Савета па справах рэлігій пры Савеце Міністраў БССР у сакрэтнай справаздачы сакратару ЦК А. Т. Кузьміну ўстрывожана пісаў, што ў апошні час павялічыўся выпуск кінафільмаў, дзе прапагандуюцца царкоўныя службы. «Нядаўна выйшаў на экраны рэспублікі кінафільм “Вайна пад стрэхамі” рэжысёра В. Турава, дзе дэтальна паказана набажэнства. Незразумела, ці то аўтары хочуць распавесці пра партызанскую яўку, ці то паказаць царкоўную службу. Хутчэй за ўсё другое, таму што сцэна яўкі ў фільме была неабавязковая» [49, арк. 206].

Сродкам цэнзуры было тыражаванне мастацкіх фільмаў. Кінаначальства патрабавала павелічэння дэманстрацыі савецкага кіно і адпаведна змяншэння замежнага, перш за ўсё фільмаў капіталістычных краін, пракат якіх даваў найвялікшы прыбытак. 24 студзеня 1961 г. выйшла пастанова ЦК КПСС «Аб мерах па паляпшэнні арганізацыі кінапракату», у выніку якой паступленне ў рэспубліку фільмаў вытворчасці капіталістычных краін значна паменшылася. Калі раней кінасетка БССР атрымлівала ў год 68 мастацкіх фільмаў, закупленых

на Захадзе, то ў 1962 г. толькі 20 [38, арк. 117]. Гэты паказчык утрымліваўся з невялікімі зменамі і надалей. Напрыклад, на 1967 г. кіраўніцтва Дзяржкіно БССР замовіла ў Маскве 161 мастацкі фільм айчыннай вытворчасці (8914 копій), 60 фільмаў вытворчасці сацыялістычных краін (1802 копіі) і 24 фільмы вытворчасці капіталістычных краін (459 копій). Фільмы апошняй катэгорыі забаранялі паказваць на дзіцячых сеансах, па тэлебачанні, тыражаваць на вузкай стужцы. Вясковым гледачам на кінаперасоўках у 1967 г. паказалі толькі тры заходнія фільмы [56, арк. 50].

Апошні, «брэжнеўскі» перыяд гісторыі савецкага кіно пачаўся з рэкорднай колькасці фільмаў, пакладзеных на паліцу. Толькі ў 1968 г. у СССР іх было 10. Пачынаючы з 1969 г. колькасць «палічных» фільмаў скарачалася, бо пачала актыўна працаваць прэвентыўная цэнзура (сцэнарна-рэдакцыйныя калегіі і мастацкія саветы кінастудый). Кінапраекты імкнуліся не даводзіць да стану «палічных», бо студыям трэба было выконваць план і атрымліваць прэміі, а не вымовы і непрыемнасці. Прамым вынікам «прафілактычнай працы» розных інстанцый быў вал «шэрых» фільмаў, які захліснуў савецкі кінематограф напачатку 1980-х гг.

Кінарэжысёр М. Пташук так апісвае працу тагачаснай сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі Дзяржкіно СССР. «У самым цэнтры Масквы ёсць знакаміты асабняк, у якім яшчэ з трыццатых гадоў зацвярджаліся сцэнары, прызначаліся на пастаноўку

рэжысёры — вырашаўся лёс усяго савецкага кіно. На чацвёртым паверсе ў маленькай душнай глядзельнай зале збіралася кіраўніцтва Дзяржаўнага камітэта па кінематаграфіі і члены Галоўнай сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі Дзяржкіно СССР. Кожны займаў свае любімае ў гэтай зале месца, і яны, як мышы, чакалі, калі зойме свае месца старшыня альбо ягоны намеснік — тады пачынаўся прагляд фільма. Рэжысёру адводзілася месца ў куце, ля пульта. Яму казалі, калі зрабіць гучней, а калі цішэй. Падчас прагляду ніхто не перагаворваўся, усе мелі пры сабе блакнот і маленькі ліхтарык, каб па ходу прагляду запісваць заўвагі. Усе сцэнары, якія былі ў запуску на студыях краіны, работнікі Камітэта ведалі на памяць, таму што сцэнары і рэжысёры зацвярджаліся імі...

Сцэнар так фільтраваўся, што ад яго амаль нічога не заставалася. Пісалася некалькі варыянтаў, і па кожным варыянце прымаліся рашэнні, пісалася заключэнне за подпісам адказнага рэдактара Галоўнай сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі Дзяржкіно СССР, накіроўвалася ў рэспубліку, дзе меўся такі ж Камітэт па кінематаграфіі з уласнай Галоўнай сцэнарна-рэдакцыйнай калегіяй, — тут прымалася рашэнне па атрыманым з Масквы заключэнні, і толькі тады накіроўвалася на студыю, і рэжысёр мог з ім пазнаёміцца» [14, с. 96].

Другі славуты беларускі кінарэжысёр І. Дабралюбаў падлічыў, што, каб здаць мастацкі фільм у эпоху «застою», трэба было прайсці 13 інстанцый — «рэдакцыйны савет, мастацкі савет, іншыя саветы,

сцэнарная калегія Дзяржкіно БССР, ЦК КПБ, Дзяржкіно СССР...» [5, с. 224].

У апошні перыяд існавання Галоўліта БССР за прадукцыю кінастудыі «Беларусьфільм» у ім адказваў Б. А. Сіланцьеў. Цэнзар Галоўліта па прадукцыі «Беларусьфільма» адносіўся да групы папярэдняга кантролю. У яго кампетэнцыю ўваходзіла прадукцыя вытворчага аб’яднання «Летапіс», якое штогод выпускала каля 100 фільмаў — кіначасопісы, хранікальныя і навукова-папулярныя стужкі. Б. А. Сіланцьеў праглядаў мантажныя аркушы і гатовыя фільмы (прыкладна 50 тыс. метраў кінаплёнкі штогадова), пасля чаго падпісваў іх у пракат. Калі меркаваўся агульнасаюзны пракат, то пасля мінскай цэнзуры карціну праглядала яшчэ і маскоўская. Найбольш клопату цэнзару давалі фільмы пра работу прамысловасці, здабычу карысных выкапняў, нафты, дзе канкрэтныя лічбы замянялі прыблізнымі. Сцэнары мастацкіх фільмаў Б. А. Сіланцьеў чытаў толькі з мэтай выяўлення парушэнняў, якія значыліся ў «Пераліку звестак...» [95].

Дакументалістыку таксама трымала ў полі зроку кіраўніцтва галіны. 22 сакавіка 1968 г. выйшла пастанова Дзяржкіно БССР «Аб узмацненні кантролю над выкананнем у працэсе здымак фільмаў ідэйнай і мастацкай канцэпцыі сцэнараў на Мінскай кінастудыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў». Афіцыйна гэтая пастанова была накіравана супраць «выпадковых здагадак», што скажалі сэнс задуманага сцэнара і фільма, а насамрэч

яе мэтай было ўзмацненне кантролю над працай беларускіх рэжысёраў-дакументалістаў [76, арк. 59].

У 1969 г. мастацкі савет «Беларусьфільма» прыняў, але забараніў паказ на шырокім экране дакументальнага фільма «Маршрут 13» (рэж. І. Гаско), які быў прысвечаны першаму беларускаму рок-фестывалю, што адбыўся ў Мінску ў 1968 г. (у 1977 г. негатыў фільма ўвогуле змылі). Фільму не пашанцавала, бо здымаць яго пачалі да пачатку падзей у Чэхаславакіі, а здавалі мастацкаму савету ўжо пасля іх.

Пачатак 1970-х гг. характарызаваўся павышанай увагай цэнзуры да кінапрадукцыі. У 1971 г. Галоўліт БССР выявіў на студыі «Беларусьфільм» грубыя парушэнні ўстаноўленага парадку яе афармлення (не прадстаўляліся на кантроль мантажныя аркушы фільмаў, рабіліся дапаўненні і змены ва ўжо дазволеныя кінасцэнары і інш.). Начальнік Галоўліта паведаміў пра гэта старшыні Дзяржкіно БССР, які неўзабаве выдаў загад аб строгім выкананні ўсталяванага парадку прадстаўлення матэрыялаў на кантроль. Тады ж старшыня Дзяржкіно БССР атрымаў ад А. А. Маркевіча інфармацыю пра выпадкі дэманстрацыі на кінаэкранах Мінска фільмаў аматарскіх студый без папярэдняга іх прадстаўлення на кантроль у Галоўліт [50, арк. 19–20].

Нягледзячы на намаганні кіраўніцтва кінагаліны рэспублікі па наладжванні кантролю за ўласнай прадукцыяй, ужо праз два гады Галоўліт БССР зноў выявіў грубыя парушэнні ўстаноўленага парадку

афармлення фільмаў на кінастудыі «Беларусьфільм». Не прадстаўляліся на кантроль змены і дапаўненні ў дазволеныя да вытворчасці сэнары, меліся выпадкі ўключэння ў мастацкія фільмы кадраў, знятых з паветраных апаратаў без адпаведнага дазволу. На гэты раз старшыня Дзяржкіно БССР не абмежаваўся строгім загадам. Была праведзена нарада рэдактараў і дырэктараў фільмаў з удзелам прадстаўнікоў Галоўліта. У выніку палітыкі «закручвання гаек» напачатку 1970 гг. беларускую кінастудыю пакінулі таленавітыя дакументалісты У. Скітовіч і М. Хубаў. На студыі «Летапіс» забаранілі вытворчасць поўнаметражнай стужкі І. Калоўскага і А. Адамовіча пра Хатынь.

У справаздачы маскоўскаму кіраўніцтву за 1969 г. А. А. Маркевіч з неспакоем адзначаў, што «ў апошні час павялічыліся выпадкі прадстаўлення фільмаў кінастудыяй "Беларусьфільм" на кантроль без папярэдняга ўзгаднення з ваеннай цэнзурай» [48, арк. 15]. Вось як узгадвае працу ваеннага цэнзара рэжысёр І. Дабралюбаў: «Нягледзячы на тое, што кансультантам фільма, прысвечанага лётчыкам-знішчальнікам "Таму што люблю" быў маршал авіяцыі М. С. Скрыпка, да мяне прыйшоў узброены нажніцамі чыноўнік з ваеннай цэнзуры з засаленымі на локцях рукавамі... сеў і вельмі спрытна, прафесійна стаў рэзаць гатовую карціну прама на маіх вачах. Сэрца мае скаланулася:

– А... а... А сюжэт!?

– Што-небудзь прыдумаеце.

Здавалася, мяне аперыруюць: адразаюць руку, нагу, галаву. Я не вытрымаў і сышоў. Ён павольна дарэзаў усё, што хацеў, я толькі паглядзеў потым што засталося — скласці з гэтага нават прыблізна добрую карціну было немагчыма» [5, с. 148].

Паралельна з актывізацыяй дзейнасці Галоўліта, ваеннай цэнзуры, а таксама прэвентыўнага цэнзурнага кантролю Дзяржкіно, узмацнілася ўвага да кінапрадукцыі партыйнага кіраўніцтва, якое папранейшаму валодала правам апошняга слова, альбо звышцэнзуры. Ужо ў студзені 1970 г. загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцэлеў звяртаў увагу першага сакратара ЦК П. М. Машэрава на выступленне на IV пленуме праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР дырэктара кінастудыі «Беларусьфільм» В. Э. Іваноўскага. На думку С. В. Марцэлева, апошні не здолеў патлумачыць прычыны таго, чаму «студыя панесла маральныя выдаткі, выпусціўшы такія слабыя фільмы, як “Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка”, “Дзясятая доля шляху”, “Сатвары бой”, “Чакай мяне, Ганна”» [48, арк. 42].

Дакументальны фільм Ю. Лысятава «Бацькоўскае поле», дзе асцярожна ўздымаліся сацыяльныя праблемы вёскі, напрыклад масавы ад’езд моладзі ў горад, на афіцыйнай здачы быў прызнаны шкодным. Фільм паслалі на экспертызу віцебскаму партыйнаму кіраўніцтву (здымкі праводзіліся на Віцебшчыне), і тое нечакана яго падтрымала. Неўзабаве фільм падтрымаў П. М. Машэраў, і толькі пасля гэтага ён

выйшаў на экраны [99]. П. М. Машэраў выступаў арбітрам у спрэчках паміж рэжысёрам І. Дабралюбавым і загадчыкам аддзела культуры ЦК КПБ І. І. Антановічам падчас здымак карціны «Трэцяга не дадзена», прысвечанай партызанскаму камандзіру В. З. Каржу.

Увесну 1977 г. у Мінску адбыўся прэм’ерны закрыты паказ фільма Л. Шапіцькі «Узыходжанне» па аповесці В. Быкава «Сотнікаў». На паказ з’явіўся П. М. Машэраў, які ведаў, што да фільма рэзка адмоўна ставіцца сакратар Маскоўскага гаркама КПСС В. В. Грышын. Калі пасля заканчэння фільма ў зале ўключылі святло, дык заплаканы беларускі кіраўнік кінуўся цалаваць рэжысёрку: «Як жа Вы, такая маладая дзяўчына, як жа Вы здолелі?.. Так дакладна ўсё адчулі, убачылі, паказалі нас, партызан...» [16, с. 436].

Праз некалькі гадоў пасля публікацыі аповесці У. Караткіўча «Дзікае паляванне караля Стаха» на хвалі яе шалёнай папулярнасці ў 1979 г. рэжысёр В. Рубінчык зняў па матывах аповесці фільм-прытчу. Каб дагадзіць цэнзарам, У. Караткевічу і В. Рубінчыку давялося неаднойчы рэдагаваць сцэнар. У выніку шматлікіх пераробак фільм атрымаўся не столькі экранізацыяй караткевічаўскай аповесці, колькі самастойным мастацкім творам В. Рубінчыка. У ім была парушана храналогія падзей, дададзены «экшн», прыбраны нацыянальны каларыт і маналогі цэнтральнага персанажа аб нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. І тым не менш пасля прагляду

фільма ў закрытай кіназале ЦК КПБ у снежні 1979 г. змрочны П. М. Машэраў устаў і рэзюміраваў: «Крок назад у беларускім кіно» [100].

Неўзабаве пасля смерці галоўны кінаглядач рэспублікі сам зрабіўся аб’ектам цэнзурнай забароны. Па загадзе партыйных органаў, дакументальны фільм пра пахаванне першага сакратара ЦК КПБ П. М. Машэрава быў пакладзены на паліцу. Камусьці наверсе паказ народнай любові да яго прыйшоўся не даспадобы.

Многія важныя беларускія кінапраекты 1970–80-х гг. былі спынены цэнзурай ужо на ўзроўні сцэнарных распрацовак. Так, у 1973 г. Дзяржкіно СССР не дазволіла запуск кінасцэнара «Двое ў ночы», напісанага В. Быкавым па аповесці «Сотнікаў» па прапанове І. Дабралюбава. У прыватнасці, сталічных кінацэнзараў не задаволіў персанаж паліцая з украінскім прозвішчам Тарасюк, бо ўжо быў адмоўны персанаж з украінскім прозвішчам — Стась Гаманюк (у самой аповесці «Сотнікаў» гэта праглядзелі). Нават пасля перапрацовак і скарачэнняў Дзяржкіно СССР не ўхваліла сцэнар, які быў «не пра Вялікую Айчынную вайну, а пра грамадзянскую вайну падчас Вялікай Айчыннай вайны» [98, с. 165–181].

У сярэдзіне 1980-х гг. кінарэжысёры Ул. Арлоў і В. Рубінчык напісалі сцэнар двухсерыйнага мастацкага фільма «Групавы партрэт з нябожчыкам-імператарам». Гэта была фантазія-рэканструкцыя падзей лета 1822 г., калі ў бабруйскую крэпасць

прыехаў Аляксандр I, а будучыя дзекабрысты, падрыхтаваўшы ягоны арышт з мэтаю ўвядзення напісанай ужо канстытуцыі, у апошні момант не здолелі ажыццявіць задуманае. Рэзалюцыя беларускага кінаначальства была безапеляцыйнай: «Мы чакалі сцэнара пра рэвалюцыянераў, а вы напісалі пра ваганні і комплексы дваран-арыстакратаў» [1, с. 33].

Дзіцячае кіно прыцягвала ўвагу цэнзараў не менш за дарослае. І. Дабралюбаў наступным чынам узгадваў, як у Маскве прымалі яго дзіцячы фільм «Іван Макаравіч»: «Ім не падабалася, што галоўны герой спявае “Песню пра трохкутнік” Высоцкага. У рэдактуры Дзяржкіно СССР нам патлумачылі: “Значыцца, так. З’язджайце дамоў у Мінск, выражце гэтую сцэну і выразаную частку прывязіце, тады будзем далей весці размову”» [5, с. 125]. Дзіцячы фільм кінарэжысёра Л. Мартынюка «Сямейныя абставіны» па аповесці А. Ліханава «Падман» выйшаў вузкім пракатам з грыфам «Педагогам — толькі для спецыяльных сеансаў» [11]. Паклалі на паліцу дакументальны фільм М. Жданоўскага па сцэнары І. Пісьменнай і Р. Раманава — у ім былі зняты пяцікласнікі адной з мінскіх школ, якія разважалі на ўроку пра катэгорыі свабоды і нявольніцтва [13, с. 32–33].

Новы перыяд развіцця савецкага кіно вызначыў V з’езд кінематаграфістаў СССР, які адбыўся ў маі 1986 г. Адпаведна аднаму з яго рашэнняў, пры Саюзе кінематаграфістаў СССР паўстала канфліктная

камісія, якая распачала разгляд «палічных» фільмаў і выпуск іх у пракат. Усе пацярпелыя карціны падзяляліся на безумоўна забароненыя, скалечаныя цэнзарскімі нажніцамі і фільмы фармальнага пракату, што атрымалі мізэрны тыраж копій. Члены камісіі па кожным фільме рыхтавалі заключэнне, якое перадавалася на разгляд у Дзяржкіно СССР, а калі забарона сыходіла з ЦК КПСС, дык патрабавалася ўзгадненне «на самым версе». За чатыры гады працы канфліктная камісія вярнула гледачу каля 250 карцін, адыграўшы, такім чынам, важную ролю ў дэмантажы інстытута кінацэнзуры. Сярод гэтых карцін быў фільм «Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка».

Аднак у кінавытворчасці ідэалагічны дыктат шматузроўневай цэнзурнай машыны захоўваўся. Так, у 1986 г. пасля вердыкту сакратара ЦК КПБ М. М. Слюнькова «У падобным выглядзе народу паказваць нельга» на студыі быў знішчаны матэрыял першага беларускага дакументальнага фільма пра катастрофу на ЧАЭС «Будні трывожнай зоны», зняты аператарам А. Алаем. Аўтары фільма былі абвінавачаны ва ўклоне ў трагедыйны бок, адсутнасці сацыяльнага аптымізму. Неўзабаве па замове высокапастаўленага крытыка выйшла «сацыяльна аптымістычная» карціна пра аварыю на ЧАЭС «Разам і кожны» [96, с. 26–27].

Тым не менш у супрацьстаянні «цэнзар — творца» ў той час усё часцей перамагаў апошні. Перамог цэнзуру М. Пташук, зняўшы ў 1986 г. фільм па

аднайменнай аповесці В. Быкава «Знак бяды». Вось як перадае цэнзурную гісторыю гэтай карціны сам В. Быкаў: «Сьпярша быццам усё ішло добра, амаль прымальна, наколькі тады мог быць прымальным савецкі фільм. Пташук неяк умудрыўся здаць яго без вялікіх стратаў, карціну адправілі ў Кіеў на кінафабрыку рабіць копіі для пракату. Здымачная група была распушчана, фінансаваньне спынена. І тады Пташука тэрмінова выклікае загадчык аддзелу культуры ЦК КПБ Іван Іванавіч Антановіч, а разам і аўтара аповесьці. Антановіч даволі нэрвова пачынае даводзіць, што фільм трэба тэрмінова перарабляць. Пташук упарціцца — няма як і няма каму. Антановіч амаль у роспачы. “Вы разумееце, то ўказаньне “второго лица в государстве”... — “А я не магу і ня буду...” — “Тады вам не працаваць на кінастудыі”. — “Ну што ж, маю правы, пайду баранку круціць”. Доўга Антановіч уламваў Пташука, апеляваў да аўтара. Але трэба аддаць належнае гэтаму рэжысэру — той стаяў, бы скала» [2, с. 294]. Працягам гэтай гісторыі быў выклік М. Пташука ў Маскву да сакратара ЦК КПСС па ідэалогіі Я. К. Лігачова, які прапанаваў скараціць маналогі гераіні пра прадстаўнікоў савецкай ўлады, а таксама сцэны калектывізацыі. Урэшце спатрэбілася асабістае ўмяшальніцтва М. С. Гарбачова, каб фільм «Знак бяды» выйшаў на экраны [14, с. 40].

Умяшальніцтва Р. М. Гарбачовай выратавала фільм М. Пташука «Наш бранepoезд» (1988 г.), які рэжысёр зняў па сцэнары Я. Грыгор’ева. Гэты сцэнар,

напісаны ў 1966 г., з-за сюжэта, які выносіў прысуд сталінскай сістэме, праляжаў «у шуфлядзе» два дзесяцігоддзі і зноў напалохаў цэнзараў у часы перабудовы [14, с. 97].

Мастацкі фільм В. Рыбарава «Мяне клічуць Арлекіна» не прымалі з-за дзвюх сцэн, знятых з надзвычайнай для савецкага гледача шчырасцю. Аднак рэжысёр не саступіў ні кадра і адстаяў уласную версію фільма [92].

Ідэю другога вядомага беларускага рэжысёра-дакументаліста А. Рудэрмана зняць фільм, прысвечаны стагоддзю М. Шагала ў 1987 г., забракавалі на ўзроўні сцэнарнай заяўкі. Тым не менш фільм пра М. Шагала пад назвай «Тэатр часоў перабудовы і галоснасці» А. Рудэрман усё ж зняў. Яго сюжэт рэжысёр прапусціў праз гісторыю звальнення супрацоўніцы Беларускай энцыклапедыі, якая запярэчыла змяшчэнню непісьменнага артыкула пра М. Шагала. На этапе мантажу карціны на «Беларусьфільме» па загадзе зверху матэрыялы адабралі. Але рэжысёр скраў іх са склада кінастудыі і адвёз на I Усесаюзны фестываль неігравога кіно, дзе карціна ўзяла адно з прызавых месцаў. У канфлікце цэнзуры з аўтарам на баку апошняга выступіла канфліктная камісія Саюза кінематаграфістаў СССР, у яго падтрымку выйшла больш за 50 публікацый у друку, але мастацкі савет «Беларусьфільма» яе так і не прыняў. З беларускай кінастудыяй А. Рудэрману давялося развітацца. Астатнія фільмы рэжысёра, прысвечаныя розным постацям найноўшай

беларускай гісторыі, — «Сустрэчны іск» (1989 г.) і «Чалавек на трыбуне» (1990 г.), — здымаліся ўжо па замове і пры фінансавай падтрымцы іншых студый [6].

Цэнзурны лёс поўнаметражнага дакументальнага фільма «Боль», знятага ў 1988 г. на «Беларусьфільме» рэжысёрам С. Лук'янчыкавым, нагадваў лёс фільма «Тэатр...» А. Рудэрмана. С. Лук'янчыкаў таксама паказаў свой фільм, прысвечаны вайне ў Афганістане, на І Усесаюзным фестывалі неігравога кіно, спрабаваў знайсці падтрымку ў змаганні з беларускай цэнзурай у канфліктнай камісіі Саюза кінематаграфістаў СССР, у друку. Аднак фільм «Боль», дзе «пісьменнік А. Адамовіч праводзіць ідэі пацыфізму, а святар В. Радамысльскі ўсхваляе маральнасць царквы», катэгарычна не ўспрыняў аддзел культуры ЦК КПБ. Па яго ініцыятыве фільм асудзіла як «безыдэйны і шкодны» кіраўніцтва Беларускага рэспубліканскага савета ветэранаў вайны і працы. 25 жніўня 1988 г. ў газеце «Звязда» з'явілася падборка негатыўных водгукаў пра фільм пад назвай «Праўда аб Афганістане». Нарэшце, пасля тлумачальнай работы прадстаўніка беларускага партыйнага кіраўніцтва, Дзяржкіно СССР вымушана было адазваць уласны дазвол на паказ фільма шырокім экранам [64, арк. 129–138].

Не быў прыняты Дзяржкіно БССР і фільм рэжысёра-дакументаліста М. Жданоўскага «Ёсць у горада душа» (1987 г.) пра барацьбу моладзі на чале з навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН

БССР З. С. Пазняком за захаванне гістарычнага цэнтра Мінска. Партыйнае кіраўніцтва рэспублікі патрабавала выкінуць з фільма ўспаміны З. С. Пазняка пра мастака Л. Баразну. Тым не менш карціну прынялі ў Дзяржкіно СССР у Маскве, дзе не ведалі беларускай нацыянальнай спецыфікі. Сітуацыя змянялася вельмі хутка. Не менш востры фільм М. Жданоўскага «Дарога на Курапаты» ў 1990 г. ужо не сустрэў перашкод з боку чыноўнікаў Дзяржкіно БССР, якое да таго часу пераўтварылася ў нешматлікае па штаце ўпраўленне Міністэрства культуры рэспублікі [13, с. 32–33].

---

62 На той жа год быў запланаваны запуск на «Беларусьфільме» яшчэ аднаго шэдэўра — поўнаметражнага мастацкага фільма «Грунвальдская бітва».

63 У пасляваенным Мінску ля ўваходу ў кожны з трох кінатэатраў перад пачаткам сеансу заставалася па 200–300 чалавек, якім не хапіла білетаў (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 47. Спр. 100. Арк. 70.).

64 У сталінскую эпоху «паліцы» не існавала, што тлумачылася моцным ідэалагічным кантролем за запускам карцін у вытворчасць, асабліва пасля дырэктыўнага ліста Сталіна старшыні Галоўнага ўпраўлення кінафотапрамысловасці Б. З. Шумяцкаму адносна зацвярджэння сцэнараў, датаванага сакавіком 1937 г. Калі ў фільме ўсё ж знаходзілі ідэалагічныя хібы, яго копіі фізічна знішчаліся.

# Літаратура


1. Арлоў, У. А. Магія белага экрана / У. А. Арлоў. — Мінск: Беларусь, 2002. — 351 с.
2. Быкаў, В. Доўгая дарога дадому / В. Быкаў. — Мінск: ГА БТ «Кніга». — 2003. — 366 с.
3. Віктар Тураў: «Пра сяброўства з Высоцкім я маўчаў шаснаццаць гадоў...» / Гутарку вёў Б. Крэпак // Культура. — 1996. — 19–25 ліст.
4. Владимир Высоцкий в кино / Сост. И. И. Роговой. — М.: Всесоюзн. твор.-произв. об-ние «Киноцентр», 1990. — 224 с.
5. Добролюбов, И. М. Осколки памяти / И. М. Добролюбов. — Минск: Харвест, 2006. — 256 с.
6. Златковская, Н. На семи ветрах / Н. Златковская // Знамя юности. — 1990. — 17 апр.
7. Казмерчук, В. Дилетантам от музыки — от ворот поворот / В. Казмерчук // Советская Белоруссия. — 1984. — 2 окт.
8. Колас, Г. Аўтографы Андрэя Макаёнка / Г. Колас. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1992. — 285 с.
9. Ладыгина, А. Слушая тринадцатую симфонию / А. Ладыгина // Советская Белоруссия. — 1963. — 2 апр.
10. Лебедев, В. Невероятные музыкальные истории // Чайка. — 2005. — 21 янв. — № 2 (37). [Электронны рэсурс]. URL: http://www.chayka.org/node/561. (дата звароту: 10. 01. 2014.)
11. Леонид Мартынюк: «Я чувствую, что еще могу что-то сделать для белорусского кино» [Беседовала А. Соусь] // Народная воля. — 1998. — 9 кастр.
12. Мальдзіс, А. І. Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча. Партрэт пісьменніка і чалавека / А. І. Мальдзіс. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. — 230 с.
13. Міхаіл Жданоўскі: «Дэвізаў не пісаў...». Гутарку вяла Ала Бабкова // Беларусь. 1995. — № 9.
14. Михаил Пташук: Исповедь кинорежиссёра. Сценарий художественного фильма. Публикации. Воспоминания / Ред.-сост. Л. М. Пташук. — Минск: Мастацкая літаратура, 2004. — 366 с.
15. Молочко, Е. Судьба человека — трагедия режиссёра / Е. Молочко [Интервью с Борисом Луценко] // Советская Белоруссия. — 1998. — 17 окт.
16. Мы — шестидесятники: Статьи / А. Адамович. — М.: Сов. писатель, 1991. — 478 с.

17. НАРБ. — Ф. 4п. — Воп. 47. — Спр. 65.
18. Там жа. — Спр. 66.
19. Там жа. — Спр. 84.
20. Там жа. — Спр. 99.
21. Там жа. — Спр. 100.
22. Там жа. — Спр. 142.
23. Там жа. — Спр. 144.
24. Там жа. — Спр. 157.
25. Там жа. — Спр. 158.
26. Там жа. — Спр. 160.
27. Там жа. — Спр. 176.
28. Там жа. — Спр. 178.
29. Там жа. — Спр. 195.
30. Там жа. — Спр. 266.
31. Там жа. — Спр. 228.
32. Там жа. — Спр. 308.
33. Там жа. — Спр. 367.
34. Там жа. — Спр. 386.
35. Там жа. — Спр. 429.
36. Там жа. — Спр. 470.
37. Там жа. — Спр. 471.
38. Там жа. — Спр. 496.
39. Там жа. — Спр. 641.
40. Там жа. — Спр. 647.
41. Там жа. — Воп. 62. — Спр. 32.
42. Там жа. — Спр. 219.
43. Там жа. — Спр. 469.
44. Там жа. — Спр. 534.
45. Там жа. — Спр. 561.
46. Там жа. — Спр. 562.
47. Там жа. — Спр. 624.
48. Там жа. — Спр. 743.
49. Там жа. — Спр. 763.
50. Там жа. — Спр. 783.
51. Там жа. — Воп. 72. — Спр. 5.
52. Там жа. — Спр. 7.
53. Там жа. — Воп. 81. — Спр. 2207.
54. Там жа. — Спр. 2454.
55. Там жа. — Воп. 116. — Спр. 3.
56. Там жа. — Спр. 6.

57. Там жа. — Спр. 11.
58. Там жа. — Спр. 15.
59. Там жа. — Спр. 23.
60. Там жа. — Воп. 119. — Спр. 67.
61. Там жа. — Воп. 150. — Спр. 47.
62. Там жа. — Воп. 156. — Спр. 162.
63. Там жа. — Спр. 258.
64. Там жа. — Спр. 493.
65. Там жа. — Ф. 799. — Воп. 1. — Спр. 19.
66. Там жа. — Спр. 47.
67. Там жа. — Спр. 177.
68. Там жа. — Спр. 227.
69. Там жа. — Спр. 301.
70. Там жа. — Спр. 303.
71. Там жа. — Спр. 420.
72. Там жа. — Ф. 969. — Воп. 3. — Спр. 154.
73. Там жа. — Спр. 158.
74. Там жа. — Спр. 160.
75. Там жа. — Спр. 203.
76. Там жа. — Спр. 206.
77. Там жа. — Ф. 974. — Воп. 2. — Спр. 183.
78. Там жа. — Спр. 334.
79. Там жа. — Спр. 1583.
80. Там жа. — Ф. 1195. — Воп. 1. — Спр. 72.
81. Там жа. — Спр. 118.
82. Там жа. — Ф. 1195. — Воп. 2. — Спр. 33.
83. Там жа. — Спр. 38.
84. Там жа. — Спр. 44.
85. Там жа. — Спр. 50.
86. Там жа. — Спр. 63.
87. Там жа. — Спр. 74.
88. Там жа. — Спр. 86.
89. Нефед, Вл. Для кого существует театр / Вл. Нефед // Советская культура. — 1978. — 26 мая.
90. Нісневіч, І. Неапраўданае эксперыментатарства / І. Нісневіч // Літаратура і мастацтва. — 1955. — 14 мая.
91. Павленок, Б. В. Кино. Легенды и быль: Воспоминания. Размышления / Б. В. Павленок. — Москва: «Галерия», 2004. [Электронны рэсурс]. URL:

http:/www.lib.ru/MEMUARY/PAWLENOK/kino.txt (дата звароту: 10. 01. 2014.)

92. Рабарев, В. «Без этого я погибну» [Беседу велаЕ. Супрунова] / В. Рыбарев // Заря. — 1988. — 2 июля.

93. Ракіцкі, В. «Фенамен Раеўскага»? / В. Ракіцкі // Літаратура і мастацтва. — 1989. — 7 ліп.

94. Скараход, Я. Цяжкая ноша рэжысёрская / Я. Скараход // Літаратура і мастацтва. — 1999. — 29 студз.

95. Силантьев, Б. А. 20 лет в Главлите / Б. А. Силантьев // 7 дней. — 2003. — 11 янв., 8 февр.

96. Улевич, О. Режиссер-кинодокументалист Анатолий Алай: От сьемок в Чернобыле меня отстранили и вычли деньги за пленку / О. Улевич // Комсомольская правда в Белоруссии. — 2007. — 8 марта.

97. Цыбін, Ю. Дыяпазон папулярнасці / Ю. Цыбін // Чырвоная змена. — 1984. — 2 снеж.

98. Шапран, С. «Кіно — мастацтва калектыўнае...» Драматычны кінадраматургічны лёс Васіля Быкава / С. Шапран // Дзеяслоў. — 2011. — № 4 (53). — С. 165–181.

99. Як у жыцці ці як у кіно [Гутарка кар. Т. Антонавай з засл. дзеяч. мастац. БССР, лаўрэатам Дзярж. прэміі рэсп-кі Ю. Лысятавым] // Голас Радзімы. — 1989. — 12 студз.

100. Якубович, П. Неужели дикая охота короля Стаха бессмертна? / П. Якубович // Народная газета. — 1993. — 15 студз.

101. Ярмалінская, В. М. «Брава, Віктар!..»: Нарыс жыцця і творчасці народнага артыста СССР, акцёра Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы В. Тарасава / В. М. Ярмалінская. — Мінск: «Мастацкая літаратура»: «Філ Сервплюс», 1999. — 96 с.

Насамрэч, не гісторыя належыць нам,<br>а мы належым гісторыі.<br>*Ханс Георг Гадамер, нямецкі філосаф*

## Дакумент

Не ўсе дакументы падлягаюць вечнаму захоўванню. Тое, што не ўяўляе цікавасці для гісторыі, знішчаецца. Адбор матэрыялаў на захоўванне і на знішчэнне (экспертыза каштоўнасці дакументаў) з’яўляецца часткай руціннай працы архівістаў, якая сёння абапіраецца на адпаведную навуковую нарматыўна-метадычную базу. У СССР палітычныя і гаспадарчыя задачы часта пераважалі над навуковымі ў працэсе фарміравання Дзяржаўнага архіўнага фонду. Умяшальніцтва партыйных і ўрадавых структур у працэс экспертызы каштоўнасці архіўных дакументаў, у прыватнасці правядзенне прымусовых макулатурных кампаній у 1920–1930-х гг., нанесла непапраўную шкоду крыніцавай базе гістарычнай навукі. Кола камплектавання дакументаў звужалі не толькі палітычныя ўстаноўкі, але таксама магчымасці атрымаць дадатковы прыбытак. Макулатурныя кампаніі ў архівах прыпыніліся пасля перадачы апошніх у падпарадкаванне НКУС у 1938 г.

Тым не менш і ў пасляваенныя дзесяцігоддзі масавае знішчэнне архіўных папер працягвалася, што з аднаго боку суправаджалася назапашваннем у архіўных фондах не заслугоўваючых даверу, ідэалагізаваных дакументаў, з другога — масавым неабгрунтаваным засакрэчваннем фондаў [103, с. 71].

На працягу нямецкай акупацыі 1941–1944 гг. з Беларусі было вывезена альбо знішчана каля 15 млн архіўных спраў. Пацярпелі ўсе будынкі дзяржаўных

архіваў, а таксама навукова-даведачны апарат да большасці фондаў. У студзені 1944 г. СНК БССР прыняў рашэнне аб узнаўленні дзейнасці дзяржаўных архіваў і забеспячэнні захаванасці дакументальных матэрыялаў. Узнаўленне дзейнасці архіўных установ адбывалася пад кіраўніцтвам Упраўлення дзяржаўнымі архівамі НКУС (з сакавіка 1946 г. — МУС) БССР. Пры абласных упраўленнях НКУС узнаўляліся архіўныя аддзелы, у абласных гарадах — архівы абласцей. Аднавілі сваю дзейнасць цэнтральныя архівы: Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі (ЦДАКР) БССР, Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў (ЦДГА) у Магілёве і Гродне, а таксама Цэнтральны дзяржаўны архіў кінафотадакументаў (ЦДАКФД) БССР. Дзякуючы намаганням беларускіх архівістаў у рэспубліку вярнуліся амаль усе фонды, якія здолелі эвакуіраваць углыб краіны, а таксама больш мільёна спраў, якія вывезлі ў Германію. ЦДАКР і абласныя архівы прынялі на захаванне дакументы акупацыйных установ. Да канца 1950-х гг. у структуру Дзяржаўнай архіўнай службы рэспублікі ўваходзіла, акрамя 4 цэнтральных архіваў, 6 абласных з двума філіяламі ў Маладзечне і Пінску, 8 гарадскіх (у Баранавічах, Бабруйску, Барысаве, Лідзе, Мазыры, Оршы, Полацку, Слуцку) і 161 раённы. На 1 студзеня 1945 г. у архівах БССР налічвалася ўжо 4 млн спраў [3, с. 170].

Нягледзячы на вялікую працу, якая праводзілася беларускімі архівістамі па аднаўленні архіўных

фондаў, ва ўмовах функцыянавання ў структуры карнага ведамства завяршыўся працэс поўнага падпарадкавання ўсёй архіўнай сістэмы таталітарнаму рэжыму. Гэта праявілася не толькі ў засакрэчванні і адабранні з грамадскага карыстання значных комплексаў архіўных дакументаў. Яшчэ падчас баявых дзеянняў у СССР былі ўзноўлены макулатурныя кампаніі, якія не абмінулі беларускія архівы. Як і ў даваенны час, у экспертызе каштоўнасці асноўны акцэнт рабіўся на знішчэнні, а не адборы дакументаў на сталае захаванне.

4 жніўня 1944 г. СНК СССР прыняў пастанову, паводле якой усе прадпрыемствы і ўстановы краіны абавязваліся здаваць утыль і прамысловыя адходы канторам «Утыльсыравіна». Гэта тычылася таксама архіўнага ўпраўлення НКУС СССР. Адпаведна загаду маскоўскага кіраўніцтва, які паступіў начальніку архіўнага ўпраўлення НКУС БССР капітану А. І. Азараву ў сакавіку 1946 г., патрабавалася наладзіць здачу макулатуры беларускай канторы «Утыльсыравіна» па кошце 80 рублёў за тону дакументальных матэрыялаў, якія не падлягалі захаванню [42, арк. 26].

Усю працу па навуковай экспертызе каштоўнасці дакументальных матэрыялаў, якія не падлягалі захаванню ў дзяржаўных і ведамасных архівах, ажыццяўляла экспертна-праверачная камісія Архіўнага ўпраўлення. У 1946 г. было зацверджана на ўтылізацыю 30 спісаў дакументаў. Ва ўтыль тады здалі матэрыялы справаводства заходнебеларускіх і

нямецкіх акупацыйных устаноў, а таксама справы вязняў ГУЛАГа, якія падпалі пад амністыю 7 ліпеня 1945 г. [41, арк. 11–12].

У 1947 г., акрамя экспертна-праверачнай камісіі Архіўнага ўпраўлення, падобныя камісіі пачалі працаваць пры архіўных аддзелах абласных упраўленняў МУС і ў буйнейшых архівах. Некаторыя пасяджэнні камісій мелі сакрэтны характар. У 1947 г. былі зацверджаны спісы на ўтылізацыю асобных справаводчых дакументаў, кніг, улётак з фондаў акупацыйных устаноў і арганізацый (Генеральны камісарыят Беларусь, Мінскі акруговы камісарыят, гандлёвае таварыства «Усход», Саюз беларускай моладзі, Беларуская народная самапомач і інш.), справаводчай дакументацыі дзяржаўных устаноў БССР даваенага часу, абласных спажывецкіх саюзаў за 1944–1945 гг. і інш. [43, арк. 45].

У 1948 г. экспертна-праверачныя камісіі зацвердзілі на спісанне ў макулатуру пасляваеннае справаводства НКУС, Прамкаапрацыі, Асавіяхіма, інтэнданцкіх упраўленняў Заходняга фронту, 3-га Беларускага фронту, аддзела моладзі ўсходняга міністэрства нацысцкай Германіі, а таксама больш 12 тыс. экзэмпляраў нямецкіх кніг, газет, часопісаў, улётак і каля 6,5 тыс. фотаздымкаў [44, арк. 50]. У 1949 г. спісалі матэрыялы прадпрыемстваў, арганізацый і вайсковых частак. У ЦДАКР БССР знішчылі дакументы з фондаў наркаматаў БССР, трэстаў, сіндыкатаў і іншых прамысловых аб’яднанняў. У ЦДГА БССР — дакументы з фондаў

устаноў былой Віцебскай губерні (канцэлярыі цывільнага губернатара, губернскага праўлення, сялянскага банка). У Гомельскім абласным архіве — справы судовых устаноў. У 1949 г. таксама ўтылізавалі дакументы місіі ААН–ЮНРРА ў БССР, палітупраўлення БВА, упраўлення Гідраметэаслужбы БССР. Па-ранейшаму знішчалася літаратура, выдадзеная ў часы нямецкай акупацыі [45, арк. 25–27].

У дакладной сакратару ЦК КП(б)Б М. В. Зімяніну, датаванай 1949 г., міністр унутраных спраў БССР С. С. Бельчанка паведамляў, што на працягу першага пасляваеннага пяцігоддзя «ў справе ўзнаўлення і развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі дакументы архіваў далі эканомію каля трох мільёнаў рублёў» [17, арк. 23].

У наступнае дзесяцігоддзе масавае знішчэнне архіўных дакументаў працягнулася і дасягнула свайго апагею падчас хрушчоўскіх адміністрацыйна-гаспадарчых рэарганізацый канца 1950-х гг. Да гэтага часу высветлілася фізічная немагчымасць пааркушавага прагляду спраў перад прыняццем рашэння аб іх перадачы на захаванне альбо знішчэнне. Архівасховішчы былі не ў стане прыняць на перагружаныя паліцы тоны «сырога» неапрацаванага матэрыялу. Экспертна-праверачныя камісіі літаральна задыхаліся ў плыні дакументаў, колькасць якіх увесь час павялічвалася. Установы і ведамствы імкнуліся любым чынам пазбавіцца ад лішку непатрэбных папер.

У гэтай сітуацыі савецкае архіўнае кіраўніцтва, улічваючы надзвычайнае павелічэнне аб'ёму дакументазвароту і тэхнічныя магчымасці архіваў, абмежавала прыём дакументаў на дзяржаўнае захоўванне. Пачалася распрацоўка тэарэтычных і практычных аспектаў экспертызы каштоўнасці дакументаў. У 1957 г. выйшлі Правілы эксперызы каштоўнасці дакументаў, дзе апошнія падзяляліся на матэрыялы пастаяннага, доўгатэрміновага і часовага захавання. Былі вызначаны парадак адбору, прынцыпы экспертызы і яе крытэрыі. Пры захаванні статусу архіўных экспертных органаў як канчатковай інстанцыі, дзе вырашаліся пытанні аб прыёме на дзяржаўнае захаванне, правілы значна пашыралі правы ведамстваў самастойна ствараць уласныя архівы і, адпаведна, знішчаць дакументы. Неўзабаве пасля прыняцця ў 1958 г. Палажэння аб Дзяржаўным архіўным фондзе СССР кіраўніцтва архіўнай галіны ў інструкцыі для дзейнасці экспертна-праверачных камісій рэзка скараціла колькасць устаноў і арганізацый нізавога ўзроўню, дакументы якіх паступалі на захаванне ў дзяржаўныя архівы [103, с. 98].

У 1950 г. экспертна-праверачныя камісіі зацвердзілі спісы дакументаў Міністэрства гандлю БССР, лагераў нямецкіх ваеннапалонных, упраўлення турмаў МУС БССР, а таксама ўстаноў польскай адміністрацыі Заходняй Беларусі, якія падлягалі знішчэнню [46, арк. 17]. У 1951 г. адправілі на макулатуру дакументы ДПУ БССР,

Цэнтральнага дома грамадска-прымусовых прац г. Мінска, Міністэрства сувязі БССР, ваеннай цэнзуры, пінскай павятовай паліцыі (1921–1939 гг.), разведкі БВА, фотаздымкі 1930-х гг. з Белдзяржархіва фотафонадакументаў, беларускія і нямецкія перыядычныя выданні часоў акупацыі [48, арк. 1–102]. У 1952 г. знішчалася справаводства Беларускай канторы Дзяржбанка СССР, Мінскай тэлефоннай станцыі, Ваеннай пракуратуры. У 1953 г. — справаводства Галоўгандлю БССР, штаба БВА, Міністэрства харчовай прамысловасці БССР. У 1954 г. — справаводства Рабоча-сялянскай інспекцыі БССР, упраўлення папраўча-працоўных лагераў і калоній МУС БССР, органаў мясцовага сацзабеспячэння. У 1958 г. — Гродзенскага губернскага праўлення (1893–1913 гг.). У 1962 г. — Віцебскай губернскай па справах аб таварыствах прысутнасці (1907–1914 гг.), Гомельскага губернскага ўпраўлення гандлю (1922–1923 гг.), Мінскага губернскага харчовага камітэта (1921 г.), а таксама беларускіх прамысловых прадпрыемстваў 1920–1930-х гг. [36, арк. 1–236].

На працягу 1960-х гг. назіралася тэндэнцыя далейшага скарачэння колькасці арганізацый, прадпрыемстваў, устаноў, дакументы якіх прымаліся на захоўванне ў дзяржаўныя архівы. Гэты працэс вызначыў распрацаваны ў Маскве дакумент пад назвай «Пералік дакументаў з тэрмінамі захоўвання да 5 гадоў, якія падлягаюць знішчэнню без зацвярджэння архіўнымі ўстановамі», на падмурку

якога беларускія архівісты распрацавалі ўласныя пералікі. Ведамствы, якія і раней мелі паўнамоцтвы распараджацца лёсам дакументаў уласных архіваў, атрымалі дадатковую легітымацыю падобнай дзейнасці. Пра тое, як у ведамасных архівах абыходзіліся з нацыянальнай спадчынай, сведчыць наступны эпізод.

24 снежня 1971 г. выйшла пастанова Савета Міністраў БССР «Аб сур'ёзных недахопах у забеспячэнні захаванасці і арганізацыі выкарыстання кінафотадакументаў», якая была выклікана пераходам савецкай кінематаграфіі і пракату з нітраплёнкі на негаручую плёнку на трыацэтатнай аснове. Падчас выканання гэтай пастановы была праведзена экспертыза матэрыялаў фільматэкі Беларускага рэспубліканскага радыётэлецэнтра. У выніку экспертызы адтуль знікла 261 найменне кінаматэрыялаў на шырокай плёнцы, а таксама каля 2 тыс. назваў матэрыялаў на вузкай плёнцы [73, арк. 202]. Загадам старшыні Дзяржтэлерадыё БССР ад 19 лютага 1973 г. з фільматэкі было дадаткова спісана каля 10 тыс. частак фільмаў уласнай вытворчасці і фільмаў, рэкамендаваных да знішчэння аўтарамі спіса, дасланага з Масквы (усяго ў фільматэцы ў той час захоўвалася каля 75 тыс. частак фільмаў) [74, арк. 175]. Такім чынам, беззваротна знік велізарны пласт нацыянальнай кінаспадчыны, а таксама шмат стужак замежнай вытворчасці (у тым ліку т. зв. «трафейныя»).

У 1974 г. была створана камісія Дзяржкамітэта па тэлебачанні і радыё па праслухоўванні фонду радыёперадач (фанатэкі), дзе ў той час захоўвалася 11,5 млн метраў плёнккі з мэтай адбору для знішчэння запісаў, якія доўга альбо ніколі не выкарыстоўваліся ў вяшчанні. Мэта знішчэння фонаматэрыялаў была празаічная — у фанатэцы не хапала месца для новых запісаў [74, арк. 59].

Сітуацыю з захоўваннем дакументальнай спадчыны ў БССР павінен быў палепшыць прыняты ў 1978 г. Вярхоўным Саветам рэспублікі закон «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры», згодна з якім да помнікаў былі аднесены і дакументы. Надзею давала новае палажэнне Савета Міністраў БССР аб Галоўным архіўным упраўленні, прынятае ў 1980 г. У ім ведамствы пазбаўляліся права самастойна вырашаць пытанні аб знішчэнні ўласных дакументальных матэрыялаў.

Тым не менш у 1982 г. праца па аптымізацыі складу дакументаў архіваў была ўзноўлена. Яна прадугледжвала: па-першае, экспертызу каштоўнасці дакументаў пасляваеннага перыяду з мэтай знішчэння дублетных дакументаў і дакументаў, якія ў адпаведнасці з новымі крытэрыямі мелі часовы тэрмін захавання; па-другое, скарачэнне крыніц камплектавання, перш за ўсё дзяржаўных устаноў раённага звяна (планавыя камісіі, аддзелы сацзабеспячэння, галіновыя прафсаюзы, музеі, бібліятэкі і інш.). За 1983–1985 гг. у архівах рэспублікі было знята з уліку 233 установы і

арганізаці, а да 1988 г. яшчэ 1424. Гэта непазбежна прыводзіла да скарачэння дакументаў, што прымаліся на захаванне ў архівы. Калі ў 1976–1980 гг. архівы прынялі больш за 500 тыс. спраў, то ў 1981–1985 гг. — ужо менш за 400 тыс. Значную шкоду крыніцазнаўчай базе даследаванняў дзеючых і будучых гісторыкаў нанеслі стваральнікі пераліку дакументаў з тэрмінамі захавання, што з'явіліся ў сярэдзіне 1980-х гг. Адпаведна гэтым пералікам, многія дакументы, якія раней паступалі ў дзяржаўныя архівы, былі прызнаны не маючымі гістарычнай каштоўнасці і падлягаючымі знішчэнню праз 3, 5, 10 гадоў [3, с. 215].

Гаворачы пра дзейнасць членаў экспертна-праверачнай камісіі Галоўархіва БССР у 1970–1980-я гг., неабходна адзначыць, што яны не заўсёды адэкватна ацэньвалі крыніцазнаўчую каштоўнасць дакументаў, што паступалі на экспертызу. У выніку ў тагачаснай архіўнай практыцы з'явіўся тэрмін «выхалашчаныя фонды». Яны складаліся з загадаў, пратаколаў, планаў, справаздач, штатных раскладаў і былі пазбаўлены важных першакрыніц, такіх як перапіска (для экспертызы якой і фарміравання адпаведных адзінак захоўвання патрабавалася шмат часу і прафесійных навыкаў) [3, с. 217].

Пад асобым кантролем у Савецкім Саюзе знаходзілася дакументацыя КПСС. У БССР існаваў Цэнтральны партыйны архіў ЦК КПБ, а таксама абласныя партархівы, колькасць якіх у розны час змянялася адпаведна зменам у адміністрацыйна-

тэрытарыяльным падзеле БССР. У 1949 г. у партархіве ЦК КПБ, які ў той час ужо вярнуўся з эвакуацыі ў Магілёў, было 734 фонды, у якіх налічвалася крыху больш за 300 тыс. спраў. На захаванні ў партархівах абкамаў КП(б)Б знаходзілася каля 100 тыс. спраў мясцовых партыйных і камсамольскіх арганізацый.

У 1943–1991 гг. ва ўсіх партархівах БССР працавалі ўласныя экспертна-праверачныя камісіі, якія адбіралі для знішчэння партыйныя дакументы з тых, што ўжо знаходзіліся на архіўным захоўванні і з бягучага справаводства партыйных арганізацый. Якія дакументы падлягалі знішчэнню, а якія передачы ў адпаведныя партыйныя архівы, вызначала спецыяльная інструкцыя — «Прыкладны пералік тыповых дакументальных матэрыялаў парторганаў з указаннем тэрмінаў іх захавання». Адпаведна ёй ва ўтыль ішла аператыўная інфармацыя, што трапляла ў партыйныя камітэты, справы па прыёме ў члены КПСС, персанальныя справы камуністаў, лісты, скаргі, заявы працоўных і іншыя тыпы дакументаў партарганізацый нізавога ўзроўню. Акты на знішчэнне гэтай дакументацыі ў адпаведнасці з інструкцыяй таксама знішчаліся.

Першыя сур’ёзныя парушэнні інструкцыі па экспертызе каштоўнасці партыйных дакументаў былі зафіксаваны ўжо ў 1949 г., калі праверка Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б выявіла выпадкі масавага знішчэння матэрыялаў бягучага справаводства партыйнымі і камсамольскімі

арганізацыямі на месцах [52, арк. 84]. Тлумачылася падобнае стаўленне да ўласных дакументаў не толькі нізкім культурным узроўнем партыйна-камсамольскай наменклатуры ніжэйшага ўзроўню, але і хранічным недахопам памяшканняў для іх захоўвання. Апошняя праблема была цяжкавырашальнай не толькі для абласных, але таксама для партархіва ЦК КПБ. У справаздачах кіраўніцтву першай паловы 1950-х гг. яго загадчык не раз скардзіўся на тое, што «партархіў з кожным годам усё больш перагружаецца» матэрыяламі, і прасіў надання яму паўнамоцтваў для іх знішчэння. Прапановы пазбавіцца ад «архіўнай макулатуры» гучалі і з боку іншых супрацоўнікаў партархіваў [55, арк. 52]. Партыйны дыктат, цяжкасці матэрыяльна-тэхнічнага характару, а таксама прафесійная і агульнакультурная адсталасць вызначылі агульную атмасферу, у якой адбывалася праца экспертна-праверачных камісій партархіваў. У 1957 г. у Гродзенскім абласным партархіве было выдзелена да знішчэння каля 2 тыс. спраў, у Гомельскім партархіве — 863 справы і каля 240 тыс. асобных аркушаў. У 1962 г. у Партархіве ЦК КПБ правялі экспертызу каштоўнасці 6 тыс. дакументаў [57, арк. 72, 153].

13 студзеня 1965 г. ЦК КПСС прыняў пастанову «Аб упарадкаванні вядзення справаводства ў партарганізацыях і рабоце па камплектаванні партархіваў дакументальнымі матэрыяламі». Адпаведна ёй, з 1965 г. у партархівы сталі паступаць толькі дакументы пастаяннага захавання ад буйных

партарганізацый рэспублікі. Ставілася задача змяншэння аб'ёму фондаў за кошт знішчэння дакументацыі часовага захавання, а таксама справаводства малых партарганізацый. Неўзабаве сакратарыят ЦК КПСС зацвердзіў «Пералік дакументальных матэрыялаў парторганаў і арганізацый, што падлягаюць захоўванню ў партархівах» [58, с. 1, 34]. У рэчышчы выканання гэтай пастановы з новай сілай разгарнулі работу экспертна-праверачныя камісіі партархіваў краіны. За пяцігоддзе з 1966 па 1970 гг. яны праглядзелі 41 млн спраў, з якіх знішчылі 10,5 млн. У партархіве ЦК КПБ за гэты час было знішчыла каля 15,7 тыс. спраў пераважна пярвічных арганізацый. Акрамя таго, праводзілася экспертыза каштоўнасці фондаў акругкамаў КП(б)Б за 1924–1930 гг. [61, арк. 5]. У партархіве Гродзенскага абкама партыі знішчылі 24 052 справы. У Магілёўскім абласным партархіве знішчылі каля 18 тыс. дакументаў. Віцебскі партархіў толькі ў 1965 г. выдзеліў для знішчэння 5819 спраў [59, арк. 57].

У 1970-я гг. праца па знішчэнні дакументаў партархіваў працягвалася. У 1970 г. паводле маскоўскай інструкцыі з паліц партархіва ЦК КПБ зніклі шматлікія матэрыялы рэдакцый партыйных і камсамольскіх выданняў, якія ўключалі падрыхтоўку да друку перадавіц, артыкулы, паведамленні, агляды, перапіску з аўтарамі, вёрсткі з праўкамі рэдактара, перапіску па пытаннях рэалізацыі выданняў, выпіскі з рашэнняў рэдкалегіі, асабістыя справы супрацоўнікаў

рэдакцый, матэрыялы замежных карэспандэнтаў [60, с. 19–27]. Тады ж адпаведна асобай дырэктыве Інстытута Маркса–Энгельса–Леніна ў рэспубліканскім партархіве ў Мінску былі знішчаны сотні персанальных спраў камуністаў [67, арк. 1–15].

У 1972 г. экспертна-праверачная камісія партархіва ЦК КПБ, якую ў той час узначальваў ужо загадчык агульным аддзелам ЦК, выдзеліла да знішчэння 3521 справу. У 1974 г. — каля 15 тыс. спраў. Столькі ж у наступным годзе. У 1976 г. — 8645 спраў. У 1978 г. — 3541 справу. Пазбаўленне ад непажаданых дакументаў працягвалася ў партархівах КПБ і ў 1980-х гг. Напрыклад, у віцебскім партархіве ў 1986 г. было знішчана 3198 спраў, у 1987 г. — 3686 спраў, у 1988 г. — 1998 спраў, у 1989 г. — 4752 справы [69, арк. 20].

У актах на знішчэнне дакументаў, складзеных членамі экспертна-праверачных камісій партархіва ЦК КПБ у 1960–1970-я гг., мы знаходзім матэрыялы партыйных і камсамольскіх органаў БССР 1920–1930-х гг. — фінансавыя дакументы, статыстычныя справаздачы, звесткі пра пасяўныя кампаніі, будаўніцтва дарог, медыцынскую дапамогу, справаводства беларускіх аддзяленняў Саюза ваяўнічых бязбожнікаў, перапіску па пытаннях паляпшэння жыллёвых умоў, адпачынку, харчавання партнаменклатуры, лісты і скаргі працоўных [62, арк. 1–121; 63, арк. 1–46; 64, арк. 1–104; 65, арк. 1–101; 66, арк. 1–22; 68, арк. 1–23].

Апошнюю хвалю знішчэння партыйных дакументаў вызначыла пастанова сакратарыята ЦК КПСС ад 23 сакавіка 1991 г. «Аб некаторых пытаннях забеспячэння захаванасці дакументаў Архіўнага фонду КПСС». Нягледзячы на назву пастановы, размова ў ёй ішла пра неабходнасць знішчэння часткі дакументаў. Меркавалася правесці экспертызу навуковай і практычнай каштоўнасці дакументаў усіх партархіваў краіны і тым самым засцерагчы сябе ад магчымай «небяспекі захопу партыйных архіваў, што ўжо адбылося ў ЦК кампартый Латвіі і Літвы, у абкамах партыі Заходняй Украіны» [102, с. 32]. У Мінску экспертызу партыйных дакументаў з мэтай іх знішчэння праводзіла створаная 14 чэрвеня 1991 г. у Цэнтральным партархіве ЦК КПБ працоўная група пад кіраўніцтвам намесніка дырэктара архіва Ю. А. Капіцы [70, арк. 20]. Пра вынікі яе працы можна меркаваць па агульнасаюзных лічбах. За лета 1991 г. мінская і падобныя ёй групы ў іншых рэспубліках адабралі 6 569 062 справы, з якіх паспелі знішчыць 2 324 213 спраў [102].

Пра агульны аб'ём знішчаных архіўных матэрыялаў у рэспубліцы ў пасляваенны час дае звесткі наступная табліца, складзеная аўтарам на падмурку справаздач Галоўнага архіўнага ўпраўлення БССР.

**Колькасць спраў, спісаных у макулатуру экспертна-праверачнымі камісіямі архіўнага ўпраўлення і асобных архіваў БССР**

| Год | З дзяржаўных архіваў | З ведамасных архіваў |
|---|---|---|
| 1946 | 4 733 | ? |
| 1947 | 27 000 | 8,5 тон россыпу |
| 1948 | 18 500 | 399 000 |
| 1949 | 32 947 | 580 000 |
| 1950 | 239 439 | 151 712 |
| 1951 | 737 733 | 437 923 |
| 1952 | 289 776 | 613 910 |
| 1953 | 158 009 | 1 188 496 |
| 1954 | 47 654 | 1 758 629 |
| 1955 | 28 244 | 2 193 130 |
| 1956 | 95 984 | 2 806 942 |
| 1957 | 186 815 | 2 219 732 |
| 1958 | 119 486 | 3 576 279 |
| 1959 | 134 030 | 2 638 195 |
| 1960 | 148 604 | 2 951 800 |
| 1961 | 21 396 | 1 029 267 |
| 1962 | 73 537 | 272 615 |
| 1963 | 52 065 | ? |
| 1964 | 86 454 | ? |
| 1965 | ? | 712 754 |
| 1966 | ? | 656 020 |
| | | |

| | | |
|---|---|---|
| 1967 | ? | 409 497 |
| 1968 | 59 129 | 210 072 |
| 1969 | 38 085 | 199 969 |
| 1970 | 50 597 | 198 022 |
| 1971 | 37 124 | 185 320 |
| 1972 | 38 781 | 172 709 |
| 1973 | 49 629 | 170 478 |
| 1974 | 55 188 | 150 565 |
| 1975 | 35 816 | ? |
| 1976 | 38 908 | 136 600 |
| 1977 | 27 120 | 145 000 |
| 1978 | 25 827 | 142 900 |
| 1979 | 39 366 | 114 800 |
| 1980 | ? | 713 300 |
| 1981 | 45 660 | 134 176 |
| 1982 | 41 323 | 145 942 |
| 1983 | 42 328 | 126 300 |
| 1984 | ? | 306 873 |
| 1985 | 29 030 | 116 000 |
| **Разам** | **3 156 317** | **27 964 927, а таксама 8,5 тон россыпу** |

Для таго каб скласці ўяўленне пра рэальныя маштабы знішчэння дакументаў, трэба ўлічваць, што ў 1956 г. у дзяржаўных архівах БССР налічвалася каля 2,5 млн спраў. У 1964 г. гэтая лічба павялічылася да 5,5 млн. На 1 студзеня 1981 г. на ўліку ў дзяржаўных архівах знаходзілася каля 7 млн спраў. У 11 017 ведамасных архівах, якія разглядаліся як крыніцы папаўнення Дзяржаўнага архіўнага фонду, захоўвалася 1 692 068 спраў [38, арк. 35].

Чаму савецкае архіўнае кіраўніцтва рукамі членаў экспертна-праверачных камісій пазбавілася ад мільёнаў архіўных спраў, частка якіх у будучым магла б утварыць падмурак не толькі для напісання новых гістарычных даследаванняў, але стварэння цэлых гістарыяграфічных напрамкаў (такіх як гісторыя паўсядзённасці, мікрагісторыя, антрапалагічнае вымярэнне гісторыі і інш.)? Афіцыйным тлумачэннем утылізацыі дакументаў была адсутнасць іх навуковай і грамадскай вартасці. Сапраўды, у значнай колькасці знішчаных дакументаў змяшчалася інфармацыя, якая дубліравала тую, што мелася ў іншых дакументах Дзяржаўнага архіўнага фонду. Інфармацыйны патэнцыял часткі ўтылізаваных аднатыпных папер насамрэч набліжаўся да нуля.

Разам з тым, сотні тысяч важных першакрыніц па айчыннай гісторыі былі знішчаны па палітычных матывах з мэтай ліквідацыі тых звестак, што не ўкладваліся ў афіцыйную канцэпцыю гісторыі БССР. Ішла падгонка архіўных фондаў пад ідэалагічныя

клішэ. Акрамя таго, на рашэнне аб сталым захоўванні дакумента ўплывалі такія фактары, як недахоп архіўных плошчаў, іншых матэрыяльных і чалавечых рэсурсаў, якіх ва ўмовах пабудовы «развітога сацыялізму» ўвесь час не ставала. Да гэтага трэба дадаць нізкі агульнакультурны і прафесійны ўзровень значнай часткі тых, хто вырашаў лёс беларускай дакументальнай спадчыны[65].

З улікам вышэйсказанага становіцца зразумелым, чаму архіўныя дакументы ў разглядаемы час знікалі ва ўмовах сакрэтнасці. Інфармацыю пра іх знішчэнне ў адкрытым друку забараняў даваць Галоўліт. Напрыклад, у снежні 1952 г. цэнзар зняў з падрыхтаванага да друку загада МУС БССР спасылку на пастанову Савета Міністраў БССР аб мерапрыемствах па нарыхтоўцы макулатуры ў архівах [18, арк. 33]. Сакрэтнасць дзейнасці па ўтылізацыі архіўнай паперы паўплывала на стаўленне да яе Пракуратуры БССР, якая адмаўлялася ўзбуджаць крымінальныя справы па выпадках незаконнага знішчэння дакументаў.

Абвешчаны савецкім архівазнаўствам прынцып непадзельнасці і адзінства архіўных фондаў на практыцы парушаўся. Матэрыялы рухаліся ўнутры Дзяржаўнага архіўнага фонду СССР, перадаваліся за мяжу. У 1946 г. больш за 11 тыс. спраў было перададзена з БССР Цэнтральнаму дзяржаўнаму архіву Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Маскве, а таксама архівам Украінскай ССР і Бранскай вобласці РСФСР

[41, арк. 11–12]. У 1951 г. А. І. Азараў адправіў у Маскву як «не маючыя дачынення да профілю дзяржаўных архіваў БССР» дакументы Міністэрства фінансаў Польшчы (1927–1938), масонскіх ложаў Францыі, а таксама рускіх і ўкраінскіх эміграцкіх арганізацый у Парыжы, што былі перададзены ў ЦДАКР БССР з Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Леніна (туды яны трапілі разам з кніжнымі фондамі, вернутымі з г. Рацібор у 1946 г.) [47, арк. 33–45]. На працягу 1950-х гг. у Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літвы з Мінска перадалі справы скарбавай камісіі і Галоўнага Трыбунала Вялікага Княства Літоўскага, а таксама больш за 300 спраў канцылярыі віленскага генерал-губернатара. У Цэнтральны дзяржаўны архіў старажытных актаў у Маскве — акты казны Вялікага Княства Літоўскага [3, с. 172]. У 1958 г. з ЦДАКР БССР у асобы архіў СССР у Маскву перадалі архівы штабоў нямецкіх фарміраванняў, якія знаходзіліся на акупаванай тэрыторыі БССР у 1941–1944 гг. [49, арк. 25].

Пасля падпісання ў 1956 г. дамовы аб культурным супрацоўніцтве паміж СССР і ПНР апошняй былі перададзены буйныя комплексы дакументаў. Іх перадача з беларускіх архіваў праходзіла ў два этапы. У 1959 г. з Дзяржархіва Брэсцкай вобласці ў Польшчу адправілі каля 2 тыс. спраў, куды ўвайшлі дакументы ўстаноў другой Рэчы Паспалітай. У 1961 г. з ЦДГА БССР у Гродне было адпраўлена больш за тысячу спраў устаноў Прывіслянскага краю былой Расійскай імперыі (за выключэннем дакументаў жандармерыі і

паліцыі, якія характарызавалі рэпрэсіўную палітыку ў адносінах да палякаў) [50, арк. 23].

Ужо першыя крокі архівістаў у 1944 г. па аднаўленні Дзяржаўнага архіўнага фонду СССР суправаджаліся захадамі па яго засакрэчванні. У беларускіх архівах, як і ў іншых савецкіх архіўных установах, ствараліся аддзелы сакрэтных фондаў. У 1946 г. у БССР налічвалася 674 сакрэтныя фонды, куды ўваходзіла 111 521 справа. Гэта былі пераважна дакументы нямецкіх акупацыйных устаноў, партызанскіх фарміраванняў, а таксама дзяржаўных устаноў Расійскай імперыі (паліцыі, Гродзенскай казёнай палаты, падатковага інспектара горада Мінска) і СССР (Наркампрацы) [41, арк. 16]. Да канца 1952 г. дзяржаўныя архівы БССР у асноўным скончылі фарміраванне аддзелаў сакрэтных фондаў. На 1 студзеня 1955 г. у архівах БССР налічвалася ўжо 2178 сакрэтных фондаў, дзе было згрупавана больш за 400 тыс. спраў [33, арк. 22].

Да найбольш сакрэтных заняткаў архівістаў, якія мелі доступ да гэтых фондаў, адносіліся аператыўная распрацоўка ворагаў народа і складанне на іх картатэк. У ліпені 1944 г. выйшаў загад НКУС БССР па выкарыстанні дакументальных матэрыялаў, перш за ўсё акупацыйных устаноў, у агентурна-аператыўнай рабоце. Гэтыя матэрыялы збіралі аператыўныя групы НКУС, якія ішлі за наступаючай арміяй (разам яны сабралі і перадалі ў беларускія архіўныя ўстановы каля 100 тыс. дакументальных матэрыялаў).

У выніку гэтай працы на 1 студзеня 1945 г. архіўныя органы рэспублікі ўзялі на ўлік 43 130 чалавек «антысавецкага і контррэвалюцыйнага элемента», у тым ліку супрацоўнікаў і абслугі гестапа, СС, жандармерыі (31), супрацоўнікаў паліцыі (2155), карнікаў-дабраахвотнікаў (973), супрацоўнікаў аддзелаў прапаганды, прэсы, тэатраў (580), асабовага складу турмаў (207), каманднага і шараговага складу Беларускай краёвай абароны (3000), членаў нацыяналістычных партый, таварыстваў і саюзаў (692), служачых органаў самакіравання (7564), слухачоў школ гестапа (90), супрацоўнікаў ведамства асветы (8000), супрацоўнікаў судовых устаноў (360), чыноўнікаў нямецкіх устаноў (4200), служачых і рабочых прадпрыемстваў, заводаў, фабрык (14 557), здраднікаў радзімы (121) [39, арк. 15].

Важным напрамкам архіўнай працы тых часоў было складанне спісаў-даведнікаў на калабарантаў (у т. л. на школьных настаўнікаў, а таксама прамысловых і сельскагаспадарчых рабочых). На працягу 1945 г. у БССР было складзена 17 падобных спісаў-даведнікаў на 11 386 чалавек [40, арк. 17]. У наступным годзе архіўнае ўпраўленне склала для аператыўнікаў МУС–МДБ БССР спісы на 38 851 «антысавецкі элемент». Калабарантаў сярод іх было толькі 8 тыс. чалавек, астатнія асобы трапілі ў спісы паводле дакументаў дарэвалюцыйных расійскіх устаноў, а таксама ўстаноў другой Рэчы Паспалітай (напрыклад, рэпатрыянты, замежныя грамадзяне і інш.).

Усяго на працягу першага пасляваеннага пяцігоддзя аператыўным органам было выдадзена звыш 40 тыс. даведак па архіўных фондах [17, арк. 23].

Яшчэ больш высокай сцяною былі аддзелены ад грамадства партыйныя архівы. Да ліку сакрэтных у іх складзе была аднесена большая частка дакументаў: рашэнні ЦК партыі, справаводства аддзелаў ЦК, матэрыялы СНК, асабістыя паперы партыйных, а таксама дзяржаўных дзеячоў. Да 1956 г. даследчыкам не выдавалі матэрыялы, дзе ўзгадваліся рэпрэсаваныя дзяржаўныя дзеячы 1920-х гг., Беларуская камуністычная арганізацыя, КПЗБ, акруговыя і раённыя камітэты партыі, органы дзяржбяспекі і пракуратуры, партыйныя чысткі, народнагаспадарчыя планы, асобныя дзеячы партызанскага і падпольнага руху [56, арк. 7]. Сакрэтныя фонды захоўваліся ў асобным памяшканні, у жалезных шафах, працавалі з імі засакрэчаныя супрацоўнікі, кожны раз з персанальнага дазволу загадчыка архіва [51, арк. 9].

Атрымаць дазвол азнаёміцца з несакрэтнай часткай фондаў партархіваў было таксама няпроста. Дапускаліся туды выключна «правераныя» члены УсеКП(б) з асобага дазволу сакратара ЦК. Пасля атрымання такога дазволу даследчыкі давалі падпіску аб неразгалашэнні зместу дакументаў, абавязваліся не здымаць з іх копій, не публікаваць. Засведчыць «праверанасць» навукоўца — члена УсеКП(б), паручыцца за яго перад найвышэйшым партыйным

кіраўніцтвам рэспублікі павінен быў кіраўнік арганізацыі, якая накіроўвала даследчыка ў партархіў:

«16 кастрычніка 1948 г.

Сакратару ЦК КП(б)Б т. Іоўчуку М. Т.

Рэктарат Беларускага Дзяржаўнага Ўніверсітэта просіць Вашага дазволу на допуск аспіранта БДУ па кафедры гісторыі СССР тав. САВАЧКІНА Пятра Захаравіча да працы над фондамі архіва ЦК КП(б)Б па тэме дысертацыі “Каланіяльнае парабашчэнне і абрабаванне беларускага сялянства нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941 — 1944 гг.”.

Вывучэнне пытанняў, запланаваных па тэме (пераўтварэнне Беларусі ў аграрны прыдатак нямецка-фашысцкай ваеннай машыны, абшарніцкае землеўладанне і нямецкая каланізацыя, ваенны і цывільны апарат улады па ажыццяўленні каланіяльнага заняволення і іншыя) мае актуальнае значэнне для ідэйна-палітычнага разгрому фашызму ў любой яго форме, асабліва ва ўмовах фашызацыі, узмацнення рэакцыі і падрыхтоўкі англа-амерыканскім блокам новай імперыялістычнай вайны.

Рэктарат выказвае ўпэўненасць, што тав. САВАЧКІН здолее паспяхова выканаць дадзеную працу.

в. а. РЭКТАРА БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТА А. П’янкоў»

Да гэтага ліста прыкладалася біяграфія будучага дэкана гістарычнага факультэта БДУ П. З. Савачкіна [10, арк. 282].

Як і архівы сістэмы МУС, партархівы былі абавязаны дапамагаць аператыўным органам выкрываць ворагаў народа. У лістападзе 1950 г. дырэктар партархіва ЦК КПБ Ф. В. Папоў па загадзе сакратара ЦК КП(б)Б М. С. Патолічава даў архіўны кампрамат на міністра асветы БССР П. В. Саевіча. Архіўныя дакументы сведчылі, што апальны міністр, які адмовіўся рэдагаваць «творы» Л. Ф. Цанавы, падтрымліваў нацдэмаў і трацкістаў у 1927—1929 гг. На аснове гэтых і іншых спецыяльна падабраных дакументаў было сфальсіфікавана абвінавачанне ў шпіянажы і трацкізме, якое каштавала П. В. Саевічу не толькі 25-гадовага тэрміну зняволення, але і жорсткіх катаванняў падчас допытаў у турме МДБ [53, арк. 35—37]. На працягу другой паловы 1940-х — пачатку 1950-х гг. колькасць запытаў аператыўных органаў у партархіве ЦК КП(б)Б увесь час павялічвалася. Гэта адцягвала архівістаў ад выканання непасрэдных службовых абавязкаў. Нарэшце, у студзені 1953 г. Ф. В. Папоў звярнуўся да міністра дзяржбяспекі БССР М. І. Баскакава з просьбай замацаваць за архівам спецыяльнага супрацоўніка МДБ, каб той выконваў гэту працу («у нас у архіве няма спецыялістаў, якія б валодалі практыкай следчай работы») [54, арк. 1].

Да вырашэння рэальных патрэб архіўнай галіны рэспублікі ва ўлады, занятай пошукам ворагаў, рукі даходзілі не заўсёды. Між тым, справаздачы беларускіх архіўных установаў 1950-х гг. сведчылі, што іх матэрыяльна-тэхнічнае становішча, асабліва па-за

межамі сталіцы, было далёкае ад ідэальнага: «Большая частка матэрыялаў [партархіва ЦК КПБ. — *А. Г.*] знаходзіцца ў трухлявым стане, у большасці спраў вокладкі знасіліся, парваліся. Нямала спраў, якімі нельга карыстацца без адпаведнай рэстаўрацыі» [56, арк. 10], «Сховішча [партархіва Гомельскага абкама партыі. — *А. Г.*] маленькае, перагружана, што не дае магчымасці размеркаваць прынятыя матэрыялы» [55, арк. 32], «Вілейскі і Магілёўскі раённыя архівы размешчаны ў паўпадвальных вільготных памяшканнях, вокны ў іх не зашклёны, дзверы не абабіты жалезам, няма паліц, матэрыялы ляжаць наваленыя, трухлеюць і гінуць» [35, арк. 76].

Пасля XX з'езду КПСС пачалося масавае рассакрэчванне архіўных фондаў, якое суправаджалася інфармаваннем навуковай грамадскасці пра іх змест і склад. Рассакрэчвалі фонды дарэвалюцыйных, заходнебеларускіх устаноў. Дакументы, што тычыліся небальшавіцкіх партый, жандармскіх падраздзяленняў, замежных сувязяў, сталінскіх рэпрэсій, кулацкага супраціву, калабарацыі і барацьбы органаў МДБ–МУС супраць бандфарміраванняў, а таксма мытні, судоў, папраўча-працоўных устаноў, заставаліся на сакрэтным захаванні.

Пасля прыняцця сумеснай пастановы ЦК КПБ і Савета Міністраў ад 31 сакавіка 1956 г. «Аб мерах па ўпарадкаванні рэжыму захавання і лепшым выкарыстанні архіўных матэрыялаў міністэрстваў і

ведамстваў Беларускай ССР» на працягу двух гадоў у дзяржаўных архівах было рассакрэчана 224 523 справы [35, арк. 19]. У аддзелах сакрэтных фондаў заставалася каля 200 тыс. спраў, або 5,3 % ад агульнай колькасці Дзяржаўнага архіўнага фонду. Расфарміроўваліся архіўныя картатэкі на «контррэвалюцыйныя і антысавецкія элементы» [34, арк. 9]. Далейшы працэс рассакрэчвання запаволіўся. На 1 студзеня 1965 г. колькасць сакрэтных спраў складала 190 602 [37, арк. 25].

Рэзка павялічылася колькасць даследчыкаў у дзяржаўных архіўных установах БССР. Калі ў 1956 г. там працаваў 331 чалавек, то ў 1957 г. іх было ўжо 565. Выведзеныя з падпарадкавання МУС беларускія архівы пакрысе пачалі адкрываць свае сховішчы для замежных даследчыкаў. Напачатку гэты працэс меў вельмі абмежаваны характар. Улетку 1962 г. у Маскву з просьбай азнаёміцца з дакументамі, што захоўваліся ў Гродзенскім, Брэсцкім, Пінскім і Маладзечанскім дзяржаўных архівах, звярнулася кіраўніцтва Інстытута гісторыі партыі пры ЦК Польскай аб’яднанай рабочай партыі. Маскоўскае партыйнае кіраўніцтва задаволіла гэту просьбу, але да прыезду польскіх калег былі арганізаваны сур’ёзныя падрыхтоўчыя работы. Начальніка архіўнага ўпраўлення БССР А. І. Азарава абавязалі арганізаваць пааркушавы прагляд 162 спраў на 21 074 аркушах. Па выніках гэтай працы высветлілася, што 91 справу на 18 451 аркушах з прагледжаных выдаваць палякам было немэтазгодна, бо яны змяшчалі звесткі «не для

адкрытага друку». У лік апошніх трапілі паведамленні павятовых аддзелаў грамадскай бяспекі пра работу камуністаў сярод вайскоўцаў, моладзі, асуджаных, планы размяшчэння камуністычных арганізацый, данясенні аб ліквідацыі трацкісцкіх груп, нелегальнае перамяшчэнне праз мяжу і інш. [22, арк. 99–121].

Значна актывізавалася праца па рассакрэчванні архіўных дакументаў у час перабудовы, а менавіта ў 1987 г. Калі напачатку гэтага года агульная колькасць сакрэтных спраў у дзяржаўных архівах БССР складала 204 129, то да пачатку 1991 г. там заставаліся толькі 84 792 сакрэтныя справы. З 283 629 спраў абмежаванага доступу ў 1991 г. у ранейшым статусе засталася 42 551 справа [3, с. 222]. Да буйных архіўных комплексаў, дакументы якіх былі рассакрэчаны ў той час, адносіліся, напрыклад, фонды польскіх устаноў у Заходняй Беларусі. У той жа час па-ранейшаму засакрэчанымі заставаліся многія дакументы, што тычыліся акупацыйнага рэжыму. Напачатку 1991 г. дырэктар Цэнтральнага партархіва ЦК КПБ Я. І. Бараноўскі запэўніў партыйнае кіраўніцтва рэспублікі, што «наш архіў адкрыты на 70 %» [31, арк. 58].

---

65 Пра гэта ў сваім лісце начальніку беларускай архіўнай службы ў 1966 г. пісаў М. М. Улашчык, адзначаючы, што ў навуковых колах Масквы зацвердзіўся вобраз Беларусі як рэгіёна, дзе сістэматычна вынішчаюцца помнікі культуры, чым тлумачылася нежаданне перадаваць сюды помнікі беларускага пісьменства, якія захоўваліся ў расійскіх архівах і прыватных калекцыях [106].

## Кніга

Вайна нанесла велізарныя страты бібліятэкам Беларусі. Было знішчана 95 % кніжных фондаў і 97 % памяшканняў бібліятэк. Тым не менш да канца 1950 г. сетка бібліятэк БССР была ў цэлым узноўлена. У рэспубліку дасылаліся кнігі з Дзяржаўнага фонду СССР, яны вярталіся з тэрыторыі Польшчы і Германіі, паступалі ў якасці абавязковых экзэмпляраў з выдавецтваў. Як і ў даваенны час, вядучая роля ў бібліятэчным абслугоўванні належала масавым бібліятэкам. Да іх адносіліся гарадскія, раённыя, дзіцячыя, вясковыя бібліятэкі, што падпарадкоўваліся аддзелу бібліятэк Камітэта па справах культурна-асветніцкіх устаноў (з 1953 г. — Міністэрства культуры), а таксама прафсаюзныя, тэхнічныя, спецыяльныя. Буйнейшае ў рэспубліцы кнігасховішча — Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна — мела ўніверсальны характар. Важную ролю адыгрывалі навуковыя і спецыяльныя бібліятэкі, да якіх адносіліся Фундаментальная бібліятэка АН БССР, Урадавая бібліятэка імя А. М. Горкага, бібліятэкі ВНУ, сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, міністэрстваў і ведамстваў. Асобае месца ў сістэме бібліятэк БССР займалі дзіцячыя і юнацкія бібліятэкі, якім надавалася значная роля ў адукацыі і выхаванні вучнёўскай моладзі.

Новы імпульс развіцця гэтая галіна культуры БССР атрымала пасля пастановы ЦК КПСС «Аб

становішчы і мерах паляпшэння бібліятэчнай справы ў краіне», прынятай 22 верасня 1959 г. Для выканання задач, пастаўленых партыяй, у рэспубліцы было ўмацавана кіраўніцтва бібліятэкамі. У складзе Міністэрства культуры БССР паўсталі Міжведамасны савет па пытаннях бібліятэчнай работы (1959), бібліятэчная інспекцыя (1960). За Дзяржаўнай бібліятэкай БССР імя Леніна быў замацаваны статус навукова-метадычнага і даведачна-бібліяграфічнага рэспубліканскага цэнтра.

Разам з несумненнымі дасягненнямі, у пасляваенным бібліятэчным будаўніцтве БССР назапашваліся хібы, уласцівыя ўсім савецкім бібліятэкам, да таго часу цалкам адзяржаўленым і ідэалагізаваным. Ужо ў першых радках пастановы ЦК КПБ «Аб павышэнні ролі бібліятэк у камуністычным выхаванні працоўных», прынятай 12 жніўня 1974 г., галоўная задача бібліятэк вызначалася як прапаганда палітыкі КПСС. Бібліятэчныя фонды фарміраваліся ўніфікаванымі па складзе. Пры высокай экзэмплярнасці выдавецкай прадукцыі колькасць назваў кніг на аднаго чытача была невялікая. Найбольш запатрабаваныя кнігі выдаваліся мізэрнымі тыражамі і наадварот. Гэта дыспрапорцыя стварала шматмесячныя чэргі, прыводзіла да павелічэння колькасці адмоў на асобныя кнігі і нават цэлыя тэмы, віды і жанры літаратуры. У той жа час амаль палова фонду не карысталася попытам чытачоў, ляжала змярцвелая.

У 1970-я гг. у фарміраванні фондаў бібліятэк пераважыў механістычны падыход, які праявіўся ў т. зв. прынцыпе ўніверсалізацыі. У адпаведнасці з ім, долю мастацкай літаратуры ў масавых бібліятэках планавалася зраўняць з долямі літаратуры па буйнейшых галінах ведаў (вытворчая, грамадска-палітычная і г. д.), у той час як традыцыйна яна складала больш за палову ўсёй колькасці кніг. Усё гэта прывяло напачатку 1970-х гг. да застою, а з сярэдзіны 1980-х гг. — да крызісу бібліятэк. Зменшылася колькасць найбольш актыўных і адукаваных чытачоў (да 80 % ад агульнай колькасці прачытанай у СССР у той час літаратуры прыпадала на хатнія бібліятэкі), павялічылася бягучасць бібліятэчных кадраў, пагоршылася матэрыяльна-тэхнічная база бібліятэк, асабліва масавых, якія атрымлівалі каля 10 % назваў кніг, што выходзілі ў краіне. Пры захаванні ў цэлым ранейшых палітычных установак, кіраўніцтва бібліятэчнай сферай краіны адказвала на выклікі навукова-тэхнічнага прагрэсу спрошчаным экстэнсіўным падыходам і ўзмацненнем адміністравання.

Арганічным складнікам савецкай дзяржаўнай бібліятэчнай палітыкі былі масавыя чысткі кніжных фондаў ад ідэалагічна непажаданай літаратуры. Яны адбываліся на працягу ўсяго перыяду існавання СССР, то суціхаючы, то ўзмацняючыся ў залежнасці ад унутры- і знешнепалітычных змен. У 1944–1989 гг. агульнае кіраўніцтва масавымі чысткамі кніжных фондаў бібліятэк рэспублікі, як і ў даваенныя гады,

ажыццяўляў Галоўліт БССР і аблліты. У штаце беларускага цэнзурнага ведамства па-ранейшаму мелася пасада цэнзара, які адказваў за ідэалагічны змест бібліятэчных фондаў.

Галоўліт БССР адбіраў кнігі з бібліятэк і кнігагандлёвай сеткі, кіруючыся пераважна дакументамі, якія рэгулярна дасылаліся з Масквы: загадамі на адабранне літаратуры, алфавітнымі спісамі асоб, усе творы якіх увайшлі ў загады на адабранне літаратуры, зводнымі спісамі кніг на адабранне паўсюдна з бібліятэк, кіраўніцтвам для цэнзараў, што працуюць пры букіністычных крамах, асобнымі нумарнымі загадамі Галоўліта СССР (№ 6/269, 14/541, 1103, 1185, 535, 767, 750, 329/4) і інш. Беларускія цэнзары складалі таксама ўласныя рэспубліканскія спісы на адабранне кніг беларускіх выдавецтваў, якія зацвярджаліся ў Маскве (напрыклад, «Алфавітны спіс аўтараў беларускай літаратуры») [9, арк. 261].

Як і ў даваенны час, асноўная ўвага цэнзуры была звернута на масавыя бібліятэкі Камітэта па справах культасветустаноў (з 1953 г. — Міністэрства культуры), Міністэрства асветы, а таксама прафсаюзныя бібліятэкі і бібліятэкі парткабінетаў гаркамаў і райкамаў партыі. Але працэдура адабрання кніг, у адрозненне ад даваеннага часу, крыху змянілася. Яны адбіраліся цяпер наступным чынам. Аблліты складалі спісы кніжнай прадукцыі беларускіх выдавецтваў, часопісаў і газет, якія змяшчалі «палітычна шкодны» матэрыял, і дасылылі

іх у Галоўліт БССР. Апошні іх абагульняў, пашыраў і дасылаў на зацвярджэнне ў Галоўліт СССР, пасля чаго з'яўляліся беларускія нумарныя загады на адабранне. Гэтыя загады, разам з тымі, што дасылаліся з Масквы на адабранне кніг сталічных выдавецтваў, распаўсюджваліся па бібліятэках і кнігарнях, дзе пад адказнасць дырэктараў яны павінны былі быць выкананыя. Праз нейкі час з Галоўліта БССР або аблліта прыходзіла праверка, якая шукала забароненыя выданні, што засталіся па недаглядзе альбо злым намеры супрацоўнікаў бібліятэк і кнігагандлёвай сеткі. Гэтыя выданні і траплялі ў галоўлітаўскую статыстыку кніжных выданняў, адабраных з бібліятэк БССР, якая прыводзіцца ніжэй. Сапраўдная колькасць знішчаных асобнікаў кніг, часопісаў, газет, картаў з улікам высілкаў супрацоўнікаў бібліятэк і кнігагандлю была нашмат большая. Літаратура, адабраная з масавых бібліятэк, «прыводзілася ў нягодны стан», пасля чаго здавалася ў макулатуру або спальвалася. Калі аб'ём забароненай інфармацыі ў друкаванай прадукцыі быў невялікі, рабіліся выразкі, затушоўкі і заклейкі.

Ужо 24 сакавіка 1944 г. начальнік Галоўліта БССР Ф. І. Дадзіёмава атрымала загад маскоўскага кіраўніцтва адабраць і знішчыць усю літаратуру, выдадзеную на акупаваных немцамі тэрыторыях [81, арк. 13]. Выконваючы гэты загад і шэраг падобных, атрыманых з Масквы на працягу першага пасляваеннага года, беларускія цэнзары ў другой палове 1944 — першай палове 1946 гг. праверылі 1148

бібліятэк і 56 кнігагандлёвых кропак, з якіх адабралі 19 988 асобнікаў літаратуры. У 1947–1948 гг. вынікі дзейнасці Галоўліта БССР былі больш сціплыя. З паліц масавых бібліятэк знікла 3057 асобнікаў кніг і часопісаў. Але план быў перавыкананы за кошт бібліятэк культавых установаў, адкуль вывезлі і здалі ва ўтыль 17 343 асобнікі літаратуры. Акрамя таго, у першыя пасляваенныя гады ў абавязкі Галоўліта БССР уваходзіла змаганне са спекуляцыяй трафейнай кнігай, дзеля чаго быў ўстаноўлены кантроль за адзінай у БССР букіністычнай крамай. Без спецыяльнага дазваляльнага галоўлітаўскага штампа прадаваць кнігі, часопісы і нават паштоўкі ў ёй было нельга [9, арк. 263].

У справаздачы за 1949 г. начальнік Галоўліта БССР пісала пра «ажыўленне» работы па ачытцы бібліятэк. У тым годзе з бібліятэк БССР было адабрана ўжо 10 544 асобнікі літаратуры, у т. л. 14 тыс. кніг на польскай мове з бібліятэкі Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея, якія было вырашана перадаць у Польшчу [8, арк. 216–220]. У 1950 г. аб’ём адабранай літаратуры павялічыўся да 29 073 асобнікаў. Дырэктары бібліятэк атрымлівалі ў гэтыя гады не толькі маскоўскія спісы, але таксама беларускія, першы з якіх з’явіўся ў 1946 г. і ўключаў выданні пасля 1917 г. У наступныя гады ён рэгулярна павялічваўся пераважна за кошт тагачасных беларускіх аўтараў. Напрыклад, у 1950 г. у лік забароненых па палітычных матывах трапілі выдадзеныя тады ж дакументальная аповесць У. І.

Дадзіёмава «Жлобінскія маладагвардзейцы»[66], брашуры «Наша мэта — камунізм» і «Ацэнка работ у працаднях» [83, арк. 30]. У тым жа 1950 г. па ініцыятыве Галоўліта Міністэрства асветы БССР прыняло пастанову аб закрыцці ў школах класных бібліятэк, за камплектаванне якіх адказвалі самі дзеці. Пад кантроль Галоўліта БССР былі таксама пастаўлены дзве новыя букіністычныя крамы.

Першая палова 1950-х гг. была часам далейшай актывізацыі чыстак бібліятэчных фондаў. На працягу 1952 г. цэнзары Галоўліта БССР правялі 18 039 кантрольных праверак масавых бібліятэк, падчас якіх было адабрана 24 216 асобнікаў кніг, газет і часопісаў. Акрамя масавых, праверцы падлягалі таксама бібліятэкі парткабінетаў райкамаў і абкамаў КП(б)Б. Нарэшце, упершыню цэнзары наведалі спецфонды бібліятэк [88, арк. 36].

Фонды спецыяльнага захавання (спецфонды альбо спецсховы), якія з'явіліся ў БССР яшчэ ў 1924 г., уяўлялі аддзелы ў буйнейшых бібліятэках, куды па распараджэнні цэнзурных органаў змяшчаліся кнігі і перыядычныя выданні, даступныя для карыстання па спецыяльным дазволе. Структурна спецфонды складаліся з літаратуры, што была надрукавана ў СССР, замежнай літаратуры і выданняў, перададзеных у бібліятэкі іншымі ўстановамі і арганізацыямі (напрыклад, прадстаўніцтвам БССР у ААН) на асобае захаванне. На працягу ўсяго разглядаемага перыяду склад літаратуры, што

падлягала передачы ў спецфонды, увесь час дэталізаваўся. Туды траплялі творы савецкіх рэпрэсаваных аўтараў, уся эмігранцкая літаратура незалежна ад яе зместу.

Як вядома, у СССР ад пачатку былі ўведзены жорсткія абмежаванні доступу да замежнай літаратуры і перыядычных выданняў. Найбольш вядомыя сусветныя часопісы і газеты, не кажучы пра таблоіды, былі недасягальныя для шырокага чытача. Тое самае тычылася літаратурных бестселераў і музычных навінак. Звычайна пералік замежнай мастацкай літаратуры і перыёдыкі, даступнай шырокаму колу чытачоў, абмяжоўваўся класікамі, а таксама газетамі сацыялістычных і рабочых партый. Да таго ж пад забаронай аказаліся цэлыя галіны гуманітарных і прыродазнаўчых ведаў, і адпаведна ўся інфармацыя пра замежныя працы ў гэтых галінах адразу ж трапляла ў спецсхоў. У БССР замежная літаратура «абмежаванага выкарыстання», якая пазначалася спецыяльным шасціграннікам (т. зв. «шайбай»), мелася ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя Леніна, Фундаментальнай бібліятіэцы АН БССР і бібліятэцы Міністэрства замежных спраў. Існавала чатыры катэгорыі доступу да закрытай замежнай літаратуры: «1с», «2с», «3с», і «4с». Колькасць шасцікутнікаў на вокладцы выдання адпавядала катэгорыі сакрэтнасці. Адзін шасцікутнік адпавядаў ніжэйшаму ўзроўню і так далей да чатырох «шайбаў». Замежныя кнігі і часопісы катэгорыя «4с» траплялі толькі ў буйнешыя маскоўскія ўніверсальныя і

спецыялізаваныя бібліятэкі. Да мінскіх спецсховаў звычайна даходзіла літаратура ніжэйшых катэгорыі сакрэтнасці «1с».

У 1949 г. Ф. І. Дадзіёмава атрымала з Масквы «Інструкцыю аб спецфондах літаратуры пры бібліятэках СССР», згодна з якой «сховішчы кантрольных экзэмпляраў забароненай для масавага выкарыстання літаратуры» былі створаны пры трох рэспубліканскіх (Дзяржаўнай імя У. І. Леніна[67], Урадавай імя А. М. Горкага і Навуковай АН БССР), а таксама трох абласных (віцебскай, магілёўскай і гродзенскай) бібліятэках БССР [82, арк. 40]. Неўзабаве з'явіўся спецсхоў у бібліятэцы Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. На працягу другой паловы 1950-х гг. спецсховы ў абласных бібліятэках зніклі. У той жа час фонд літаратуры спецыяльнага захавання быў створаны ў бібліятэцы партыйнага архіва пасля пераводу апошняга з Магілёва ў Мінск у 1956 г.

Стварэнне спецыяльных фондаў у мінскіх і абласных бібліятэках не ратавала ад фізічнага знішчэння ўсе «ідэалагічна варожыя» выданні. Па-ранейшаму вялікая колькасць «шкоднай» літаратуры знішчалася ў качагарках бібліятэк. Напрыклад, на канец 1949 г. у спецфондзе Гродзенскай абласной бібліятэкі налічвалася 503 кнігі, пры тым што толькі за той год мясцовы аблліт адабраў 748 кніг з масавых бібліятэк і 871 кнігу з цэркваў і касцёлаў [84, арк. 120]. Змест спецфондаў бібліятэк рэгулярна

правяраўся з мэтаю выяўлення і спалення дублетных (больш за два асобнікі) і струхнелых выданняў. Напрыклад, у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя Леніна ў 1967 г. у гэту катэгорыю трапіла звыш 150 кніг, у т. л. творы Ф. Аляхновіча, А. Луцкевіча, А. Смоліча, А. Станкевіча, А. Цвікевіча. У 1971 г. палілі дублетныя экзэмпляры кніг Я. Лёсіка, М. Гарэцкага, Ю. Віцьбіча і інш. Падобная практыка захоўвалася і надалей.

У абавязкі супрацоўнікаў спецфондаў уваходзла складанне і анатаванне спісаў літаратуры, што падлягала адабранню. Як і ўся працоўная дзейнасць у краіне, гэтая праца планавалася ў бок павелічэння яе аб’ёмаў ад дасягнутага. Напрыклад, у Дзяржаўнай бібліятэцы імя Леніна ў 1953 г. было анатавана 236 шкодных выданняў у параўнанні з 123 выданнямі ў 1952 г. Ва Урадавай бібліятэцы імя Горкага ў 1953 г. было анатавана 38 выданняў (у 1952 — не было зусім), у акадэмічнай бібліятэцы — 39 выданняў (у 1952 г. — 1). Пасля агляду букіністычных кнігарняў у 1953 г. з’явіўся анатаваны спіс на адабранне 51 кнігі. У 1954 г. паказчыкі спецфондаў трох бібліятэк і аднаго музея яшчэ павялічыліся. За гэты год разам туды адабралі 8156 асобнікаў літаратуры і анатавалі 1105 выданняў [92, арк. 34–42]. З сярэдзіны 1950-х гг. супрацоўнікам спецфондаў было дазволена самастойна перадаваць адабраную з бібліятэк і кнігагандлю літаратуру ў мясцовыя аддзяленні канторы «Утыльсыравіна».

Былі выпадкі, калі беларускія бібліятэкары выступалі ініцыятарамі перадачы ў спецыяльныя фонды нават маскоўскіх выданняў. Так было ў маі 1953 г., калі загадчыца спецфонду Навуковай бібліятэкі АН БССР В. І. Бліядуха знайшла ў першым томе біяграфічна-бібліяграфічнага слоўніка «Рускія батанікі» (Масква, 1947) прозвішча даваеннага дырэктара Інстытута праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў БАН Г. І. Ануфрыева. В. І. Бліадухо паведаміла ў Галоўліт БССР, што апошні «з 1941 па 1944 гг. актыўна працаваў на немцаў на пасадзе дырэктара Батанічнага сада ў г. Мінску — прадаўся немцам, вывез за мяжу ўсё каштоўнае абсталяванне акадэміі, а таксама перадаў немцам сакрэтныя звесткі па запасах торфу. Цяпер гэты здраднік Радзімы знаходзіцца за мяжой» [90, арк. 8].

Аб'ёмы беларускіх бібліятэчных спецсховаў штогод павялічваліся. Калі ў 1950 г. у спецфондзе Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Леніна захоўвалася 18 тыс. асобнікаў літаратуры, у т. л. каля 8 тыс. на замежных мовах, то ў сярэдзіне 1980-х гг. яе колькасць набліжалася да 50 тыс. асобнікаў, 30 тыс. з якіх былі на замежных мовах. Спецфонд Фундаментальнай бібліятэкі АН БССР у 1960 г. ужо складаўся з беларускага, рускага, замежнага і сакрэтнага аддзелаў, а таксама архіва, меў асобнае памяшканне з чытальнай залай, штатную пасаду загадчыка. Тут змяшчалася навуковая літаратура па рэлігіязнаўстве, біялогіі, эканоміцы, ядзернай фізіцы, псіхалогіі, сацыялогіі, кібернетыцы, генетыцы,

філалогіі, статыстыцы агульнай колькасцю 7786 асобнікаў. Прычым толькі за 1960 г. у спецфонд гэтай бібліятэкі трапіла больш за тысячу кніг і перыядычных выданняў, а перададзена адтуль у агульныя фонды 57 кніг [106, арк. 83].

Права карыстацца літаратурай са спецсхова мелі прадстаўнікі вузкага кола вышэйшай партыйна-савецкай наменклатуры, гаспадарчай, навуковай, мастацкай эліты, генералітэт. Допуск у кампетэнтных органаў для работы ў спецфондах мог атрымаць і шараговы спецыяліст, але пасля дэталёвага тлумачэння ўласных мэтаў і формаў выкарыстання сакрэтнай інфармацыі. Нават супрацоўнікі бібліятэк маглі трапіць у спецфонд толькі з дазволу дырэктара. Схаваныя ў спецсхоў свяшчэнныя кнігі — Біблію, Тору, Каран — можна было атрымаць, напрыклад, для выкарыстання іх тэкстаў у атэістычнай прапагандзе сярод насельніцтва. У 1961 г. спецфонд Фундаментальнай бібліятэкі АН БССР прадставіў 288 абраным чытачам 2341 выданне для работы з імі ва ўласнай чытальнай зале [106, арк. 16]. У 1970 г. у спецфондзе Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Леніна было запісана 79 сталых чытачоў. Агульная ж колькасць карыстальнікаў, якім дазволілі азнаёміцца ў тым годзе з 2017 выданнямі, склала 211 чалавек [71, арк. 198].

Залішне казаць, што на пасады загадчыкаў спецфондаў прызначаліся ідэалагічна вытрыманыя, правераныя асобы. Згаданая вышэй Б. Р. Раманоўская з’яўлялася сакратаром парткама

бібліятэкі, была членам партыі з 1921 г. Пасля стварэння спецфонду Фундаментальнай бібліятэкі АН БССР было вырашана, што абавязкі яго загадчыка будуць ускладзены на намесніка дырэктара.

Частка замежнай (у т. л. эмігранцкай) літаратуры, што высылалася ў беларускія бібліятэкі, не трапляла нават у іх спецсховы. Напрыклад, летам 1962 г. падчас кантролю літаратуры, дасланай савецкім бібліятэкам заходненямецкімі выдаўцамі, Галоўліт СССР затрымаў 45 кніг на беларускай і англійскай мовах. Выдадзеныя Інстытутам па вывучэнні СССР, Беларускай цэнтральнай радай і выдавецтвам «Бацькаўшчына», яны накіроўваліся ў адрас Фундаментальнай бібліятэкі АН БССР. Пра гэта сакратару ЦК КПБ па ідэалогіі В. Ф. Шаўру паведамляў начальнік саюзнага Галоўліта П. К. Раманаў. Ён настойваў на правядзенні расследавання, якое б дало адказ на пытанне, ці не сыходзіла ініцыятыва высылкі гэтых кніг ад кіраўніцтва бібліятэкі. Звычайна затрыманая эміграцкая літаратура высылался Галоўлітам СССР беларускаму партыйнаму кіраўніцтву «з мэтай выкарыстання ў контрпрапагандзе» [22, арк. 248].

Партыйныя цэнзары імкнуліся таксама абмежаваць доступ замежнага чытача да савецкай друкаванай прадукцыі. Напрыклад, пытанне аб адпраўцы ў бібліятэкі Кангрэса ЗША і Брытанскага музея брашур «Палажэнне пра таварыскія суды», «Пра добраахвотныя народныя дружыны па ахове

грамадскага парадку», «Закон аб судаўладкаванні Беларускай ССР» вырашалася ў 1962 г. на ўзроўні ЦК КПБ, прычым брашура была прызнана «для службовага карыстання» [14, арк. 176].

Смерць Сталіна ў 1953 г. і барацьба за ўладу ўнутры яго бліжэйшага атачэння, якая адбывалася ў наступныя гады, самым непасрэдным чынам адбілася на складзе бібліятэчных фондаў. Калі ў 1952 г. усяго з бібліятэк і кнігагандлю БССР было адабрана 271 тыс. асобнікаў літаратуры і выяўленчай прадукцыі, то ў 1953 г. колькасць адабранага павялічылася да 421 тыс. адзінак. Блізкі да апошняга паказчык (420 тыс. адзінак) захаваўся і ў наступным 1954 г. Каля 90 % ад гэтых лічбаў даваў кнігагандль і, адпаведна, каля 10 % — бібліятэкі. Падобнае рэзкае павелічэнне аб'ёмаў адабранай літаратуры тлумачылася ўключэннем у паказальнікі, што дасылаліся маскоўскім кіраўніцтвам (1/22, 2/23, часткова 3/24, 5/26) «твораў» І. В. Сталіна, Л. П. Берыі і Л. Ф. Цанавы, якія выдаваліся ў СССР надзвычай вялікімі тыражамі. Пра гэта ўказвалася ў спецыяльнай пастанове ЦК КПБ ад 20 лютага 1954 г. «Аб ачыстцы бібліятэк, кнігарняў і кніжных баз ад палітычна шкоднай і састарэлай літаратуры» [12, арк. 119].

Павелічэнне аб'ёмаў «састарэлай» літаратуры яшчэ больш востра паставіла перад цэнзурай пытанне аб перакладанні на бібліятэкараў асноўнага цяжару гэтай працы. 1953 год можна разглядаць як пераломны — палову ад усёй адабранай літаратуры далі супрацоўнікі бібліятэк. А ў 1954 г. ужо дзве трэці

ад агульнага аб’ёму адабранага было дадзена цэнзарам самімі бібліятэкарамі [75, арк. 5]. Кіраўніцтва Галоўліта ставіла перад сабой мэту цалкам перакласці тэхнічныя работы па чыстцы бібліятэк на іх супрацоўнікаў, каб цэнзары толькі кантралявалі зробленае бібліятэкарамі. Але на шляху да гэтай мэты ўвесь час паўставалі перашкоды ў выглядзе чалавечага фактару. Многія прадстаўнікі прафесіі спрабавалі пазбегнуць чыстак сваіх кнігасховішчаў, схаваць лепшыя выданні ў далёкі кут ад пранізлівага позірку цэнзара.

З мэтай павелічэння колькасных і якасных паказчыкаў чыстак бібліятэк цэнзура ўжывала метады прымусу, такія як перадача звестак пра парушальнікаў галоўлітаўскіх загадаў у партыйныя органы, пракуратуру і нават закрыццё бібліятэк. У лістападзе 1949 г. рашэннем гаркама партыі была звольнена з працы «за палітычную слепату» дырэктар Брэсцкай абласной бібліятэкі Н. С. Бабкова, якая займалася чысткай фондаў сваёй установы самастойна, без галоўлітаўскіх інструкцый. Падчас адабрання з бібліятэкі састарэлых кніг яна санкцыянавала адпраўку ў кацельную для спальвання каля 40 экзэмпляраў брашур Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна. Пра гэта «добразычлiўцы» Н. С. Бабковай адразу ж праінфармавалі адпаведныя органы. Да таго ж, у часопісах, што выдаваліся ў чытальнай зале Брэсцкай абласной бібліятэкі, час ад часу чытачы знаходзілі ўлёткі ўкраінскіх нацыяналістаў [5, арк. 111]. У 1952 г. па дакладзе Галоўліта ў Камітэт па

справах культурна-асветніцкіх установ была звольнена загадчыца Воранаўскай раённай бібліятэкі Гродзенскай вобласці. У наступным годзе ў органы пракуратуры была перададзена справа на загадчыцу Валожынскай раённай бібліятэкі. Яна дала распіску райліту, што літаратуры для адабрання ў яе няма, а насамрэч яна была [89, арк. 142]. Цэнзары і надалей увесь час скардзіліся на загадчыкаў бібліятэк у вышэйстаячыя органы, вынікам чаго былі вымовы, звальненні і інш.

Якая ж канкрэтна літаратура знікла з бібліятэчных паліц у разглядаемы час?

Адным з першых дакуметаў, падпісаных новым начальнікам Галоўліта БССР Л. В. Садоўскім 25 ліпеня 1951 г., быў загад аб адабранні з бібліятэк і кнігарняў усіх кніг былога міністра адукацыі рэспублікі П. В. Саевіча [85, арк. 9]. Іншыя загады маскоўскага кіраўніцтва, якія дасылаліся ў Галоўліт БССР у 1951 г., патрабавалі ад мясцовых цэнзараў адбіраць з бібліятэк кнігі савецкіх «бязродных касмапалітаў» — эканаміста і дзяржаўнага дзеяча М. А. Вазнясенскага, гісторыка І. І. Мінца, пісьменнікаў І. Эрэнбурга, І. Фэфера і інш. З-за ўзгадак імёнаў «касмапалітаў» у тым жа годзе з бібліятэчных паліц зніклі зборнікі «Паэты Ленінграда» (ДВБ, 1948), «Вершы і песьні народаў СССР пра Сталіна» (Выд-ва СНК БССР, 1940), «Чырвоныя партызаны» С. Фірына (ДВБ, 1935).

3 верасня 1953 г. штатны бібліятэчны цэнзар Галоўліта БССР Рэпіна склала чарговы спіс на

адабранне палітычна шкодных беларускіх выданняў. У асноўным туды трапіла масавая грамадска-палітычная літаратура 1930-х гг., але ў тым жа спісе мы знаходзім «Зборнік сцэнічных твораў» (Мінск, 1918), «Новую беларускую літаратуру» А. Багдановіча (Віцебск, 1925), «Праблемы беларускай савецкай драматургіі» В. Вольскага (Менск, 1934) і нават ліст «Вялікаму Сталіну ад беларускага народа» (Менск, 1937), які не падабаўся цэнзару з-за таго, што ў тэксце, падпісаным рэпрэсаванымі літаратарамі І. Харыкам і А. Александровічам, згадваўся апальны наркам унутраных спраў М. І. Яжоў. У вераснёўскі (1953) спіс забароненых беларускіх выданняў трапілі таксама ўсе кнігі паэта і перакладчыка Х. Мальцінскага, арыштаванага органамі МДБ у 1949 г. [87, арк. 8–14].

30 ліпеня 1953 г. намеснік начальніка Галоўліта БССР Я. М. Савіцкая паслала на разгляд у Галоўліт СССР спіс на адабранне з бібліятэк 75 беларускіх выданняў міжваеннага часу. Да катэгорыі «шкодных» іх аднеслі пераважна з прычыны ўзгадкі ў іх рэпрэсаваных асоб (А. Р. Чарвякова, А. І. Крыніцкага, У. М. Ігнатоўскага, Я. А. Адамовіча, В. Ю. Ластоўскага, А. А. Смоліча, М. І. Гарэцкага, Д. Ф. Жылуновіча, А. І. Александровіча, М. Ф. Хведаровіча). Сярод малакаштоўных агітацыйна-прапагандысцкіх брашур кшталту «Ажыццявім пастановы першага Усебеларускага злёту калгасных конюхаў-ударнікаў» (Менск, 1933) мы знаходзім у гэтым спісе «Чатырохсотлецьце беларускага друку.

1525–1925» (Менск, 1926), «Поэты Заходняй вобласці» (Менск, 1935), «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры» І. Дварчаніна (Вільня, 1927), матэрыялы Усебеларускіх краязнаўчых канферэнцый, працы Інбелкульта, летапісы беларускага друку, школьныя падручнікі, працы БДУ з артыкуламі М. М. Шчакаціхіна і У. І. Пічэты. Анатацыі да адабранай літаратуры ў спісе мелі катэгарычны характар. Напрыклад, насупраць кнігі С. Дарожнага і І. Плаўніка «Звон вясны. Вершы» (Менск, 1926) значылася: «Вершы Плаўніка не ўяўляюць ні мастацкай, ні літаратурнай каштоўнасці, таму кнігу трэба адабраць» [88, арк. 10–23].

26 жніўня 1953 г. Галоўліт БССР падрыхтаваў спіс на 16 «палітычна-шкодных» беларускіх выданняў, якія не ўвайшлі ў ранейшыя загады на адабранне. У асноўным гэта была грамадска-палітычная літаратура, але трапілі туды і творы беларускай літаратуры, напрыклад «Чырвоны дудар. Беларускі дэкламатар. Злажылі Я. Купала і інш.» (Менск, 1924). 16 лістапада таго ж года з’явіўся спіс яшчэ на 11 беларускіх кніг, 18 лістапада — на 29, 21 лістапада — на 14, 25 снежня — на 55 выданняў [90, арк. 20–25].

5 студзеня 1954 г. Л. В. Садоўскі накіраваў на зацвярджэнне ў Маскву новы анатаваны спіс на адабранне беларускай літаратуры, у якім была 21 пазіцыя. 19 студзеня таго ж года ў Мінску склалі спіс на 52 пазіцыі, 12 сакавіка — спіс на 130 пазіцый. У асноўным гэта па-ранейшаму была літаратура, выдадзеная ў БССР у 1920–1930-я гг., на старонках

якой узгадваліся імёны рэпрэсаваных. Мы знаходзім у гэтых спісах зборнікі «Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці. Пад рэд. Я. Коласа і М. М. Нікольскага» (Менск, 1938), «Якуб Колас у літаратурнай крытыцы. Злажыў Ул. Дзяржынскі» (Менск, 1926), «Памяці Янкі Купалы. 1882–1942» (Выд. ЦК КП(б)Б, 1943), брашуру В. Ф. Чарвякова «Аб сучасных самагубствах на Беларусі» (Менск, 1927), асобныя тамы Леніна, Сталіна, працы партыйных і савецкіх кіраўнікоў. Акрамя таго, цэнзары расшукалі ў бібліятэчных сховішчах «Зборнік сцэнічных твораў. Камедыі і вадэвілі. Сш. 1» Ф. Аляхновіча (Менск, 1918) і «Беларускі каляндар на 1924 год» (Вільня, 1923) [91, арк. 10–28].

15 сакавіка 1954 г. у Мінску з’явіўся падобны спіс на адабранне 125 беларускіх выданняў, а таксама выданняў, з якіх трэба было выразаць асобныя старонкі. Калі брашура А. Чарнушэвіча «Беларускі кантрэвалюцыйны нац-дэмакратызм» (Менск, 1931) падлягала знішчэнню цалкам, то са зборніка «Правадыр народаў. Калектыўныя творы» (Мінск, 1940) трэба было выразаць старонкі, на якіх змяшчалася «Пісьмо Вялікаму Сталіну ад беларускага народа» [75, арк. 10–15].

19 мая 1954 г. быў падрыхтаваны спіс шкодных беларускіх выданняў на 69 пазіцый, 29 мая — на 153 пазіцыі, 12 жніўня — на 55 пазіцый. 17 жніўня 1954 г. Галоўліт БССР падрыхтаваў спецыяльны спіс на 14 пазіцый, які складаўся выключна з заходнебеларускіх выданняў. Мы знаходзім у ім «Вянок» М.

Багдановіча (Вільня, 1927), «Заходняя Беларусь. Зборнік грамадскае мысьлі, навукі, літаратуры, мастацтва Заходняй Беларусі» (Вільня, 1924), «Родныя гоні. Кн. 1» (Вільня, 1927), «Беларускія (крывіцкія) народныя песьні і казкі» (Вільня, 1937), гадавікі і запісы Беларускага навуковага таварыства [75, арк. 79–80]. 25 жніўня 1954 г. з'явіўся анатаваны спіс беларускіх выданняў на 138 пазіцый, куды, акрамя літаратурных твораў, падручнікаў, навуковых прац рэпрэсаваных аўтараў, трапілі з-за непатрэбных цытат у прадмовах «Выбраныя вершы» П. Труса (Менск, 1931) і першы том «Збору твораў» Э. Самуйлёнка (Мінск, 1952) [75, арк. 82–101].

Усе пералічаныя вышэй спісы былі складзены ў Галоўліце БССР на аснове інфармацыі, якая дасылалася са спецфондаў бібліятэк. У справаводстве беларускага цэнзурнага ведамства захаваліся таксама спісы «дэфектнай» літаратуры, знойдзенай у агульнадаступных фондах супрацоўнікамі спецфондаў Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна, Фундаментальнай бібліятэкі АН БССР, бібліятэкі Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Напрыклад, у апошняй у жніўні 1954 г. была знойдзена каштоўная падборка заходнебеларускіх перыядычных выданняў («Студэнцкая думка», «Шлях моладзі», «Неман», «Незалежная думка», «Калосьсе», «Самапомач», «Маланка», «Пагоня», «Лучынка», «Новая варта», «Хрысціянская думка», «Крывіч»), пра што адразу ж паведамілі ў Галоўліт [91, арк. 77].

Расстрэл Л. П. Берыі і арышт Л. Ф. Цанавы ў 1953 г. стварылі новы накірунак у рабоце Галоўліта па кантролі бібліятэк. Неабходна было знішчыць нават згадкі імёнаў гэтых людзей ва ўсіх відах выданняў. Паводле дакладной Галоўліта БССР, 20 лютага 1954 г. ЦК КПБ прыняў пастанову, якая абавязвала міністэрствы і ведамствы паскорыць чыстку ўласных бібліятэк і кнігарняў ад «састарэлай літаратуры». Гутарка ішла пераважна пра друкаваную прадукцыю, дзе ўзгадваліся Л. П. Берыя і Л. Ф. Цанава, і канкрэтна пра кнігу апошняга «Усенародная партызанская вайна ў Беларусі супроць фашысцкіх захопнікаў» усіх гадоў выдання, агульны тыраж якой склаў 40 тыс. асобнікаў. Па-ранейшаму трэба было адбіраць кнігі «бязродных касмапалітаў», напрыклад, расстраляных у 1952 г. па справе Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта пісьменніка Д. Бергельсона і паэта Л. Квітко, асуджанага на 25 гадоў паэта і перакладчыка А. Платнэра і інш. [13, арк. 239].

Галоўліт БССР увесь час ладзіў праверкі якасці выканання партыйнай пастановы, але чысткі 18 234 бібліятэк і 1611 кропак гандлю друкаванай прадукцыяй ішлі марудна. 7 студзеня 1955 г. па прапанове Галоўліта БССР аддзел прапаганды ЦК КПБ склікаў нараду кіраўнікоў усіх міністэрстваў і ведамстваў, што мелі кніжныя фонды. Па яе выніках кіраўнікам далі двухмесячны тэрмін на чыстку ўласных кнігасховішчаў ад забароненай літаратуры. Падобныя ж нарады былі праведзены абласнымі і гарадскімі партыйнымі камітэтамі. Аб парадку

адабрання кніг паведамлялася таксама на нарадах работнікаў бібліятэк, кнігагандлю, абласных упраўленняў культуры [92, арк. 36–37].

Але, нягледзячы на намаганні партыйных органаў, у 1955 г. рэкордныя лічбы папярэдніх гадоў перакрыты не былі. На працягу 1955 г. праверкамі былі ахоплены фонды 11 309 бібліятэк, з якіх адабралі 21 792 кнігі. З іх 3963 перадалі ў спецфонды, астатнія знішчылі. З кнігагандлю было забрана амаль утрая больш — 46 583 асобнікі. У асноўным гэта былі вялікія тыражы кніг, напісаных высокапастаўленымі аўтарамі — партыйнымі і дзяржаўнымі дзеячамі, якія нечакана сталі «ворагамі народа». Адбіралі, канешне, не толькі «творы» закатаваных катаў, але таксама кнігі беларускіх класікаў — М. Багдановіча, Я. Купалы, М. Гарэцкага, А. Станкевіча і інш. [93, арк. 27].

У 1955–1956 гг. з лагераў вярнуліся дзясяткі тысяч «ворагаў народа». Сярод іх былі літаратары, якія пасля ўласнай рэабілітацыі чакалі рэабілітацыі сваіх твораў. У ліпені 1955 г. рэабілітаваны напярэдадні рэдактар Дзяржвыдавецтва БССР Я. Скрыган разам з удавой С. Баранавых звярнуліся ў Саюз пісьменнікаў БССР з просьбай вярнуць са спецыяльных у агульнадаступныя фонды бібліятэк кнігі рэабілітаваных беларускіх пісьменнікаў. Гэты ліст пэўны час безвынікова абмяркоўваўся ў аддзеле агітацыі і прапаганды ЦК КПБ, а таксама Галоўліце БССР [13, арк. 331]. Справа зрушылася з месца пасля таго, як 19 кастрычніка 1955 г. начальнік Галоўліта

БССР Л. В. Садоўскі атрымаў сакрэтны загад Пракуратуры БССР аб спыненні спраў у адносінах да літаратараў С. Баранавых, С. Дарожнага, А. Звонака, М. Багуна, С. Знаёмага, Я. Скрыгана, С. Шушкевіча, Ул. Хадыкі, Б. Мікуліча, Зм. Астапенкі, Р. Бярозкіна а таксама кампазітара А. Туранкова за недаказанасцю складу іх злачынства.

Пасля даклада М. С. Хрушчова на XX з’ездзе пачалася маштабная рэабілітацыя «ворагаў народа» і, адпаведна, перагляд алфавітных спісаў «састарэлых выданняў», складзеных на працягу другой паловы 1930-х — першай паловы 1950-х гг. Кнігі рэабілітаваных аўтараў пачалі вяртацца са спецсховаў у адкрытыя фонды буйнейшых рэспубліканскіх і абласных бібліятэк БССР. 30 сакавіка 1956 г. загадам Галоўліта БССР да чытачоў вярнуліся паэт Я. Туміловіч і пісьменнік А. Бабарэка. Загадам ад 3 мая 1956 г. — паэт М. Хведаровіч. Загадам ад 5 ліпеня — гісторыкі У. І. Пічэта і М. В. Доўнар-Запольскі. 27 жніўня — пісьменнік П. Галавач, 25 верасня — паэт М. Тэйф, 11 кастрычніка — паэты В. Шашалевіч, І. Харык, М. Нікановіч, Ю. Таўбін, пісьменнікі М. Гарэцкі, М. Зарэцкі, 1 снежня — пісьменнік і кінадраматург А. Вольны, паэт і пісьменнік М. Чарот, 14 снежня — празаік і драматург Я. Дыла, 21 снежня — паэт і белетрыст Зм. Жылуновіч, паэт Я. Пушча, мастацтвазнаўца М. М. Шчакаціхін [94, арк. 2–8].

Усяго на працягу другой паловы 1956 г. Галоўліт БССР выдаў 12 загадаў, якія змяшчалі спісы на болей за 800 кніг беларускіх аўтараў, што выводзіліся са

спецфондаў. У гэтых спісах мы знаходзім мастацкія творы Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, К. Каганца, Я. Купалы, А. Гаруна, М. Лужаніна, П. Глебкі, Зм. Бядулі, гістарычныя працы А. К. Сержпутоўскага, А. А. Шлюбскага, К. І. Кернажыцкага, Д. А. Дудкова, а таксама філалагічныя даследаванні В. Ластоўскага, А. Станкевіча і інш. Усяго за 1956 г. да чытачоў вярнуліся кнігі 41 беларускага аўтара. Са спісаў Галоўліта БССР другой паловы 1930-х — першай паловы 1950-х гг. у агульныя фонды буйнейшых бібліятэк рэспублікі перадалі 1532 назвы кніг, 1102 назвы пакінулі ў спецсхове, 339 назваў не знайшлі ўвогуле [75, арк. 1–68].

15 лістапада 1957 г. Пракурор БССР даслаў Л. В. Садоўскаму сакрэтнае паведамленне пра рэабілітацыю паэта Ул. Дубоўкі, празаіка М. Грамыкі, драматурга А. Ляжневіча, географа М. В. Азбукіна. 19 сакавіка 1958 г. у агульнае карыстанне былі пераведзены творы паэта А. Дудара і гісторыка В. К. Шчарбакова. Усяго за 1957 г. Галоўліт БССР вывеў са спецфондаў творы 30 аўтараў [95, арк. 1].

1 красавіка 1959 г. Галоўліт БССР выключыў са спіса аўтараў, усе творы якіх былі забаронены для выкарыстання ў бібліятэках: празаікаў С. Хурсіка і Ул. Сядуры[68], эканамістаў М. Ф. Лойку і С. П. Маргелава, археолага С. А. Дубінскага, дзяржаўнага і грамадскага дзеяча А. В. Баліцкага. 17 ліпеня 1959 г. з гэтага спіса былі выключаны вучоныя і грамадскія дзеячы А. І. Цвікевіч і С. М. Некрашэвіч, гісторык В.

Д. Дружчыц і археолаг А. М. Ляўдансні, пісьменнік Л. Зіскінд, мовазнаўца І. В. Воўк-Левановіч, у лістападзе 1960 г. — эканаміст і дзяржаўны дзеяч Д. Ф. Прышчэпаў [98, арк. 25]. Кнігі рэпрэсаваных аўтараў вярталіся са спецсховаў у агульныя фонды бібліятэк павольна і асцярожна. Спачатку кожную кнігу рэабілітаванага аўтара вывучаў цэнзар. Пасля яго «палітычныя дэфекты» ў кнізе шукаў начальнік аддзела. Завяршалася экспертыза ў кабінеце начальніка Галоўліта. Апошні, перад тым як прыняць канчатковае рашэнне, часта кансультаваўся з КДБ, пракуратурай, Саюзам пісьменнікаў. Чытачы масавых бібліятэк, дзе забароненыя кнігі рэабілітаваных аўтараў да таго часу ўжо былі знішчаны, доступу да іх, натуральна, не мелі.

Працэс раскрыцця спецфондаў у меншых памерах працягваўся і надалей. Напрыклад, сваім спецыяльным загадам 9 снежня 1964 г. начальнік Галоўліта БССР А. А. Маркевіч перадаў у агульныя фонды бібліятэк пяць краязнаўчых кніжак, выдадзеных у БССР у 1920-я гг., аўтарамі ці ўкладальнікамі якіх былі рэпрэсаваныя беларускія навукоўцы М. І. Каспяровіч, А. М. Ляўдансні, Д. І. Даўгяла і інш. У чэрвені 1970 г. у агульныя фонды быў перададзены шэраг твораў паэтаў А. Дудара і А. Александровіча, прац філолагаў М. Я. Байкова і С. М. Некрашэвіча, а таксама нумізмата П. В. Харламповіча. У 1973 г. да чытача вярнуліся працы філолага М. В. Шатэрніка, у 1980 г. — беларускага польскамоўнага паэта і драматурга У. Кавальскага. У 1981 г. —

віленскае выданне (1927 г.) «Хрэстаматыі новай беларускай літаратуры» І. Дварчаніна і мінскае выданне (1928 г.) «Нарысаў гісторыі беларускай літаратуры» М. М. Піятуховіча [100, арк. 4].

Аднак не трэба думаць, што працэс вяртання са спецсховаў рэабілітаваных аўтараў спыніў дзейнасць Галоўліта па адабранні літаратуры з адкрытых фондаў бібліятэк. Працэсы рассакрэчвання, засакрэчвання і знішчэння ішлі паралельна. Так, у знамянальным 1956 г. цэнзары Галоўліта БССР падрыхтавалі спіс беларускіх аўтараў, усе творы якіх падлягалі адабранню з адкрытых фондаў бібліятэк і кнігарняў. Туды трапілі Ф. Аляхновіч, Н. Арсеньева, Я. Станкевіч і іншыя дзеячы беларускай культуры. Варта адзначыць, што ў гэтым спісе, нягледзячы на сціплую друкаваную спадчыну, аказаўся таксама першы старшыня Галоўлітбела Р.К. Шукевіч-Траццякоў [94, арк. 2–8]. 13 студзеня 1959 г. у сувязі са знойдзенымі «палітычнымі дэфектамі» ў спецсхоў вярталіся асобныя творы Ул. Дубоўкі, А. Александровіча, А. Дудара. Загадам начальніка Галоўліта БССР у жніўні 1959 г. туды ж накіравалі некаторыя артыкулы А. Баліцкага, В. Ластоўскага і інш. На працягу 1960 г. паводле спісаў Галоўліта з адкрытага фонду Фундаментальнай бібліятэкі АН БССР зніклі 125 тамоў рускай і 148 тамоў беларускай літаратуры, 137 з якіх трапілі ў спецсхоў [106, арк. 40]. 21 лістапада 1961 г. Л. Садоўскі даслаў на разгляд сакратару В. Ф. Шаўру спіс з 42 аўтараў, усе творы якіх падлягалі адабранню з масавых бібліятэк і

кнігагандлёвай сеткі (А. Адамовіч, Ф. Акінчыц, Ф. Аляхновіч, Н. Арсеньева, Р. Астроўскі, Ю. Віцьбіч, Зм. Даўгяла, Х. Дунец, Ц. Зарэчны, Ус. Ігнатоўскі, Хв. Ільяшэвіч, М. Каспяровіч, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, А. Луцкевіч, Я. Найдзюк, Зм. Прышчэпаў, Я. Станкевіч, А. Цвікевіч і інш.) [21, арк. 189].

У 1960 г. Галоўліт і аблліты праверылі 6318 бібліятэк, у 1095 з іх была знойдзена літаратура, якая падлягала адабранню. У 1961 г. — 3020 бібліятэк і 456 кнігагандлёвых кропак, з якіх шкодная літаратура была знойдзена ў 629 бібліятэках і 24 кропках. У 1962 г. — 5849 бібліятэк і 512 кнігагандлёвых кропак, з якіх было адабрана 4871 і 350 экзэмпляраў кніг адпаведна [23, арк. 18].

Пераважная большасць літаратуры, адабранай падчас хрушчоўскай «адлігі», уяўляла «творы» партыйных і дзяржаўных кіраўнікоў, якія ў выніку барацьбы за ўладу пасля смерці Сталіна аказаліся ў ролі палітычных аўтсайдараў. Па-ранейшаму адбіраліся ўсе кнігі і перыядычныя выданні, дзе ўзгадваліся І. В. Сталін, Л. П. Берыя, Л. Ф. Цанава альбо былі надрукаваны іх партрэты. Новая хваля бібліятэчных чыстак перыяду «адлігі» была звязана з разгромам «антыпартыйнай групы» — В. М. Молатава, Л. М. Кагановіча, Г. М. Малянкова. Неўзабаве пад забарону патрапілі выданні, дзе ўзгадвалася імя пакаранага ў 1958 г. смерцю старшыні Савета Міністраў Венгрыі І. Надзя. Пасля разрыву ў 1961 г. дыпламатычных адносін паміж СССР і Албаніяй гэтую краіну было забаронена ўзгадваць у

якасці сябра СССР. У 1962 г. з’явіўся галоўлітаўскі загад на адабранне ўсіх выданняў, дзе ўзгадвалася імя афіцыйнага абвінаваўцы на палітычных працэсах 1930-х гг. А. Я. Вышынскага [9, арк. 163].

Тым не менш час патрабаваў змягчэння падыходаў нават ад савецкага цэнзурнага ведамства. 16 жніўня 1960 г. Галоўліт СССР выдаў загад, які выключаў практыку прагляду і афармлення цэнзарскімі штампамі букіністычнай літаратуры, што набывалася кнігарнямі. Ад гэтага часу яна правяралася па агульных з новымі кнігамі правілах. У тым жа годзе працэсу чыстак бібліятэчных фондаў ад ідэалагічна непажаданай літаратуры Галоўліт паспрабаваў надаць больш адкрыты, калегіяльны характар. Праверка зместу фондаў бібліятэк і кнігарняў цяпер была даручана камісіям, якія складаліся з прадстаўнікоў мясцовых аддзелаў культуры, адукацыі, а таксама бібліятэк [106, арк. 14].

На працягу другой паловы 1960-х — першай паловы 1980-х гг. Галоўліт БССР рэгулярна атрымліваў з Масквы сакрэтныя загады на адабранне з бібліятэк ідэалагічна шкоднай літаратуры. Спісы, якія дадаваліся да загадаў, у параўнанні з папярэднім часам былі ўжо нашмат карацейшыя. Гэтыя загады разам са спісамі перасылаліся ў аблліты і бібліятэчную інспекцыю Міністэрства культуры, якая «спускала» іх для выканання ў аддзелы культуры абласных, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў. Пасля чысткі фондаў ад «састарэлай і няпрофільнай літаратуры» загады знішчаліся. Праз

пэўны час у бібліятэкі прыходзілі цэнзары з мэтай праверкі іх фондаў.

Напрыклад, у 1977 г. Гродзенскі аблліт правёў выбарачную кантрольную праверку адабрання з бібліятэк вобласці літаратуры, забароненай апошнімі загадамі Галоўліта СССР. Праверка высветліла дрэнную арганізацыю інфармавання кіраўнікоў гарадскіх і раённых бібліятэк пра новыя спісы на адабранне, што прыходзілі з Масквы. Былі шматлікія выпадкі, калі дырэктары бібліятэк замест таго, каб атрымаць копіі загадаў, былі вымушаны знаёміцца з імі ў аддзелах культуры гарадскіх і раённых выканкамаў, перапісваць іх ад рукі. Пакаранне за гэта, у адрозненні ад папярэдніх часоў, было фармальнае. Намеснік начальніка ўпраўлення культуры Гродзенскай вобласці «звярнуў увагу» вінаватых на іх «высокую адказнасць» за знішчэнне забароненых кніг [1, с. 85].

Большасць галоўлітаўскіх загадаў на адабранне літаратуры ў 1960–1980-я гг. была прысвечана агульнавядомым сёння савецкім пісьменнікам-дысідэнтам — А. Кузняцову (1970), У. Максімаву, А. Сіняўскаму, А. Галічу, В. Някрасаву (1974), А. Бердніку (1976), Т. Венцлаву, М. Рудэнку (1978), В. Аксёнаву (1980) і інш. У жніўні 1967 г. Галоўліт СССР выдаў спецыяльны загад, які патрабаваў адабраць з усіх бібліятэк краіны выдадзеную два гады раней кнігу А. М. Некрыча «1941. 22 чэрвеня». Адразу ж пасля высылкі за мяжу А. І. Салжаніцына ў 1974 г. з'явіўся асобны загад Галоўліта аб адабранні з

бібліятэк усіх яго твораў. Пасля выхаду ў 1976 г. у Швейцарыі кнігі А. А. Зіноўева «Раскрытыя вышыні» падобным загадам былі знішчаны альбо пераведзены ў спецфонды ўсе яго працы. У некаторых з маскоўскіх спісаў на адабранне кніг мы знаходзім імёны аўтараў, жыццё і творчасць якіх былі звязаны з Беларуссю. Напрыклад, у спіс 1976 г. зноў трапілі 17 кніг яўрэйскага паэта і перакладчыка Х. Мальцінскага, выдадзеныя ў БССР у 1933–1970 гг., з прычыны ад'езду іх аўтара ў Ізраіль [76, арк. 1]. Не забываліся ўкладальнікі спісаў і на беларускую літаратуру міжваеннага часу. Напрыклад, у спісе 1988 г. мы знаходзім кнігу К. Езавітава «Беларусы і палякі» (Коўна, 1919).

12 студзеня 1989 г. Галоўліт БССР падрыхтаваў апошні ў сваёй гісторыі зводны спіс літаратуры, якая падлягала выключэнню з агульных фондаў бібліятэк. Ён складаўся з дзвюх частак. У першую частку ўвайшлі 27 беларускіх выданняў грамадска-палітычнага характару, у т. л.: Я. Варонка «Беларускі рух ад 1917 да 1920 г.» (Коўна, 1920), І. Абдзіраловіч «Адвечным шляхам» (Вільня, 1921), Ф. Шантыр «Патрэбнасьць нацыянальнага жыцьця для беларусаў і самаадзначэньня народу» (Слуцк, 1918), А. Бяроза «Расійска-польскі баль і беларускае пахмельле» (Пінск, 1921), «Што трэба ведаць кожнаму беларусу» (Мінск, 1918), «Праграма беларускай народнай партыі рэвалюцыйных соцыялістаў» (Вільня, 1920), «Рэлігійнае жыцьцё на Беларусі» (Вільня, 1932), «Чаго чакаць беларусам ад Польшчы» (б. м., 1921),

«Памяці І. Луцкевіча. У першыя ўгодкі сьмерці яго» (Вільня, 1920). Усе адзначаныя кнігі падлягалі абавязковаму адабранню. У другую частку апошняга галоўлітаўскага спіса ўвайшлі 48 беларускіх выданняў непалітычнага зместу, рашэнне аб выдаленні якіх з агульных фондаў былі павінны прыняць кіраўнікі бібліятэк.

У 1987 г. з пачаткам правядзення палітыкі галоснасці пад кіраўніцтвам Галоўлітаў СССР і саюзных рэспублік распачалі работу міжведамасныя камісіі па праглядзе кніжных выданняў з мэтай іх перадачы з аддзелаў спецыяльнага захавання ў адкрытыя фонды. Першым вынікам работы падобнай камісіі ў Мінску было вяртанне да чытача 164 беларускіх кніг, якое адбылося 12 кастрычніка 1987 г. Сярод іх мы знаходзім падручнікі («Гісторыя беларускай літаратуры» М. Гарэцкага, «Роднае слова» пад рэдакцыяй С. Некрашэвіча), белетрыстыку (вершы і паэмы А. Александровіча), навуковую («Працы першага з’езду досьледчыкаў беларускае архэолёгіі і археаграфіі», працы краязнаўчых з’ездаў), мемуарную (зборнік артыкулаў і ўспамінаў «Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Беларусі» пад рэдакцыяй С. Х. Агурскага) і грамадска-палітычную («састарэлыя» выданні класікаў марксізму-ленінізму) літаратуру [78, арк. 8–15].

Увесну 1988 г. Галоўліт СССР даў некалькі распараджэнняў, якія выводзілі з-пад забароны пэўныя віды замежных выданняў. А яго загадам, які выйшаў 28 ліпеня 1988 г., усю замежную літаратуру

«абмежаванага выкарыстання» перадалі ў агульныя фонды. У снежні 1989 г. Галоўліт перавёў у агульныя фонды ўсю дарэвалюцыйную літаратуру. Пакрысе да чытача вярталіся таксама беларускія кнігі, часопісы, газеты, картаграфічныя матэрыялы. Напрыклад, у 1989 г. са спецфонду Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Леніна было выведзена 398 беларускіх выданняў, у 1990 г. — ужо 682 выданні [80, арк. 31].

У 1989 г. адабранні кніг з бібліятэк БССР канчаткова спыніліся. А 25 ліпеня 1990 г. начальніца Галоўліта БССР Г. С. Лазоўская прадубліравала загад саюзнага цэнзурнага ведамства «Аб ліквідацыі спецсхова», у адпаведнасці з якім усе кнігі, выдадзеныя ў СССР, перадаваліся ў адкрытыя фонды бібліятэк. Гэты працэс зацягнуўся на ўвесь 1991 і часткова 1992 год, на працягу якога спецфонды бібліятэк БССР спынілі існаванне [1, с. 458].

Такім чынам, чысткі бібліятэк ад палітычна непажаданай літаратуры найбольш інтэнсіўна праводзіліся ў БССР на працягу 1950-х гг., дасягнуўшы піку ў 1953 г. Гэтую выснову можна праілюстраваць дадзенымі табліцы, складзенай паводле захаваных справаздач Галоўліта БССР.

**Колькасць асобнікаў літаратуры, адабранай з масавых бібліятэк Галоўлітам БССР у 1944–1961 гг.**

| Гады | Колькасць |
|---|---|
| | |

| | |
|---|---|
| Другая палова 1944 г. — першая палова 1946 г. | 19 888* |
| 1947 | 1 507 |
| 1948 | 1 550 |
| 1949 | 10 544 |
| 1950 | 29 073 |
| 1951 | Няма звестак |
| 1952 | 24 216 |
| 1953 | 40 949 |
| 1954 | Няма звестак |
| 1955 | 21 792 |
| 1956 | 13 514 |
| 1957 | 1859 |
| 1958 | Няма звестак |
| 1959 | 15 925 |
| 1960 | Няма звестак |
| 1961 | 2 351 |

Нягледзячы на тое, што аб'ёмы адабранай літаратуры ў гады брэжнеўскага «застою» значна скараціліся ў параўнанні з папярэднім перыядам, на працягу ўсяго разглядаемага часу ў БССР захоўваўся жорсткі ідэалагічны кантроль над зместам бібліятэчных фондаў. Гэты кантроль разглядаўся партыйным кіраўніцтвам як адзін з найважнейшых

сродкаў укаранення адзінадумства, усталявання манаполіі камуністычнай ідэалогіі. Усё, што супярэчыла ці не спрыяла ёй, ігнаравалася ўладамі. У кантэксце гэтага сцвярджэння робіцца зразумелы сапраўдны сэнс шматлікіх выпадкаў варварскіх адносін савецкай дзяржавы да ўласнай кніжнай спадчыны. Пра адзін з такіх выпадкаў у сваім лісце ў ЦК КПБ, датаваным 17 кастрычніка 1978 г., пісаў старшыня Камітэта народнага кантролю БССР М. І. Лагір. У ім апісваецца павольнае знікненне на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў каля паўмільёна кніг Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Леніна, складзеных у мінскім касцёле Св. Роха на Залатой Горцы. У прыватнасці, М. І. Лагір паведамляў, што з-за дрэннага тэмпературна-вільготнаснага рэжыму і рэгулярных крадзяжоў (з ліпеня 1977 г. па красавік 1978 г. кнігасховішча ўвогуле не ахоўвалася) бібліятэка пазбавілася соцень найкаштоўнейшых выданняў XVII–XIX стст. [1, с. 116].

---

66 Кнігу цёзкі начальніка Галоўліта БССР — беларускага журналіста У. І. Дадзіёмава — адабралі з бібліятэк і гандлёвай сеткі з-за шматлікіх лістоў грамадзян, якія пратэставалі супраць ідэалізацыі, неаб'ектыўнай ацэнкі гісторыі жлобінскага падполля. Да таго ж адзін з удзельнікаў падпольнай арганізацыі ў Жлобіне быў арыштаваны ў 1948 г. органамі МДБ.

67 Спецфонд Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Леніна быў адноўлены ўжо ў 1948 г., пра што сведчыць загад аб камандзіраванні яго загадчыцы Б. Р. Раманоўскай у Маскву «з мэтаю азнаямлення з пастаноўкай работы» (НАРБ. Ф. 546. Воп. 2. Спр. 13. Арк. 4).

68 Гэта была грубая памылка Л. В. Садоўскага, які, канешне, не ведаў, што ў час падпісання загаду пра вывад твораў Ул. Сядуры са спецсхова той з'яўляўся кіраўніком кафедры сучасных моў і рускай літаратуры Школы гуманітарных навук Рэнсэлерскага політэхнічнага інстытута ў г. Троя (ЗША). Хутка гэта памылка была выпраўлена.

**Артэфакт**

Адразу ж пасля аднаўлення сваёй дзейнасці ў Мінску ў 1944 г. Галоўліт БССР звярнуў увагу на музеі. У кастрычніку 1944 г. яго супрацоўнікі цэнзуравалі першую стацыянарную экспазіцыю новага музея — Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Тады ж у ім з’явіўся закрыты спецфонд. У наступным годзе аб’ектамі цэнзурнага кантролю сталі таксама экспазіцыі абласных краязнаўчых музеяў.

Паралельна з Галоўлітам палітычны кантроль усіх мастацкіх матэрыялаў, якія выстаўляліся ў музейных экспазіцыях і на выставах, ажыццяўляў Рэперткам Упраўлення па справах мастацтваў. На працягу 1945–1946 гг. яго супрацоўнікі «прынялі» стацыянарныя экспазіцыі Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР, Літаратурнага музея Я. Купалы, а таксама шэраг мастацкіх выстаў, у т. л. у музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Але апошняе слова ў справе інтэрпрэтацыі айчыннай гісторыі музейнымі сродкамі мелі, канешне, не штатныя цэнзары Галоўліта, а партыйнае кіраўніцтва рэспублікі.

10–15 снежня 1947 г. першую экспазіцыю музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, якая месцілася ў 18 залах будынка базыльянскага кляштара на плошчы Свабоды і распавядала пра гісторыю Беларусі ад першабытнага грамадства да сучаснасці, правярала камісія Інстытута гісторыі партыі на чале з

яго дырэктарам І. С. Чымбургам. Па выніках праверкі камісія прыйшла да наступных высноў.

1. Некаторыя тэмы, азначаныя ў экспазіцыі (напрыклад, «Стаханаўскі рух у БССР», «Прамысловасць БССР у даваенныя пяцігодкі») былі надта шырокія, што не дало магчымасці іх поўнасцю раскрыць. 2. Навуковыя супрацоўнікі і мастакі не распрацавалі музейнымі сродкамі тэмы побыту партызан і рэйкавай вайны. 3. У дзвюх першых залах, якія распавядалі пра паходжанне беларускага народа і барацьбу з замежнымі захопнікамі, не была ўлічана крытыка памылак, зробленых у акадэмічнай «Гісторыі БССР» 1946 года выдання. У прыватнасці, было дадзена мала фактаў, што паказвалі класавую барацьбу беларусаў з літоўскімі і польскімі феадаламі; не быў адлюстраваны ўдзел беларускага народа ў Айчыннай вайне 1812 г., у сялянскім руху пасля адмены прыгоннага права; партрэт К. Каліноўскага не трэба было аддзяляць ад экспанатаў, якія распавядалі пра ўтварэнне РСДРП. 4. У экспазіцыі музея нават не ўзгадваліся сталінскія пяцігодкі. 5. Недастаткова было матэрыялаў, што дэманстравалі заможнае жыццё калгаснікаў. 6. Партызанскія матэрыялы ў экспазіцыі «забівалі» франтавыя. 7. Адсутнічалі матэрыялы пра прыём Сталіным беларускіх партызан.

Выпраўленне гэтых памылак кантралявала Упраўленне прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б у асобе С. М. Малініна [6, арк. 69–85].

Для таго, каб надрукаваць лісты К. С. Заслонава жонцы, напісаныя на акупаванай тэрыторыі Беларусі, дырэктар музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны М. Я. Гракаў мусіў звяртацца па пісьмовы дазвол у ЦК. Яго просьба разглядалася на вышэйшым узроўні — сакратаром ЦК па ідэалогіі М. Т. Іоўчуком, які наклаў рэзалюцыю: «Прынцыповых пярэчанняў няма, але трэба падрыхтаваць артыкул толькі з вытрымкамі з лістоў» [6, арк. 42].

Без ніякіх тлумачэнняў у жніўні 1948 г. паводле ўказання Упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б М. Я. Гракаў павінен быў звольніць з музея «як не адпавядаючых свайму прызначэнню па дзелавых і палітычных якасцях» восем навуковых супрацоўнікаў. Слова «дзелавых» у фармулёўцы ЦК, дадзенай у разгар ідэалагічнай антызаходняй кампаніі, мела, канешне, рытуальнае значэнне. Само музейнае начальства пра дзелавыя якасці звальняемых нават не ўзгадвала. Напрыклад, звальненне навуковага супрацоўніка Д. М. Петрачэнкі абгрунтавалі наступным чынам: «Увесь перыяд вайны знаходзілася ў Мінску і ніякага ўдзелу ў барацьбе з ворагам не брала» [7, арк. 255].

Стваральнік Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя А. В. Суворава А. М. Мартынаў наступным чынам узгадваў сваё першае сутыкненне з цэнзурай у 1947 г.: «Мяркуючы аб магчымых крыніцах папаўнення калекцый, я вырашыў звярнуцца да насельніцтва Берасцейшчыны з улёткай. Яе рукапіс быў завізаваны другім сакратаром райкама Маку-

шэнкам. Улётку тыражом у тысячу асобнікаў у парадку шэфскай дапамогі бясплатна вырабілі ў друкарні мясцовай раёнкі. І тут выбухнуў скандал. Высветлілася, што мы пакваніліся на святыя прэрагатывы ЦК КП(б)Б. Распаўсюджванне ўлёткі было катэгарычна забаронена і ўвесь тыраж спалены» [107].

У маі 1949 г. на стол цэнзара Галоўліта БССР лёг тэматычны план беларускага аддзела на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выставе ў Маскве, аднаўленне працы якой планавалася на другую палову таго ж года. Неўзабаве арганізатары аддзела БССР атрымалі з цэнзурнага ведамства наступную паперу, якая добра перадае абстаноўку сакрэтнасці, у якой жыло тагачаснае савецкае грамадства.

| ВЫПІСКА З ТЭМАТЫЧНАГА ПЛАНА ПАВІЛЬЁНА БССР | |
|---|---|
| ЗМЕСТ | ЗАКЛЮЧЭННЕ ГАЛОЎЛІТА |
| 1. Карысныя выкапні | Па карысных выкапнях рэспублікі: не паказваць запасы ў нетрах зямлі нафты, вугалю, гаручых сланцаў, фасфарытаў, калійных соляў, а таксама звесткі ў абсалютных лічбах па здабычы гэтых выкапняў і вогнетрывалай гліны, флюсавых вапнякоў, пра здабычу торфу і солі па рэспубліцы. |
| 2. Удзел БССР у Вялікай Айчыннай вайне:<br>а) колькасць удзельнікаў вайны на ўсіх франтах;<br>б) генералы і адміралы | Абсалютных лічбаў удзельнікаў Айчыннай вайны на ўсіх франтах не даваць.<br>Не называць канкрэтных прозвішчаў генералаў і адміралаў. |
| 3. Партызанскі рух:<br>а) колькасць атрадаў, іх асабовы склад;<br>б) характар дзейнасці партызанскіх атрадаў | Не прыводзіць звесткі пра колькасць атрадаў і іх асабовы склад.<br>Не даваць. |
| 4. Страты, нанесеныя народнай гаспадарцы БССР нямецка-фашысцкімі захопнікамі:<br>а) знішчана мірнага насельніцтва і пагнана ў рабства | Не даваць лічбавых дадзеных пра страты людзей па рэспубліцы і па абласцях. |
| 5. Узнаўленне і развіццё народнай гаспадаркі БССР:<br>а) новыя галіны прамысловасці ў БССР — аўтамабільная, трактарная, сельгасмашынабудавання | Па аўтамабільнай, трактарнай, станкабудаўнічай прамысловасці не паказваць праектную магутнасць, памер капіталаўкладанняў, тэрмінаў уводу ў дзеянне, выкананне плана ў абсалютных лічбах і грашовым выражэнні. |

| | |
|---|---|
| б) колькасць рабочых у прамысловасці БССР у 1913, 1940, 1945, 1949 гг. | Не паказваць планы і справаздачы пра падрыхтоўку кваліфікаванай рабочай сілы ў дзяржаўных працоўных рэзервах, пра наяўнасць падрыхтаванай працоўнай сілы і спецыялістаў па рэспубліцы і асобных міністэрствах. |
| в) тэхнічная ўзброенасць сельскай гаспадаркі і роля МТС у калгасным будаўніцтве. | Не даваць абсалютных лічбаў пра колькасць трактараў і аўтамабіляў па рэспубліцы і абласцях. |
| г) пасяўныя плошчы па асноўных культурах. | Не паказваць памеры пасяўных плошчаў па кок-сагызу. |
| д) пагалоўе жывёлы. | Не даваць абсалютных звестак пра колькасць коней, буйной рагатай жывёлы, авечак, свіней па рэспубліцы, абласцях і памежных раёнах. |
| е) валавы збор збожжа ў БССР у 1913, 1940, 1949 і план на 1950 гг. | Не даваць абсалютных лічбаў пра валавы збор збожжа, ільну, канаплі, каўчуканосаў па рэспубліцы, абласцях, раёнах і трэстах. |
| ж) зямельныя плошчы, якія будуць перададзены пасля асушэння балот пад сельскагаспадарчае выкарыстанне | У памежнай паласе не паказваць месцы правядзення меліярацыйных работ, іх памеры і сістэму |
| з) значэнне павелічэння здабычы торфу ў паліўным балансе БССР | Не паказваць удзельную вагу |

[8, арк. 207–209].

Праз паўгода ўсе сілы мінскіх ідэалагічных кантралёраў і цэнзараў былі мабілізаваны на экспертызу тэматычнага плана літаратурна-мастацкай выставы, прысвечанай 70-годдзю Сталіна. Пасля шматлікіх пераробак выстава адкрылася для агляду ў Мінску ў наступным выглядзе:

1. Дзіцячыя і юнацкія гады І. В. Сталіна.
2. Рэвалюцыйная дзейнасць таварыша Сталіна ў Закаўказзі.
3. Сталін у гады першай рускай рэвалюцыі.
4. Сталін у гады рэвалюцыйнага ўздыму.
5. Таварыш Сталін у гады Першай сусветнай вайны і Лютаўскай рэвалюцыі.
6. Сталін у перыяд падрыхтоўкі і правядзення Кастрычніка.
7. Сталін у гады замежнай інтэрвенцыі і грамадзянскай вайны.
8. Таварыш Сталін у перыяд узнаўлення народнай гаспадаркі (1921–1925 гг.).
9. Сталін — натхняльнік і арганізатар сацыялістычнай індустрыялізацыі СССР.
10. Сталін — творца калгаснага ладу.
11. Сталін — творца Канстытуцыі СССР.
12. Сталін — натхняльнік і арганізатар перамог савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.
13. Сталін — арганізатар барацьбы за ўзнаўленне народнай гаспадаркі ў

пасляваенны перыяд.

14. Ленін і Сталін — стваральнікі Беларускай Савецкай Дзяржавы.

15. Сталін — натхняльнік барацьбы народаў за мір, дэмакратыю і сацыялізм [10, арк. 80].

Напрыканцы 1949 г. па асабістым указанні сакратара ЦК па ідэалогіі У. А. Тамашэвіча экспазіцыі музеяў рэспублікі правяраў упаўнаважаны Галоўліта БССР. Гэтая праверка была выклікана з’яўленнем новага даведніка Галоўліта СССР, адпаведна якому шэраг экспазіцыйных матэрыялаў, што характарызавалі падзеі вайны на тэрыторыі рэспублікі, а таксама пасляваеннае будаўніцтва, падлягалі адабранню з музеяў. Пасля праверкі з экспазіцыі Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны зніклі матэрыялы пра адкрыццё другога фронту ў Еўропе пры адначасовым пашырэнні тэмы вызваленчай місіі Савецкай Арміі. Значна паменшаны раздзел акупацыйнага рэжыму быў зліты з раздзелам гісторыі партызанскага руху, дзе ўзмацнілі паказ партыйнага кіраўніцтва. З экспазіцыі музея таксама знялі лічбы страт немцаў у беларускіх «катлах», матэрыялы пра беларускую прамысловасць у пасляваеннай пяцігодцы, у т. л. пра будаўніцтва МАЗа і МТЗ.

Упаўнаважаны Галоўліта забараніў адкрыццё Слонімскага раённага музея без аддзела пасляваеннага аднаўлення народнай гаспадаркі. Пінскі абласны краязнаўчы музей па яго заўвагах пачаў перабудову раздзела гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, якая дагэтуль была паказана выключна на матэрыялах мясцовага партызанскага руху. З экспазіцый Гродзенскага гісторыка-археалагічнага, а таксама Віцебскага і Гомельскага абласных музеяў прыбіраліся дадзеныя аб колькасці партызан і ваеннапалонных, аб'ёмах капіталаўкладанняў у эканоміку рэспублікі, эканамічныя паказчыкі ў абсалютных лічбах, фотаздымкі новых прамысловых і грамадзянскіх аб'ектаў [11, арк. 4–6].

Летам 1950 г. ЦК КП(б)Б правёў яшчэ адну маштабную праверку экспазіцый музеяў БССР, адноўленых на працягу першай пасляваеннай пяцігодкі. Гэтую праверку выклікала пастанова ЦК УсеКП(б) і Савета Міністраў СССР ад 4 ліпеня 1950 г. «Аб мерах па ліквідацыі фактаў разгалашэння дзяржаўнай тайны ў музеях». Па выніках праверкі высветлілася, што ў экспазіцыях беларускіх музеяў паказваўся лічбавы і графічны матэрыял пра дыслакацыю партызанскіх злучэнняў, колькасць савецкіх ваеннапалонных, страты нямецкай арміі і

мірнага насельніцтва, пасляваенныя прамысловыя паказчыкі рэспублікі. Тады ж ЦК КП(б)Б прыняў пастанову, згодна з якой кантроль Галоўліта над музеямі быў узмоцнены і строга рэгламентаваны. Цэнзары былі павінны штоквартальна правяраць змест фондавых калекцый, сталых экспазіцый і часовых выстаў, а таксама кніг водгукаў у музеях. Усе новыя экспазіцыі і выставы прымалі камісіі, куды ўваходзілі прадстаўнікі партыйных органаў, Галоўліта і кіраўніцтва ведамства ці ўстановы, якім належаў музей [28, арк. 26–27].

Работы па ідэалагічным выпраўленні экспазіцый музеяў ішлі поўным ходам, калі нечакана ў жніўні 1950 г. па рашэнні Савета Міністраў БССР Польскай Народнай Рэспубліцы былі перададзены 89 партрэтаў з Нясвіжскага замка [104, с. 194–201]. У гэтым акце «добрай волі», які нанёс вялікую страту беларускай мастацкай спадчыне, з аднаго боку, праявіліся нігілізм да нацыянальнай культуры і нізкі культурны ўзровень беларускага кіраўніцтва, з другога — маштабы рэстытуцыйнай дзейнасці, якая праводзілася Польшчай пасля заканчэння Другой сусветнай вайны не толькі на Захадзе, але і на Усходзе. Перадача радзівілаўскіх партрэтаў была вынікам мэтанакіраванай працы польскага ўрада па перадачы ў краіну

паходжання «ўсіх польскіх культурных каштоўнасцяў», якая вялася пачынаючы з 1946 г. [72, арк. 69].

Да канца 1951 г. пад жорсткі ідэалагічны кантроль Галоўліта БССР былі пастаўлены 22 музеі Камітэта культасветустаноў і Упраўлення па справах мастацтваў, а таксама археалагічны і заалагічны музеі БДУ. На працягу 1951 г. з экспазіцый беларускіх музеяў было адабрана 312 экспанатаў, пераважна выявы вайсковых частак і абаронных прадпрыемстваў. Адначасова правяраліся фондавыя калекцыі. З фондасховішча Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны на захаванне ў Архіўнае ўпраўленне перадалі больш за 300 фотаздымкаў. Рыхтавалася яшчэ адна перадача друкаваных матэрыялаў колькасцю да 15 тыс. адзінак. Былі выяўлены і знішчаны дакументы з выявамі «ворагаў народа» ў фондах гомельскага, гродзенскага і іншых музеяў. Правяраліся таксама кнігі водгукаў музеяў, у якіх рабіліся выкрэсліванні (142 — у слонімскім, 96 — у гродзенскім, 14 — у мазырскім, 12 — у баранавіцкім) [77, арк. 46–49].

У наступныя гады Галоўліт БССР працягваў рэгулярныя чысткі фондавых калекцый музеяў і цэнзураванне іх экспазіцый. Па-ранейшаму галоўную ўвагу

цэнзары надавалі дакументальным першакрыніцам. Разам з імі ў пераліку знішчанага мы знаходзім старадрукі, баністыку і інш. У крайніх выпадках Галоўліт БССР меў права закрываць музейныя экспазіцыі для публічнага агляду. Гэта мера была ўжыта цэнзурным ведамствам у 1952 г. у адносінах да Барысаўскага і Ваўкавыскага раённых краязнаўчых музеяў, адкрытых без яго дазволу.

У першыя гады хрушчоўскай «адлігі» прысутнасць цэнзуры ў музеях абмяжоўвалася пераважна прыёмкай новых экспазіцый і выстаў. Напрыклад, у 1957 г. у экспазіцыі беларускіх музеяў было зроблена толькі адно ўмяшальніцтва. Акрамя таго, дырэктарам музеяў загадалі знішчыць шэраг небяспечных запісаў, зробленых у кнігах водгукаў. На працягу 1959 г. цэнзар Галоўліта Г. І. Ярашэўская прыняла 12 новых музейных экспазіцый. Яна зрабіла ў іх 12 умяшальніцтваў: адно падчас прыёмкі геалагічнага музея ў Мінску, тры падчас прыёмкі новых выстаў, восем — у кнігах водгукаў. У 1960 г. Галоўліт БССР зрабіў шэсць умяшальніцтваў у музейныя экспазіцыі і выставы, а таксама загадаў прыбраць з кніг водгукаў тры запісы. Напрыклад, з экспазіцыі Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея загадалі зняць усе выявы і тэкставыя

матэрыялы пра членаў антыпартыйнай групы Г. М. Малянкова, Л. М. Кагановіча, В. М. Молатава і М. А. Булганіна [99, арк. 40].

Існаваўшая цэнзурная практыка ў савецкіх музеях была абагульнена і замацавана ў інструкцыі Галоўліта СССР 1960 г. «Аб парадку падрыхтоўкі і адкрыцця музеяў і выстаў». Адпаведна ёй, кантролю цэнзуры падлягалі ўсе сталыя экспазіцыі і часовыя выставы музеяў, нават прыродазнаўчыя, у т. л. фонаматэрыялы і кнігі водгукаў, якія абавязкова павінны былі складацца са з'ёмных аркушаў. Стваральнік музея ці выставы перад іх адкрыццём быў абавязаны прадставіць у Галоўліт на папярэдні кантроль заснавальныя дакументы, тэматыка-экспазіцыйны план, а таксама ўсе суправаджальныя друкаваныя матэрыялы (каталог, даведнік, праспект). Пасля іх выпраўлення і зацвярджэння адбываўся наступны кантроль — музейную экспазіцыю або выставу прымала камісія. У спрэчных выпадках арганізоўвалася экспертыза. Змены і дадаткі ва ўжо адкрытую экспазіцыю ўносіліся толькі з дазволу супрацоўніка Галоўліта, які адказваў за ідэалагічны кантроль музеяў [32, арк. 14–18].

Неўзабаве пасля прыняцця гэтай інструкцыі 12 красавіка 1962 г. Галоўліт СССР накіраваў у ЦК КПСС запіску «Аб

прапагандзе культу асобы ў музеях». Пасля яе непрацяглага абмеркавання было прынята рашэнне аб адабранні з экспазіцый савецкіх музеяў усіх выяў Сталіна, а разам з імі партрэтаў членаў антыпартыйнай групы і кіраўнікоў Албаніі, з якой напярэдадні былі прыпынены дыпламатычныя адносіны [4, с. 547].

З 16 па 23 лістапада 1967 г. па даручэнні першага сакратара ЦК КПБ П. М. Машэрава спецыяльная камісія, якую ўзначальваў загадчык аддзела культуры ЦК С. В. Марцэлеў, прымала новую экспазіцыю Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Члены камісіі зрабілі 10 заўваг, што тычыліся як гістарычнага зместу, так і мастацкага-тэхнічнага ўзроўню экспазіцыі. Галоўная заўвага была даволі сур’ёзнай — «нізкі тэарэтычны ўзровень» усёй экспазіцыі. Для таго каб яго ўзняць, на думку членаў камісіі, неабходна было ўзмацніць паказ ролі КПБ у арганізацыі барацьбы супраць фашысціх захопнікаў у тыле ворага. Асобны зал трэба было прысвяціць партыйна-палітычнай працы ў тыле. Акрамя таго, аўтарам экспазіцыі настойліва параілі прыбраць з яе атрыбуты нацысцкай геральдыкі, фотаздымкі пленных немцаў і вялікі фотаздымак «Дранг нах остэн» [24, арк. 367–373].

З цэнзурных меркаванняў у музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны не паўстаў філіял, прысвечаны партызанскай брыгадзе капітана М. М. Нікіціна — камандзіра Чырвонай Арміі, аднаго з арганізатараў партызанскага руху ў Беларусі, абвінавачанага ў стварэнні лжэпартызанскай брыгады па заданні немцаў і рэабілітаванага ў 1957 г. пасмяротна. 16 лістапада 1971 г. камісія ў складзе прадстаўнікоў Мінскага абкама КПБ, Міністэрства культуры, палітаддзела Беларускай ваеннай акругі і Акадэміі навук БССР вырашыла, што ствараць філіял музея на месцы дыслакацыі партызанскага лагера на Доўгім востраве ў Дзяржынскім раёне немэтазгодна па дзвюх прычынах. Па-першае, партызанскі атрад пад камандаваннем М. М. Нікіціна дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі толькі паўгода — з мая па кастрычнік 1942 г. На 90 % атрад складаўся з акружэнцаў і былых ваеннапалонных. У кастрычніку 1942 г. атрад без дазволу Беларускага штаба партызанскага руху сышоў за лінію фронту. Сам М. М. Нікіцін быў рэпрэсаваны. Па-другое, Доўгі востраў не мог быць месцам правядзення культурна-масавай работы, бо навокал знаходзіліся вайсковыя часткі. У выніку было вырашана абмежавацца ўсталяваннем памятнага знака [29, арк. 36].

Імкненне абысці казённыя ўстаноўкі падчас стварэння новай экспазіцыі Маладзечанскага абласнога краязнаўчага музея ў 1969 г. каштавала пасады намесніку дырэктара, вядомаму беларускаму музейнаму дзеячу, гісторыку Г. А. Каханоўскаму. Яго апантанасць у вывучэнні спадчыны роднага краю камісія, што прымала новую экспазіцыю, кваліфікавала як «палітычную непісьменнасць». Неўзабаве быў знойдзены кампраміс: «ідэалагічныя памылкі» ў экспазіцыі выправілі, а Г. А. Каханоўскі, падтрыманы выдатнымі дзеячамі беларускай культуры, вярнуўся на працу ў музей.

Парадак цэнзуравання музеяў БССР, вызначаны ліпеньскай пастановай ЦК КП(б)Б 1950 г. і інструкцыяй Галоўліта СССР 1960 г., захоўваўся з невялікімі зменамі да 1982 г. Музейныя супрацоўнікі Беларусі эпохі «застою» не давалі цэнзарам шмат падстаў для хвалявання. У галоўлітаўскай справаздачы за 1971 г. мы чытаем: «На працягу года выпадкаў парушэння “Інструкцыі аб парадку падрыхтоўкі і адкрыцця музеяў і выстаў” не было». У наступныя некалькі гадоў крамолу ў музейных экспазіцыях таксама не знаходзілі. І толькі ў 1975 г. не былі дазволены да паказу дзевяць экспанатаў [27, арк. 38].

У 1978 г. з кнігі водгукаў Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны быў адабраны аркуш з запісам, дзе праводзілася думка аб тым, што салдаты гітлераўскай арміі яшчэ жывыя, прыязджаюць у нашу краіну як турысты, мы іх шчыра прымаем, а яны нашы адвечныя ворагі, іх трэба знішчыць усіх да аднаго. З кнігі водгукаў Пастаўскага краязнаўчага музея выдалілі аркуш, дзе паэт-аматар пакінуў наступныя радкі: «Зашумела пуща Беловежья грозной песней — эхом Брест-Літовска, Нарочанским бурным побережьем — вотчиной недавней жечи Польской». Галоўліт убачыў у гэтым вершы прапаганду адвечнай прыналежнасці Белавежскай пушчы і Нарачанскага краю Польшчы [32, арк. 4].

У сакавіку 1982 г. у Маскве была распрацавана новая «Інструкцыя аб парадку падрыхтоўкі і прадстаўлення на кантроль у органы Галоўліта матэрыялаў, прымеркаваных для вольнага агляду ў музеях і на выставах». У большасці пунктаў яна паўтарала інструкцыю 1960 г. Найважнейшымі новымі патрабаваннямі да стваральнікаў музеяў і выстаў былі абавязковы дазвол на адкрыццё ўсіх новых музеяў (за выключэннем грамадскіх) ЦК КПСС альбо саюзных рэспублік, а таксама прадстаўленне на прагляд цэнзару ўсіх аўдыё-

і відэаматэрыялаў (напрыклад, гукавога суправаджэння дыярам) [105, с. 515].

У 1988 г. выйшла новая рэдакцыя інструкцыі. Але ўжо праз два гады спецыяльным загадам Галоўліта СССР ад 21 жніўня 1990 г. яна была скасавана [30, арк. 63].

Такім чынам, у 1944–1990 гг. музеі БССР знаходзіліся пад шматузроўневым цэнзурным кантролем, які ажыццяўляўся партыйна-савецкімі органамі, ведамасным кіраўніцтвам і Галоўлітам.

* * *

Акрамя маніпулявання інфармацыйнымі крыніцамі ў архівах, бібліятэках і музеях, савецкая сістэма кіравання мінулым уключала прымус даследчыкаў метадам бізуна і перніка брацца за «патрэбныя» тэмы і інтэрпрэтаваць іх «належным» чынам. Ролю бізуна для творчай інтэлігенцыі, у тым ліку гісторыкаў, павінна была выконваць цэнзура. Яна дапамагала фарміраваць новыя адносіны паміж гісторыкам і ўладай. Ад гісторыка патрабавалася ілюстраванне эмпірычным матэрыялам кананічных партыйных дагматаў і тэкстаў. Гісторык стаў службоўцам, на яго ўскладаліся абавязкі ў адносінах да свайго сюзерэна — партыі. Галоўліт, прадстаўляючы сюзерэна ў яго адносінах да гісторыкаў, кантраляваў выкананне імі службовай

функцыі — шукаў парушэнне класавага падыходу, памылкі ў асвятленні нацыянальных зносін, у атэістычнай прапагандзе і інш. Гэта стварала атмасферу сацыяльнай пасіўнасці навуковай супольнасці, змяншала яе духоўны патэнцыял, творчую актыўнасць. Галоўліт быў адным з тых органаў, якія моцна паспрыялі ідэалагізацыі, палітызацыі і адзяржаўленню гістарычнай навукі ў БССР. Цэнзурная практыка Галоўліта (якая, канешне, была не адзінай умовай палітызацыі гістарыяграфіі) спрыяла стварэнню новых міфаў у масавай гістарычнай свядомасці беларускага грамадства, фарміравала новае пачуцце Радзімы, новае пачуццё беларусаў у гістарычнай прасторы, іх савецкую ідэнтычнасць.

У апошняе дзесяцігоддзе сталінскага праўлення стварэнне базавых інтэрпрэтацыйных схем беларускай мінуўшчыны, напісанне марксісцкай версіі гісторыі Беларусі цалкам кантралявалася ідэолагамі ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б з прыцягненнем кансультантаў — правераных прадстаўнікоў гістарычнага цэха. Пра гэта сведчыць працяглы, складаны працэс стварэння «Гісторыі Беларускай ССР», які ў дэталях кантраляваўся маскоўскім і мінскім партыйным кіраўніцтвам. Кожны крок на

шляху стварэння яе першага тома, які з'явіўся ў 1954 г., суправаджаўся або пастановай бюро ЦК КП(б)Б, або правядзеннем нарады, або стварэннем экспертнай камісіі, што выключала ўдзел Галоўліта ў гэтым працэсе.

Партыйны кантроль над напісаннем другога тома «Гісторыі Беларускай ССР» ва ўмовах «адлігі» быў ужо не такі жорсткі. На старонкі яго рукапісу праслізнулі ідэалагічныя памылкі, своечасова заўважаныя цэнзарамі. Адну з іх па ўзгадненні з сакратаром ЦК Ц. С. Гарбуновым Галоўліт зняў у кастрычніку 1958 г.: «Паражэнне савецкіх войскаў у 1941 г. за Заходнім фронце ў значнай ступені тлумачылася сур'ёзнымі недахопамі ў кіраванні з боку камандуючага фронтам Д. Г. Паўлава і яго штаба» [19, арк. 213].

Любыя спробы гісторыкаў аспрэчыць хаця б адзін з тэзісаў кананічнай версіі гісторыі Беларусі выклікалі жорсткае супрацьдзеянне з боку партыйнага кіраўніцтва і надалей. Так, з'яўленне ў канцы 1960-х гг. артыкулаў вядомага савецкага археолага В. В. Сядова, у якіх ён прапаноўваў уласнае бачанне паходжання беларускага народа (канцэпцыю «балцкага субстрату»), выклікала вельмі нервовую рэакцыю з боку ідэалагічнага кіраўніцтва БССР. 4 лютага 1974 г. сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі А. Т. Кузьмін

праінфармаваў ЦК КПСС пра пазіцыю часопіса «Савецкая этнаграфія», які, не задумваючыся пра наступствы, змясціў артыкулы В. В. Сядова. На думку галоўнага ідэолага БССР, гэтыя артыкулы былі створаны ў рэчышчы «пісанняў беларускіх нацыяналістычных эмігранцкіх адкідаў, якія сустрэлі гэтую канцэпцыю вельмі прыязна, пра што, у прыватнасці, сведчыць надрукаваная ў 1972 г. у Нью-Ёрку і Мюнхене кніга П. Урбана "У сьвятле гістарычных фактаў"» [26, арк. 29–30].

Сімвалічна, што першы загад з Масквы, які атрымала начальнік Галоўліта БССР Ф. І. Дадзіёмава ў студзені 1944 г. у Навабеліцы перад меркаваным наступам савецкіх войскаў, тычыўся інфармацыі рэтраспектыўнага характару. Ён забараняў узгадваць у друку і радыётрансляцыях лакалізацыю старой (да 1939 г.) савецка-польскай мяжы [81, арк. 1].

Адным з першых гістарычных тэкстаў, які пацярпеў ад умяшальніцтва непасрэдна цэнзараў Галоўліта БССР, стаў артыкул дацэнта БДУ М. Д. Мельцэра «Да гісторыі сялянскага руху на тэрыторыі Беларусі перад сялянскай рэформай 1861 года», ухвалены рэдакцыйнай калегіяй «Вучоных запісак БДУ» ў 1948 г. Гранкі запісак былі вернуты Дзяржвыдату з-за таго, што ў гэтым артыкуле, на думку цэнзуры, ідэалізаваліся

адносіны імператара Мікалая I да прыгоннага сялянства [82, арк. 47].

У цэнзараў Галоўліта БССР не выклікалі ніякай павагі імёны мэтраў беларускай гістарычнай навукі — члена-карэспандэнта АН СССР М. М. Нікольскага і акадэміка АН БССР У. М. Перцава. Напрыклад, кніга «Паходжанне і гісторыя беларускай вясельнай абраднасці» М. М. Нікольскага, як меркаваў у 1948 г. цэнзар, была збудавана на суцэльных сексуальных выдумках Фрэйда і нямецкай міфалагічнай школы братоў Грым, за народную творчасць у ёй выдаваліся хуліганскія вульгарызмы. У 1951 г. у разгар барацьбы ў СССР з касмапалітызмам і нізкапаклонствам перад Захадам з артыкула М. М. Нікольскага «Роля савецкіх вучоных у развіцці навукі аб старажытным Усходзе», падрыхтаванага для часопіса «Большэвік Беларусі», было знята: «На працягу амаль цэлага стагоддзя, якое прайшло з часу першых адкрыццяў у Месапатаміі да пачатку Другой сусветнай вайны, заходнееўрапейскія, а потым амерыканскія арыенталісты правялі вельмі вялікую працу. Бясспрэчнымі дасягненнямі заходняй арыенталістыкі з'яўляюцца такія дасягненні, як дэшыфроўка старажытнаўсходніх сістэм пісьма і г. д.».

Тады ж з рукапісу манаграфіі «Гісторыя Прусіі», напісанай У. М. Перцавым, як

«няслушная» была выкрэслена думка аўтара пра тое, што «рыцары Тэўтонскага ордэна, захапіўшыя Паўднёва-Усходняе ўзбярэжжа Балтыйскага мора, не ўнеслі туды здаровых пачаткаў сваёй цывілізацыі». Гэта значыць, казаць пра «здаровыя пачаткі» нямецкай культуры ў прынцыпе было нельга [9, арк. 247–248]. Іншыя працы абодвух гісторыкаў, нават пасля іх смерці, таксама выдаваліся з пэўнымі купюрамі, а манаграфія У. М. Перцава аб Прусіі так і не была выдадзена [2, с. 5].

З тэзісаў дакладаў навуковай канферэнцыі «Пытанні медыцыны і аховы здароўя БССР» (Мінскі медінстытут, адк. рэд. Р. Р. Кручок) у 1960 г. быў зняты матэрыял Л. Ф. Ларынай «Медыцынскія работнікі г. Мінска ў гады нямецка-фашысцкай акупацыі ў падполлі і партызанскай барацьбе. 1941–1944 гг. (успаміны ўдзельніка)» адпаведна забароне ЦК КПБ даваць у друк інфармацыю пра мінскае падполле [20, арк. 140].

У 1962 г. увагу начальніка Галоўліта БССР А. А. Маркевіча прыцягнуў рукапіс, які належаў пяру прафесара гістарычнага факультэта БДУ Г. М. Ліўшыца. Па прапанове Міністэрства адукацыі рэспублікі ён падрыхтаваў рукапіс кнігі «Паходжанне і сутнасць іўдзейскіх і хрысціянскіх рэлігійных святаў», якая па задуме замоўцаў павінна

была выкарыстоўвацца ў працэсе атэістычнага выхавання насельніцтва. Менавіта гэтага, меркаваў А. А. Маркевіч, у вядомага антыкаведа і арыенталіста якраз не атрымалася: «аб рэакцыйнай сутнасці рэлігійных святаў і абрадаў, аб тым, як шкодзіць іх святкаванне, аўтар кажа мімаходзь, бяздоказна, неканкрэтна. Толькі ў канцы кнігі на палутара старонках аб гэтым выказаны некаторыя агульныя заўвагі. Кніга мае апісальны характар, у ёй няма вострага публіцыстычнага слова». Галоўліт вярнуў рукапіс Міністэрству адукацыі на дапрацоўку, пасля чаго тэкст набыў больш ваяўнічы, агрэсіўны характар і ўжо тады пабачыў свет [15, арк. 75].

З манаграфіі А. А. Волка і А. І. Раковіча «Кнігавыдавецкая справа ў Беларусі: гістарычны нарыс» (БДУ, 1977) была выкінута думка пра тое, што дасягненні выдавецкай справы ў БССР у 1930-я гг. былі б большымі, калі б не культ Сталіна з неабгрунтаванымі рэпрэсіямі супраць пісьменнікаў і навуковых работнікаў. У 1981 г. Галоўліту не падабалася адсутнасць класавага падыходу ў рукапісе Г. Я. Галенчанкі «Нарысы духоўнай культуры Беларусі другой паловы XVI — першай паловы XVII стагоддзя», пасля чаго набор манаграфіі ў выдавецтве «Навука і тэхніка» быў

рассыпаны. Падчас кантролю кнігі прафесара В. А. Круталевіча «У саюзе роўных і сувярэнных» («Навука і тэхніка», 1982) увага цэнзараў засяродзілася на главе «Станаўленне савецкай федэрацыі. БССР — адна з заснавальніц Саюза ССР». Фактычны матэрыял у ёй тлумачыўся такім чынам, што нібыта былі распараджэнні партыйных органаў РСФСР па тэрыятарыяльных пытаннях Беларусі без узгаднення іх з урадам БССР. Акрамя таго, рабіліся памылковыя тлумачэнні асобных рашэнняў ЦК РКП(б). У прыватнасці, утварэнне Беларускай ССР уяўлялася як штучнае канструяванне «буфернай дзяржавы» для агараджэння РСФСР ад капіталістычнага свету. У брашуры «Творчасць распрыгоненых народаў» таго ж аўтара, якая выйшла ў серыі бібліятэкі газеты «Голас Радзімы» (1982), «памылкова» сцвярджалася, што форма савецкай аўтаноміі нібыта «ставіць раней прыгнечаныя нацыі Расіі ў няроўнае становішча з рускай нацыяй» [79, арк. 5].

Выданні Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ былі вызвалены ад праходжання праз галоўлітаўскую цэнзуру. Але працы гісторыкаў партыі, падрыхтаваныя да друку ў іншых выдавецтвах і перыядычных выданнях, абавязкова праходзілі праз галоўлітаўскі кантроль. 11 сакавіка 1975 г. намеснік

начальніка Галоўліта Н. К. Захарава дакладвала загадчыку аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ С. Я. Паўлаву, што з артыкула аспіранта БДУ А. А. Тозіка «Дзейнасць КПБ па ідэйна-палітычным выхаванні камуністаў ва ўмовах падполля» (Веснік БДУ. 1974. Серыя III. № 1) быў зняты абзац, дзе давалася суб'ектыўная ацэнка дзейнасці камуністаў партыйнай арганізацыі рэспублікі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У ім аўтар сцвярджаў, што частка камуністаў, асабліва маладых, была маральна неўстойлівай для суровай барацьбы ў падполлі. У першыя месяцы акупацыі многія з іх перабраліся ў савецкі тыл. Асобныя камуністы паверылі гітлераўскай прапагандзе і зарэгістраваліся ў органах акупацыйнай улады. Толькі невялікая частка падпольных партарганізацый з ліку створаных у ліпені–жніўні 1941 г. разгарнула сваю дзейнасць ва ўмовах акупацыі [79, арк. 5].

26 снежня 1978 г. А. А. Маркевіч паведамляў сакратару ЦК КПБ А. Т. Кузьміну, што Галоўліт зрабіў умяшальніцтвы ў кнігу М. С. Сташкевіча «На абароне ідэй Кастрычніка: з гісторыі ідэйна-палітычнай барацьбы ў Беларусі ў гады грамадзянскай вайны (1919–1920 гг.)», дзе давалася некрытычная ацэнка беларускіх

нацыяналістаў А. Луцкевіча, Я. Лёсіка, А. Гаруна, В. Ластоўскага. Акрамя таго, у артыкуле М. С. Сташкевіча і І. І. Коўкеля «У полымі рэвалюцыі», надрукаваным у часопісе «Неман» (1978. № 10), правіліся месцы, дзе барацьба беларускага народа супраць інтэрвентаў была паказана як з’ява, адасобленая ад барацьбы брацкіх савецкіх рэспублік [77, арк. 4].

Савецкая цэнзура пільна сачыла за інтэрпрэтацыяй гісторыкамі падзей Другой сусветнай вайны. А. М. Некрыч узгадваў, што ў 1964 г. рукапіс яго знакамітай кнігі «1941. 22 чэрвеня» прайшоў пяць цэнзурных фільтраў: Галоўліт СССР, Міністэрства абароны СССР, КДБ СССР, МЗС СССР і, нарэшце, аддзел навукі ЦК КПСС [101, с. 139–160]. У 1950 г. Галоўліт вярнуў для перапрацоўкі ў Дзяржвыдат манаграфію намесніка дырэктара Інстытута гісторыі АН БССР І. С. Краўчанкі «Падпольны бальшавіцкі друк у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны». У 1959 г. з другога выпуска «Зборніка навуковых прац» АН БССР знялі артыкул, прысвечаны органам савецкай улады на акупаванай тэрыторыі Беларусі за тое, што падпольныя партыйныя органы атаясамліваліся ў ім з надзвычайнымі органамі Савецкай улады. 16 верасня таго ж года начальнік Галоўліта БССР Л. В.

Садоўскі накіраваў аблітам загад, які забараняў ім самастойна даваць дазвол на друк любых матэрыялаў па гісторыі мінскага падполля [97, арк. 48].

Праз сіта савецкай цэнзуры праходзілі далёка не ўсе матэрыялы палявых этнаграфічных даследаванняў. Прыкладам гэтага можа быць зняцце ў 1958 г. з першага тома «Прац Інстытута мастацтва, этнаграфіі і фальклора АН БССР» тэкставых і лічбавых дадзеных, якія непатрэбным чынам паказвалі побыт беларускіх калгаснікаў у пасляваенны час («сяляне нібыта ўдарыліся ў містыку, моладзь распуснічае») [96, арк. 13].

Зонай павышанай увагі цэнзараў былі працы па гісторыі літаратуры, шчыльна знітаваныя з гісторыяй усяго соцыуму. На старонкі прац літаратуразнаўцаў час ад часу траплялі факты, постаці, ацэнкі беларускай гісторыі, забароненыя для савецкіх гісторыкаў на ўзроўні падсвядомасці. У 1947 г. шэраг «палітычна шкодных фармулёвак» быў зняты з артыкула В. Таўлая, дасланага рэдакцыяй часопіса «Полымя». У прыватнасці, «аўтар ідэалізаваў ролю нацдэмаўскай арганізацыі “Беларуская грамада” ў Заходняй Беларусі» [82, арк. 47].

Не менш «шкодныя думкі» ў 1975 г. выказаў выкладчык БДУ С. Н. Чубакоў у сваёй манаграфіі «Слова і зброя. Да праблемы

антываеннай традыцыі ў рускай класічнай літаратуры». У ёй сцвярджалася, што бесперапынныя войны пераўтварылі рускіх у ваенную нацыю, а тэрыторыя Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны была арэнай барацьбы Расіі с Захадам [16, арк. 103].

У 1978 г. выдавецтву БДУ вярнулі гранкі хрэстаматыі «Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.», укладзенай С. Х. і В. С. Александровічамі. Гэтае рашэнне Галоўліта было выклікана тым, што ў хрэстаматыі «адсутнічала ацэнка дзейнасці эсэра А. Гаруна, перабольшвалася роля рэдактара "Нашай нівы" А. Уласава і нацыяналіста В. Ластоўскага» [77, арк. 8].

У 1983 г. з-за непажаданых экскурсаў у мінуўшчыну пад цэнзарскія нажніцы трапіла інтэр'вью А. Адамовіча, падрыхтаванае да друку ў кнізе А. Шабаліна «Дыялогі аб маралі». У наступным годзе па тых жа прычынах цэнзар затрымаў артыкул А. Мальдзіса «У Англіі пра Беларусь», уключаны рэдакцыяй выдавецтва «Мастацкая літаратура» ў зборнік «Далягляды» [79, арк. 5].

Гістарычнай экспертызе падлягалі нават школьныя падручнікі па літаратуры. У 1949 г. была забаронена да друку казка «Палешукі і палевікі» з падручніка «Родная літаратура»

для 7-га класа «як скажаючая гістарычную праўду» [83, арк. 1].

Жорсткаму цэнзураванню падлягала ўся мемуарная літаратура. Напрыклад, успаміны артысткі і педагога П. Мядзёлкі «Сцежкамі жыцця» з’явіліся ў 1959 г. у сёмым нумары часопіса «Полымя» без наступнага абзаца: «У Жорнаўцы добра ведаюць князя Мікалая. Насуперак жонцы ён загадаў пабудаваць новыя дамы для сваіх парабкаў. Ніколі нічым не крыўдзіў мужыкоў, сябраваў з імі, нярэдка заходзіў у іх хаты на размову і на келіх гарэлкі. І сам ён нічым не адрозніваўся ад мужыкоў. Размаўляў толькі па-беларуску, апранаўся ў даматканую вопратку, а ўзімку — у кажух, на нагах — простыя боты альбо валёнкі, выязджаў заўсёды ў санях. Суседзяў-папоў не любіў і з імі не сябраваў»[69]. Гэты абзац быў зняты, таму што цэнзар угледзеў у ім «ідэалізацыю князя Радзівіла», «лакіроўку гістарычнай рэчаіснасці» [97, арк. 56]. У 1976 г. выдавецтва «Беларусь» пагадзілася з патрабаваннем цэнзуры зняць главу «Курс на суцэльную калектывізацыю» з кнігі М. Ф. Губскага «Незабыўнае», дзе сцвярджалася, што найбольш эфектыўнымі метадамі пры арганізацыі калгасаў на Міншчыне былі метады прымусу і пагроз раскулачваннем і ссылкай [16, арк. 103].

У 1971 г. Галоўліт унёс істотныя выпраўленні ў манаграфію У. М. Конана «Дэмакратычная эстэтыка Беларусі», у якой аўтар даваў ацэнку газеты «Наша ніва», відавочна супрацьлеглую класавай, партыйнай [25, арк. 17].

У другой палове 1980-х гг. у БССР пачаўся перагляд падзей і канцэпцый далёкай і блізкай гісторыі — Вялікага Княства Літоўскага, Кастрычніцкай рэвалюцыі, НЭПа, індустрыялізацыі, калектывізацыі, палітычных рэпрэсій. Адпаведна змяніліся сутнасць і характар прэтэнзій Галоўліта БССР да гісторыкаў. Напрыклад, у 1987 г. у чацвёртым томе акадэмічнага выдання «Гісторыя рабочага класа Беларускай ССР», падрыхтаванага выдавецтвам «Навука і тэхніка», не былі дазволены да друку толькі звесткі пра аб'ёмы фінансавання вытворчасці вылічальнай тэхнікі. Тады ж з брашуры Г. У. Карзенкі і В. В. Сафонавай «Навукова-арганізацыйнае развіццё АН БССР» прыбралі звесткі пра выкананне навукоўцамі работ абароннага характару [80, арк. 14].

Такім чынам, ва ўмовах суровых цэнзурных абмежаванняў беларускія савецкія гісторыкі маглі выбіраць паміж адкрытым ці схаваным супраціvам (як, напрыклад, М. І. Ермаловіч, які выраблялў самвыдатаўскія версіі ўласных гістарычных твораў), маўчаннем, унутранай

эміграцыяй (як гэта рабілі, напрыклад, прыватныя калекцыянеры, некоторыя з якіх валодалі ўнікальнымі ведамі па гісторыі матэрыяльнай культуры) або паслужлівасцю, прынамсі самацэнзурай (чым займалася абсалютная большасць тагачасных дзеючых гісторыкаў). У рэальным жыцці ўсе гэтыя тры лініі паводзінаў аб'ядноўваліся, спляталіся ў разнастайныя неверагодныя камбінацыі. Вялікі тэрор 1930-х гг. значна спрасціў працу Галоўліта БССР у разглядаемы час. Пасля знішчэння ліберальнага, рэлігійнага, а потым і ўнутрыпартыйнага апазіцыйнага гістарычнага тэксту перад цэнзарамі галоўным чынам стаяла задача падпраўлення кананічнай партыйнай інтэрпрэтацыі мінуўшчыны.

Разам з прыгожым пісьменствам, журналістыкай, гуманістыкай у цэлым гісторыя стала адной з галоўных ахвяр сістэмы савецкай палітычнай цэнзуры. У беларускіх гісторыкаў была сфарміравана цэнзурная ментальнасць, самацэнзура, якая выключала з поля іх зроку цэлыя пласты нацыянальнай і сусветнай культуры. Першапачатковa пад прымусам, а потым ужо агрэсіўна-добраахвотна прадстаўнікі беларускага савецкага гістарычнага цэха стваралі ўтапічную прастору, закрытую ад навакольнага свету і ад саміх сябе. Галасы

іншадумцаў зноў былі пачуты грамадствам толькі ў другой палове 1980-х.

---

69 Аўтар апісвае тут сваё настаўніцтва ў беларускай школе, адкрытай у 1917 г. у в. Жорнаўка дзеячам беларускага культурнага руху і мецэнатам Марыяй Магдаленай Радзівіл, жонкай вайскоўца і філантропа Вацлава Мікалая Радзівіла.

# Літаратура


1. Бібліятэчная справа на Беларусі. Дакументы і матэрыялы. 1976–1990 / Нац. б-ка Беларусі; Рэдкал.: Л. Г. Кірухіна (адказ. рэд.) і інш. — Мінск, 2004. — 595 с.
2. Вытокі гістарычнай навукі ў БДУ: Зб. навук. артыкулаў, прысвечаных 125-годдзю з дня нараджэння акадэмікаў М. М. Нікольскага і У. М. Перцава і 70-годдзю гіст. фак. БДУ / Пад рэд. А. А. Яноўскага. — Мінск: БДУ, 2005. — 276 с.
3. Жумарь, С. В. Очерки истории архивного дела в Беларуси (XV в. — 1991 г.) / С. В. Жумарь, Д. В. Карев, М. Ф. Шумейко. — Минск: БелНИИДАД, 1999. — 294 с.
4. История советской политической цензуры. Документы и комментарии / Отв. сост. Т. М. Горяева. — М.: РОССПЭН, 1997. — 672 с.
5. НАРБ. — Ф. 4п. — Воп. 47. — Спр. 34.
6. Там жа. — Спр. 159.
7. Там жа. — Спр. 193.
8. Там жа. — Спр. 230.
9. Там жа. — Спр. 231.
10. Там жа. — Спр. 233.
11. Там жа. — Спр. 308.
12. Там жа. — Спр. 402.
13. Там жа. — Спр. 415.
14. Там жа. — Спр. 507.
15. Там жа. — Спр. 516.
16. Там жа. — Спр. 647.
17. Там жа. — Воп. 62. — Спр. 38.
18. Там жа. — Спр. 347.
19. Там жа. — Спр. 483.
20. Там жа. — Спр. 535.
21. Там жа. — Спр. 562.
22. Там жа. — Спр. 594.
23. Там жа. — Спр. 624.
24. Там жа. — Спр. 696.
25. Там жа. — Спр. 783.
26. Там жа. — Спр. 821.
27. Там жа. — Спр. 868.
28. Там жа. — Воп. 81. — Спр. 322.

29. Там жа. — Воп. 116. — Спр. 15.
30. Там жа. — Воп. 156. — Спр. 777.
31. Там жа. — Спр. 864.
32. Там жа. Ф. 60п. — Воп. 1. — Спр. 284.
33. Там жа. Ф. 249. — Воп. 5. — Спр. 415.
34. Там жа. — Спр. 590.
35. Там жа. — Спр. 645.
36. Там жа. — Спр. 877.
37. Там жа. — Спр. 972.
38. Там жа. — Спр. 1765
39. Там жа. — Воп. 8. — Спр. 11.
40. Там жа. — Спр. 33.
41. Там жа. — Спр. 62.
42. Там жа. — Спр. 90.
43. Там жа. — Спр. 110.
44. Там жа. — Спр. 156.
45. Там жа. — Спр. 206.
46. Там жа. — Спр. 251.
47. Там жа. — Спр. 300.
48. Там жа. — Спр. 302.
49. Там жа. — Спр. 401.
50. Там жа. — Спр. 425.
51. Там жа. Ф. 511п. — Воп. 7. — Спр. 10.
52. Там жа. — Спр. 35.
53. Там жа. — Спр. 62.
54. Там жа. — Воп. 8. — Спр. 4.
55. Там жа. — Спр. 23.
56. Там жа. — Спр. 50.
57. Там жа. — Спр. 216.
58. Там жа. — Спр. 291.
59. Там жа. — Спр. 320.
60. Там жа. — Спр. 325.
61. Там жа. — Спр. 329.
62. Там жа. — Спр. 381.
63. Там жа. — Спр. 382.
64. Там жа. — Спр. 383.
65. Там жа. — Спр. 384.
66. Там жа. — Спр. 386.
67. Там жа. — Спр. 387.
68. Там жа. — Спр. 389.

69. Там жа. — Спр. 479.
70. Там жа. — Спр. 507.
71. Там жа. Ф. 546. — Воп. 2. — Спр. 166.
72. Там жа. Ф. 790. — Воп. 1. — Спр. 3.
73. Там жа. Ф. 871. — Воп. 4. — Спр. 51.
74. Там жа. — Спр. 80.
75. Там жа. Ф. 1195. — Воп. 1. — Спр. 33.
76. Там жа. — Спр. 114.
77. Там жа. — Спр. 123.
78. Там жа. — Спр. 181.
79. Там жа. — Спр. 182.
80. Там жа. — Спр. 194
81. Там жа. — Воп. 2. — Спр. 2.
82. Там жа. — Спр. 14.
83. Там жа. — Спр. 21.
84. Там жа. — Спр. 22.
85. Там жа. — Спр. 26.
86. Там жа. — Спр. 33.
87. Там жа. — Спр. 37.
88. Там жа. — Спр. 38.
89. Там жа. — Спр. 39.
90. Там жа. — Спр. 43.
91. Там жа. — Спр. 49.
92. Там жа. — Спр. 50.
93. Там жа. — Спр. 57.
94. Там жа. — Спр. 62.
95. Там жа. — Спр. 73.
96. Там жа. — Спр. 75.
97. Там жа. — Спр. 78.
98. Там жа. — Спр. 79.
99. Там жа. — Спр. 89.
100. Там жа. — Спр. 136.
101. Некрич, А. Отрешись от страха / А. Некрич // Нева. — 1995. — № 6. — С. 139–160.
102. Пихоя, Р. Не попасть в историю / Р. Пихоя // Огонёк. — 2003. — № 43. — С. 30–32.
103. Савин, В. А. «Хранить нельзя уничтожить». Формирование и организация Государственного архивного фонда РСФСР–СССР. 1918–1950-е годы / В. А. Савин. — Москва: Рос. гос. гуманит. ун-т, 2000. — 225 с.

104. Спіс каштоўнасцей, якія перададзены Польскай рэспубліцы ў жніўні 1950 г. (Складальнік А. Зайцаў) // Вяртанне. Дакументы і архіўныя матэрыялы па праблемах пошуку і вяртання нацыянальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь. — Мінск: Беларускі фонд культуры, 1992. — 256 с.

105. Цензура в Советском Союзе. 1917–1991. Документы / Сост. А. В. Блюм. — М.: РОССПЭН, 2004. — 576 с.

106. Цэнтральны навуковы архіў НАН Беларусі. — Ф. 9. — Спр. 202.

107. Так создавался музей // Интеллектуальная Кобринщина. [Электронны рэсурс]. URL: http://kobriniq.ru/lichnosti/tak-sozdavalsya-muzey (дата звароту: 20. 01. 2017)